


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**6** (992)

ЧЭРВЕНЬ

Выдаецца
са снежня 1922 года



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2012

## *ЗМЕСТ*





ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»



## Мікола МАЛЯЎКА

### 22 ЧЭРВЕНЯ

Падобныя нібыта нашы дні,
Калі ўспрымаць без роздуму, агулам,
Ды кожны з іх пазначаны ў мінулым
Ці знакам чалавечай дабрыні,
Ці знакам зла — у дыме і агні.
І спеў пчалы глыбей, у сэрцы чулым,
Абернецца, бывае, грозным гулам, —
Няма для нас спакою ў цішыні.

У гэты дзень, амаль забыты ў часе,
Вайна з нячыстай сілай пачалася.
Зямля цвіце, як у чароўным сне,
Зямля прапахла кветкамі і мёдам, —
І толькі ціхі гром напомніў мне,
Што я адтуль, з вайны далёкай, родам.

### АТЛАНТЫ

Бамбілі зямлю акупанты,
Снарады цяжка гулі —
І неба асілкі-атланты
Ўтрымаць на плячах не змаглі.

---

***Маляўка Мікалай Аляксандравіч** нарадзіўся 13 снежня 1941 года ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Пасля заканчэння дзесяцігодкі працаваў у Карэліі лесарубам. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1965). Настаўнічаў у вясковых школах. Працаваў на рэспубліканскім радыё і тэлебачанні. Цяпер — у часопісе «Вясёлка».*

*Піша для дарослых і дзяцей. Аўтар паэтычных зборнікаў «Едуць маразы» (1966), «Лотаць» (1973), «Эстакада» (1982), «Аднавякоўцы» (1988), «Зімні дождж» (1991), «Ручнічок на крыжы» (1995), «Покуць» (2001), «Сядзіба, або Хата з матчынай душою» (2002), «Старая зямля» (2005), «Ой, бярозы ды сосны…» (2006), «Дзічка ў полі» (2007), «Крыштальная галінка снегападу» (2011) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1992), прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (1997), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2002).*

Зямля абаронцаў збірала,
І людзі, на фронт ідучы,
Перакавалі арала
На баявыя мячы.

Стаялі пад мін ураганам,
Ахвярна ішлі на таран,
У полі, даўно не араным,
Крывёю сплывалі ад ран.

Уваскрасалі ў шпіталі —
І нізкае неба яны
Стваламі гармат падымалі
З агню і руінаў вайны.

Зямля пераможцаў вітала,
Спакойна спала ўначы,
І людзі зноў на арала
Перакавалі мячы.

Працуюць, дзяцей сваіх песцяць,
Спяваюць пра мір і любоў,
Не забываюць у песнях
І тых, хто з вайны не прыйшоў.

Я не асілкаў міфічных,
А простых людзей люблю —
Трымаюць яны гераічна
І неба, і нашу зямлю.

## ЛЮБЛЮ

Быў час —
На веку ўзлётнай паласе
Мяне любілі ў родным краі *ўсе.*
Духмяным хлебам частавала поле
І васількі прыносіла ў прыполе.
Блакітны Нёман побач, за сядзібай,
На хвалях калыхаў і цешыў рыбай.
А лес, калі ў адведкі з братам бегаў,
Не шкадаваў ні ягад, ні арэхаў.

Даўно дзяжа і печ не служаць маме —
І я купляю жытні хлеб у краме,
Даўно не трос з арэхамі ляшчынку,
Даўно збіраю ягады на рынку,
Бо ў лес хаджу радзей, чым у аптэку, —
І толькі вось цяпер, на схіле веку,
Я ўсёй душой адчуў, як *сам* люблю
Бацькоў сваіх
І родную зямлю.

## РАДАЎНІЦА

Весела так, на высокай ноце,
Славяць жаўранкі свет малады.
Зноў, наляжаўшыся ў адзіноце,
Продкі паклікалі нас на клады.

Цяжка жылося бацькам за палякамі
І пасля, пры савецкай уладзе,
Ды ніколі не чуў я, каб плакалі
Нават у песні, рэдкай у хаце.
З помніка мама зычліва ўсміхаецца,
Бацька — задумлівы і сур’ёзны:
Мама нібыта ў чарніцы збіраецца,
Бацька — бачыць у полі барозны.
Памяць высвечвае ярка, як бліцамі,
Згадкі там, за мінулага кругам:
Мама частуе мяне чарніцамі,
Бацька — вучыць хадзіць за плугам.
О неацэнная гэта спадчына,
Як жа яна душу акрыліла, —
І пяшчотная ўсмешка матчына,
І спакойная бацькава сіла!..

Я праціраю рукой медальёны,
Плачу без слёз, старое дзіця,
І шапчу дарагія імёны —
Сам ужо на краёчку жыцця.

* * *

Лепіць гняздзечка ластаўка дбалая.
На падворку, дзе вішні цвітуць,
Крыльцамі лёгка мне памахала,
Быццам так
Павіталася
На ляту.

Птушкі спяваюць весела, ла́скава,
Птушкі адводзяць ад нас бяду.
— Добрай раніцы, ластавачка! —
Адказаў я.
І рукой памахаў
На хаду.

## ГРАД

Дажджу чакалі —
Выпаў град буйны,
Нібыта ў небе ледзяную глыбу

Раструшчыў гром на друзачкі адны,
Засыпаў імі
Кожную сядзібу.

Вачам не верым мы: улетку
Вось так зіма прыйшла ў разведку, —
І збажына, амаль што спелая,
Палегла пад касою белаю.

А хлапчукам —
Забава ў галаве!
Пакуль яшчэ на вуліцы не змеркла,
Яны збіраюць градзіны ў траве
І, бегаючы, смокчуць,
Як цукеркі.

* * *

Лю́бая,
Мілая,
Родная,
Я заклінаю ў журбе:
Хай вятры непагодныя
Аблятаюць цябе.

Нас акрылялі з юнацтва
Вера, надзея, любоў —
Еднасці сіла зямная,
Песня пяшчоты без слоў.
Разам сталелі, старэлі,
Разам і сёння ідзём.
Позіркам ла́скавым грэеш,
Цешыш асеннім святлом.

Я прыцягну на сябе
Ўсе вятры непагодныя,
Толькі не сцьмей у журбе,
Лю́бая,
Мілая,
Родная!

## ЛІСТОК ПРАМОК
## У ЛЁГКІМ ПІНЖАКУ

Лісток прамок у лёгкім пінжаку,
І журыцца радок мой адзінока:
«Мілу́й мяне, вачэй пяшчотных спёка…»
Размыўся верш… Як па жывым радку
Сабраць астатнія ў адным вянку?
Падказкай сонца бліснула высока,

Як з-пад брыва тваё, з усмешкай, вока, —
І літаркі ўсплываюць на лістку.

Вяртаюцца радкі, за словам слова,
Вяртаюцца радкі, нібы замова,
Адтуль, з-за навальнічнай паласы:
«Мілу́й мяне, вачэй пяшчотных спёка,
Мілу́й у дождж, мілу́й у маразы,
Мілу́й, калі закіне лёс далёка!..»

## БЕЗ СЛОЎ

Я свечку паставіў у храме
І памаліўся святым,
А потым сустрэўся з сябрамі
У парку — за храмам тым.

Яснеюць жывыя абліччы,
У шчырых вачах — любоў.
І я разумею, шчаслівы,
Сваіх суразмоўцаў без слоў.

Прызнаўся, не часта радуе
Жыццё на грэшнай зямлі.
Хацеў пайсці з імі разам,
Але яны не ўзялі.

Вачыма шукаю — дарэмна:
У парку не перастрэў,
У парку — адны толькі дрэвы
Ды сумныя цені ад дрэў.

Не дойдзе да іх тэлеграма,
І не дазваніцца туды —
У небе над Божым храмам
Згубіліся іх сляды.

## ВОСЕНЬ

Хмары ў небе, як воўна.
З воўны гэтай, гляджу,
Восень прадзе няўтомна
Шэрыя ніткі дажджу.

Сядзе потым за кросны,
З пражы той заадно
Вытча да дзён марозных
Шэрае палатно.

Клікне зіму на падмогу —
Светлай фарбы няма,
І палатно на разлогах
Снегам адбеліць зіма.

Вышыўкаю дзівоснай
Строі аздобіць вясна,
Песняй аддзячыць восені
За палатно яна.

Ну а пакуль што з воўны
Хмар аблжных, гляджу,
Восень прадзе няўтомна
Шэрыя ніткі дажджу.

## ОЙ, ЛЯЦЕЛІ ГУСІ...

*«Ой, ляцелі гусі з броду»* —
Задушэўна  льецца песня.
А вада яшчэ — пад лёдам,
І не хутка лёд той трэсне.

Ветру за сцяной не чуем,
Разам з песняй летуценім.
Грэюць словы і пачуцці,
Грэюць галасы на сцэне.

Вокны абтаюць памалу,
Весялеюць нашы вочы,
Бы вясну прынёс у залу
Мілагучны хор дзявочы.

Лёд таксама быццам трэснуў,
Ціха сплыў, без крыгаходу, —
І зімою гусі з песні
*«Скалацілі ў рэчцы воду»*.

## ЗА ГОДАМ ГОД...

За годам год наш адлятае ў вырай,
І абдзяляе непрыкметна лёс:
На радасць не хапае ўсмешкі шчырай,
На пакаянне — спавядальных слёз.

Адна адну змяняюць поры года,
А сумнай аднастайнасці — няма.
Чаму ж тады не цешыць нас прырода —
Вясна і лета, восень і зіма?

Як быццам з часам адмірае штосьці,
І ты, шчасліва-ўражлівы спярша,

Не заўважаеш свету прыгажосці,
Чарсцвеюць разам сэрца і душа.

У крутаверці будняў нецікавых
Аднойчы ашаломіць адкрыццё:
Цудоўны свет ва ўсіх яго праявах,
Ды ўжо, на жаль, канчаецца жыццё.

## СПАВЯДАЛЬНАЕ СЛОВА

Я болей, чым маршы і гімны,
Спакойныя песні люблю —
Пра неба разлог неабдымны,
Пра нашу красуню-зямлю.

Адметныя час і эпоха.
Вандруе без стомы душа,
І ёй жывая дарога
Мілей, чым брук і шаша.

Да ціхіх аселіц і хатаў
Ляціць з гарадскога вулля,
Не любіць парадных раскатаў
Лірычная песня мая.

Я песню і ў роднай краіне,
Бывала, ад крыўды бярог —
І на прамой пуцявіне,
І збоч, на развілках дарог.

У час узрушэнняў суровых,
У час навальнічных падзей
І спавядальнае слова
На подзвіг натхняе людзей.

* * *

Мары нараджаюцца на волі:
Там, дзе збожжа залаціцца ў полі,
Там, дзе з кветак мёд збірае пчолка,
Там, дзе з рэчкі п'е ваду вясёлка,
Там, дзе ёсць з чаго ў жыцці дзівіцца, —
Мары нараджаюцца,
Каб збыцца.

Людзі добрыя!
Часцей глядзіце
На вясёлку ў сонечным блакіце,
І на кветкі,
І на каласы —
Вобразы натхнення і красы.



Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

# ЛІХАЛЕЦЦЕ

*Раман*

## Частка першая

### I

У тое лета над Прускай час ад часу з'яўляліся нейкія, невядома чые, самалёты. Людзі задзіралі ўверх галовы, засланялі вочы далонямі, прыглядаліся, аднак, што да чаго, чые яны, уцяміць не маглі. Некаторыя казалі, што лётаюць «саветы», а некаторыя, наадварот, сцвярджалі, што гэта «немец». На ўсякі выпадак паціху запасаліся соллю, запалкамі, мылам…

З Ратайчыцаў у вёску прыехаў новы старшыня сельсавета Галабурда — прыземісты чырванатвары таўстун сярэдніх гадоў у гімнасцёрцы і хромавых ботах, былы сакратар партячэйкі на Камянецкім маслапроме, прызначаны на месца Залатоўскага, якога, як казалі, звольнілі «за перагібы». Старшыня сельсавета прывёз інструкцыі ад раённага начальства і, як водзіцца, выступіў на вясковай сходцы, гаварыў пра калектывізацыю, якая неўзабаве мела ахапіць і Пруску, пра магчымасці калгаснай гаспадаркі, яе дадатныя для ўсіх вынікі і перавагі.

Хтосьці з задніх радоў кінуў рэпліку: «Кажуць, вайна будзе! Германія!..» Галабурда быццам чакаў гэтай рэплікі, таму што парыраваў яе лёгка і дасціпна:

— Ты, таварыш, усё адно як у лужыну скочыў. Хіба можна так рассуждаць?

Усе засмяяліся.

---

*__Гніламёдаў Уладзімір Васільевіч__ нарадзіўся 26 снежня 1937 года ў вёсцы Кругель Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Брэсцкага педінстытута (1959). Служыў у арміі, настаўнічаў на Брэстчыне. Скончыў аспірантуру пры Інстытуце літаратуры АН БССР і быў залічаны супрацоўнікам гэтага ж інстытута.*

*Працаваў у апараце ЦК КПБ, быў дырэктарам Інстытута літаратуры НАН Беларусі. Акадэмік.*

*У друку выступае як крытык і літаратуразнаўца. Аўтар манаграфій «Традыцыі і наватарства» (1972), «Упоравень з часам» (1976), «Сучасная беларуская паэзія: Творчая індывідуальнасць і літаратурны працэс» (1983), «Як само жыццё» (1984), «Ля аднаго вогнішча» (1984) і інш., а таксама кніг прозы «Уліс з Прускі» (2006), «Расія» (2007), «Вяртанне» (2008).*

— У нас з Германіяй пакт. Германія, таварышы, нападаць на нас не сабіраецца. Данія, Нарвегія, Нідзерланды, Бельгія — гэта не наш маштаб, таварышы! Яны — да! — ляглі пад Гітлера, аднака гэта яшчэ ні пра што не гаворыць! Не беспакойцеся, германец не смеет. Тут дзела яснае. Ён, каб вы ведалі, нацэліўся на Брытанскія астравы! На нас нападаць ніяк не адважыцца!

Старшыня меў выгляд чалавека, якому вядомы адказы на ўсе пытанні, і гаварыў проста і даступна, але ўсё роўна не кожнага пераканаеш, не кожнаму дакажаш, ёсць і недаверлівыя, і такія, хто сумняваецца і гатовы пярэчыць нават старшыні сельсавета. Адзін з такіх — Каваль Цішка Пахолак, які быў неабыякавы да палітыкі і часта спрачаўся па розных пытаннях міжнароднай абстаноўкі, а апошнім часам стаў асабліва неўраўнаважаны і задзірысты:

— А хто яго ведае! — кінуў ён, не ўстаючы з месца. — Можа, і не адважыцца, а можа, і адважыцца!..

Галабурда быў аднак не з тых, каго можна было лёгка збіць з толку.

— Дзівак ты, таварыш! — насмешліва хітнуў ён галавой. — Я рускім языком вам гавару: у нас з ім дагавор. Гэта — раз. Па-другое, паверце майму слову, яму ж яго рабочы клас не дазволіць! Вы — што? Хіба можа пралетарыят Германіі разрашыць Гітлеру пачаць вайну з першай краінай сацыялізма?! Ну? Дзе ваша логіка? На празнікі запрашаем! У час першамайскага парада, у мінулым годзе, нямецкай дэлегацыі асобную ганаровую трыбуну паставілі! А вы мне ярунду гародзіце! — Галабурда нават зрабіў выгляд, што раззлаваўся.

— Дык гэта ў мінулым, — удакладніў другі аматар паразважаць пра палітыку Павал Гальяш, за якім у Прусцы замацавалася думка чалавека мудрага і разважлівага, — а цяпер хто яго ведае! Надта ён нахабны стаў. Амаль усю Еўропу да рук прыбраў…

Але непарушны ў сваіх інструктыўных палажэннях Галабурда не сапупаў:

— Немец, таварышы, падчорківаю, не нападзёт, а ў случае чаго, мы яго шапкамі закідаем, як і палякаў. Даруйце мне гэтую старую пасловіцу, але яна здзесь, думаецца, к месту. Наша Чырвоная Армія сільна, как нікагда. Асабліва авіяцыя. Аднак, таварышы, супакойвацца на гэтым, склаўшы рукі, таксама не нада. Парція вучыць: «Бдзіцельнасць і яшчэ раз бдзіцельнасць! Разява — гэта сорная трава, а сорную траву з поля вон!

Кужалі — Лявон з Фёклай — слухалі і маўчалі, не ўмешваліся.

Тыдзень які заставаўся да сенакосу — была тая пара, калі, як казалі ў Прусцы, зязюля падавілася ячменным коласам. Стаяла нясцерпная гарачыня, і Галабурда добра-такі ўпацеў, пакуль гаварыў прамову. Скончыўшы, моршчыў пукаты лоб, аціраўся шэрай хусцінай, дастаўшы яе з кішэні сіняга, польскага крою, галіфэ, якое па баках «бутэлькамі» звісала над халявамі.

Хто згаджаўся з ім, хто — не. Думкі хадзілі розныя.

— Вайна — гэта дрэнна. Не дай бог! — як бы папярэджваў Павал Гальяш, уздыхаючы. Ён удзельнічаў яшчэ ў той царска-нямецкай вайне, трапіў да немцаў у палон і ледзьве адтуль выбавіўся.

— Ой, людкове! — пляснула рукамі напалоханая Хомчыха, якая на сходку прыйшла разам з нявесткай Дзякрэтай. Мажная Дзякрэта недаверліва жмурыла свае коса прарэзаныя вочы.

— Га-га-га! — блазнаваў даўгавязы Гамон, паказваючы вышчарблены рот. Счакаўшы, калі зала пацішэе, ён выйшаў наперад і, схіліўшы на бок галаву і крыху гугнявячы, гаворачы ў нос, абвясціў:

— Я хоць і беспартыйны пакуль што, але факцічаскі камуніст, і я згодзен з лініяй начальства.

— Правільна! — пахваліў Галабурда.

У зале зноў зарагаталі.

Старшыня часам пераходзіў на жарты, але стаяў на сваім:

— Ну і што, вайна? Харашо! У Берлін зайдзём, чайку пап’ём! Ха-ха! — У тоне Галабурды было столькі перакананасці і безапеляцыйнасці, што ўсе змоўклі.

— Ну, не сакрэт, дадуць адпор! — падтрымаў старшыню шматдзетны Мікіта Галёнка, прыжмурыўшы чорныя масляністыя вочы.

Галабурда ўзняў руку:

— Сёння важна другое, таварышы! І гэта трэба імець у віду! У апошні час развяліся сабатажнікі. Куды ні глянеш — сабатаж. Ну, як згаварыліся! Вось з чым у першую вочарадзь неабходна рашуча змагацца! Вось каго неабхадзіма імець на прымеце і своечасова выкрываць!

Пра сабатаж ніхто чамусьці пытанняў не задаваў, як бы тут усім усё было ясна і зразумела, і сходка разышлася, ціха перамаўляючыся паміж сабой. З’ехаў і Галабурда.

Ішлі дні і зноў наплывалі чуткі аб вайне. Казалі, што вайна пачнецца 17 чэрвеня, што гэта справа некалькіх дзён, што многія службоўцы з Брэста ўжо едуць, прадчуваючы небяспеку, на ўсход, далей ад мяжы. Паведамленне ТАСС ад 14 чэрвеня 1941 года абвяргала слухі пра канцэнтрацыю германскіх войскаў на мяжы з СССР, і невядома было, каму верыць.

У нядзелю, 15 чэрвеня, адбылося, як і кожны раз, набажэнства ў Прускаўскай царкве. Народу — поўна. Богаслужэнне вёў айцец Клаўдзій. Цішыня, зычлівасць, святасць. Але, адстаяўшы абедню, людзі, выходзячы з храма, са здзіўленнем назіралі, як раптам усчалася бойка паміж кавалём Цішкам Пахолкам, які колькі дзён назад спрабаваў палемізаваць са старшынёй сельсавета Галабурдам, і былым дзяком Лаўрам Яўсеевічам Кухтам. Гэта адбылося каля Шпронькавай лаўкі, якую цяпер называлі магазінам і якая раней належала Міколу Шпроньку, а з верасня 1939 года «саветы» зрабілі яе дзяржаўнай.

Чулася: бах-бах-бах! Ад здзіўлення і нечаканасці людзі нават не ўмешваліся, ніхто не разнімаў, а толькі хіталі галовамі: «І з чаго гэта яны пачалі? Што за прычына? Гарэлка? Дык, здаецца, не п’яныя…» Адна толькі прускаўская Амелія, напяўшы на плечы коц[1], бегала вакол задзір і енчыла, чуўся яе віскलівы голас:

— Ой, людкове, разбараніце іх, разніміце! Ой, што ж гэта робіцца? Як знак які! Ой, нешта будзе! Кроў ужо, кроў з носа!..

Аднак ніхто не звяртаў увагі на енкі вядомай варожкі, якую называлі «бэськай» і да якой у Прусцы даўно паспелі прывыкнуць і ставіліся паблажліва.

Некаторыя вінавацілі страшэнную спёку, якая ўсё яшчэ працягвалася і магла падзейнічаць на праціўнікаў, залішне ўзбудзіўшы жарсці. Асобныя відавочцы аднак сцвярджалі, што Лаўр Яўсеевіч сказаў Цішку нешта такое, што яму не спадабалася, і ад таго пачалося.

— Я табе пакажу, як да нашай улады прымазвацца! — грозна наступаў каваль. Рот ашчэраны, пад верхняй губою паблісквала фікса, — пераЖылі цара, — крычаў ён, — пераЖывём і дзяка!

— Цішка! Не даводзь да граху! — стрымліваў і сябе, і праціўніка былы дзяк прускаўскай царквы, але не такі быў, каб саступіць. Ганарлівасці і фанабэрыі ў Лаўра Яўсеевіча ніколі не бракавала, гучна грымеў яго густы бас.

— Што, маладых сучак шукаеш? — наступаў каваль. — Я табе, іціт тваю маць, пакажу!

[1] Коц — тонкая суконная коўдра.

Пахолкава постаць прыгорбленая, рукі, як клешчы, — адразу пазнаеш каваля. Але і Лаўр Яўсеевіч таксама не зломак, рухавы і спрытны як чорт.

— Машэннік! — крыкнуў ён, перайшоўшы з баса на альт. — Ты мне дзейнічаеш на нервы!

— Ах, ты так, кабель прыблудны?!

— А як ты думаў?

— А я здаўна пралетар! Ну, зараз я цябе ўрою!

І валтузіліся, узяўшыся за грудкі і клюючы пры магчымасці адзін другога кулакамі. Як пеўні. Лямантавала Амелія, але яе ніхто не слухаў.

— Ой, людкове, што ж гэта такое? — спыняліся здзіўленыя прахожыя. — Запіліся яны ці што? Што ні мах, то па зубах.

— Дзяк на бокс умее, прыёмы хітрыя ведае!

— Але і Пахолак у Канадзе быў, па-канадску здачы даць умее!

— Гэта Цішка хоча гітару сваю канадскую назад забраць, а дзяк не аддае! — патлумачыў Цімоша Хлябіч. У Цімошы думкі лёгкія, і сам ён, ужо добра паджылы, усё яшчэ падобны на падлетка.

— З-за жонкі ён, дзяк за яго Люськай улёгся! — запярэчыў не менш дасведчаны Мікіта Галёнка. — Дзяк, не сакрэт, пад гітару ёй песні спявае. — Гэтую сваю прымаўку «не сакрэт» Мікіта ўжываў часта, да месца і не да месца, даражыў, відаць, тым, што яна дасталася яму ад бацькі Аляксея, які прывёз яе калісьці з Расіі, з бежанства.

З мужчынамі не згадзіўся Гамон:

— Не, цяпер у Кухты жыве Волька Хомкава, есці яму варыць.

Хтосьці сказаў:

— Прычэпа!

Прычэпай у Прусцы называлі жанчыну, якая жыла з мужчынам без шлюбу.

Кухта маленькі, але надзвычай увішны — перад Цішкам як Давід перад Галіафам — сучыць, махае кулакамі. І вось злаўчыўся і сунуў кавалю проста ў сківіцу. Адчувалася, што гэты Кухта ўмеў даць сапраўдную зубатычыну. Быццам хто яго калісьці вучыў.

Цішка ўзвыў немым голасам, але не столькі, мусіць, ад болю, колькі ад крыўды, і ў сваю чаргу палез на праціўніка.

— У нюхаўку яго! — гукнуў Оргій Ламака, невядома каму адрасуючы сваю «падказку».

Спакваля людзей назбіралася столькі (у нядзелю ў Пруску прыходзілі і з навакольных вёсак), што, як кажуць, пальца не ўваткнуць. Айцец Клаўдзій, пасля абедні выйшаўшы з храма, доўга і з дакорам пазіраў і махаў у бок супраціўнікаў пальцам, але тыя не звярталі ўвагі.

Расцягнулі задзір, ухапіўшы аднаго і другога ззаду, пад рукі, Лявон з Павалам Гальяшом.

— Чаму гэта вы раз'юшыліся, як восы! — спрабаваў іх угаманіць Павал. — Вы ж нармальныя людзі! Першы раз бачу, каб дзяк з кавалём біўся.

Лаўр Яўсеевіч, нібы прыслухаўшыся да Павалавых ушчуванняў, збег. Цішка яшчэ пастаяў нейкі час, хістаючыся, каля лаўкі, але потым, ціха мацюкнуўшыся, пайшоў і ён. Быў усё ж такі на падпітку. Адыходзячы, гразіў кулаком свайму праціўніку: «Ты яшчэ папомніш мяне!..»

— У Цішкі пальцы скурчаныя, — тлумачыў Мілецій. — Каваль. Каб разагнуў, дык ён бы дзяку даў!

— Ну, гэта, я вам скажу, недарэмна яны пабіліся, нешта, як кажуць, будзе, — ківаў сіваватай галавой здзіўлены Зміцер Зуб, накіроўваючыся пасля наведвання царквы ў свае Бабічы. — Нешта будзе!

— Гарачыня! — сказаў, нібы тлумачачы тое, што адбылося, Павал.

— Гарачыня! — пагадзіўся з сябрам Лявон, папраўляючы прыліплую да лба пасму валасоў.

Ідучы дадому, ён зайшоў да пасынка. Васілёва хата стаяла непадалёк, праз дарогу ад царквы. Апошнім часам Васіль працаваў начальнікам пошты ў Ратайчыцах. У хаце былі ён і Прося, Васілёва жонка.

— Ну, а што ад Якава чуваць? — спытаў Лявон.

— Сядзіць.

— Зблажэў, відаць?

— Ну, вядома, не такі, як быў.

— Схуднеў? — азвалася Прося.

— Крыху падсох.

Якаў Арыстархавіч адбываў тэрмін у брэсцкай турме. Пасадзілі, па рашэнні суда, «за эксплуатацию чужого труда». Ён — Васілёў кум, хросны бацька яго сына Валодзіка. Васіль, адвёзшы куму ў турму ў чарговы раз перадачу, толькі што вярнуўся з Брэста, пачаў расказваць айчыму навіны:

— Кум сядзіць, а ў Брэст вунь цэлы поезд ялавых ботаў прывезлі. Значыцца — на Еўропу. У абмотках жа туды не пойдзеш!..

— А пакт?

— Пакуль што пакт, а як далей, дык хто яго ведае. А за Брэстам, — працягваў пасынак, — самалёт нямецкі сеў. Людзі кажуць, што лётчыкі дабравольна здаліся ў палон.

— Няўжо? Можа, хто выдумаў!.. Нешта не верыцца, каб немцы перайшлі на бок Саветаў. Надта цяжка разабрацца ў тым, што адбываецца. Але цікава, што ж далей будзе?

Каля бацькі і дзеда аціраўся чатырохгадовы Валодзік. Хацелася яму, каб бацька ўзяў яго на рукі, прылашчыў, але таму, відаць, было не да яго.

Як далей і што далей — ніхто не ведаў. Будучыня заўсёды ахутана шчыльнай наміткай туману. Але тое, што павінна адбыцца, абавязкова адбудзецца, асабліва дрэннае.

У суботу, 21 чэрвеня, леглі рана і рана ўсталі. Прося падаіла карову, і Васіль выпіў кубак малака. Гадавалы Віталік яшчэ спаў.

Перад тым, як ехаць у Ратайчыцы, Васіль паг аліўся, абмыўся, зірнуў у люстэрка, прыгладзіў сваю чорную чупрыну. Адчуваў неблагі настрой. Зрэшты, а які яшчэ настрой павінен быць у дваццацішасцігадовага маладога чалавека ў цудоўную летнюю раніцу? Збольшага ўсё было ў парадку, ён сеў на веласіпед і выехаў на дарогу. У сельсавеце, у Ратайчыцах, мелася адбыцца нарада актыву па абмеркаванні пытання аб заканчэнні сенаўборкі і аб плане нарыхтоўкі паставак хлеба з новага ўраджаю. Ранішняя свежасць прыемна астужала твар. Неба — чыстае, светла-блакітнае, ні хмурынкі. Цішыня.

Нарада пачалася ў прызначаны час. Ніхто не звярнуў увагі на гул самалётаў, што чуўся з-за далягляду, недзе ўбаку ад Ратайчыцаў, адтуль, дзе знаходзілася Высокае. Самалёты лёталі часта. Старшыня сельсавета Галабурда, абапёршыся на шырокі стол, напомніў:

— Сёння, таварышы, дваццаць другога чэрвеня — самы доўгі дзень у годзе. Гэта — харашо. Есць магчымасць больш папрацаваць, падцягнуць хвасты. У сельсавеце заканчваецца сенакос, трэба думаць пра жніво. Для некатарых гэта будзе калгаснае жніво. Даведзены план…

Але доўга гаварыць яму не давялося. Дзверы адчыніў участковы міліцыянер Мурашка і крыкнуў:

— Молатаў па радыё выступае!

Удзельнікі нарады выбеглі на вуліцу, стаўпечыліся пад чорнай талеркай на франтоне сельсавета; адтуль даносілася прыглушаная гаворка. Самы пачатак яны прапусцілі, але і без пачатку можна было зразумець, што казаў Молатаў: Германія напала на Савецкі Саюз, нямецкія войскі ў некалькіх месцах перайшлі дзяржаўную мяжу, пачалася вайна.

Разгублены Галабурда разам з Васілём з пошты адбілі тэлеграму ў раён: «Молнируйте что делать», — але адказу не дачакаліся.

— Вяртайцеся, таварышы, на мяста, захоўвайце спакой і чакайце ўказанняў! — распарадзіўся Галабурда. — Усё ўладзіцца. Калі ён палез, дык Чырвоная Армія дасць адпор.

Васіль ехаў дадому. Выехаўшы з Ратайчыцаў і павярнуўшы налева, у бок Прускі, чуў за спінай усё той жа глухі, насцярожлівы гул, які каціўся з неба, з захаду, гэта ўсё яшчэ ляцелі цяжкія самалёты, кіруючыся на ўсход. Вось ужо дагналі Васіля і завылі над галавой. Гэтым сваім злосным, захлёбістым выццём, як бы стогнам, яны выклікалі страх, гнялі, прыціскалі да долу. Ляцелі хваля за хваляй. Як бы чагосьці дамагаліся, патрабавалі, нібы ён быў ім штосьці вінен. Стагнала, здаецца, сама зямля. «Відаць, бамбавозы, — падумаў ён, — трымаюць курс кудысьці на Баранавічы, на Мінск. Што ж цяпер будзе?..» Ён колькі разоў спыняўся, злазіў з ровара, жадаючы перачакаць, калі яны абмінуць яго, перастануць гэтак прарэзліва завываць, абгоняць, каб даць яму ехаць спакойна. Ляцелі бесперастанку, хваля за хваляй. На захад ніхто не ляцеў.

Раптам на вочы трапілі нейкія папяровыя лісткі, што валяліся на дарозе Васіль падняў адзін з іх і прачытаў: «Бей жида-большевика, морда просит кирпича!» «Улёткі! — здагадаўся ён. — З самалёта скінулі…»

Дадому ён вярнуўся ў трывозе, пра ўсё расказаў Просі, разам пайшлі да бацькоў. Фёкла, маці, была ў роспачы. Каровы выгнала, а свіней накарміць забыла.

— Ой, што будзе, як германец прыйдзе? — жахалася яна, увесь час папраўляючы на галаве хустку і ў трывозе пазіраючы на сына.

Лявон маўчаў, а потым як бы самому сабе сказаў:

— Той раз у Расіі ад яго схаваліся, а як будзе цяпер?

Прося няўцямна пазірала на свёкра.

— Той раз цар у бежанства забраў, у Расею, — патлумачыў Лявон. — Казакі выганялі паводле царскага ўказу. Цяпер, відаць, Сталін тут пакіне…

— Няўжо такое можа здарыцца? — з жахам прамовіла Фёкла. — Можа, вучэнне ваеннае?..

— Дык што рабіць? — не знаходзіў выйсця Васіль.

— Давайце крыху счакаем, — прапанаваў айчым і дадаў: — А можа, гэта ўсё ж такі, як Фёкла кажа, якіясьці хітрыя манеўры?

— Не-е, — уздыхнуў пасынак, не манеўры. Вайна!

Працяг падзей разгарнуўся каля лаўкі — той самай, каля якой нядаўна пабіліся Цішка з Лаўрам Яўсеевічам. Цяпер тут стоўпіліся каляністы. Гэтак прускаўцы называлі сваіх суседзяў — жыхароў паселішча Калёнія Пруска, якія калісьці, гадоў з дзесяць таму назад з'явіліся з-за Буга, купіўшы ў тутэйшага пана Падгурскага ладны кавалак зямлі. Дранжкевіч, Клюкоўскі, Касарала, Домця і Казімір Канопкі, Кучэўскі Стах, Турскі, браты Муляжукі, Хайбусы і інш. Жылі яны адасоблена, у касцёл ездзілі ў Камянец або ў Чарнаўчыцы. Звычайна ў Прусцы іх бачылі рэдка, ды і далей Шпронькавай лаўкі яны і не заходзілі. Цяпер яна зацікавіла іх усіх у адначассе, яны прыбеглі, аб нечым голасна перамаўляліся, шумелі, спрачаліся, патрабавалі заўмага.

— У Ратайчыцах ужо разабралі спіхляж[1]! — бязладна махаў рукамі Кучэўскі. — А тут, халера ясная, марудзім! — Вочы яго гарэлі нецярпеннем і прагавітасцю. — Дзе тэй Міцька? Хутчэй!

Пры савецкай уладзе заўмагам у лаўцы працаваў Міцька Балабайка, прызначаны яшчэ ў 1939-м. Паслалі па яго — ён жыў у суседняй Выгнанцы. Але, як быццам чуючы нядобрае, устурбаваны Міцька прыбег сам, спрабаваў супакоіць разгарачаны люд, але дзе ж ты яго супакоіш, калі ён кіпіць і пеніцца, чуючы спажыву.

— Што ты стаіш, адчыняй! — закрычалі яму.

— Можа, яшчэ Саветы вернуцца?! Тады што? Хто будзе адказваць? Заўмага заграбуць!

— Не размаўляй!

— Саветы? — здзівіўся Касарала. — Зараз тут будзе немец! Ён табе пакажа, паслугач бальшавіцкі!

— А можа, гэта манеўры?

— Адчыняй!

Заўмаг, калоцячыся ад страху, соваў ключ у дзірку, абабітую жалезам, але не пападаў, нарэшце патрапіў, крутнуў, і дзверы са скрыпам адчыніліся. Ашалелы люд кінуўся ў магазіннае нутро. Выносілі хто-што: скрынкі з кансервамі, мануфактуру, цукар, соль, махорку, пернікі, запалкі… Кучэўскі выйшаў з хамутом на шыі. Магазін расцягнулі ў імгненне. Клюкоўскі з Касаралам не падзялілі кавалак нейкай палатніны і зацята яго рвалі і цягнулі кожны на свой бок.

«Гэтыя з-за Буга куды смялей за нашых!» — са здзіўленнем думаў Міцька, прысутнічаючы пры гэтым гвалце іназіраючы чалавечыя жарсці.

— Цяпер, проша пана, свабода, рабі, што хочаш! — радаваўся Канопка, трымаючы ў руках кулёк з цукеркамі-падушачкамі і кідаючы іх адну за другой у рот.

Потым падбеглі і прускаўцы, але позна: прагавітыя папярэднікі спустошылі магазін у адначассе і поўнасцю, падмялі ўсё, што ў ім было.

Разам з іншымі падышоў і Лявон з унукам Валодзікам. Хлопчык стаяў, прыціснуўшыся да дзедавай нагі і, няўцямна сунуўшы ў рот палец, з цікаўнасцю пазіраў на тое, што адбывалася вакол яго.

— Спазніліся, — пачасаў за вухам Гамон, ссунуўшы на лоб старую, пашарпаную шапку-аблавушку, якую ён насіў і летам, і зімой. Яго маршчыністы тварык зморшчыўся яшчэ больш. — Не пашанцавала…

— Трэба было раней, — згадзіліся з ім Цімоша і яго пляменнік Антон Курыца з Выгнанкі. — Прамаргалі!

— Прамаргалі, — прысвіснуў Сцяпан Каленік.

— Эх, эх, — бедаваў Міхаль Тупчык, — не шанцуе нам, як заўсёды. А я ўжо думаў, што цукру вазьму. Гапа мая салодкае любіць, казала: «Цукру вазьмі». Думаў узяць, але не атрымалася.

— Думаў… — пацвельваў з яго Гамон. — Індык думаў ды здох.

Яны яшчэ пастаялі колькі часу і меліся ўжо разыходзіцца, калі з боку Ратайчыцаў пачулі страшэнны шум і тарахценне матораў. З-за павароту, дзе сярод бэзу стаяла каплічка з Панам-Янам, выязджалі нейкія людзі на матацыклах, з-пад якіх густой хмарай пыліла дарога. Вось яны дасягнулі ўжо мастка праз Плісу, праехалі праз яго, падскокваючы на бярвеннях, і пашыбавалі далей. Матацыклы з каляскамі — па два чалавекі зверху і адзін збоку, у калясцы. Ехалі ў напрамку Камянца. Параўняліся з царквой. Усе ў шэра-зялёных мун-

[1] Спіхляж — магазін *(польск.)*.

дзірах з закасанымі рукавамі, у глыбокіх, насунутых на вочы касках, з кароткімі, як качэргі, аўтаматамі, прыладжанымі да грудзей. Перад тымі, што сядзелі ў калясках, тырчэлі ўспёртыя на ножкі кулямёты. «Вайскоўцы!» — здагадаліся прускаўцы. Вочы ва ўсіх заслонены чорнымі акулярамі, а ад гэтага яны, узброеныя і ў спалучэнні са сваімі запыленымі матацыкламі, выглядалі яшчэ больш страхотліва.

«Здаецца, не савецкія!» — падумаў Лявон, прыглядаючыся да вайскоўцаў на матацыклах.

Насупраць Шпронькавай лаўкі пярэдні матацыкл спыніўся і прыглушыў шум матора. Тое ж зрабілі астатнія. Пыл пачаў асядаць, і матацыклісты пасцягвалі з вачэй чорныя акуляры, уладкоўваючы іх над казыркамі касак. Пярэдні, ненатуральна, як здалося Лявону, шчэрачы зубы, адрывіста спытаў, нахабна ламаючы мову:

— Колько кіляметраў нах Москаў?

Прускаўцы не адразу здагадаліся, што ён пытае пра адлегласць да Масквы. Але, нарэшце, сэнс пытання дайшоў, і яно яшчэ больш ашаламіла, прыгаломшыла, як і з’яўленне саміх матацыклістаў, нібы чарцей з таго свету. Колькі кіламетраў да Масквы — гэтага дакладна ніхто не ведаў, ведалі, што Масква далёка ды і ўсё. Таму людзі стаялі і не варушыліся. Матацыклісты, не злазячы са сваіх жалезных коней, чакалі адказу.

— Кom, кom![1] — паманіў пальцам адзін з іх.

Ён неяк так уладна сагнуў палец і паклікаў да сябе прускаўцаў, што тыя мусілі падысці, баючыся, каб не здарылася чаго кепскага.

— Сва-бо-да! — сказаў вайсковец па складах. Кінулася ў вочы яго рудое, у рабаціннi, аблічча, светлыя беражкі пагонаў на плячах.

Прускаўцам як мову адняло, сцяўшыся, яны маўчалі, няўцямна пацiскаючы плячыма.

— Сталін капут! Варашылёв капут! Будзённы капут! Красный Армія капут! Бальшой плен! — патлумачыў другі вайсковец, што сядзеў за рулём. Растлумачыў і самазадаволена пра нешта загергетаў, зірнуўшы на прускаўскіх мужчын, а яго матацыкл чхнуў цэлым воблакам смярдзючага чорнага дыму. Цяпер ясна было, што гэта немцы, нейкі вайсковы аддзел. Пярэдні. Магчыма, разведка або дыверсанты. А можа, проста заблудзіліся.

Матацыклісты не мелі часу доўга спыняцца, няйначай і сапраўды спяшаліся ў Маскву, зноў панасоўвалі на вочы чорныя акуляры, затарахцелі маторамі і падаліся па гасцінцы ў напрамку Камянца, на ўсход, пакінуўшы за сабой пах зброі, едкага бензінавага дыму, прэлага адзення і яшчэ невядома чаго. Прускаўцы здзіўлена і са страхам пазіралі ім услед. Нейкі час абмяркоўвалі, хто гэта мог быць. Вырашылі, што, напэўна, разведка, бо пыталіся пра адлегласць да Масквы.

Калі матацыклісты ад’ехалі, да мужчын падышоў Васіль. Ён усё бачыў здалёк, стоячы каля хаты. Мужчыны каменціравалі гэтую нечаканую сустрэчу.

— Глядзі ты, усе якія выпасеныя! — з зайздрасцю адзначыў Оргій Ламака.

— Дзіва што! — адгукнуўся Гамон. — Уся Еўропа корміць!

— Сіла адчуваецца не малая, — уставіў сваё слова Хрысан Гальяш з прытоенай усмешкай на вуснах.

— А вінтовак не маюць! — пасміхнуўся Фэдар-японец, які лічыў сябе абазнаным у ваеннай справе, бо меў вопыт яшчэ даўняй руска-японскай вайны.

[1] Ідзі, ідзі! *(ням.)*

Яго параніла ў нагу, і з таго часу Фэдар карыстаўся кавенькай. Быў ужо ў гадах і паважна сябе паводзіў.

— А на шыях у іх што? — аспрэчыў яго Сяргей Сталетнік. — Гэта яшчэ зручней, ніж вінтоўка. Аўтамат! Як гарохам сыпле!

— Ого!

— Аўтамат — больш сучасная зброя, — падаў голас і Васіль, каб неяк адзначыць сваю прысутнасць паміж вяскоўцамі.

— Васіль праўду кажа, — падтрымаў яго Сталетнік.

— А ты менш балбачы! — спыніў сына Сцяпан Каленік. Сяргей — яго сын. Сталетнік — Сяргеева мянушка, невядома як да яго прычапілася.

Мужчыны, уражаныя сустрэчай з матацыклістамі, усё яшчэ стаялі, нібы чагосьці чакалі, нібы нешта яшчэ павінна было здарыцца.

І сапраўды: ад таго мастка, па якім нядаўна праехалі немцы, пачуліся сцішаныя незразумелыя галасы:

— Пастой, пастой!

Гэта беглі нейкія людзі, чалавек з дзесяць. Паводзілі сябе нясмела. Усе былі без зброі, у ніжняй бялізне — сарочка, кальсоны. Амаль у кожнага паверх бялізны — шынельная скатка цераз плячо. Усе здарожаныя, задыханыя, запыленыя, мокрыя ад поту.

— Немцаў не бачылі? — спытаў пярэдні.

— Толькі што тут былі, паехалі ў бок Камянца, на матацыклетах, — адказаў Ахрэм Чапёрка.

— Пра Маскву пыталіся, але мы нічога ім не сказалі! — дадаў Гамон. — Ніякіх сакрэтаў не выдавалі.

— Закурыць не знойдзецца?

— Знойдзецца! — замітусіліся прускаўцы і сталі дставаць з кішэняў кавалачкі газет і махорку.

— А вы хто будзеце? — пацікавіўся Оргій Відэрка, хоць няцяжка было здагадацца, што гэта адступаючыя чырвонаармейцы.

— Ваенныя мы, аэрадром будавалі! — стомлена і нібы крыўдліва патлумачыў адзін з адступаючых, запальваючы скручаную цыгарку. — Хлебушак ёсць?

За хлебам паслалі падлеткаў.

— А што гэта такое? — няўцямна пахітаў галавой Гамон.

— Вайна, старык.

— Можа, памылка якая?

— Нет.

— А можа, манеўры?

— Да ну!

— А дзе ж ваша зброя? — спытаў Фэдар-японец, павярнуўшы да чырвонаармейцаў васпаваты твар. — Пагублялі, ці што?

— Там! — махнуў рукой адзін з ваякаў, без чаравікаў, босы. — Засталася…

— Дык што — пакідаеце? — быццам між іншым спытаў Васіль.

Чырвонаармейцы моўчкі дакурылі свае цыгаркі, узялі прынесены хлеб, напіліся вады з калодзежа і, не марудзячы, пабеглі далей.

Відаць было, што Пруска засталася як бы крыху ў баку ад галоўных напрамкаў маланкавага наступлення нямецкіх войскаў, але вайна не мінула і яе.

— От і па Саветах! — сказаў Міхаль Тупчык.

— А можа, яны іх у мяшок хочуць узяць? — выказаў думку абазнаны ў вайсковай тактыцы Фэдар-японец, грузна абапёршыся на кавеньку. — А потым гічкай зашмаргнуць.

— Што ж гэта будзе? Што ж гэта будзе? Тут ёсць над чым падумаць, — шаптаў і палахліва ўцягваў галаву ў плечы Хвядзюшка Шпунт.

За вёскай, у жырыле, трывожна азваліся, закракталі жабы, нібы таксама прадчуваючы нешта нядобрае. Вечарэла. Зноў усё аціхла. На небе забялеў бледны сярпок месяца.

— Што робіцца! — Лявон няўцямна адкінуў з ілба пасмачку валасоў, зірнуў на аднапасельцаў. Як і ўсе, ён быў надта ўражаны тым, што адбылося ў гэты дзень.

— А ты, суседзе, што думаеш? — звярнуўся да яго Фэдар-японец.

Лявон пацiснуў плячыма і нічога не адказаў. Успомніў прымаўку: «Менш гавары, то болей пачуеш». Цяжка было сказаць нешта пэўнае.

— Нейкую лавушку для іх рыхтуюць! Не іначай! — працягваў цвердзіць Гамон.

— Я ж і кажу — у мяшок хочуць заманіць! — Фэдар-японец рукамі паказаў, як ён разумее гэтую хітрасць Саветаў. — Такое магчыма!

— У які мяшок? — не зразумеў Ламака.

— Тактыка, браце, такая ёсць. Напхаць у мяшок і завязаць, гічкай зашмаргнуць.

— Нешта непадобна на тое, — засумняваўся Павал Гальяш, які да гэтага часу маўчаў.

— Бачыш! А хваліліся — пабядзім!.. — чмыхнуў сабе пад нос Хрысан Гальяш. — Дык цяпер, можа, ад калгасаў выратуемся?..

— Ну і ну! Хто б падумаў.

Прускаўцы пачалі разыходзіцца па хатах. Ім, як і заўсёды, заставалася адно — чакаць, што будзе.

## II

Лявон няік не мог заснуць, хоць было ўжо далёка за поўнач. Варочаўся з боку на бок, а сон усё не прыходзіў. Думкі, думкі, думкі. «Вось табе маеш — новая вайна! Адна за другой! Ізноў на свеце ўсё пераблыталася, памянялася месцамі, страціла прывычны сэнс і значэнне, ператварылася ў нейкую суцэльную непамыснасць…» Заўважыў, што жонка таксама не спіць, пра нешта думае. Спаў толькі іх гадаванец унучык Валодзік, ціха пасопваючы ў сваім ложку. Малы яшчэ і мала што разумее, усяго чатыры няпоўныя гады чалавечку.

— Няўжо гэта ён сакрушыць? — ціха запытала Фёкла, невядома каму адрасуючы гэтае сваё пытанне, і дадала: — Як ты думаеш, Лёня?

Лявон маўчаў, але ведаў, пра што яна пыталася. Ці зможа Гітлер Расію? Фёкла — руская, вырасла і ўзгадавалася за Волгай, і радня яе там. Усё, звязанае з Расіяй, хвалявала яе.

— Не адна ж Расія ваяваць з ім будзе, — азваўся Лявон. — Увесь Савецкі Саюз! А гэта ж — вялікая сіла. Паспрабуй такую сілу перамагчы! Расію яшчэ ніхто не адолеў.

— А бальшавікі — адолелі…

— Дык гэта свае.

Фёкла ціха ўздыхнула.

Памаўчаўшы, Лявон сказаў:

— Калі так, дык Якаў Пац хутка вернецца.

— Дык хай, можа, хоць яму пашанцуе, — ціха ўзрадавалася жанчына, — хоць адно што добрае.

— Нацярпеўся.

— Цяпер ужо раскулачваць не будуць, бо не паспелі.

— Немец раскулачваць, можа, і не будзе, але палёгкі ад яго таксама не дачакаешся.

Перамовіўшыся, яны сцішыліся і заснулі.

Васіль пасля сустрэчы з чырвонаармейцамі, што ўцякалі ад вайны, развітаўся з сынам і айчымам і таксама пайшоў дадому, дзе яго чакала Прося. Ішоў з думкай, што нешта трэба рабіць. Цяпер яго адольвалі крыўда і страх, пакуль што беспрадметны, нейкі фантомны, але ад гэтага не менш гнятлівы і неадчэпны: «Няўжо не вернуцца? А столькі хваліліся. Ваяваць толькі на чужой тэрыторыі. Малою кроўю. А яно вунь як абярнулася! І начальства кругом уцякае. Уцякаюць, лыжы падмазаўшы. А можа, і на самай справе ў мяшок заманьваюць, як сказаў Фэдар-японец, каб потым акружыць ды ўзяць у палон. Усялякае можа здарыцца… Вернуцца і праверыць, хто чым займаўся. Савецкі ты ці не. А можа, гэта вучэнні? Павучацца троху і зноў адыдуць на свае месцы. Разамнуцца, павалтузяцца. Не, Молатаў, пэўна, хлусіць не будзе. Напалі! Вайна! Але бальшавікоў не проста змагчы — яны вернуцца. Напэўна вернуцца. Вернуцца — і спытаюць: «А ты дзе быў, начальнік пошты?»

У яго ўжо саспела думка. Адчыніўшы дзверы, з парога гукнуў:

— Я паеду!

— Куды? — амаль не залямантавала Прося, але ўбачыўшы, у якім нервовым напружанні знаходзіцца муж, аціхла. — За Саветамі?

— Каб пад немцамі не быць, гэта ж фашысты!

— А я? А дзеці? Што з намі будзе? Ты пра гэта падумаў?

— Гэта часовы адыход, нашы неўзабаве вернуцца.

— Дык сядзі дома і чакай!

— Вярнуся разам з усімі.

— Вернешся, але калі?

— Ну, тыдні праз два…

— Яшчэ невядома…

— Вядома.

— Ой!

— Збяры хлеба, сала, змену бялізны, а я пагляджу веласіпед.

Прося кінулася збіраць мужа ў дарогу. Праз якіх паўгадзіны ўсё было гатова. Торбу з харчамі і вопраткай прыладзіў ззаду да багажніка. Жаночая інтуіцыя падказвала Просі, што ўсё не так проста, як здаецца яму, але зрабіць нічога не магла. На развітанне моцна абняліся. Пацалаваў Віталіка, які спаў у сваім ложку. Выйшаў з хаты, закінуў нагу на веласіпед і пагнаў у бок Камянца.

— Перачакай дзе і вяртайся хутчэй! — гукнула наўздагон Прося.

* * *

Апошнія падзеі крэпка заварушылі і Хвядзюшку Шпунта. Былы рэўкамаўскі актывіст нічога добрага ад немцаў не чакаў і неадступна думаў, што рабіць. Па складзе ён быў чалавек надта прымхлівы і палахлівы, ішоў за іншымі, шукаў успамажэння і абароны ў мацнейшых. Думка ісці ў Алешкавічы, да Свісціяна, з'явілася ў Хвядзюшкавай галаве неяк сама сабой — узнікла неабходнасць пагаварыць, параіцца, як паводзіць сябе ў новых абставінах. Ого, Свісціян Гунько! На ўсю акругу, а можа, нават і шырэй. Хто-хто, а ён

падкажа, як быць і чаго чакаць, у яго заўсёды ёсць нейкая ідэя, нейкі шанец. Цягнулася за ім — граха таксама не ўтоіш — і благая слава: хуліган, злодзей. Свісціянавы вочы — такімі іх стварыла, відаць, сама прырода — сапраўды надта чапляліся за чужое. І тое, што яго каралі за крадзеж, толькі ўмацоўвала ў ім жаданне красці. Казалі, што быццам бы нават у яго крымінальная псіхіка. Але чаго не скажуць людзі, асабліва незычліўцы, — яны і чэснага абылгуць. А тут прыдумалі пра чалавека: крымінальная псіхіка! Што праўда, то яно праўда: у маладыя гады Свісціян кіраваў усімі забіякамі ў акрузе, з'яўляўся аўтарытэтам, з якім лічыліся. Любіў і пагуляць, і дзяўчат любіў, і не дай бог, каб хто яму ўпоперак дарогі выйшаў. Лепш не выходзіць.

Недахопы ў чалавека былі, але ў каго іх няма? А з другога боку — людзі хіба мала крыўдзілі, мала зневажалі? Гэта ж трэба — гусятнікам празвалі толькі за тое, што краў гусей. Ну, украў колькі штук. А хто іх не краў? Так што і ў Свісціяна былі падставы для крыўды. Была ў яго яшчэ тая асаблівасць, што і ў няўдачах сваіх найбольш вінаваціў іншых, лічачы іх у душы нядобразычлівымі і ліхімі, але з прускаўскім Хвядзюшкам быў заадно. Хінуліся адзін да аднаго, і Хвядзюшка не мала ганарыўся тым, што Свісціян яго сябар. Калісьці, пры Польшчы, укралі ў Ліпне, у гаспадара, авечку і, калі ўсё раскрылася, разам маталі тэрмін у славутым на ўсю Польшчу «Свентым Кшыжы». Побач, можна сказаць, на нарах ляжалі. «Свенты Кшыж» знаходзіўся ў Кельцах; пабудавалі турму на Лысай гары. Гэта сапраўды была лысая гара, бо нішто на ёй чамусьці не расло. Адно каменне. Да таго ж турма з усіх бакоў была абведзена высокай каменнай сцяной. Ніхто і ніколі з яе не ўцёк. Хвядзюшка са Свісціянам спачатку не ведалі гэтага і наважыліся былі ўцячы, але добра, што своечасова прыпынілі свае планы на ўцёкі. Чакаеш і дачакацца не можаш той мінуты, калі стражнік адчыніць дзверы і крыкне: «На шпацыр!» Многія ад такога чакання вар'яцелі. Адсюль яны са Свісціянам вынеслі адчуванне голаду і нянавісці. Турэмшчыкаў зненавідзелі. Вось каб памяняцца месцамі! Пахлябалі б вы баланды, а мы вас — гумовым кіем.

Хвядзюшка задумліва ўздыхнуў, успамінаючы мінулае. Трэба праведаць сябра. Ён апрануў кажушок, хоць было па-летняму цёпла, падняў каўнер, насунуў на самыя бровы шапку і пайшоў, нічога не сказаўшы жонцы. Ды Нінка ні пра што і не пытала. Канспірацыя ёсць канспірацыя — без яе не абысціся, — гэтую зацемку ён таксама помніў яшчэ з-за тых жа польскіх часаў. Ішоў напрасткі праз Перавоз і Лазу, абмінуўшы Пацаў фальварак. Веяла начной прахалодай, рачную пойму ахутаў туман. З травы, з туману, пужліва і запытальна азваўся драч. Лосьну перайшоў уброд насупраць Баранавіч, зняўшы нагавіцы і высока падняўшы полы кажушка. На тым беразе надзеў нагавіцы і рушыў далей.

У акно Свісціянавай хаты пастукаў недзе апоўначы, нават не пастукаў, а асцярожна правёў рукою па шыбіне. Свісціян спаў чуйна, тут жа адарваў галаву ад падушкі і паўзіраўся ў акно. За акном, у начным сутонні, пазнаў дробную, несамавітую Хвядзюшкаву постаць. Падняўся і, у ніжняй бялізне, адчыніў дзверы.

— Здароў! — дрыжачым голасам павітаўся Хвядзюшка. Твар яго выглядаў устрывожаным. Відаць было, што ён вельмі напалоханы.

— Ну, здароў! Што табе? Чаго хочаш?

— У Прусцы безваладдзь! — Хвядзюшка падняў вочы і няўцямна паглядзеў на сябрука. — Улады — аніякай!

— Тое самае і тут, — шморгнуўшы носам, змрочна адказаў Свісціян і шырока пазяхнуў.

— Шпронькаву лаўку каланісты расцягнулі, цяпер пустая.

— Каланісты? А вы?

— Спазніліся.

— Дурні! А што ты такі збляклы? Пераляканы нейкі…

— А што? Хіба няма чаго баяцца? — Хвядзюшка зірнуў на глыбокі шрам на Свісціянавым ілбе — даўні дарунак кульгавага Колі Цыцкі, які калісьці падурному моцна спляжыў п'янага задзіру Свісціяна на музыках у Прусцы сваім цяжкім кастылём па галаве.

З-за мужавай спіны выглянула Палага — Свісціянава жонка, устрывожаная, відаць, гэтым начным візітам.

— Можа, кіслае малако будзеце? — спытала яна, пазнаўшы Хвядзюшку.

— Адчапіся! — махнуў рукою Свісціян у адказ на гэтую недарэчную, як яму здалося, прапанову.

Тут і сапраўды не да кіслага малака было. Хвядзюшка зноў няўцямна паглядзеў на сябра і прыцмокнуў языком:

— Як яно ўсё абярнулася!

— Абярнулася, ліха яго матары, абярнулася…

У хату Свісціян не запрасіў, а павёў у клуню, што стаяла ў глыбіні падворка. Размаўляў прыглушаным басам:

— Давай памаракуем.

— Дык для гэтага я і прыйшоў.

— Прыйшоў дык прыйшоў…

У клуні яны прыселі проста на ток, які яшчэ захоўваў дзённае цяпло. Свісціян закурыў. Ведаючы, што сябар не курыць, яму не прапанаваў.

— Пакінула нас савецкая ўлада, на волю лёсу пакінула, — енчыў Хвядзюшка, як бы размаўляючы сам з сабою. Ён нават у начным цемрыве бачыў, як Свісціян засяродзіўся на нейкіх сваіх думках.

— Што ад таго немца чакаць — не ведаю, — працягваў скуліць Хвядзюшка. — У нас Хрысан гаворыць: «Можа, пад Германіяй і нам лепш будзе?» А я ж калісьці ў рэўкаме састаяў… Могуць напомніць. Дык як яно будзе, не ведаю.

— А ты ўжо ў калошы напусціў?

— Што гэта ты, Свісціянка, гэтак мяне папракаеш? Я пра тое, як яно далей будзе…

— Думаеш, ліха яго матары, я надта ведаю… — Свісціян крануў рукою свой мясісты, прыплюснуты нос, пахітаў яго, пра нешта задумаўся, потым загаварыў зноў:

— Я чуў, што час ад часу чалавек павінен перанесці нейкае ўзрушэнне. Каб нутро скаланула! Каб усё здрыганулася! Гэта мне ў турме адзін казаў. Не дурны быў чалавек. Сядзеў доўга, не выпускалі…

Свісціян курыў. Калі рабіў зацяжку, агеньчык асвятляў яго твар, відаць было, як чорныя калматыя бровы пагрозліва тапырыліся над вачыма і шыро-кім, з буйнымі ноздрамі носам, а верхняя губа цяжка навісала над ніжняй. Праз сцяну, у хляве, стаяў конь, чутно было, як ён перамінаўся з нагі на нагу, мякка ступаў капытамі, хрумсцеў свежай травой.

— А можа, за тыдзень які вернуцца Саветы? — выказаў новае меркаванне Хвядзюшка.

Свісціян выціснуў з сябе нешта падобнае на смех і сказаў:

— Яны драпанулі, ядрона вош, так, што ўжо, можа, пад Масквой недзе. — Саветам ён быў, у адрозненне ад Хвядзюшкі, не надта і рады, пачуваў сябе няўтульна, нідзе не мог прыстроіцца — не бралі.

— Дык вось я і думаю, як яно цяпер павернецца? У які бок? Цяжкае становішча! — Хвядзюшка няўдала крутнуў галавой і шчакой наткнуўся на жытні сноп, што камлём тырчэў з торпу, і адразу занепакоіўся: «Пісягі будуць! Яшчэ падумае хто, што Нінка абадрала, яна на гэта здольная!..»

За сцяною захроп конь. Можа, прасіў вады. Свісціян гаварыў, як настаўнік, павучальна:

— Там будзе відаць, цяжкае яно ці не, — з адценнем зняважлівасці зірнуў на прускаўца. — Безуладдзе, калі разумна на яго паглядзець, не так і блага… — Ён ізноў над чымсьці задумаўся, абмацаў вушы, нібы правяраючы іх надзейнасць.

— Шкада, няма Трахіма, — уздыхнуў Хвядзюшка, — ён умеў што параіць ці перасцерагчы. І ўзяць мог, што нагледзіць. Яшчэ перад той вайной памёр, ды так няўдала — у калюжы ўтапіўся. Шкада. Каштоўны быў чалавек.

— Абыдземся і без Трахіма, — Свісціян зноў адарыў таварыша цяжкім паглядам сваіх нерухома-дрымучых вачэй. — Не забывай, мы з табой «Свенты Кшыж» прайшлі. Гэта, ліха яго матары, нешта значыць.

— Значыць!

«Свенты Кшыж» Свісціян успамінаў рэдка, як змрочны перыяд у сваім жыцці.

— Помніш сто пяцьдзясят дзявятую камеру на другім паверсе? Як пацукі па нас бегалі? Не забыў? Палавіна зняволеных не дажывала да заканчэння тэрміну.

— Помню.

— А мы выжылі! Так што пакуль што пачакай, не палохайся, дай агледзецца. Там будзе відаць. Глядзі ты! — у Свісціянавым голасе пачулася здзіўленне, — лета, а ноч цёмная, туман…

За сцяною зноў захроп конь.

— У такую ноч коней добра красці! — быццам бы нешта ўспомніўшы, сказаў Хвядзюшка.

— Ну, калі тое было!

Яны ведалі і бачылі адзін аднаго, як кажуць, навылёт. Хвядзюшка надта палахлівы, і сябар супакоіў яго:

— Не пераймайся! Будзе відаць, як скарыстаць гэты час. Нешта прыдумаем, ліха яго матары! Датумкаў? Галоўнае — не хвалюйся і не губляй галавы, усё будзе добра. Сядзі дома! Калі што, падасі знак…

На тым яны і пагадзіліся. Выходзілі з клуні, азіраючыся, па адным, асцерагаючыся чужога вока.

— Ну, што гэты твой сваяк, чаго ён? — спытала Палага, калі муж вярнуўся ў хату.

— Мы з ім такія сваякі, што мой дзед яго бабцы насіў гаўно ў шапцы, — адказаў Свісціян, кладучыся ў пасцель, каб даспаць ноч. — Датумкала?

— Датумкала.

* * *

А яшчэ праз дзень вярнуўся Васіль. Даехаў да Белавежы, далучыўшыся да агульнай плыні. Побач з ім, ляснымі дарогамі і сцежкамі рухаліся на ўсход вайскоўцы: асобныя падраздзяленні, групы байцоў, адзіночкі. Па лясных гушчарах пакідалі зброю. Нямала было і цывільных. Выбраліся нарэшце на брукаваную дарогу, што кіравала на ўсход. Шмат аўтамашын — легкавых і грузавікоў. Сустракаліся і падводы. Гарачыня, пыл. Вайскоўцаў надта нерва-

валі цывільныя са сваім скарбам, этажэркамі і фікусамі. «Панікёры, толькі перашкаджаюць! Немагчыма развярнуцца!» — злосна, як быццам імкнучыся апраўдаць сябе, крычалі вайскоўцы. Плакалі дзеці, клікалі бацькоў. Крык і енк чуваць было далёка. І ўсе пыталіся: «Немцы дзе?» Далёка за даляглядам нешта дымілася, у некаторых мясцінах паабапал дарогі гарэла жыта. Збоку пастухі гналі статак. Эвакуіраваўся, мабыць, нейкі дзяржгас. Каровы мычалі, шарахаліся ад агню, выбягалі на дарогу, узнімалі пыл і пырскі пяску. Суцэльны, бязладны гармідар.

У Белавежы даведаўся, што немцы ўжо далёка, апярэдзілі іх. Зноў паўстала пытанне, што рабіць. Вырашыў вяртацца, іншага выйсця не бачыў.

— Саветы ўжо недзе, можа, за Баранавічамі, — сказалі яму ў адной з вёсак за Белавежай, — пагналі іх немцы проста перад сабой, як зайцоў. У голасе чалавека, які гэта казаў, чуліся ноткі злараднасці, ён бы цешыўся такім паваротам падзей. Не склаліся, пэўна, адносіны з савецкай уладай.

Назад Васіль ехаў праз Камянец, адчуваючы сябе самотным і разгубленым. Здавалася, што свет раскалоўся і ляціць у бездань, і што чакала наперадзе, было невядома. Круціў педалі, глядзеў на сцяжынку перад сабою і зрэдку азіраўся па баках, уражвала бязлюддзе, пустыя палі і лугі. Іншым часам сенакос быў бы ў самым разгары, але цяпер пра яго мала хто помніў. Нерухома стаялі на пагорках млыны-ветракі. Амаль наехаў на цэлую гурбу запалак, што ляжала на дарозе, а непадалёку стаяў разбіты грузавік. Відаць, трапіў снарад, калі вывозілі тавар з нейкага склада. Што каштоўнейшае, людзі паспелі падабраць ужо. Засталіся запалкі. Васіль напакаваў імі поўныя кішэні.

Камянец сустрэў нечаканай люднасцю і ажыўленнем, прыехалі з навакольных вёсак, як бы гэта быў базарны дзень. На вуліцах, у скверыку, на плошчы поўна народу. Рух і гамана. Людзі разбрыліся па мястэчку, спадзеючыся адшукаць што-небудзь да спажывы ў пакінутых магазінах і складах.

Апусцелі райкам і райвыканкам.

Памяшканне раённай пракуратуры, дзе яшчэ нядаўна працаваў савецкі начальнік Афінагенаў, нікім не ахоўвалася, цяжкія дзверы адчынены насцеж. Кінуліся ў вочы пустыя, з абадранымі фіранкамі вокны, на якіх аднак паранейшаму тырчэлі тоўстыя жалезныя краты. Гараж таксама адчынены, з яго паспелі ўжо выпхнуць машыну і садраць з яе брызентавы верх.

Афінагенава Васіль ведаў асабіста. Яшчэ колькі месяцаў назад ён выклікаў і дапытваўся, у якой сувязі ён знаходзіцца з Пацам Якавам Арыстархавічам, які атрымаў турэмны тэрмін. Давялося прызнацца, што Якаў Арыстархавіч яго кум, хрысціў сына. Афінагенаў крыва тады пасміхнуўся, але сказаць нічога не сказаў. А цяпер Афінагенава не відаць, падаўся няйначай на ўсход. Па падворку параскіданы паперы. Ходзяць нейкія людзі, вышукваюць, відаць, нешта сваё, непатрэбнае адкідаюць.

Васіль не ўтрымаўся, зайшоў у будынак. Тут нехта пагаспадарыў ужо: паламаў мэблю і парасчыняў шафы. Ад архіва мала што засталося. Той-сёй, відаць, разумеючы, куды дзьме вецер і чаго трэба чакаць, замятаў сляды сваёй дзейнасці. Папкі з шафаў павыкідалі ўжо ў двор, частка валялася на падлозе. Некаторыя былі пазначаны назвамі вёсак ці асобнымі прозвішчамі. «За гэтымі людзьмі, відаць, сачылі», — падумаў Васіль. І раптам кінулася ў вочы папка — «Пруска»! Ніжэй стаяла: «Асабовая справа Вішаньковай». Ён успомніў маладзенькую настаўніцу, якая працавала ў Прускаўскай школе і ў якую ён быў крыху закаханы. «І яе падазравалі?! — яго здзіўленню не было канца. — Неверагодна! Абсалютна савецкая, камсамолка, бесклапотная спявачка. «Валочніца», нарэшце!». Ён развязаў вяровачкі і адразу ж натрапіў

на паперку. Нейкі «Дыня» паведамляў, што настаўніца Вішанькова паводзіць сябе вельмі распусна, знаецца з заможнымі гаспадарамі і ў хаце аднаго з іх жыве.

А вось — ордэр на арышт Лаўра Яўсеевіча Кухты. Не хапала толькі даты. Побач ляжала яго асабовая справа: «Кухта Лавр Евсеевич». Нехта даносіў і на яго: «служыцель культу», «бабнік». Падпісана: «Карл Заўэр».

І зноў дасье — на айчыма. На вокладцы стаяла:

**КУЖЕЛЬ**
**ЛЕОНТИЙ МИХАЙЛОВИЧ**

Быццам гэта кніга, якую ці напісаў Лявонцій Міхайлавіч ці хтосьці напісаў пра яго. Васіль пачаў гартаць. Той самы «Карл Заўэр» пералічваў айчымавы «грахі»: заадно быў з капэзэбоўцамі, сябраваў з Канстанцінам Хлябічам, мае шмат зямлі і сельскагаспадарчай тэхнікі, двор устаўлены машынамі. Далей ішло: «Эксплуатуе чужы труд. Коса пазірае на начальства. Ходзіць у царкву…» І гэта ўсё пра бацьку, пра айчыма! Васіль, чытаючы, ажно ўгнуў галаву, як бы чакаў ад некага ўдару: «Ну і ну! Маглі б арыштаваць як кулака. Арыштаваць і выслаць «на белыя мядзведзі». Што ж гэта такое? Выходзіць, ворагі былі і сярод сваіх? Цікавалі, арыштоўвалі, шкодзілі…»

Былі, пэўна, заведзены «папкі» і на іншых прускаўцаў, у тым ліку і на яго самога, але Васіль не знайшоў, ды і часу не ставала. Трэба было спяшацца дадому. «А што рабіць з гэтымі паперамі?» — цюкнула ў галаву. Першая думка была — куды-небудзь выкінуць. Але вырашыў усё ж такі паказаць тым, каго яны тычыліся. Апроч, хіба, Вішаньковай, якая з Прускі кудысьці з'ехала яшчэ вясной. Магчыма, перавялі дзе ў іншае месца. У Замастах, праязджаючы мост, выкінуў «справу» Вішаньковай у Лосьну. Не паглядзеў нават, паплыла яна ці патанула, пайшла на дно, абцяжараная «грахамі» маладой прыгажуні настаўніцы, якая ведала столькі песень. Спяшаўся, націскаў на педалі.

Мінуў Замасты, Мікалаева, Ліпну, не злазячы з веласіпеда, узняўся на Бабіцкую гару, але самой стромы не адолеў, давялося весці веласіпед у руках. Злева спакойна плыла Лосьна, несучы сваю пушчанскую ваду ў Буг. Далей, метраў праз дзвесце, убачыў пры дарозе, на абочыне, лёгкі танк, савецкі, зусім цэлы, пафарбаваны некалі ў зялёны колер. З вежы тырчаў тонкі гарматны ствол. Побач — кулямёт, прымацаваны да станіны. Гэта быў не танк нават, а, як казалі ў Прусцы, танкетка. Лёгкая і хуткая, замест кавалерыі. Васіль пад'ехаў бліжэй. Ад танкеткі патыхнула жалеззем і адпрацаваным машынным маслам. Скончыўся, відаць, бензін, і экіпаж рушыў далей пешкі…

Недалёка заставалася ўжо і да Прускі. У свядомасці зноў запульсавала, не даючы спакою, думка, што нешта ж трэба рабіць, штосьці, магчыма, прыхаваць, прыбраць з вачэй, сустрэцца з людзьмі.

Нарэшце паказалася родная вёска — клуні, садкі, будынкі, дахі хат. Роднае селішча па-даўнейшаму стаяла на спрадвечным сваім месцы. З купы старых дрэў цягнулася ўвысь старэнькая блакітная цэркаўка з купалістай вежай і крыжам наверсе. Цяпер з гэтай вежы разносіўся па наваколлі трывожны звон. А можа, гэта толькі здавалася так яму — Васілю Платонаву? Магчыма, гэта яго сэрца білася трывожна і разгублена ад думак аб тым невядомым, што яго тут чакала? Цяжкія прадчуванні каменем ляжалі на душы. Побач з царквою, праз дарогу, яго хата, сям'я, жытло. «Цяпер гэтага трэба трымацца — родных сцен, свайго, — падумаў ён. — Калі што і абароніць ад паваротаў лёсу, дык толькі яны…»

Дома сустрэла аслабелая ад чакання Прося. Абняліся і пацалаваліся. Ён адчуў на яе вуснах прысмак мінулых гадоў, любоў і адданасць.

— Ужо ўсюды немцы. Абагналі нас…

— Ой, Вася ты мой, Васечка, Васілёк ты мой, — казала яна, абдымаючы, — навошта ж ты, Васечка, прозвішча наша памяняў? Каб Кужаль, дык яно было б спакайней…

— А хто яго ведае, Просечка, як спакайней у гэтым жыцці. Дзе той спакой?

Дастаў з кішэняў запалкі, вытрас на стол.

— Адкуль гэта ў цябе? — папытала Прося.

— На дарозе ляжалі.

— Гэта ж, пэўна, згубіў нехта. Можа, шукае…

— Не. Відаць, яму ўжо цяпер не да запалак.

Час прыспешваў, і Васіль накіраваўся да айчыма, прыхапіўшы з сабой папку, што знайшоў у памяшканні пакінутай Камянецкай пракуратуры. Айчыма і маці застаў дома, яны пакавалі ў скрынку нейкія паперы і прыкметна хваляваліся. Хустка ў маці збілася набок, і яна яе нават не папраўляла, у вачах — адбітак трывогі. Гэта быў, відаць, асабліва цяжкі дзень у яе багатым на нялёгкія дні жыцці. Узрадавалася Васілёваму прыходу, кінулася абдымаць сына. Увесь гэты час яна трывожылася за яго, не ведаючы, што з ім, і цяпер, перажываючы, заўважыла, як пашарэў яго твар і як панік ён сам. У каторы раз падумала, як жа ён падобны на свайго бацьку — яе першага мужа, які загінуў у грамадзянскую вайну, у Расіі. І вось зноў вайна.

Усё навокал перамянілася ў адначассе. Суседка Хомчыха не выходзіла з хаты, а суседзі з другога боку — Грышка з жонкай Верай — увесь дзень насілі з калодзежа ў вёдрах ваду і палівалі хату, хлявы і клуню, каб, калі што якое, не загарэліся. Відаць, таксама знаходзіліся не ў малым хваляванні і трывозе.

— Гэта трэба схаваць, — загаманіла Фёкла, паказваючы на скрынку. — Дакументы. З бежанства яшчэ, з Расіі. Далей схаваеш — бліжэй возьмеш. Яшчэ спатрэбяцца!

— Хіба за хатай? — падаў думку Лявон.

— У садку! — удакладніла Фёкла, папраўляючы на галаве хустку. — Ці, яшчэ лепш, у агародзе.

— А я вось што знайшоў, — Васіль паклаў на край стала папку, на якой значылася вялікімі літарамі:

**КУЖЕЛЬ**
**ЛЕОНТИЙ МИХАЙЛОВИЧ**

Нейкі час усе ў страху і зняменні пазіралі на гэты надпіс, нават Фёкла, якая была непісьменнай і не магла ўцяміць, што да чаго, нават яна знiякавела. Потым усе разам пачалі гартаць. Здзіўленню не было канца. «Ну, ніколі не думаў, што мною хтосьці настолькі цікавіцца, ніколі не думаў… — доўга паўтараў айчым, хітаючы галавой. — Ніколі ў жыцці не думаў…»

— Што з гэтым будзем рабіць? — спытаў пасынак.

— Хай усё разам ляжыць у зямлі! — махнуў рукою Лявон. — І Заўэр гэты! Карл!

Пасля гэтага рушылі за хату. Пазнаўшы Васіля, радасна завіскатала ля сваёй будкі Нэрка, нацягнуўшы ланцуг і намагаючыся лізнуць даўняга знаёмага ў твар. Не было часу з ёй займацца. Праз прысядзібны садок, мінуючы старую лазню, спусціліся ў агарод. На градах красаваліся жаўтагаловыя сла-

нечнікі, рос мак, зелянелі ўкроп і сельдэрэй. Упарта тырчала пер'е цыбулі, кругліліся гарбузы, там-сям высока ўзнімаліся пакінутыя гаспадыняй сцяблі-ны ружавай лебяды. Лявон зірнуў на бульбу, што расла побач: пара было яе акучваць. Усё, як звычайна, як заўсёды, быццам нічога дрэннага ў свеце не адбылося і нішто яго не прадвяшчала. У градах спакойна жыравала парася, не звяртаючы ўвагі на людзей, што падышлі да яго зусім блізка. «Добра табе, парсючок! Не ведаеш ты ні пра немцаў, ні пра Саветаў, ні пра вайну», — падумаў Васіль і параіў бацькам:

— Тут нізка, калі закопваць, дык лепш у садзе, там зямля сушэйшая, вільгаць не падступіць.

З ім згадзіліся. Вярнуліся ў сад, і Васіль пад адной з яблынь выкапаў ямку. Лявону капаць нязручна: левая рука па-ранейшаму напалавіну нямоглая — параніла яшчэ ў тую, царскую вайну 1914 года, а зямля ў садзе была ўздзірванелая і цяжкая.

— Ой-ой-ой! — не знаходзіла сабе месца Фёкла, мітусілася і часта ўздыхала.

— Супакойся, Фяклуша! — упрошваў яе Лявон. — Супакойся!

Скрынку з дакументамі закопвалі ўжо прыцемкамі, калі чырвонае сонца амаль поўнасцю схавалася за карчы, за альшыну. Засыпаную ямку ўтрамбавалі, зараўнялі, паклалі дзёран, шчыльна ўціснуўшы яго ў зямлю.

Паціху, незаўважна, насунуўся вечар. Сонечныя праменні яшчэ трымаліся на дахах і комінах, але нарэшце зніклі і яны. Згушчаліся цені пад дрэвамі. Васіль больш падрабязна расказаў пра свае ўцёкі з Саветамі, пра тое, што тварылася на дарогах, пра вяртанне. Лявон і маці хіталі галовамі.

— Не даязджаючы Бабіцкай гары, танкетка стаіць, — сказаў ён.

— Якая танкетка? — не зразумеў Лявон.

— Савецкая. Гаспадары ўцяклі, а машыну кінулі, бензін скончыўся.

— Яны шмат чаго кінулі…

— Надта ж нечакана ўсё, — паспачувала Фёкла.

Яшчэ крыху пагаманілі і разышліся адпачываць. Па дарозе дадому Васіль сустрэў Мікіту Галёнку, пазнаўшы ў месячным святле яго прыгорбленую постаць. І Мікіта ўгледзеў Васіля.

— Дзе гэта ты прападаў, што не відаць было? — спытаў ён, амаль упрытык наблізіўшыся да прыяцеля. — Я падумаў ужо, што ты на ўсход падаўся разам з Саветамі?

— У цесця быў, у Бучамлі, сена касілі, дапамагаў.

— У Бучамлі?

— Ага.

— Час няпэўны. Пачалі казаць, слых пайшоў, што яны былы актыў бяруць…

— Хто — яны?

— Немцы. Бяруць і да сцяны ставяць. А ты ж, не сакрэт, начальнікам пошты быў ды і я калісьці ў праўленні састаяў, а потым яшчэ і вершык у «Зары»[1] надрукаваў, як бы чорт мяне падштрухнуў! Малады быў, многага не разумеў.

Відаць было, што Мікіта баіцца і шкадуе, што ўсё так абярнулася.

— Дык яны той вершык не чыталі!

— Яны не чыталі, дык хто іншы чытаў. Людзі такія, што падкажуць.

Заклапочаныя, яны развіталіся і пайшлі кожны ў сваім напрамку, па сваіх хатах. Заставалася чагосьці чакаць.

[1] «Заря» — брэсцкая абласная газета, якая выдаецца і сёння.

## III

Вал вайны пакаціўся на ўсход, за ім пацягнуліся асобныя нямецкія аддзелы, вайсковыя часці, тылы, тэхніка, узбраенне, інтэнданцкія службы. Вермахт сунуўся як чорная хмара — грымеў, лязгаў жалеззем, пагражаў неадольнай сілай. Праз Пруску, узнімаючы страшэнны грукат і чапляючыся за платы, рухаліся самаходныя гарматы, ішлі танкі. Ад гусеніц высока ўзвіваўся руды дарожны пыл і суцэльнай заслонай завісаў у паветры. Жалезныя пачвары рухаліся грозна, самаўпэўнена і нястрымна. У вежавых люках стаялі ў чорных замасленых камбінезонах танкісты, але ні на каго не звярталі ўвагі, па баках нават не глядзелі, нібы навокал нікога і нічога не існавала, што б магло стаць вартым іх увагі. Нейкі танкавы аддзел спрабаваў ладзіць баявую пазіцыю. Цяжкія машыны, нязграбна разварочваючыся, чмыхалі густым дымам, лязгалі гусеніцамі, чаплялі і задзіралі дуламі стрэхі і маглі выпадкам разваліць ці падпаліць хату або хлеў. Тым больш, што стаяла нялюдская гарачыня. Адзін з гэтых страшыдлаў, няўклюдна павярнуўшыся, усё ж такі паваліў плот каля Відэркі і падмяў пад сябе куст бэзу, які ажно затрашчаў пад шырокімі і бліскучымі, нібыта хто спецыяльна іх нацёр, гусенічнымі тракамі. Мікіта Галёнка мог пацярпець больш: танк ледзь не звярнуў вугал яго аселай і прыпалай да зямлі хаціны, якая надта вытыркалася на вуліцу, цьмяна бліскаючы падслепаватымі бруднымі вокнамі. Бог, відаць, убярог, таму што шматдзетны Мікіта застаўся б без жытла. Аціхлі, недзе пахаваўшыся, неўтаймоўныя вераб'і. Высока ў небе, узняўшыся над гнёздамі, кружылі буслы, здзіўленыя і напалоханыя гэтым незвычайным відовішчам. Каленікаў шэры каток кінуўся ўпрочкі і хуценька схаваўся за падваротню.

Прускаўцы не пакідалі сваіх котлішчаў, але трымаліся воддаль, стаіўшыся за хатамі, па садках і агародах, з жахам назіралі за тым, што адбывалася, за такім нечаканым паваротам падзей. Лявону ўспомнілася яшчэ нядаўна чутая песня пра сытых коней, якія б'юць капытамі. «Вось табе і коні, — падумаў ён. — Дзе яны цяпер?»

Экіпажы не пакідалі машын, быццам чакалі нейкага загаду. Але прастаялі на сваёй пазіцыі танкісты толькі да вечара, назаўтра іх змяніў новы вайсковы аддзел на грузавых машынах, сярод якіх былі і санітарныя, і розныя іншыя. Каціліся гарматы, кухні, грузавікі, набітыя салдатамі. Адна з машын з брызентавым верхам і прычэпленай ззаду палявой кухняй завярнула на Лявонава прыгуменне. З-пад брызента пачалі саскокваць салдаты, класці на зямлю вайсковы рыштунак і бегчы да калодзежа. На хаду распраналіся, скідалі з сябе балотнага колеру мундзіры, боты, штаны, абліваліся вадой, напоўніўшы ёю драўлянае карыта, з якога пілі каровы і коні. Памыўшыся, салдаты апраналіся, некаторыя, засунуўшы пілоткі за пагоны, расселіся на траве, падаставалі губныя гармонікі і запілікалі на іх нейкія свае мелодыі. Адзін, з кароткай баксёрскай стрыжкай, адняў гармонік ад вуснаў і заспяваў:

*Wolga, Wolga, mutter Wolga-a…*

«Пра Волгу спяваюць! — здзівілася Фёкла. — Волгу ведаюць! Адкуль?» — не магла даўмецца жанчына, якая сама нарадзілася на Волзе і ведала, як гэта адсюль далёка.

Пад'ехала яшчэ адна машына, з прадуктамі, — з яе сталі разгружаць хлеб і кансервы. З калодзежа насілі ў гумовых вёдрах ваду. Частка вайскоўцаў, не задаволіўшыся перспектывай абеду з кансервамі, пайшла, павесіўшы на шыі аўтаматы, па хатах і па хлявах. Першымі адчулі небяспеку куры і ліхаманка-

ва пабеглі хавацца ў карчы. Салдаты даганялі іх з радасным гоманам, лавілі, неслі на кухню, што размясцілася калі Лявонавай хаты, наведваліся ў хлявы, адкуль чулася насцярожанае рохканне, валаклі за заднія ногі парасят, што трапілі пад руку. Двое з'явіліся да Фёклы. Адзін з блакітнымі вачыма і рудымі калматымі брывамі, другі — гарбаносы і прыгорблены, разглядаўся па баках. Абодва гулліва шчэрылі зубы. З шырокіх халяваў тырчалі гранаты з жоўтымі драўлянымі тронкамі.

— Матка, яйкі, млека!

Жанчына зрабіла выгляд, што зразумела, кінулася на кухню, зачарпнула кубак вады і вынесла «гасцям», але тыя, нічога не кажучы, адмоўна паматлялі галовамі. Давялося вынесці тое, што яны прасілі. Адзін з «гасцей» — з блакітнымі вачыма і рудымі калматымі брывамі — пачаў асцярожна складваць яйкі ў плоскі алюмініевы кацялок.

— Gut, gut![1] — мармытаў сабе пад нос.

Другі — гарбаносы і прыгорблены — аказаўся аматарам маладой цыбулі, пабег на агарод і нарваў яе добрае бярэмца, разам з белымі галоўкамі. Першы склаў яйкі ў алюмініевы кацялок і рукою стаў паказваць, што кацялок не поўны, давай, маўляў, яшчэ.

— Больш няма, — развяла рукамі гаспадыня.

Як на тое, пачулася курынае кудахтанне. Фёкла азірнулася і заўважыла курыцу, якая з абяцаючым крыкам «ко-ко-ко» паспешліва вярталася з карчоў і накіроўвалася да хлеўчука з яўным намерам парадаваць гаспадыню свежым яйкам. Праз шчыліну яна лоўка ўскочыла ў хляўчук. «Дурніца! — з прыкрасцю падумала гаспадыня. — Што ты робіш? Куды спяшаешся?» Сітуацыю, па ўсім відаць, зразумеў і немец, бо, падышоўшы да дзвярэй хлеўчука стаў чакаць, не звяртаючы ўвагі на гаспадыню. Потым прысеў, паставіўшы ля сябе недабраны кацялок з яйкамі. «Ну і ну! — пахітала галавой Фёкла. — Такога я яшчэ не бачыла…»

Нарэшце нясушка зноў засакатала, закудахтала, на гэты раз асабліва моцна і радасна, апавяшчаючы, што яна зрабіла сваю справу, адарыла свет яйкам, і праз тую самую шчыліну паважна выйшла з хлеўчука. Немец, не марудзячы, адчыніў дзверы, ускочыў у хляўчук і хутка выскачыў адтуль з радаснай усмешкай: у яго руцэ бялела свежае яйка. «Ні за што б не паверыла, калі б не ўбачыла на свае вочы!» — зноў падумала Фёкла.

Таварыш з цыбуляй чакаў, і яны пайшлі. Блакітнавокі, каб чула Фёкла, як бы па сакрэце, сказаў:

— Бістро здзесь прыдзёт СС. — Паматляўшы галавой, дадаў — Война — шлехт!

Што гэта такое, Фёкла не ведала, але здагадалася, што хацеў сказаць вайсковец: «Мы, маўляў, яшчэ не кепскія, ёсць яшчэ нехта горшы і страшнейшы».

Пасля гэтага немцы палуднавалі: хлёбалі з жалезных місак гарохавы суп з мясам, заядаючы белым хлебам, пілі каву.

На прыгуменні ў Кужалёў, каля склепа, буйна зарадзіла вішня. Яна пайшла на дэсерт. Ягады яшчэ не даспелі, але кіслінка, мусіць, была дарэчы, таму што ворагі наваліліся на вішаньку ў адначассе і ўсе разам. Дружна, з гоманам, абабралі ніжнія галіны, а вось да верхніх было не дабрацца. А на версе вішні самыя спелыя, сакаўныя. Немцы пераглянуліся між сабой, пагергеталі і пачалі з бессаромным нахабствам гнуць да долу ўсё дрэва. Учапіліся за галіны, за ствол. Дрэва ўпарта не паддавалася.

---

[1] Добра, добра! *(ням.)*

— Verfluechte! — лаяўся той, што іграў на гармоніку.

Повар прынёс сякеру. Пачалі секчы пад корань. Нарэшце вішню павалілі і, весела зарагатаўшы абабралі дашчэнту. Ссечанае дрэва ляжала на зямлі голае, згвалтаванае, вывалянае ў пяску, зможанае.

Лявон стаяў за плотам, на панадворку, усё бачыў, у душы кіпела: «Нягоднікі! Дома ў сябе гэтак бы не зрабілі!» Адзін з немцаў, заўважыўшы Лявона, зняважліва махнуў закасанымі да локцяў рукамі:

— Руслянд капут! Руслянд капут!

Нешта падобнае рабілася па ўсёй вёсцы.

Час ад часу пад'язджалі матацыклісты, падскокваючы на дарожных выбоінах і палохаючы прускаўцаў чорнымі засланкамі на вачах. Нешта рапартавалі, казыралі, прыклаўшы руку пад сталёвую каску, і зноў кудысьці адпраўляліся. Адзін матацыкліст — валюхаты таўстун з тлустым прышчаватым тварам, задраўшы на лоб акуляры, загледзеўся на бусла, што нізка кружыўся над Лявонавай клуняй. Пасля таго, як бусел апусціўся ў гняздо і стаў у ім на адной назе, а другую падняў, немец узняў аўтамат, не спяшаючы прыцэліўся і даў кароткую чаргу. Птушку выкінула з гнязда, куляючыся па страсе, яна звалілася на зямлю. Немцы шумна загаварылі між сабой, пэўна, хвалячы майстэрства стралка.

Каб далей ад бяды, Лявон з Фёклай пайшлі ў хату. Да іх прыбеглі суседка Хомчыха з нявесткай Дзякрэтай, і яны з вокнаў назіралі за тым, што рабілася на прыгуменні. Хомчыха, як заўсёды, узбуджаная, гаманкая:

— Ой, людкове, ашалець можна! — не вытрымала жанчына, убачыўшы, як па страсе коціцца бусел. — Але ж і нахабы! Каб на іх паморак! Поскудзь! І мундзіры на іх зялёныя, як свінячае дзярмо! Ну, проста жах!

— Мамо, не крычыце, а то яшчэ пачуюць! — прасіла яе Дзякрэта, настрашаная тым, што адбывалася. — І нас застрэляць, як таго бусла.

— Ад іх усяго можна чакаць, — згадзілася Хомчыха. — У іх нешта іншае ў галовах, быццам машынка нейкая ўстаўлена.

— Ад іх добрага не дачакаешся, — уздыхнула Фёкла.

— Прыхадні! — Лявон правёў рукою па лбе і аб нечым задумаўся, а потым дадаў: — Заваёўнікі!

— А наш Апанас у карчах схаваўся, — сказала пра сына Хомчыха.

— Можа, і правільна зрабіў, каб на вочы не паказвацца, — азваўся Лявон, які таксама быў глыбока ўражаны паводзінамі няпрошаных гасцей. Ён ведаў немцаў з часоў Першай сусветнай вайны. І не толькі Лявон, але і ўсё мясцовае жыхарства, бо немцы ў тую, «царскую», вайну, у пятнаццатым годзе, былі і тут. Шкоды панарабілі, не дай бог, — лес секлі, зуброў вынішчалі... Аднак тыя немцы не выглядалі такімі самаўпэўненымі, нахабнымі і драпежнымі. Буслоў не білі.

— Што ж гэта будзе? — услых падумала Фёкла, але адказу на гэтае пытанне ў іх не было.

* * *

Пасля гэтага візіту немцаў доўгі час не бачылі, і якраз у гэтыя дні вызваліўся з турмы Якаў Арыстархавіч. Вярнуўся дадому, у свой фальварак. Схуднеў. Шчокі ўпалі, абвастрыўшы шырокія ятвяжскія скулы, абцягненыя сухой абветранай скурай. Не паспеў яшчэ паправіцца, а па адзенні выглядаў як звычайна: усё той жа плашч і пінжак, жывот абцягнены суконнай камізэлькай, на галаве сядзеў няпэўнага колеру капялюш, на шыі — гальштук. Апрануўся цёпла, не зважаючы на гарачыню.

— Маё шанаванне! — сказаў, адчыніўшы дзверы.

— Добры дзень. Добры дзень! — ад душы ўзрадаваліся гаспадары — і Лявон, і Фёкла: — Нарэшце! Мы вельмі рады! Як добра, што вы ўжо дома! Ой!

Якаў Арыстархавіч шырока разняў рукі, і памкнуўся да Лявона. Яны, як старыя прыяцелі, моцна абняліся і пацалаваліся. Твар фальваркоўца страціў былую румянасць, пабляднеў, а пад вачыма леглі цёмныя цені, у роце не відаць было ніводнай залатой фіксы, тырчэла знізу толькі адна жалезная, але можна было прыкмеціць, што пасля турмы чалавек акрыяў, павесялеў.

— Як маецеся, шаноўнае спадарства? — пацікавіўся госць, ставячы ў куток кульбу і здымаючы капялюш і плашч. Адно і другое павесіў на ўбіты ў сцяну цвік. Потым павярнуўся, дастаў з кішэні скамечаную і не вельмі свежую хусцінку і выцер успацелы лоб. Пагладзіў далонню галаву, безвалосую і гладкую, як більярдны шар. «Ніводнае травінкі!» — здзівілася Фёкла і ўздыхнула.

— Ну, так сабе, як і ўсе, — адказаў Лявон. — А як там Амброжый?

Амброжый — родны брат Якава Арыстархавіча. Бацькаву спадчыну — фальварак Альбэрцін за ракой — яны не дзялілі і жылі на супольнай гаспадарцы.

— А ён каля Стэпы — прыхварэла нешта яна, кволіцца.

Стэпа — жонка Амброжыя.

— А Хвядося? — спытала Фёкла, паправіўшы валасы і залажыўшы іх за вушы. Хвядося — жонка Якава Арыстархавіча.

— Цяпер ёй лепш, — адказаў Якаў Арыстархавіч і перайшоў на іншае: — Ну вось і па Саветах, хоба на іх, рассыпаліся!

— Рассыпаліся, — згадзіўся Лявон, ацаніўшы гэтае трапна выбранае Якавам Арыстархавічам слова. Сапраўды, адступаючыя — вайскоўцы, урадоўцы і цывільнае насельніцтва — кінуліся на ўсход дробнымі групамі і ў адзіночку, пяшком, не разбіраючы дарог, палямі і лясамі.

— Вы ж таксама паспыталі гора, — паспачувала Фёкла, уздыхнуўшы.

— Напоўніцу! — прызнаўся госць. — Пасядзеў на парашы! Зімой, хоба на яго, холад, зуб на зуб не трапляе, а летам — гарачыня. Піць хочацца, а кружкі няма. Ні кружкі, ні лыжкі! — скардзіўся былы вязень. А ноччу, хоба на яго, храпуць — хто як можа: адзін рохкае, як свіння, другі, як сабака, сапе, а каторы ўздыхае, як, падобна, карова. Коўдры не далі — як стаіш, так і спі. Спачатку ляжаў на другім ярусе, потым перасяліўся на першы, але спаць, прызнаюся вам, не меў аніякай магчымасці ад храпу, духаты і нясвежага паветра. Смурод, не тут кажучы.

— Не салодкае жыццё! — паспачуваў гаспадар.

— Добра, што выбавіліся з таго пекла, — прамовіла Фёкла і выйшла на кухню.

— Кожнага дня шмон па тры разы на дзень.

— Шмон? — не зразумеў Лявон. — А што такое шмон?

— Вобыск. Шукаюць. Нават у сраку заглядаюць! Не дай бог! Ворагу не пажадаю.

Лявон уздыхнуў.

— Пашанцавала, што нкусаўцаў, хоба на іх, не да нас было, а то б расстралялі ці пагналі б на ўсход. А пачалося ўсё як? Тады, у панядзелак, пад раніцу, вельмі бухнула. Як бы ў крэпасці, хоба на яго, нейкі склад узарваўся. Ну і пачалося: «Бах! Бах! Бах!». І зарыва на захадзе! Куды падзелася ахова — невядома. Хоць бы адчынілі чэрці! А то, хоба, бачыш, самі збеглі, а нас так і пакінулі зачыненымі, быццам мы не людзі. І вось — сядзім…

Якаў Арыстархавіч расказваў, не апускаючы падрабязнасцей:

— І зноў: «Бах-бах!». І ўсполахі. Без аховы, хоба, неяк страшнавата. Мы стукаць пачалі. Што такое? Можа, думаем, пад нас, пад турму, дынаміт падклалі, і зараз ірване! Я дык перапалякаўся, аж мароз па скуры пайшоў! Пачалі разглядацца. У нас у камеры стаяла лаўка. Відаць, палякі яшчэ калісьці паставілі. Хлопцы і кажуць: «А можа лаўкай паспрабуем?» Мы абхапілі яе з абодвух бакоў і з разгону — у дзверы! Раз, два — і дзверы вываліліся. Кінуліся ў калідор, а там ужо вязні з іншых камер. Выйшлі нарэшце на волю… Братачка!.. — Якаў Арыстархавіч ажно падняў уверх рукі і ледзь не заляментаваў: — Зямля! Трава! Неба! Ой!

Лявон з Фёклай, якая вярнулася з кухні, толькі галовамі хіталі, дзівячыся, як гэта прыемна і радасна было чалавеку пасля працяглай няволі і турэмнага цемрыва выйсці нарэшце на святло, на волю, убачыць траву і дыхнуць чыстым паветрам.

— Хто не перажыў, таму цяжка ўявіць, — дадаў Якаў Арыстархавіч, як бы адчуўшы іх думкі. — Але, хоба на яго, разбой пачаўся, крымінальнікі адразу па кватэрах пайшлі, па магазінах. Не толькі крымінальнікі — усе! Людзі ж такія! Дзе які склад быў — там і людзі, валакуць хто што можа! Немцы кінуліся парадак наводзіць: «Хальт! Хальт!» Я ведаю, што такое «хальт» яшчэ з той вайны, спыняюся, рукі па швах, і стаю, пакуль не можна ісці, а некаторыя не разумеюць, што ад іх патрабуецца, дык іх бах, і гатова. Забівалі. А Берасць, хоба на яго, гарыць!

З двара прыдыбаў маленькі Валодзік, пазнаў хроснага бацьку, які заўсёды цешыў яго дробнымі падарункамі, а найболей ляндрынкамі, сарамліва заўсміхаўся.

— Ну, як жывеш, як гадуешся? — звярнуўся да яго хросны.

Маламу не хапіла, відаць, смеласці адказаць, ён, апусціўшы галаў, маўчаў.

Хросны паляпаў сябе па кішэнях, дзе калісьці звычайна ляжаў пакецік з ляндрынкамі, але цяпер там нічога не было, кішэні былі пустыя.

— Палуднаваць пара! — абвясціла Фёкла і зноў падалася разам з унукам на кухню.

Абедалі ў сенях — у хаце надта душна. Паставілі стол, які Фёкла накрыла абрусам, некалькі столакаў. На адзін сеў, памыўшы рукі, Якаў Арыстархавіч. Фёкла падала яму ручнік, які ад доўгага ўжывання і прання зрабіўся амаль празрыстым.

— І колькі гэта вы ім карыстаецеся? — пасміхнуўся фальварковец.

— Ужо даўнавата.

— Правільна, рэчы трэба берагчы, — пахваліў госць.

Гаспадыня прапанавала суп са шчаўя, забеленага падсмеценнем, і ячную кашу. Высветлілася, аднак, што ячную кашу Якаў Арыстархавіч не любіў, аддаючы перавагу грэчневай альбо прасяной. Фёкла хуценька падсмажыла яму яечню (куры, пасля таго, як тут пабывалі немцы, пастараліся знесці колькі яек); пасля ўжо візіту нямецкіх вайскоўцаў), падала місачку з маласольнымі гуркамі. Лявон нарэзаў хлеба з прысохлымі там-сям рэшткамі запечаных кляновых лісцяў.

— Смаката, браце! — не ўтрымаўся ад пахвалы Якаў Арыстархавіч, адведаўшы шчаўя. — І хлеб у цябе ўдаўся, — звярнуўся ён да гаспадыні. — Мой Амброжый часам кажа сваёй Стэпе: «Дзякуй богу, хлеб удаўся, пад скарынку кот схаваўся». Тая злуе, але хлеб пячы не ўмее. Мая Хвядося таксама! А ты ўмееш!

Гэта быў камплімент гаспадыні.

Забег Васіль. Цяпер ён ізноў стаў бліжэй і заходзіў часцей, бо не трэба было ездзіць на службу. Павітаўся з бацькамі, з кумам — за руку, Якаў Арыстархавіч быў хросным бацькам яго першынца Валодзіка), прысеў да стала, але есці не стаў, хоць Лявон і запрасіў, бо паабедаў ужо.

Якаў Арыстархавіч падзякаваў яму за падтрымку.

— Каб не тыя перадачы, — сказаў ён, — дык ці вытрымаў бы, хоба на яго, невядома. А сёння, бачыш, усё перайначылася, іншым ходам пайшло. Сёння трэба глядзець!

— Яно і зразумела, бо вайна, — азваўся Васіль. — Паслухаць — дык жах! У Берасці палонных ды і цывільных, хто без дакументаў, кажуць, на стадыён выгналі, на тое поле, па якім фізкультурнікі бегалі. Некалькі дзён трымалі, а потым з кулямётаў расстралялі…

— Ой-ой! Што ж будзе далей? — у трывозе запытала Фёкла.

— Жыць неяк трэба, — зазначыў Лявон.

— Хто каго адолее, невядома. Ці Гітлер Сталіна, ці Сталін Гітлера, — з філасофскай запаволенасцю, пажаваўшы тоўстымі вуснамі, разважыў Якаў Арыстархавіч. — А мы — што? Нам не па сілах, мала нас. Мы, на добры лад, павінны стаць у баку, не ўмешвацца. Успомніце тую вайну. Вы, праўда, у бежанства падаліся. На пачатку і мы былі паехалі, але, падумаўшы, затрымаліся… Тут, непадалёку, за Камянцом, у лесе… Даелі сала і назад! На гаспадарку!

— Я помню, — хітнуў галавой Лявон, — як, вярнуўшыся з бежанства, з Расіі, да вас па насенне хадзіў.

— Наш Вася таксама на ўсход быў памкнуўся, але вярнуўся, — уздыхнула Фёкла, паглядзеўшы на сына.

— Вярнуўся, бо так атрымалася, — нібы апраўдваючыся, сказаў Васіль.

Фальварковец працаваў лыжкай і прамаўляў:

— Вокам не зміргнеш — як ужо нешта іншае. Змены — адна за адной. То Расія, то Польшча, то Саветы, то немцы, — так вось і жывём. Жыццё на месцы не стаіць.

— Нам гаспадаркі трымацца трэба, — сказаў Лявон, паўтараючы словы госця, — хлеба ніхто не дасць.

— Правільна! Гаспадаркі трэба трымацца! — пагадзіўся з ім Якаў Арыстархавіч. — Мы не гуртавыя людзі, мы самі па сабе.

— Ну так! — пагадзіўся Лявон. — Калі ты не за сябе, то хто за цябе? Гэта разумны чалавек сказаў. Не помню ўжо, хто.

Час ад часу Якаў Арыстархавіч даставаў з кішэні вялікі гадзіннік на доўгім ланцужку і ўглядаўся ў цыферблат.

— Мы вось з Амброжыем вятрак хочам купіць, і ўжо даўно надумалі, хоба на яго, і ёсць месца, дзе паставіць. На ўзгорку паміж сядзібай і лесам…

— Добрае месца! — падтрымаў Лявон. Ён даўно заўважыў, што ў словах чалавека, а яшчэ больш у яго паводзінах і ўчынках адлюстроўваецца яго характар, мэтаімкнёнасць. Гэтак вось і ў Якава Паца. Якаў знешне спакойны, але ў думках шустры і пракідкі. І не такі, каб абмежавацца дасягнутым. Наперад глядзіць! І на вайну не зважае.

— І вам з кумам, — Якаў Арыстархавіч кіўнуў на Васіля, — калі змалоць што, добра было б. Блізка!

— Але ж рака! — развёў рукамі Лявон.

Фальварковец і тут бачыў выйсце:

— Мяшкі са збожжам можна было б і на чоўне перавезці або на Дзямянчыцы праз мост.

— Хіба што на Дзямянчыцы.

— Гатовы хочам купіць. Перапытваем, шукаем, але падхадзяшчага знайсці не можам! Вось якая справа.

— За Камянец трэба ехаць — там ветракоў шмат, — параіў Васіль.

— У пушчанскіх вёсках пытаць, — дадаў Лявон.

Васіль, па праўдзе сказаць, быў здзіўлены планамі кума: «Суровы час, вайна, толькі што з турмы, а яму пазарэз вятрак трэба! Ну, ці не дзівак? А можа, гэта, як калісьці пры Саветах казалі, уласнік у ім гаворыць? І так можна думаць, і інакш: можа, далёка наперад глядзіць кум? Вайна вайной, а жыць сапраўды трэба, як кажа айчым». Васіль нават пасміхнуўся і ўслых сказаў, як бы нават хвалячы Якава Арыстархавіча:

— Як ні дзіўна, да гэтага часу яшчэ не знайшлося чалавека, якому дастаткова было б таго, што мае.

— Мусіць, і не знойдзеш, — азваўся фальварковец, зашпільваючы гузік на камізэльцы, — кожны, хоба на яго, хоча больш мець. Больш мець і быць незалежным. Я б і табе, Лявоне, і табе, Васіль, таксама параіў: перабірайцеся на тую «Крухмальню», што ў мяне калісьці купілі, і будуйцеся там, і будуць у вас фальваркі. Фальварак — гэта незалежнасць. Так заўсёды было. Старажытны літвінскі прынцып.

— Цяпер будавацца цяжка — вайна! — памаўчаўшы адказаў Лявон. — Васілю вось, — ён кіўнуў на пасынка, — сталярка трэба, новыя вокны, а дзе ты іх дастанеш.

— Знайсці майстра і заказаць! — параіў фальварковец.

Гаспадыня пачаставала госця свежым квасам.

— Квас летам — незаменная рэч, — сказаў Якаў Арыстархавіч, сыта ікнуў і пачаў збірацца. Дастаў з бакавой кішэні гадзіннік на бліскучым ланцужку, пстрыкнуў вечкам і зноў паўглядаўся ў цыферблат: — Пара! — З гэтымі словамі ён падняўся, устаў з-за стала і пачаў дзякаваць гаспадарам і асабліва гаспадыні. У сені заляцеў каляровы матыль і адразу затанцаваў пад столлю. Фёкла хацела яго прагнаць, але матыль не даваўся, кружыўся пад столлю, пакуль не ўблытаўся ў невідочнае для вока павуцінне ў кутку пад жорнамі. Гаспадыня дастала яго венікам і выкінула вонкі. Якаў Арыстархавіч пасміхнуўся, бліснуўшы жалезнай фіксай:

— Заляцеў, як той немец, хоба на яго, без дазволу.

Госць апрануўся, развітаўся, насунуў на лысую галаву капялюш і пераступіў парог. Лявон праводзіў яго да самай кладкі праз Лосьну. Навокал панавала нязвыклая цішыня.

— А можа, вайна тая ўжо і скончылася? — услых падумаў Лявон.

— Не, хоба на яе, мусіць яшчэ не.

## IV

Пруска апынулася ў глыбокім тыле, у абставінах безуладдзя, аднак вайна ўсё ж такі не выбіла прускаўцаў з наладжанай жыццёвай каляіны, а толькі прыпыніла, замарудзіла ходу іх штодзённага існавання і звузіла яго. Людзі пацішэлі, насцярожыліся, больш слухалі, чым гаварылі, стараліся не пакідаць роднага котлішча, радзей выбіраліся ў мястэчка. Былі ўжо нават і прызвычаіліся да гэткага свайго, адасобленага ад свету бытавання. Жыць стала, як ні дзіўна, спакайней. Без улады парадак не толькі не пагоршыўся, а наадварот — стаў, здавалася, больш трывалы. Няпэўнасць становішча, якую людзі адчувалі на першых парах, прайшла і, здавалася, што так будзе працягвацца і далей.

Але не. Улада з'явілася ўжо ў сярэдзіне ліпеня — у Ратайчыцы (былы цэнтр сельсавета) прыехаў амтскамісар і размясцілася каманда дапаможнай паліцыі (Hilf-policej). Неўзабаве амтскамісар наведаўся і ў Пруску. Людзям загадана было сабрацца на сход каля школы.

— Можа, зноў яйкі збіраць? — выказала здагадку Фёкла, уражаная першым знаёмствам з немцамі.

— Пабачым, — няпэўна адказаў Лявон.

Загадана было сабрацца ля школы. Доўга чакалі. Над галовамі сівымі клубамі віўся дым ад самакрутак. Нарэшце на гасцінцы з боку Ратайчыцаў з'явілася тупарылая легкавушка, пафарбаваная ў шэры колер. Яна колькі разоў грузна гайданулася насупраць Ідэркі, на тым калдобістым месцы, дзе ў іншую пару года разлягалася шырокая лужына, і з пылам праехала Пруску, спыніўшыся толькі на пляцоўцы перад школай. З пачаткам вайны прускаўская школа перастала працаваць і пуставала. Не чутно было дзіцячай гаманы, ліхіх удараў па мячы, вокрыкаў, якія раней разносіліся па ўсім наваколлі.

Пасля таго, як машына спынілася, першым з яе, як ашпараны, выскачыў салдат з аўтаматам і адразу ж наставіў зброю на прускаўцаў. Затым вылез шафёр, перабег на другі бок і шырока адчыніў дзверцы. Паказалася вайсковая фуражка з высокім, ажно задраным назад верхам, а за ёй выкаціўся мажны, амаль круглы, чалавек у зялёным з блакітным адлівам мундзіры. Твар пляскаты, чыста паголены, нос, як бульбінка. З-пад фуражкі выпіралі валасы колеру морквы. На носе-бульбінцы, засланяючы вочы, зіхацелі два шкельцы. Напалоханыя вераб'і, што корпаліся побач, шукаючы спажывы ў траве, дружна ўзняліся ў паветра і пераляцелі на школьныя прысады, далей ад непрыемнасцей.

З пярэдніх дзверцаў выскачыў Мандрашчак. Былога настаўніка прускаўцы пазналі адразу. Пры Польшчы ён працаваў у Прусцы, у польскай школе «паўшэхнай», а пры Саветах — у савецкай, у Ратайчыцах.

Мандрашчак з немцамі! Гэтая навіна ўсіх здзівіла. «Калісьці большага патрыёта Польшчы, чым Мандрашчак, ва ўсім наваколлі не было, — падумаў Васіль, які гадоў з дзесяць назад, калі вучыўся ў школе, быў вучнем у Мандрашчака, — і раптам з немцамі!» Мандрашчакоў твар таксама надзьмуты важнасцю і пыхай. Усім сваім выглядам былы настаўнік паказваў, што тут, сярод гэтых людзей, ён чужы і не мае да іх ніякіх адносін. Ні з кім не вітаўся, адварочваўся ад знаёмых, у тым ліку ад былых вучняў, якіх, пэўна, ж пазнаваў.

— Перастаньце курыць! — загадаў былы настаўнік. — Амтскамісар не любіць тытунёвага дыму!

Усе мужчыны паслухмяна пакідалі на дол акуркі і пазатоптвалі іх нагамі. Усе зразумелі, што Мандрашчак служыць у немцаў перакладчыкам.

Нізкі, каратканогі, з аграмадным жыватом, амтскамісар нагадваў бочку, якая нейкім чынам хадзіла, перамяшчалася з месца на месца. На пузе раменную дзягу адцягвала чорная кабура з пісталетам. Боты выглянцаваныя яшчэ лепш, чым у вядомага ў наваколлі дзівака Кузёмкі, які хваліўся зіхоткасцю сваіх халяваў. Амтскамісар цягнуў не меней, як на генерала.

— Наеў чэрава, — сцішана рагатнуў Гамон, падцягнуўшы вайсковыя штаны-галіфэ, якія былі завялікія для яго і пастаянна спаўзалі. — Бораў пузаты.

— Ой, людкове! — убачыўшы камісара, усплёснула далонькмі здзіўленая Хомчыха.

Амтскамісар трымаў у руках тонкую лясачку — стэк. Рукі — у белых пальчатках, што асабліва здзівіла прускаўцаў: лета, гарачыня, а чалавек у пальчатках. Не спяшаючыся агледзеўся навокал, але наўрад ці ўбачыў каго-небудзь з прысутных, бо адразу ж надта падняў уверх галаву, быццам цікавіла

яго одно толькі неба з перыстымі на ім аблокамі. Іншым часам іранічныя прускаўцы пасмяяліся б з такога фанфарона, але цяпер было не да смеху: чорная кабура на жываце пагрозліва блішчэла і гаварыла сама за сябе.

— Шапкі! Шапкі! — патрабавальна загукаў Мандрашчак.

Мужчыны пасцягвалі з галоў шапкі. Сходка змоўкла: фанабэрыстасць, змрочнасць і нейкая злавеснасць аблічча прыезджага не абяцалі нічога добрага. Павадзіўшы вачыма паверх прускаўскіх галоў, чалавек у мундзіры па часе спыніўся і на прускаўцах, стаў іх аглядаць, абмацваючы строгім позіркам. Прыдзірліва і пудліва агледзеў мужчын і спыніўся чамусьці на Гамоне, а дакладней — на ягоных штанах, доўга ў іх узіраўся. На сухім Гамонавым азадку вісела ўжо добра паношанае і злінялае чырвонаармейскае галіфэ.

— Was ist das?[1] — камісар паказаў пальцам на гэтае галіфэ, рука звыклым жэстам лягла на кабуру.

Ніхто не зразумеў, што яму трэба і што ён мае на ўвазе.

— Soldat? — удакладніў немец, ашчэрыўшы ніжнія зубы, якія выпіралі з-пад губы. — O, verflukt! Bist du Sowjet soldat![2] — Ад абурэння ў камісара ўздрыгнула і затрэслася падгарлё — як прускаўцы называлі падбародак.

Напалоханаму Гамону ўсё адно як адняло мову, ён, як і астатнія, стаяў, не ў стане ўцяміць, што адбываецца. Адно толькі хістаўся з боку на бок, нібыта меў гумовыя ногі ці хацеў вызваліцца з штаноў-галіфэ.

Лявон таксама не адразу зразумеў, што прыцягнула ўвагу прыезджага, але нарэшце да яго дайшло, чаго хоча камісар і што пагражае Гамону. Відавочна, што немец, угледзеўшы галіфэ, палічыў яго за чырвонаармейца. А Гамон усё хістаўся, як бы стаяў на дрыгве. Сітуацыя станавілася ўсё больш напружанай. Зараз павінна было здарыцца нешта неймавернае і непапраўнае. Што рабіць? Немец ужо даставаў пісталет. Нельга было марудзіць. Лявон, які знаходзіўся непадалёк ад злашчаснага Гамона, падскочыў да яго, зняў шапку-аблавушку і паторгаў за валасы. Доўгія, маўляў, валасы, у вайскоўца такіх не можа быць, салдатам не дазвалялася насіць доўгія валасы. Гэта, пэўна, і выратавала. Бядак дрыжэў усім целам, зуб на зуб не трапляў.

— Untermensch![3] — грэбліва сказаў немец і пальцам, гідліва зморшчыўшы губы, паказаў на Гамона.

Мандрашчак згодна паківаў галавой. Амтскамісар і ён пра нешта паміж сабой пагергаталі, і амтскамісар канчаткова адчапіўся ад Гамонавага галіфэ. Пераклаўшы стэк у левую руку, ён, не здымаючы пальчаткі, правую сунуў паміж гузікаў мундзіра, нібы жадаючы іх расшпіліць, і пыхліва звярнуўся да прускаўцаў:

— Іх бін амтс камісар Люльке! Я ест ваш началнік. Я буду гаварыць дойчэ[4].

Мандрашчак тут жа стаў перакладаць.

— Па першае, я хачу абрадаваць вас. Доблесная нямецкая армія ўзяла Смаленск! Які тэмп! Нямецкая армія нясе свабоду і парадак! Новы парадак! Гэта прашу мець на ўвазе! Нямецкая армія ест наэлектрызаваная, яе наэлектрызаваў фюрэр! Цяпер чарга Масквы! Яе мы возьмем у самы бліжэйшы час! Вялікі фюрэр прынёс вам свабоду! Генію фюрэра падуладна ўсё! Фюрэр не мог цярпець, каб Саветы прасоўвалі бальшавізм далей на захад. Трэба рухац-

---

[1] Што гэта? *(ням.)*
[2] Ты савецкі салдат! *(ням.)*
[3] Недачалавек *(ням.)*
[4] Па-нямецку *(ням.)*

ца на ўсход! На ўсход! Немцы — цывілізаваная нацыя! Мы будзем вучыць, як працаваць! Мы будзем вам кіраваць! Нямецкаму народу неабходны, — перакладчык пакруціў у паветры рукою, нібы падшукваючы патрэбнае слова, — лебенсраўм! Прастора! Жыццёвая прастора! Мы будзем дзелаць новы парадак! Дысцыпліна перш за ўсё!

— Што ён сказаў? — не пачуў глухаваты Мікіта Галёнка, хоць і трымаў далонь каля вуха.

— Пра дысцыпліну! — патлумачыў сусед Натолій.

Амтскамісар гаварыў, выкрыкваючы і крыху падскокваючы, і ўсё вышэй і вышэй задзіраў галаву, рабіў паўзы, як бы яго адольвала задышка. Круцячы стэкам, перакладаючы яго з рукі ў руку, паніжаючы, а то і павышаючы голас да самых высокіх нотаў, немец — відаць было — адкрыта любаваўся самім сабой, сваёй «вышэйшасцю». Ён трымаўся настолькі самаўпэўнена і ганарыста, што здаваўся нават смешным, асабліва дзецям. Усе параскрывалі раты ад здзіўлення.

«Ну і абармот!» — думаў Лявон. Ён ужо даўно заўважыў: пра што б ні гаварыў чалавек, ён не можа сказаць штосьці такое, што не характарызавала б яго самога. Мова раскрывае чалавека да самага нутра. Амтскамісар Люльке пацвярджаў гэтае правіла.

Нерухома і грозна, насунуўшы на вочы шапку з доўгім казырком і шырока расставіўшы тонкія ногі ў цяжкіх ботах, стаяў аўтаматчык, напагатове трымаючы сваю зброю.

Ізноў пачуўся голас перакладчыка:

— Па-другое! Мы ўстановім тут нямецкі парадак, нямецкую чысціню, нямецкую адказнасць і нямецкі дух. Вы ест бецырк Беласток! Вы падначалены ўсходне-прускай адміністрацыі! Вы павінны выконваць загад! Новы парадак будзе дзелаць СС. Славяне не нацыя, гэта толькі матэрыял для нацыя. Мы будзем дзелаць нацыя. Юдэ — капут, Саветы — капут, камуна капут! Мы паважаем і цэнім вернасць, сумленнасць, цвёрдасць, храбрасць і добрапрыстойнасць! Вы будзеце жыць на зямлі, вызваленай ад яўрэяў і камуністаў. Мы забяспечым вам жыццё і ўласнасць. Перад немцам кожны павінен зняць шапку і ад душы павітаць яго!

Кожны, хто слухаў прадстаўніка нямецкай адміністрацыі, адчуваў, як у адначассе, на вачах, мяняецца свет. У Прусцы — ужо каторы раз за дваццатае стагоддзе — усталёўваліся новыя парадкі. І колькі яны праіснуюць?..

— Achtung, agstung![1] — працягваў Мандрашчак, бліснуўшы лупатымі вачыма. — Вы павінны паведаміць уладам рускі салдат, які застаўся здесь, у тыле непераможнай нямецкай арміі!

Недзе ў супрацьлеглым канцы вёскі гаўкнуў сабака. «Нэрса! — падумаў Лявон. — І яна не згодная!..»

Начальства працягвала сваю прамову:

— Мы будзем не гаварыць, мы будзем дзейнічаць. Цяпер тут будзе дзяржаўны маёнтак! Пан Лявар назначаецца ўпраўляючым! Мы вас спасайт калхоз, белый мядзведзь! Зямля, якая не ўвойдзе ў склад маёнтка, будзе раздадзена тым, хто мае ў ёй патрэбу. І яшчэ загад ад амтскамісара: каб не гаўкалі сабакі! Каб не гаўкалі сабакі, калі пан амтскамісар прыязджае ў вашу дзярэўня! Калі каторы гаўкне, будзе расстраляны.

Мандрашчак скончыў. Амтскамісар махнуў перад вачыма стэкам і бліснуў пенснэ, што сядзела ў яго на носе.

[1] Увага, увага! *(ням.)*

Сходка адразу ж загаманіла:

— Зямлю будуць дзяліць! Зямлю!

— Зямлю? Няўжо? — дзівіўся Хвядзюшка Шпунт, які стаяў побач з Цішкам Пахолкам. — Цішка, няўжо падзеляць? Як ты думаеш? — звяртаўся ён да каваля, штурхаючы яго пад бок.

— А нашто мне тая зямля? — пагардліва пазіраў навокал Цішка. — У мяне кузня ёсць і кавадла жалезнае. Гэтага з мяне хопіць.

— Дадуць, дагоняць і яшчэ раз дадуць, — жартаваў бесклапотны Цярэшка Макацё.

— Нешта я не надта веру, — скептычна пакруціў галавой Ахрэм Чапёрка. — Не веру, не, тут нешта не тое.

— Ой, людкове, ой! — азваўся нехта ззаду. — Пры Саветах быў дзяржчас, а цяпер дзяржаўны маёнтак! Дык ці ёсць розніца?

— Пабачым яшчэ, — бурчэў асцярожны Міхаль Тупчык.

Потым зноў загаварыў Мандрашчак, але ўжо не як перакладчык, а як бы ад сябе, даючы зразумець, што яму ўсё вядома.

— Мы ведаем, што ўсе вы тут Саветам у далоні пляскалі, — з’едліва, з непрыхаванай пагардай сказаў ён. — Тыя, у каго гэта выходзіла асабліва гучна, адкажуць. Будзем разбірацца. Цяпер — пра іншае. Ганаровы абавязак кожнага гаспадара — здаваць рэйху кантыгент, гэта значыць, падаткі. Падаткамі будуць абкладзены ўсе, кожная гаспадарка. Норма такая: калі ў гаспадарцы дзесяць гектараў зямлі, трэба здаць у год абавязковых паставак: 26 цэнтнераў жыта, 7 цэнтнераў аўса, увесь ураджай пшаніцы, грэчкі і гароху. 30 цэнтнераў бульбы, 9 пудоў (150 кг) свініны, адну карову, 200 штук курыных яек і 600 літраў малака. Ухіленне ад падаткаў будзе разглядацца як дзяржаўнае злачынства!

Усе ўважліва слухалі.

— І яшчэ! Вам трэба выбраць солтыса. Гэта — важная пасада. Абавязак солтыса — глядзець за парадкам, за своечасовай здачай кантыгенту, спраўнасцю дарог, за незнаёмымі людзьмі, калі такія з’явяцца ў вёсцы. Сачыць за чырвонаармейцамі, што хаваюцца па лясах. Солтыс павінен падтрымліваць пастаянны кантакт з нямецкімі ўладамі, садзейнічаць ім ва ўсім. Уважліва назіраць, каб кожны з вас па-гаспадарску абрабляў усё поле, каб не ленаваўся! Гэта павінен быць дастойны чалавек. Ну, каго?

Пасля гэтых слоў перакладчыка запанавала цішыня, усе прымоўклі і насцярожыліся. Відаць было, што на службу да новай улады ніхто надта не спяшаўся. Прайшло колькі хвілін, і не ўсе адразу заўважылі, як з глыбіні натоўпу натужліва праціскаецца наперад нейкі чалавек. Праціснуўся, пакінуўшы ззаду каваля Пахолка і Хвядзюшку Шпунта, і моўчкі стаў у першым радзе. Гэта быў Хрысан Гальяш. Выгляд меў, як заўсёды, надта сур’ёзны, нават сярдзіты. Амтскамісар і Мандрашчак, якія стаялі побач, звярнулі на яго ўвагу адначасова і нават як бы павесялелі. Хрысан наставіў на іх свае жоўтыя, як у ката, вочы і неяк прыдуркавата пасміхнуўся. Люльке бліснуў шкельцамі пенснэ і стэкам упэўнена паказаў на Хрысана:

— Er ist das![1]

Усё гэта было надта нечакана для ўсіх. Хрысан зрабіў яшчэ адзін крок у сваім жыцці — крок да ўлады. Гэта зразумелі ўсе, а найбольш адчуў сам Хрысан. Ён даўно гэтага чакаў. Савецкая ўлада яго быццам і не крыўдзіла, але пры Саветах, калі арганізавалі рэўкам, яго ў той рэўкам не ўзялі, праігнаравалі, ён

[1] Вось гэта! *(ням.)*

сцярпеў, праглынуў крыўду! І вось часы памяняліся. Цяпер у яго было нейкае яшчэ неўсвядомленае жаданне заняць пры новых парадках такое месца, каб адыграцца, адпомсціць за тое, што раней яго не заўважалі і недаацэньвалі.

Вынік падвёў Мандрашчак:

— Gut![1] Будзеш нам служыць! Найпершая твая задача і пачэсны абавязак — забяспечыць здачу кантыгенту рэйху. Ваша вёска павінна здаваць збожжа, мяса, малако, яйкі, воўну, лён і ўсё, што будзе патрэбна! Ordnung muss sein![2] Подумай, хто будзе ў цябе намеснікам!

— А вось яго! — Хрысан кіўнуў на Мішу Латушку, які стаяў непадалёк.

Гэта ізноў была нечаканасць. Міша — баптыст, мяккі, паслухмяны, пакладзісты. Начальнік з яго — аніякі, але, можа, гэтага Хрысану якраз і трэба. Такі не абгаворыць, не падседзіць, не ссуне з крэсла, а загад — выканае. Міша хацеў нешта сказаць, а можа, нават адмовіцца, і ўжо ўдыхнуў, набраў у лёгкія паветра, але яго перапынілі:

— Gut! — пагадзіўся амтскамісар і сам сябе сцебануў лясачкай па наглянцаванай халяве. Ён быў задаволены, што ўсё адбылося гэтак па-дзелавому і спраўна.

Пасля гэтага амтскамісар з перакладчыкам селі ў машыну, грозна бразнулі дзверцамі і паехалі назад — туды, адкуль прыехалі. Прускаўцы разышліся па хатах абдумваць тое, што яны бачылі.

Па дарозе Хвядзюшка Шпунт камусьці казаў: «А што мне? Я ім нічога благога не зрабіў».

— Усё можа быць, — па-філасофску зазначыў Мілецій — дзядзька Сяргея Сталетніка.

Лявон крыху затрымаўся ля хаты Павала Гальяша. Хацелася паслухаць, што скажа гэты паважаны ў Прусцы чалавек. Павала цанілі за розум і справядлівасць.

— Я яшчэ не бачыў, каб чалавек гэтак высока стараўся задраць галаву, — адзначыў ён, крануўшы сагнутым пальцам абвіслы вус. Меў на ўвазе ад'ехаўшага візіцёра. — Я ж і ў Германіі быў, у палоне, тры гады, усялякіх пабачыў, а такіх не. Гэтак задзірае, што, здаецца, нікога не бачыць.

— З такім не пажартуеш, — пасміхнуўся Лявон.

— Не, не пажартуеш. Цар, бог і воінскі начальнік. Усё — у адным, і паблажлівасці тут не чакай.

— Гэта ж трэба — крывога Гамона за салдата палічыў!

— За салдата, але як назваў яго!

— Як?

— Untermensch. Гэта як бы ніжэй за чалавека.

— Здзекуюцца, але што зробіш? Уздыхнуў Лявон і пашкроб патыліцу. — Нічога не зробіш, сцісні зубы і маўчы, бо хто ведае, колькі часу гэтак прыйдзецца жыць?

— Маўчаць мы ўмеем.

— А што рабіць?

Павал зірнуў на сябра:

— А ты чуў, што ён сказаў?

— Што?

— Мы ўжо адносімся да Прусіі.

— Да Прусіі? — здзівіўся Лявон.

---

[1] Добра! *(ням.)*

[2] Павінен быць парадак! *(ням.)*

— Выходзіць, што так. Той раз, у васямнаццатым годзе, калі Саветы ў Берасці мірыліся з немцамі, мы пад Аўстрыяй апынуліся, а на гэты раз у Прусію трапілі. Што хочуць, тое і робяць. От табе і маеш! Гуляе з намі лёс, як хоча.

— А я табе скажу: ва ўсім вінавата чалавечая сквапнасць. Уся бяда ад яе.

— Чалавек прагавіты! — падтрымаў сябра Павал, адмахнуўшыся ад камара, які зазвінеў каля вуха. — Як гэты камар.

— Абап'ецца крывёю і здохне! — уздыхнуў Лявон, папраўляючы каўнер свайго кажушка.

— Ну, можа, параўнанне з камаром і не падхадзяшчае. Чалавек, кажуць, цар прыроды! Але звярынага, я табе скажу, у ім шмат, і кожны на сваё хварэе. Адзін багацця надта хоча, другі — улады. І ні на што не зважаюць. Вось людская кроў і ліецца. Чуў, што гэты таўстун казаў? Жыццёвая прастора ім трэба, новы парадак, дысцыпліна. Яны ўсім будуць уладарыць, а мы за гэта дзякаваць ім павінны, шапку зняць і вітаць ад душы. З душою забіраюць!

Памаўчаўшы, Павал дадаў:

— Нас можна заваяваць, але намі цяжка ўладарыць. Мы славяне, а гэта — іншае. Мы як бы і ціхія, але і скрозь камень праб'ёмся.

— Мы нейкія стомленыя, — прамовіў Лявон. — Калі з Амерыкай параўнаць, дык там людзі надта пракідкія, дзейныя, дзелавыя. У іх усё ў руху, усё кіпіць! А ў нас? Нават Расія больш разваротлівая.

Сябар аднак з ім не згадзіўся:

— Мы не стомленыя, мы аслабелыя. У кожную вайну, а іх прыбрыдала сюды шмат, трэць народу гінула. А за што? За каго? За чорта лысага! Ды і паміж сваімі шмат сварак было. Ды яшчэ якіх сварак! — Павал на хвіліну задумаўся. — Але мы ўсё ж такі не стаміліся жыць.

Лявон нічога не адказаў, толькі ціха заўважыў:

— Ты, Павал, нейкі іншы стаў…

— Усе мы сталі іншыя, кожны як бы сам сабою стаў. Так здараецца, калі небяспека блізка…

Пастаяўшы каля Павалавай хаты, яны развіталіся.

З немцамі, апроч Мандрашчака, вярнуліся таксама колішні ўпраўляючы маёнткам Ляваp і асаднік Кучэўскі, які атрымаў пасаду ляснічага.

З Лявара́м былі яго сыны — Стах і Эндрык. Амтскамісар Люльке прызначыў Лявара адміністратарам маёнтка, які калісьці належаў панам Падгурскім.

— Хто што ўзяў, павінен вярнуць. Каб сёння ж усё было на сваім месцы! — аб'явіў Лявар па навакольных вёсках. Пачалі зносіць — хто што браў: кухонны посуд, кнігі, падушкі, посцілкі, нейкую мэблю. Гамон вярнуў нават люстэрка, пакінуўшы сваю Матрону без гэтай важнай туалетнай прылады.

Назаўтра Фёкла ўстала, як звычайна, рана, хуценька апранулася і пайшла да калодзежа вады. Узялася ўжо было за вочап, але на імгненне прыслухалася. У небе пагрозлівым шэршнем гудзеў самалёт. Жанчына падняла галаву, шукаючы вачыма кропачку, што згубілася недзе паміж хмар, як пачуўся голас:

— Што, думаеш, твой паляцеў?

Фёкла спачатку ад нечаканасці зніякавела: «Хто гэта?»

— Што, думаеш твае бальшавікі прыляцелі?

Прыгледзеўшыся, яна ўбачыла суседа Грышку Латушку, які стаяў каля сваёй хаты за кустом бэзу. Яго маленькія вочы, звычайна неспакойныя і палахлівыя, цяпер выказвалі задаволенасць.

— Здзекуешся, змей пракляты!

Чаго-чаго, а ўменне пастаяць за сябе ў Фёклы хапала, у яе было гняўлівае сэрца, чулае да крыўды і насмешкі. Сусед палічыў за лепшае адступіць.

— Я жартую, — сказаў ён, нязграбна павярнуўся і пайшоў у хату. Чутно было, як за ім зачыніліся дзверы.

## V

Людзі ўсё больш адчувалі няпэўнасць і страх. Даходзілі весткі пра расстрэлы ў наваколлі былога савецкага актыву, работнікаў устаноў, камуністаў. Пруску пакуль што мінала гэтае ліха, ды і «парцейных» тут не было. Інстынктыўна прускаўцы, можна было бачыць, шчыльней згуртаваліся паміж сабой, сталі, як здавалася Лявону, больш зычлівымі, але і насцярожанымі. Жыццё не прыпынілася, яно па-ранейшаму валодала нейкім сваім упартым самарухам. Як заўсёды, трэба было жыць, як бы цяжка ні было.

Начамі над полем бліскалі зарніцы, даспявала жыта.

Скончыўшы касіць і стагаваць сена, прускаўцы сталі рыхтавацца да жніва. Ніяк не маглі дачакацца гэтай пары, але нарэшце яна пачалася — у канцы ліпеня. Ліпень косіць і жне, доўга спаць не дае, — кажуць у народзе. Ніхто і нішто не спыніць селяніна ў яго працоўным калаўроце. А калаўрот круціцца і круціцца…

Кужалі ўсталі на золку. Летнім днём прускаўцы асабліва даражылі. Паснедалі малочнай заціркі, якую звычайна варыла Лявону Фёкла.

Падышлі Васіль з Просяй. Фёкле выпала застацца з унукамі, а таксама згатаваць і прынесці ў поле абед. Выправіліся ў поле ўтраіх: Лявон, Васіль і Прося. Выйшлі рана. У Лявона з Васілём — косы, у Просі — серп і збанок з квасам. Цела прабіраў ранішні халадок.

Лявон ішоў, дыхаў палявым паветрам і са здзіўленнем адчуваў, што, нягледзячы ні на што, прыбываюць сілы і мяняецца да лепшага настрой. Зрэшты, калі ўспомніць, гэтак было з ім заўсёды. Выходзіў у поле, з плугам ці з касою, і хмурныя думкі знікалі самі сабой, забываліся, а ў глыбіні душы абуджалася нечаканая радасць і цікавасць да жыцця. Не ў малой ступені гэтаму старалася дапамагчы навакольная прырода. Зыркае, гарачае сонца павольна выпірала з-за далягляду, падымаючыся над лініяй гарызонту, рассоўваючы кудысьці ў бакі рэшткі начнога туману. Зіхотка заззяла раса, зазіхацела безліччу свайго брыльянтавага россыпу, абяцаючы пагодны сонечны дзень. Думкі, аднак, вярталіся да нядаўніх падзей, да таго, што адбылося. Туды, насустрач сонцу, пакацілася вайна, сеючы смерць, разбурэнні, гора. Там, на ўсходзе, шастае яна бязлітаснай касой і грукоча, малоціць сталёвымі цапамі. Вядзе сваё жніво і абмалот.

А тут — ціха, мірная раніца. Буйная раса ззяе, пераліваецца безліччу жывых брыльянтаў, радасна ўсміхаюцца палявыя краскі, сінеюць у жыце валошкі. Нішто не нагадвае пра вайну. Над жаўцізною хлебнага поля непаспешліва плывуць ружовыя аблокі. Плывуць спакойна, бяспечна, нібыта дрэмлюць пад нячутную музыку нябеснай калыханкі.

Даўно пачаў свае спевы жаваранак. Спявае, аж заліваецца, трымціць, вітаючы надыход летняга дня. Лявон, не здымаючы з пляча касы, задраў уверх галаву, паўзіраўся ў неба. Дзе гэта ён, шэры камячок, згубіўся паміж сонечных промняў? Фёкла, якая ішла побач, таксама, прыставіўшы далонь да ілба, паўзіралася ў вышыню, шукаючы ранішняга певуна, але і яна не знайшла. Звініць недзе ў недасяжным блакіце, у высокай сінечы, трапеча крыльцамі, поўніць радаснай песняй прастор.

Пашанцавала, можна сказаць, гэтаму краю: вал вайны пракаціўся недзе зверху, амаль не закрануў, не накрыў. Усё, здаецца, на месцы, усё ацалела. Гэта, вядома, добра, але з галавы не выходзіў пачвара — амтскамісар і яго гэтакая ж пачварная прамова. Захопнікі пачувалі сябе пераможцамі і ўводзілі свой «новы парадак», які, Лявон гэта інстынктыўна адчуваў, не абяцаў нічога добрага, апроч прымусу.

Прося з Васілём пра нешта ціха перамаўляліся.

Падышлі да поля, якое здаўна называлася Доўгія. Палоскі цягнуліся да самай Бярэзіны. Так называўся лес, да якога з паўночнага ўсходу прымыкала прускаўскае поле. Ад вёскі гэта кіламетры тры. Тут добра, асабліва калі дапамагалі дажджы, радзілі бульба, ячмень, проса, гарох. У бульбу на Галёнкавай палосцы, заўважыў Лявон, густа ўбілася свірэпка — зялёнае змагалася з жоўтым.

Пабурэла змоглая на сонцы грэчка, якая калісьці па-маладому цвіла белым кіпенем, склікаючы да сябе, здавалася, усіх навакольных пчол. Цяпер набірала сілу зерне. Побач з грэчкай, на суседнім загоне, цяжка звісалі да зямлі мяцёлкі проса.

Падышлі да сваіх палосак. Жоўтай, аксамітнай сцяной распасціралася перад імі жыта, густое і шчыльнае. Пабялелі, набухлі зацвярдзелым зернем нахіленыя каласы. Сёлета жыта ўрадзіла: каласы на ўсю далонь. Чутно было, як нягучна яны звінелі, натапырыўшы вусы і судакранаючыся паміж сабой пры ціхім павеве ветрыку. Лявон апусціў на зямлю касу, ён любіў паслухаць гэтую чароўную музыку. Пакратаў рукой каласы, заўважыў божых каровак, што поўзалі па зямлі паміж сцяблін.

А Васіль пачаў ужо, махаў сваёй літоўкай, клаў у рад скошанае жыта, роўна вёў пракос. Жыкнуў касой і Лявон, пачаўшы, ад мяжы, свой пракос. Глядзеў, каб не пашкодзіць, не раздушыць дзе-небудзь птушынае, таго ж жаваранка, гняздзечка. Прося, хутканогая і ўвішная, пакінуўшы свой серп і збанок з квасам у цяньку пад кустом, паспявала падбіраць за абодвума — за Васілём і Лявонам. Спрытна вязала перавяслы. Махне туды-сюды дзвюма жменькамі саломы, лоўка спалучыць іх, саўе, — і перавясла гатова, потым кладзе на яго скошанае жыта і вяжа сноп. Казытала і калола рукі пожня, але снапы атрымліваліся поўненькія — сцяблінка да сцяблінкі, каласок да каласка. Ды такія моцныя, што можна не сумнявацца — да малацьбы не развяжуцца.

Неміласэрна ярылася, пражыла зямлю і ўсё, што на ёй знаходзілася, расло і жыло, распаленае да белага бляску сонца. Час ад часу кідалі працу, аціралі пот, ішлі па іржышчы піць квас, ламаючы нагамі жорсткую пожню. Іржышча пахла палыном і свежай саломай. Снапы ляжалі, як забітыя салдаты. Паставілі першую ляшку, за ёй яшчэ некалькі, але гэта быў толькі пачатак.

Жаць пачалі многія. Гледзячы на Кужалёў, выйшлі з сярпамі ды косамі Хомчыха з сынам і нявесткай, Шведы, Ахрэм Чапёрка. На мяжы, ля куста ракіты, курылі і пра нешта размаўлялі Цішка Пахолак і Хвядзюшка Шпунт.

Полудзень прынесла Фёкла — боршч у дваянах, варанае сала, свежыя гуркі, загорнуты ў хрэнавы ліст сыр, хлеб. За спадніцу трымаліся ўнукі — з аднаго боку Валодзік, з другога Віталік. Прося запясцем выцерла ўспацелы пад хусцінкаю лоб і абняла сыноў. Якраз быў час палуднаваць — чалавечы цень скараціўся да двух крокаў. Ужо адчувалася ўтома.

Фанцы паселі на зямлі каля разасланага белага настольніка, узялі па лусце хлеба і лыжкі. Пачаўся абед.

— Жыта такое густое, — сказала Прося, — што сярпа не ўбіць! Ногі пожняй папратыкала.

— Просечка, а чаму не абулася? — паспачувала ёй свякроў.

— А так лаўчэй! Дык і вы ж, я гляджу, босыя.

Збіраліся палуднаваць і ў Хомчыхі.

— Цішыня! — гукнула яна, павярнуўшыся ў бок Кужалёў і папраўляючы на галаве хусціну. — Нібы і вайны няма.

— Цяпер вайна па ўсім свеце, — сказаў Лявон.

Зрэдку з далечыні даносіўся самалётны гул. Васіль увесь час маўчаў, заняты сваімі думкамі.

Пасля абеду, з паўгадзіны адпачыўшы, паставілі яшчэ з дзясятак ляшак, апошнюю — ужо ля самай Бярэзіны.

У поўдзень, пасля абеду, гарачыня стала нясцерпнай, і Лявону захацелася нейкі час пабыць у лесе. Уторкнуў касу між снапоў і пайшоў. Перайшоў пясчаную дарогу, што аддзяляла поле ад Бярэзіны, ступіў яшчэ колькі крокаў, адразу ж адчуў лясны водар і задуменныя перашэпты дрэў і пакіраваў углыб, удыхнуўшы салодкі пах ядлоўцу, што кусціўся і каля соснаў, і каля бяроз. Пах ядлоўцу нагадваў даўняе: калісьці ў Амерыцы ён каштаваў мясцовую гарэлку, якая пахла ядлоўцам і называлася «джын». Калі тое было! У Бярэзіне ён кожную выжарынку ведаў, кожную імшарыну і далінку. Не раз бываў тут з незабыўным дзедам Кірылам, які любіў і ведаў лес. «Лес — найлепшы лекар», — гаварыў Кірыла. Сапраўды, дыхалася тут на поўныя грудзі. Усё тут супакойвала, дадавала ўпэўненасці, суцяшала душу. На гэты раз, калі ён толькі ўвайшоў у лес, на сэрцы з'явілася адчуванне трывогі, хоць знешне ўсё выглядала спакойна і мірна, як заўсёды ў летнюю пару. Недзе на вяршыні дрэва вуркатаў дзікі голуб. Нястомна стукаў дзяцел. «Дзе ты, пярэсты доктар?» — падумаў Лявон, абвёў вачыма бліжэйшыя сосны, але не ўгледзеў. Знаёмая паляна патанала ў ружовай пене верасоў. Рэзкі пах дурнап'яну і прэлага моху казытаў ноздры. Пракідаліся рэдкія кусцікі бальсану з доўгімі зялёна-белымі стрэлкамі лістоў. Настойка з бальсану — незаменная рэч пры прастудзе.

Лявон прайшоў далей, зноў зірнуў на дол, дзе ў дробным разнатраўі звычайна можна ў гэтую пару ўбачыць спелыя суніцы, але суніц не было. Не было і грыбоў, нават у глыбіні лесу, куды яны звычайна адступаюць пад цень дрэў, бо ім патрэбна вільгаць. З рэдкага моху тырчалі там-сям рудыя шляпкі мухамораў. Нават здзівіўся: «Нейкі год дзіўны: ні грыбоў, ні ягад». Замест грыбоў убачыў іншае: там-сям пад дрэвамі ў беспарадку ляжала зброя, пакінуты салдацкі рыштунак, нейкія скрынкі, падраны і абпалены шынель, бот без падэшвы. Побач — варонка ад снарада.

Крыху далей расла даўно знаёмая выносная, разгалістая прыгажуня — сасна. Магутная, стройная, высокая. У вышыню, напэўна, метраў трыццаць, не менш. Сасну дастала асколкамі. Лявон прыгледзеўся да яе бліжэй: па медным ствале з ужо крыху зацягнутых ран сцякалі ручаінкі смалы-жывіцы. «Бачыш, — здзівіўся ён, — і ёй дасталося!..» Пад дрэвам валялася пяхотная вінтоўка Мосіна, добра знаёмая яшчэ з царскай вайны, патроны да яе, цынкавая скрынка. Крыху далей — кулямёт з дыскам і абламанай левай ножкай і прыткнуты да яго новенькі аўтамат. Агледзеўшыся, ён убачыў афіцэрскую партупею з кабурой і засунутым у яе пісталетам, якая ляжала пад кустом… Гэта яшчэ больш устрывожыла, знізіла настрой.

«Як жа ж так? — сам з сабою разважаў прускавец. — Столькі зброі пакінуць! Куды гэта гадзіцца!? Зрэшты, што ж здзіўляцца, драпалі без аглядкі. Гэта значыць з Высокага кіраваліся на Камянец…» Ён колькі часу пастаяў, сузіраючы гэтае нікому не патрэбнае вайсковае начынне, а потым разаслаў

шынель, паклаў на яго кулямёт-інвалід і вінтоўку, а таксама аўтамат і партупею з кабурой і пісталетам. Усё разам туга загарнуў, абвязаўшы лазою. Прысунуў да кучы цынк з патронамі. «Куды схаваць?» На пагорку, паміж разгалістай сасной, мурашнікам і кустом ядлоўца, віднелася старая лісіная нара. Лявон накіраваўся са скруткам туды, раскапаў нару шырэй і ўсунуў туды скрутак, прысыпаўшы пяском, апалым лісцем і прываліўшы замшэлым каменем, які знайшоў паблізу. Атрымаўся сапраўдны тайнік. «Хай ляжыць! — падумаў ён. — Можа, каму спатрэбіцца. Не можа быць, каб не спатрэбілася. Немец пачаў вайну, напаў на нашу зямлю, на наша жыццё. Вораг! З ім трэба змагацца, дапамагаць тым, хто змагаецца… Яшчэ нічога не скончылася…»

Пасля гэтага вярнуўся на поле. Пасынак ужо касіў, Фёкла з Просяй спраўна вязалі снапы. Потым Прося з дзецьмі пайшла дадому.

На працягу ўсяго доўгага дня ярылася на блакітна-бязвоблачным небе зыркае летняе сонца, паліваючы ўсё навокал сваімі гарачымі пырскамі, але пад вечар утаймавалася і яно.

З поля яны вярталіся стомленыя, натруджаныя жніўным днём. Чуўся тонкі голас перапёлкі — збірала, не інакай, сваіх малеч-перапялят, што пагубляліся недзе ў жыце.

Праз колькі дзён спёка апала, і яны пачалі вазіць снапы. Поле пасля звезенага збожжа пусцела, і адчувалася, што яму лягчэй дыхаць — яно распраўляла грудзі і ўсёй сцярнёй узнімалася вышэй, бліжэй да нябёсаў.

Пасля жыта рыхталіся брацца за ярыну.

Працуючы, Васіль крыху нават павесялеў. Новая ўлада, здавалася, нічым аб сабе не нагадвала, і не было падстаў, каб непакоіцца. Але аднойчы, вярнуўшыся вечарам дахаты, на парозе застаў Хрысана з павесткай, у якой Платонаву прадпісвалася назаўтра з'явіцца ў Ратайчыцы, у гміну, для праверкі дакументаў. Васіль прачытаў павестку (яна была складзена па-польску), уздыхнуў і пачасаў патыліцу:

— Ну, што ж, трэба, ідаць, ісці. Нічога не паробіш…

З хаты адчыніла дзверы Прося, у вачах свіцілася трывога.

— Заўтра ж і ідзі, не адкладваючы! — загадным тонам, як гэта і паложана начальству, распарадзіўся Хрысан, бо солтыс — гэта ж і ёсць начальства. Па яго твары гуляла прытоеная ўсмешка.

— А чаго гэта ім уздумалася правяраць дакументы? — спытаў Васіль.

— Гэта ўжо там даведаешся. Скажуць. А можа, нічога асаблівага — як выклікалі, так і адпусцяць, не варта дачасна палохацца! — Хрысан паправіў на галаве шапку і як бы між іншым спытаў: — А дзе тыя паперы, што ты, кажуць, з Камянца прывёз?

«Вось што ім трэба! — сцяміў Васіль. — Дакументы Камянецкай пракуратуры хочуць знайсці. Вось чаго яны хочуць!» Занепакоіўся: «А можа, хто бачыў мяне на тым засеяным паперамі падворку, калі вяртаўся з Белавежы дадому? Але наўрад ці, бо нікога са знаёмых ён тады не сустрэў…»

— Не, Хрысан, нічога я не прывёз. Можа, іншы хто…

— А я чуў — прывёз…

— Не маю я да гэтага ніякага дачынення.

— Ну то глядзі!

Хрысан павярнуўся і пайшоў, пакінуўшы Платонавых — Васіля і Просю — у глыбокім одуме.

Васіль доўга не мог заснуць, усё думаў пра заўтрашні дзень. Пад раніцу, калі ён усё ж такі забыўся цяжкім сном, у дзверы моцна загрукалі. Ад такога

грукату немагчыма было не прачнуцца. Прося выглянула ў акно, прытуліўшыся тварам да шыбіны. Чутно было, як яны гергаталі. Хата была акружана.

— Otwieraj! Gdzie maz?[1] — нехта гукнуў па-польску.

Васіль адчуў, як ад страху залекацела сэрца.

— Heraus![2] — пачулася па-нямецку.

«Бач, не дачакаліся, баяцца, відаць, што ўцякаць буду, — мільганула ў галаве. — Нехта данёс! Эх!..»

Хуценька скінуў з сябе коўдру і ўскочыў з ложка. Калі надзяваў нагавіцы, левая нага ніяк не магла патрапіць у калашыну. Збольшага апрануўся.

Яны ўвайшлі ўчатырох — два жандары з аўтаматамі і бляхамі на грудзях, у плямістых плашч-накідках, афіцэр у фуражцы з цэшкай і высока задраным верхам і паліцай Пыр з белай павязкай на рукаве, узброены вінтоўкай. Шапак не здымалі. Пыра Васіль ведаў. Мянушка ў яго была — Бутля, бо любіў выпіць. Цяпер служыў у паліцыі. Прося запаліла лямпу. Шкло дрыжэла ў яе руках, і сама яна лекацела ад страху. Адзін з немцаў, белабрысы з аблічча, пакруціў галавой, як бы нешта шукаючы па сценах. Убачыўшы ў покуце абразы, кіўнуў:

— Гут, гут.

— Збірайся! — загадаў Пыр, які гаварыў то па-польску, то пераходзіў на мясцовую мову.

Прося заплакала, нязграбна, па-дзіцячы выціраючы даланёю слёзы. Потым плач перайшоў у енк.

— Руэ![3] — як бы хацеў супакоіць яе немец, зірнуўшы на яе пукаты жывот.

Прачнуўся Віталік і таксама заплакаў.

Змагаючыся са страхам, Васіль абуў чаравікі, уздзеў на плечы куртку. У галаве варушыліся трывожныя прадчуванні.

— Раўс![4] — скамандаваў другі жандар і аўтаматам паказваючы на дзверы.

— Schnell! Schnell![5] — прыспешваў афіцэр.

— Пры спробе ўцячы — страляю без папярэджання! — папярэдзіў Пыр, папраўляючы на плячы вінтоўку. — Ну, ідзі!

Арыштаваны пераступіў парог. Прося выскачыла следам, але на яе строга прыкрыкнулі, і яна прыпынілася каля вярбы, што стаяла на процілеглым баку дарогі. Бачыла, як Васіля штурхнулі ў машыну з брызентавым верхам і павезлі па гасцінцы ў бок Камянца.

Прося ад перажытага ледзь не самлела. «Што ж з ім будзе?» — гэтая думка перахоплівала дыханне і студзіла кроў. Доўга не думаючы, яна ўзяла на рукі Віталіка і пабегла да сваіх. Спакваля пачыналася летняя раніца, сонца залаціла вярхі дрэў і дахі. Дома застала свякроў, яна стаяла на падворку і склікала курэй, якія імкліва беглі да яе з самых аддаленых закуткаў падворка, насыпала ім у карытца зерня.

— Васіля забралі!

— Хто?

— Немцы. У Камянец павезлі.

---

[1] Адчыняй! Дзе муж? *(польск.)*

[2] Выходзь! *(ням.)*

[3] Цішэй! *(ням.)*

[4] Выходзь! *(ням.)*

[5] Хутчэй! Хутчэй! *(ням.)*

Нічога не кажучы, Фёкла адвязала фартушок і кінулася ў клуню, да Лявона, у якога ўжо таксама пачаўся рабочы дзень. Трэба было нарэзаць сечкі, насекчы бульбы, пакарміць жывёлу, прынесці дровы, ваду. Авечкам паспеў ужо ўкінуць снапок лубіну.

— Лёня, Васю забралі!

— Што такое? Хто?

— Немцы. Арыштавалі і ў Камянец павезлі!

Трывога перадалася і Лявону.

— Можа, успомнілі, што начальнікам пошты быў? — выказала здагадку Фёкла.

— Можа.

— Што ж рабіць? Нешта ж трэба рабіць! Можа, да каго звярнуцца? Папрасіць?

Лявон глыбока ўздыхнуў, правёў далонню па скронях, па лбе, паправіў парадзелы чуб, нервова пашкроб патыліцу. У галаве забегалі думкі: справа — дрэнь. Немцы не жартуюць. Вось як яно павярнулася! Расстраляюць — і ўсё! «Да каго ж звярнуцца? Хто можа памагчы? Хрысан? А можа, да Пацаў звярнуцца, да Якава Арыстархавіча? Ён жа за кума ў Васіля…»

Разам з Фёклай, пакінуўшы Сашку ў клуні, пайшлі ў хату, дзе іх чакала Прося з Віталікам. Валодзік яшчэ спаў. Прося сустрэла пытаннем:

— Што ж будзе?

Лявон толькі ўздыхнуў, прысеў на ўслон.

— Вечарам, — упалым голасам тлумачыла Прося, трымаючы на руках Віталіка, — Хрысан прынёс паперку, каб Вася з'явіўся ў Ратайчыцы быццам для праверкі дакументаў. Вася меўся ехаць, але ноччу раптам самі з'яўляюцца і павялі не ў Ратайчыцы, а ў Камянец…

— Не ў Ратайчыцы, а ў Камянец? — перапытаў Лявон.

— У Камянец.

— Гэта горш.

Чаму горш, ён і сам не ведаў, падказвала інтуіцыя, што Камянец — гэта нешта больш небяспечнае.

— Ой, што ж рабіць? — Прося захліпала носам і зноў сарвалася на плач. — Ой!

— Не плач, супакойся! Ну што ты? — паспрабавала падбадзёрыць яе свякроў, якая і сама была ў роспачы, не ведаючы, як дапамагчы сыну. Каб нявестцы было лягчэй, узяла да сябе на рукі Віталіка, які таксама хныкаў, пяшчотна прытуліла малога. — Нешта ж прыдумаем…

— Да Мандрашчака трэба! Хіба што ён дапаможа, бо больш няма каму, — сказала Прося. — Гэта ж яго школьны настаўнік.

— Быў настаўнік, — удакладніў Лявон, — а цяпер немцам услугоўвае.

— Вася калісьці яго і на сваё вяселле запрашаў, — успомніла Фёкла.

## VI

Спісы савецкіх актывістаў, у якія павінны быць уключаны камуністы, яўрэі, чырвонаармейцы і работнікі НКУС, на акупаванай тэрыторыі рыхтаваліся паўсюдна. Пра гэта Васіль ведаў — чуткі хадзілі і тут, і там. Але не ведаў, што па Ратайчыцкай гміне да гэтага па сваёй добрай волі спрычыніўся зяць каланіста Касарала (таго самага, што склаў быў Платонавым у новай хаце печ) — Кутарба. Жыў Кутарба недалёка ад Ратайчыцаў у паселішчы Калёнія

Пруска, якое ўтварылі прыехаўшыя ў пачатку 30-х гадоў з-за Буга каланісты, што купілі ў паноў Падгурскіх вялікі кавалак зямлі і падзялілі паміж сабой. Савецкая ўлада ў асобе сваіх актывістаў дапякла яму павышаным, «кулацкім», падаткам. Але прыйшоў, нарэшце, час, калі можна было адпомсціць і за павышаны падатак, і за ўсё астатняе. Не забыў і пра Васіля Платонава, хоць той нічога благога яму не зрабіў. Васіль трапіў у спіс як былы начальнік пошты, да таго ж «васточнік», гэта значыць, выхадзец з Расіі.

Машына кулялася на выбоінах і ўжо з'язджала з Бабіцкай гары, крута нахіліўшыся на бок, а Васіль усё думаў, чаго гэта яго вязуць не ў Ратайчыцы, дзе была мясцовая гмінная жандармерыя, а ў Камянец. І нашто вязуць? Канваіры на кожнай калдобіне, каб не ўпасці, хапатліва браліся за барты, а Васілю было ўсё роўна, ён думаў пра сваё.

Нарэшце грузавік затросся па местачковым бруку, праехалі яшчэ мінут з пятнаццаць і спыніліся каля ўпраўлення жандармерыі, якое месцілася ў вялізным двухпавярховым доме, абнесеным мураванай агароджай. Месца вядомае, калісьці, пры Польшчы, тут быў паліцэйскі пастарунак, пры Саветах — НКУС, і цяпер нешта падобнае. Ля ўваходу стаяла ўзброеная варта.

— У падвал! — распарадзіўся нейкі службовец у гестапаўскай форме, з кукардай на чорнай фуражцы: чэрап з крыж-накрыж складзенымі касцьмі. Васіля абшукалі і штурхнулі ў падвал. «Катаваць будуць! — падумаў ён і ўспомніў расказы Косці Хлябіча, як яго катавалі калісьці ў дэфензіве, як пад пазногці іголкі заганялі. — Ці вытрымаю?» Ён адчуў, як плечы і спіну абліў халодны пот.

Вочы паступова прывыклі да сутоння, і ён агледзеўся. Сутарэнне — як сутарэнне. Патыхала цвіллю. Атынкоўка там-сям паадвальвалася, агаліўшы цёмную цагляную кладку. У падвале ўжо знаходзілася некалькі чалавек. Аднаго за другім выклікалі на допыт. Вярталіся не ўсе, а тыя, хто вяртаўся, былі надта змардаваныя, некаторых валаклі, бо самі ісці не маглі. У прыцемках хтосьці трызніў, скрыгатаў зубамі і стагнаў. Васіль адчуў, як падступае да сэрца балючая туга: «Не выберуся, відаць, адсюль, не выберуся…» Праз гадзіну ці праз дзве (ад перажыванняў арыштаваны страціў адчуванне часу) выклікалі і яго. Канваір увёў Васіля ў доўгі, падобны на труну, пакой. На сцяне — вялікі партрэт фюрэра: абшчыпаныя вусікі, пасма зліплых валасоў на лбе, зняважліва прыўзнятыя вусны. Фюрэр паглядаў сурова і падазрона, не абяцаючы ні спачування, ні якой-небудзь літасці.

Пад партрэтам сядзеў худы, глюгаваты немец у чорнай гестапаўскай форме: на каўняры — чарапы, на рукаве — на чырвонай павязцы, у цэнтры белага круга, — свастыка. Галава — пляшывая, толькі над ілбом і па баках, як рогі, тырчалі шэрыя космы рэштkaў валасоў. Прадаўгаваты твар у прышчах і брытвенных парэзах. Парэзы былі залеплены паперкамі, а на скронях выпіралі сінія склератычныя жылы. Зірнуў на Васіля, у поглядзе нічога не адлюстравалася, апроч пагардлівасці і знявагі. На тонкіх бясколерных вуснах час ад часу з'яўлялася невядома каму адрасаваная яхідная ўсмешка. Было ў гэтым гестапаўцу нешта такое, што рабіла яго падобным да чорта, які толькі што выбрыў з апраметнай. Патрэбна была смеласць, каб зірнуць такому ў вочы. «Гэты будзе біць, а там і расстраляе! — мільганула ў Васілёвай галаве. — Многіх жа расстралялі ў час допытаў, без прысуду…» — адчуў, як моцна калоціцца сэрца.

Збоку, у тарцы стала, знаходзіўся яшчэ адзін чалавек — у напаўвайсковай форме. «Перакладчык!» — здагадаўся Васіль.

Гестапавец шчоўкнуў блішчастым партсігарам, тонкімі доўгімі пальцамі дастаў цыгарэту, пстрыкнуў запальнічкай, моўчкі закурыў, не звяртаючы на

арыштаванага аніякай увагі. З тонкіх, сухіх вуснаў вырваўся струмень сінятага дыму. Ён рэзкім тонам нешта сказаў перакладчыку, той адразу ж пераклаў, усё адно як адрэзаў:

— Дзе дакументы НКУС?

Сэнс гэтага непрыемнага пытання дайшоў да яго адразу, у свядомасці паўстала карціна першых дзён вайны, той эпізод, калі людзі мяшкамі цягнулі паперы з пакінутага будынка пракуратуры. Але ён зрабіў выгляд, што не разумее, пра што ідзе гаворка. Павярнуў галаву ў бок перакладчыка:

— Якія дакументы?

— Дакументы НКУС.

Арыштаваны няўцямна ўвабраў галаву ў плечы.

— Я ніколі не меў аніякага дачынення да НКУСа.

— А начальнікам пошты вы былі? — зноў праз перакладчыка спытаў гестапавец.

Не прызнавацца было б неразумна — пра тое, што ён працаваў у Ратайчыцах на пошце, ведалі ўсе, і ён сказаў:

— Так, на пошце я працаваў. У Ратайчыцах. Загадваў аддзяленнем сувязі.

— А ты не думаў, што за гэта давядзецца адказваць? Чаму ты быў начальнікам пошты? Гэта — савецкая ўстанова! Раскажы, як працаваў на камісараў!

— Некага ж павінны былі прызначыць. Я не вінаваты, што прызначылі мяне. Гэтая пасада не палітычная, палітыкай я не займаўся. Я разносіў лісты. Паштальён, не болей. Маглі прызначыць і каго-небудзь іншага…

— Ты пасобнік! — выкрыкнуў перакладчык. — Ты камуніст? Прызнавайся!

У Васіля ад страху перасмыкнула вусны, але ён знайшоў у сабе сілы, каб патлумачыць:

— Я працаваў на пошце, палітыкай не займаўся. Я селянін, я рабіў на зямлі. Гэта мой галоўны занятак, мая работа, бо трэба карміць сям’ю.

Перакладчык і глюгаваты гестапавец, які сядзеў за сталом, уважліва на яго паглядзелі.

— Мы табе не верым!

— Ёсць шмат людзей, якія могуць пацвердзіць.

Пачуўшы Васілёў адказ, гестапавец грозна, ажно заварушыліся паперы, грымнуў кулаком па стале:

— А па якім заданні застаўся і хто даў заданне?

Гэта было пытанне, як кажуць, на засыпку. Ад нечаканасці Васіль знiякавеў і нейкі час маўчаў, не ў стане вымавіць слова, як бы страціў дар мовы. Нарэшце саўладаў з сабой і патлумачыў:

— Усё адбылося так хутка, што калі б нават хтосьці і меў намер даваць каму-небудзь, як вы кажаце, заданне, дык не паспеў бы, — Васіль успомніў тых задыханых чырвонаармейцаў, што беглі Камянецкім гасцінцам, якіх спачувальныя прускаўцы напаілі вадой, далі хлеба і закурыць, — яны ўцякалі ў ніжняй бялізне, не затрымліваючыся. Я гэта сам бачыў на ўласныя вочы.

Перакладчык пераклаў і немец задаволена зарагатаў. Відаць было, што адказ арыштаванага яго пераканаў, а галоўнае — спадабаўся. Яны пра нешта перамовіліся з перакладчыкам. Гестапавец зноў нахмурыўся.

— Вы ўсё ж такі нічога не сказалі пра лёс тых папер НКУСа, што трапілі вам у рукі. Вас бачылі сярод тых, хто разбіраў архіў гэтай установы. Вы мелі да яе дачыненне?

— Не, ніякага дачынення не меў і архіў не разбіраў. А нашто ён мне? Нашто мне звязвацца з нейкімі казённымі паперамі? Гэта не мая справа.

У пакоі на нейкі час усталявалася цішыня. Немец дастаў з кішэні партсігар, узяў і сунуў у рот цыгарэту, чыркнуў запальнічкай і прыкурыў.

— Каго з мясцовых камуністаў ведаеш? З кім з іх падтрымліваеш сувязь?

— Мясцовым камуністы не давяралі і ў партыю іх не прымалі. Камуністы як члены партыі займалі высокія пасады. Не разумею, пра якія кантакты можа ісці гаворка…

Немец за сталом і перакладчык пераглянуліся паміж сабой. Васіль нават падумаў, што ход допыту схіляецца на яго карысць. Але — не. Відаць, быў пададзены нейкі сігнал, бо дзверы адчыніліся і ў пакой літаральна ўскочылі двое, таксама ў гестапаўскай форме, з гумовымі дубінкамі. Немец нешта крыкнуў ім, не падымаючыся з-за стала, і гэтыя двое збілі Васіля з ног, павалілі на падлогу і пачалі лупцаваць дубінкамі, як цапамі, быццам гэта быў сноп жыта. Удары апякалі і крывавілі цела. Білі да страты прытомнасці, калі ён перастаў ужо быў крычаць і падаваць прыкметы жыцця, а яго цела адгуквалася на ўдары так, як бы гэта быў ужо абмалочаны сноп.

— Erschissen![1] — рэзка і каратка вымавіў немец, калі гэтыя двое катаў пад пахі павалаклі збітага, скрываўленага, ледзь жывога Васіля да парога.

— Вы будзеце расстраляны, — не то пераклаў, не то патлумачыў ад сябе перакладчык.

Гэта арыштаваны пачуў, не мог не пачуць. Дайшло да свядомасці і абудзіла яе. «Канец! — жахнуўся ён. — Усё! Вось так, нечакана, і нічога не зробіш, ніхто не дапаможа…»

У падвале ён, крыху ачуняўшы ад пабояў, зразумеў, што лёс яго вырашаны канчаткова, у бездапаможнасці апусціў галаву. Падумаў пра дзяцей, успомніў Просю, маці з айчымам. Што з імі будзе?

Праходзіла гадзіна за гадзінай, але ніхто ім не цікавіўся. Ноччу не спаў, а назаўтра зноў апынуўся ў падобным на труну кабінеце гестапаўца. Зноў пачаўся допыт, пагрозы, апошнія папярэджанні. І тут Васілю раптам прыйшла думка сказаць:

— На каго ж вы будзеце абапірацца, калі будзеце расстрэльваць такіх, як я?

Перакладчык пераклаў.

— Wek![2] — закрычаў гестапавец, а перакладчык выклікаў канваіра, які выправадзіў Васіля за вароты.

* * *

Фёкла з Лявонам ездзілі да Мандрашчака ў Ратайчыцы ў той жа дзень, як арыштавалі Васіля. Бацькі былі ў разгубленасці. Былы настаўнік, які цяпер насіў вайсковага крою мундзір, толькі што без пагонаў, сустрэў з насцярогай, але пазнаў прускаўцаў:

— Proszk, proszk…[3]

Праўда, не запрасіў сесці, забыў, відаць, на гжэчнасць, пакінуўшы стаяць ля парога. Наставіў на нечаканых гасцей свае лупатыя вочы. Твар, пазначаны воспінамі, зрабіўся падкрэслена сур'ёзным і строгім. І Лявон, і Фёкла ўспомнілі той час, калі Мандрашчак працаваў у Прусцы настаўнікам. Яны і тады былі, мякка кажучы, не блізкія з гэтым чалавекам, а цяпер нават думаць пра

---

[1] Расстраляць! *(ням.)*

[2] Вон! *(ням.)*

[3] Прашу, прашу… *(польск.)*

нейкую блізкасць не даводзілася. Цяпер Мандрашчак — перакладчык у самога амтскамісара Люльке! Пра гэта ён не забываў.

Уладкаваўся ён на гэту пасаду перакладчыка да немцаў яшчэ да таго, як пачуў пра ўказанне лонданскага ўрада Сікорскага, які рэкамендаваў сваім прыхільнікам уваходзіць у давер да немцаў. У Мандрашчака ўжо склалася ўнутранае апраўданне свайму ўчынку. «Што ж, Польшча прайграла вайну, — разважаў ён. — Польская армія не змагла мяне абараніць. Хто мне адкажа, чаму так атрымалася? Меліся без затрымкі браць нямецкія гарады, а атрымалася нешта адваротнае. Хто ў гэтым вінаваты? Я, прынамсі, не вінаваты». Ганарлівы ад прыроды, Мандрашчак ставіў сваё асабістае ў адзін рад з усім астатнім: «Калі мая армія мне здрадзіла, дык хіба я не маю права стаць на бок пераможцаў? Хто мяне папракне ў неразумнасці майго ўчынку? Хто мае права патрабаваць ад мяне гераізму? Што мне — пускаць кулю ў лоб? А час пакажа…»

Пан Мандрашчак хацеў жыць, любіў увагу і павагу да сябе, цаніў магчымасць знаходзіцца пры ўладзе. Вядома, любіў камфорт. На падлозе, ля сцяны, стаяў гадзіннік, унутры яго варушыўся маятнік. «Адкуль жа ты яго прывалок?» — падумаў Лявон. Такі гадзіннік ён бачыў некалі ў пакоях паноў Падгурскіх. З цяжкімі гірамі і з зязюляй, што вынырвала з расчыненых дзверцаў і абвяшчала час. «Можа, адтуль?»

Мандрашчак яшчэ раз падазрона агледзеў наведвальнікаў, пальцамі асцярожна прыгладзіў свае бліскучыя, набрыльянціненыя валасы на галаве і спытаў, спыніўшы погляд на Фёкле:

— Co powiedziesz?[1]

— Арыштавалі, нашага Базыля арыштавалі! — жаласна ўсхліпнула жанчына.

— А што такое?

— Памылка, відаць, нейкая! Нечакана! Ноччу! Прыехалі і забралі… — Фёкла ўжо не стрымлівала слёз.

— Kiepcka sprawa[2].

— Нізашто ўзялі, — дадаў і як бы засведчыў Лявон.

Мандрашчак хмыкнуў у нос і варухнуў плячыма.

— Калі памылка, дык няма чаго баяцца, выпусцяць.

— Мы да вас, пане Адальф, каб вы дапамаглі!

— Не пераймайцеся, усё будзе як трэба.

— Ой, ой, ой! — стагнала, не аціхала, Фёкла.

— Трэба, — патлумачыў перакладчык, і зноў прыгладжваючы валасы, — скласці паперу ў паліцыю такога зместу, што ваш сын Базыль не вінаваты, што выйшла памылка, і каб пад гэтай паперай падпісаліся староннія людзі, з вашай і суседніх вёсак, некалькі чалавек, хто яго ведае. Паперу перададзіце мне, я дам ёй ход.

— А ці дапаможа? — па-жаночы ўсплёснула рукамі ўтрапёная Фёкла. — Каб дапамагла…

— Я сказаў.

Лявон стаяў побач з жонкай, гаварыла яна, а ён моўчкі ківаў галавой, пацвярджаў, што яна казала.

— Пані Тэкля, ідзіце дадому, я пастараюся разабрацца, — паабяцаў былы настаўнік, а цяпер гмінны перакладчык. — Siowo honoru![3]

---

[1] Што сказаш? *(польск.)*

[2] Справа дрэнь *(польск.)*

[3] Слова гонару! *(польск.)*

Фёкла ражком хусткі выцірала слёзы. Трэба было вяртацца дадому.

«Keine ernste Sache»[1], — чамусьці па-нямецку думаў Мандрашчак, выпраўджаючы сваіх нечаканых наведвальнікаў.

Вярнуўшыся, Лявон пачаў дзейнічаць. Пісалі паперу разам з Павалам Гальяшом пад дыктоўку Якава Паца, які быў спрактыкаваны ў складанні падобных «прашэнняў». Яны ж і падпісалі, засведчыўшы, што Васіль Платонаў не вінаваты, што ён за час свайго «начальніцтва на пошце» нікому зла не чыніў. Апроч іх паручыліся і далучылі свае подпісы пад прашэннем бацюшка айцец Клаўдзій, а таксама Амброжый Пац, Оргій Відэрка і Лявонаў швагер Іван Максімук.

Назаўтра Лявон адвёз «прашэнне» Мандрашчаку.

* * *

Прося ўсю ноч не заплюшчыла вачэй, а на раніцу таксама, як і свёкар са свякроўю, не ўседзела ў хаце, пабегла ў Камянец. Там даведалася, дзе знаходзіцца будынак жандармерыі, куды, напэўна, трапіў яе Вася. Але маладзіцу нават на парог не пусцілі і перадачу — хатылёк з хлебам і салам — не ўзялі. Вярнулася ні з чым. У нядзелю ў царкве паставіла свечку Мікалаю-ўгодніку, а назаўтра пайшла ў Камянец зноў. З дзецьмі заставалася свякроў. І так працягвалася колькі дзён, аж пакуль яго не выпусцілі.

Невядома, што дапамагло: ці Мікалай-угоднік, ці тое прашэнне з аўтарытэтнымі подпісамі, ці Мандрашчак, ці самі немцы палічылі, што чалавек не вінаваты, — але Васіля выпусцілі.

— Los![2] — закамандаваў гестапавец з аўтаматам на грудзях, адчыніўшы дзверы і махнуўшы рукой у напрамку выйсця. — Пашоль!

Зняволены падумаў пра горшае, але горшага, дзякуй богу, не адбылося. «Калі так, дык буду жыць», — падумаў ён, павярнуўшыся і ледзь ступаючы непаслухмянымі нагамі.

Ледзь валок ногі, у знясіленым целе адчуваў боль, але радаваўся, што жывы. Нібы зноў нарадзіўся на свет. Сам не верыў, што так пашанцавала. І свет пазіраў на яго са спачуваннем і прыязнасцю, нібыта таксама радаваўся: зіхацела залацістым купалам камянецкая царква, па-святочнаму чысценькай выглядала школа, крытая чырвонай чарапіцай.

Прося сустрэла яго на Бабіцкай гары — у каторы раз ішла ў Камянец. Заўважыла яшчэ здалёк.

— Ой! — прастагнала яна, не верачы, што гэта ён, і кінулася насустрач, заплаканыя вочы ззялі ад радасці.

Васіль таксама заўважыў яе і паскорыў крок.

— Жывы?

— Жывы.

Яны доўга стаялі абняўшыся і прыгарнуўшыся адно да аднаго. Яму надта хацелася сказаць, што яна цудоўная і што ён вельмі любіць яе, але ён, невядома чаму, не сказаў, выказваючы свае пачуцці адно толькі моцнымі і пяшчотнымі абдымкамі.

— Колькі слёз я выплакала! Кожны дзень хадзіла…

— Пашанцавала…

— Ой… — Яна пацерабіла яго чорную чупрыну і шчаціннe на твары і прыхінулася зноў.

---

[1] Выпадак не з сур'ёзных *(ням.)*

[2] Пайшоў! *(ням.)*

— Яшчэ б трохі — і расстралялі, нават не ведаю, што ўратавала.

— Айчым прашэнне падаў, што ты не вінаваты. Праз Мандрашчака прашэнне перадалі. Бацюшка падпісаў, Павал Гальяш, Іван, Пацы…

— Дзякуй, дзякуй! Кожнаму трэба будзе падзякаваць.

Прося, пазіраючы на яго, плакала, і ў яго з крыху раскосых вачэй цяклі слёзы, твар пашарэў, нават як бы зменшыўся, усох. Яны прыселі на ўтравелай абочыне, Прося ажно iкнула ад слёз, развязала хатылёк, падсунула бліжэй да Васіля, і ён стаў прагна есці. Скінуў божую кароўку, што паўзла па руцэ.

— Зблажэў як!

— Нічога, цяпер усё будзе добра.

Зашалясцеў расквечаны асеннімі фарбамі асіннік, што стаяў тут жа, пры гасцінцы. Паміж асінамі жаўцела ніцая бяроза, пад якой Прося ўгледзела грыб-чырвонагаловік. «Адкуль яму тут узяцца? — падумала яна. — Але вось жа расце!.. Значыць, камусьці трэба, каб ён рос, каб жыў на свеце…

Трапечацца, шалясціць бярозавае лісце. Адчувалася, што лета ўжо ішло на спад, але дні стаялі пагодныя, сонечныя, сухія. Ізноў, аднак па-асенняму ўжо, зазелянелі пакошаныя лугі ў пойме Лосьны. Хутка зноў касіць — атаву.

— А што дома?

— Дома ўсё ў парадку, маці дапамагае. Гэта яна з айчымам да Мандрашчака ездзіла, за цябе прасіла…

— А ў Прусцы што новага?

— Хрысан гаспадарыць. Соль, газу, мыла — усё ён размяркоўвае. У мінулы раз на цябе ўжо солі не даў. Дома, кажа, яго няма, таму не паложана.

Васіль уздыхнуў, нервова аблізнуў вусны. Крыўдна стала за такія адносіны Хрысана. А калісьці ж сябравалі, пастушкамі разам былі.

Прося сказала:

— Дзяржгасаўскі ўраджай з панскага поля немцы забралі сабе.

— Гэтага і варта было чакаць.

— Запахла прывялым палыном.

— А яшчэ што?

— Паліцыя з Ратайчыцаў праязджала на веласіпедах, да солтыса заходзілі. Рускі пленны сярод іх. Цароў, кажуць, яго прозвішча.

— Што? Згадзіўся быць паліцаем?

— Выходзіць, што так. А куды яму падзецца?

— Выжыць чалавек хоча, — крыху памаўчаўшы сказаў Васіль. — Ёсць такія, хто пакрыўджаны.

Яшчэ крыху пагаманіўшы, яны ўсталі і паціху пайшлі дадому. Ішлі побач адно з адным, сярэдзінай гасцінца. Лёгкі халадок пранікаў праз адзенне, нагадваючы пра недалёкую восень.

— Вася!

— Што?

— Скажы, што любіш мяне…

— Люблю.

Прося моцна абняла яго, прыхінулася.

## VII

Паступова ўсталёўваўся «новы парадак». Ужо два дні на дошцы аб’яў, прымацаванай да таўшчэзнай ліпы, што стаяла каля Каленікавага склепа, насупраць Мікітавай хаты, была прыклеена хлебным мякішам папера — першая папера, якую прывёз з Ратайчыцаў і вывесіў солтыс Хрысан. У ёй на дзвюх мовах — па-беларуску і па-польску — насельніцтва апавяшчалася аб

тым, каб у тэрмін была сабрана і здадзена зброя, насценная агітацыя, партрэты савецкіх правадыроў і да т. п. Усё гэта загадвалася даставіць у гмінную камендатуру, у Ратайчыцы. За невыкананне загаду — строгае пакаранне. Справай кіраваў таксама Хрысан, які для выканання загаду прызначыў Гамона з падводай. На пачатку той аднекваўся, спасылаючыся на няўпраўку па гаспадарцы. Яно і на самай справе гэтак было. Звычайна, калі аднавяскоўцы жаць пачыналі, ён яшчэ толькі з сенам вазіўся, а калі на жніво ехаў, людзі бульбу выбіраць выходзілі. Але з солтысам надта не паспрачаешся, давялося згадзіцца.

Зрэшты, работы было не шмат. Зброі ніхто з прускаўцаў не меў. Гаворка магла ісці толькі пра партрэт Сталіна, што вісеў у школе, у вялікай зале, ды лозунг на шырокай паперы: «ВЫПОЛНИЛИ РЕШЕНИЕ XVIII ПАРТСЪЕЗДА!», прыклееены да сцяны ў настаўніцкай. Гамон правёз свае «трафеі» праз усю Пруску. Усё выглядала паныла. На возе, прыслонены да драбіны, абы-як, на баку, ляжаў партрэт чалавека з тоўстымі вусамі. Усе ведалі, што гэта Сталін. Поруч з падводай ішоў сам Гамон, узнімаючы клубы пылу сваімі атопкамі і панукаючы на каня. Згорнуты ў трубку лозунг ён нёс чамусьці пад рукой. Магчыма, баяўся згубіць. Лявон сустрэў яго, калі той выязджаў з вёскі і кіраваўся на гасцінец, каб павярнуць на Ратайчыцы. Не ўтрымаўся, каб не задаць пытанне:

— А калі Саветы вернуцца?

Гамон, клычучы ў вуснах саломінку, паціснуў плячыма:

— Хрысан прызначыў. Я хацеў адмовіцца, але ён крычаць стаў. «Мая цяпер улада», — кажа.

Лявон прамаўчаў.

— Не шанцуе мне. Хай бы хто іншы, а ён мне загадаў. — Гаварыў Гамон, як бы скардзячыся на долю, гугнявіў і крывіў на бок шыю, на лбе ўздулася сіняватая жылка.

Лявон суцешыў аднавяскоўца:

— Нічога, гэта яшчэ не самае страшнае.

— Дык і я так думаю. Саветы ўводзілі новы парадак, а да іх — палякі, цяпер немцы ўводзяць…

Гамонава фурманка, калдыбаючыся, пасунулася па дарозе.

За першым загадам уладаў з'явіўся другі: тым, хто меў веласіпед, здаць гэты транспартны сродак на патрэбы паліцыі. За ўтойванне радыёпрыёмніка — расстрэл на месцы.

Побач на дошцы — карціна: на белым аркушы паперы намаляваны Сталін, сядзіць у крэсле з расстаўленымі ў абодва бакі рукамі. Адна звернута да рабочага ў камбінезоне, другая, мяркуючы па ўсім, да яўрэя (на галаве — ярмолка). Рабочаму правадыр паказвае складзеную з трох пальцаў фігу, а яўрэю са сталінскай рукі сыплюцца ўжытковыя тавары і прадукты з надпісамі: хлеб, каўбаса, масла… Унізе надпіс: «Жыд вам не сябар». Прускаўцы пазіралі, дзівіліся, пацiскалі плячыма: «Няўжо гэта так?» З местачковымі яўрэямі яны жылі і сябравалі з даўніх часоў, і ніхто нікому шкоды не чыніў.

Пасярэдзіне вёскі, якраз паміж Шведавай хатай і Хомчышыным склепам, па загадзе солтыса, укапалі слуп, зверху прымацавалі перакладзіну з кранштэйнам і на дроце падвесілі да яе жалезны вобад ад аўтамабільнага кола. Доўгі час ён ляжаў без патрэбы каля Пахолкавай кузні і нарэшце-такі знайшоў прымяненне, стаў білам, у якое можна было грымець жалезнай калатушкай. Хрысан растлумачыў, што па гэтым сігнале ўсе мужчыны, пачынаючы з шаснаццаці гадоў і болей, на працягу дзесяці хвілін абавязаны былі сабрацца на гэтым месцы.

Акупацыйны рэжым патрабаваў беспярэчнага выканання сваіх пастаноў, і ў насельніцтва не было ні самай малой магчымасці хоць як супрацьстаяць акупацыйным уладам, не паддавацца, адстойваць свае правы.

Лявон вырашыў для сябе, што жыць у гэтай сітуацыі варта так, каб не прыцягваць да сябе чужога вока, не заводзіць лішніх знаёмстваў і ва ўсіх выпадках трымацца далей і ад немцаў, і ад тых, хто ім служыць, і ад розных выпадковых людзей.

* * *

У Кужалёў скончылася мука, і трэба было ехаць у Камянец, да млына. Лявон доўга вагаўся: ехаць, не ехаць? Час надта трывожны, з Белавежскай пушчы прайшоў слух, што сілком высяляліся пушчанскія і прыпушчанскія вёскі. Высяляліся і знішчаліся. Пушчанцы ніколі не думалі, што давядзецца пакідаць свае радзінныя гнёзды і перабірацца ў іншыя месцы. Неўзабаве аднак слухі пацвердзіліся. Па вёсках былі расклеены паперкі на польскай і беларускай мовах:

ЗАГАД

*1. Гэтая вёска будзе сёння выселеная.*

*2. Кожны жыхар можа на прыгатаваных вазах забраць сваю рухомую маёмасць.*

*3. Дзеля заладавання забіраных з сабой рэчаў вызначаны 2 гадзіны часу. Паліцэйскія ўраднікі вызначаюць час ад’езду. Іх распараджэнням належыць падпарадкавацца.*

*4. Забаронена браць з сабою: коней, вупраж, калёсы, косы, вілы, матыкі да бульбы, мяшкі і кошыкі.*

*5. Канфіскаваная скаціна, авечкі і свінні застаюцца ў вёсцы.*

*6. Адведванне выселеных вёсак, сваіх палёў і сенажацей, а таксама ўсяе Белавежскае пушчы пасля высялення ёсць забаронена пад карай смерці.*

***Камандуючы СС і начальнік паліцыі***
***камандзір групы фон дэм БАХ***

Рэйхсфюрэр Герынг ладзіў у пушчы, дзе калісьці адпачывалі і цешыліся паляваннем варшаўскія ўрадоўцы, сваю паляўнічую гаспадарку, таму трэба было зрабіць гэтую тэрыторыю недаступнай для «непажаданых» людзей. Вядома, «непажаданымі» былі галоўным чынам акружэнцы, што хаваліся па лясах Белавежскай пушчы з пачатку вайны. Гэта былі рэшткі 49-й дывізіі, якая стаяла ў Высокім і войск з Беларустоцкага выступу. У канцы чэрвеня яна заняла абарону па рацэ Нараў на паўночным захадзе пушчы, але была змята нямецкай арміяй. Мясцовыя жыхары дапамагалі акружэнцам, пагэтаму таксама ўваходзілі ў катэгорыю «непажаданых». Людзі спачатку не верылі, што тое, пра што паведамлялася ў загадах, — праўда. Але давялося паверыць, калі ў прызначаны дзень падначаленыя фон дэм Баха — жандары і паліцыя — загаварылі з імі на мове вінтовачных прыкладаў і гумовых дубінак. У вёсках стаяў стогн і плач. Вяскоўцы складвалі на падводы пажыткі, прывязвалі да вазоў кароў і пакідалі спрадвечныя свае котлішчы. Выселеныя вёскі спальваліся. Начамі прускаўцы назіралі, як, з паўночнага боку, над ляснымі даляглядамі палымнелі водсветы далёкіх пажараў. Едкі чорны дым навіс над пушчай.

Паравы млын у Камянцы належаў цяпер акупацыйным уладам, і за памол не танна бралі — дваццаць працэнтаў ад змеленага, аднак іншага варыянта не было. Ветракі захаваліся недзе толькі ў глыбіні пушчы, а туды далёка. Выбраўшы часіну, Лявон вырашыў з'ездзіць у Камянец. Вярцелася думка: «Можа, убачу каго знаёмага ці што новае пачую? Можа, Зміцер Зуб будзе?» Заадно трэба было і Фёкле новыя чосанкі[1] заказаць. Тыя, старыя, ужо знасіліся, а будзе калісьці і зіма. Ды і пра новыя кажухі трэба было б падумаць. Лявон, як і ўсе прускаўцы, трымаў авечак і шыў кажухі. Была гэта найтаннейшая вопратка. Кушнеры былі ў Камянцы, за адну вырабленую шкуру бралі пуд жыта. Кажух заказвалі ў краўца. Да кажуха непатрэбныя былі ні вата, ні подбіўка, і насілі кажухі не толькі зімой, але апраналі часам і летнім вечарам, калі было халаднавата.

Узяў з сабой унука — малога Валодзіка, які даўно марыў пабачыць Камянецкі Стоўп. Падняліся да ўсходу сонца. Унучак любіў паспаць, але на гэты раз у прадчуванні цікавага падарожжа прахапіўся рана. Праводзіў іх Васіль, дапамог усцягнуць на воз два мяшкі з жытам.

— Ля Бабіцкай гары савецкая танкетка стаіць, — зноў напомніў ён. — Новенькая. Чаму гэта немцы не бяруць яе?

— У іх, пэўна, сваёй машынерыі хапае, — адказаў айчым, уладкоўваючыся на возе, у які паклаў, каб зручней сядзець, кельню. Побач з ім у кельні ўмасціўся Валодзік. Выехалі за вёску і пазаклунню павярнулі да гасцінца. Адчулі глыбокую цішыню, што спавіла прускаўскія аселіцы. Збіралася ўжо на восень.

Усцяж гасцінца стаялі неяк па-асабліваму зажураныя дрэвы. Закрываваліся рабіны. Аднастайна гудзелі тэлеграфныя правады на гонкіх слупах. Клін журавоў, мякка пакалыхваючыся ў ружовым небе, трымаў кірунак на поўдзень, а за даляглядам, правей Камянца, ужо раскінула свае шырокія крылы ранішняя зара.

Не даязджаючы да Бабіцкай гары, яны ўбачылі кінутую савецкую танкетку. У малога загарэліся вочы ад цікаўнасці, але прымешваўся і страх: ваенная машына!

— Саветы кінулі, — патлумачыў дзед.

— А нашто?

— Бензін кончыўся.

Хтосьці паспеў ужо адкруціць пярэднія колы, па-гаспадарску ўспёршы перадок машыны на вялікі камень.

— Жалеза камусьці спатрэбілася, — зноў патлумачыў Лявон, пазіраючы на танкетку і нібы ўгадваючы думкі ўнука.

— А нашто тое жалеза?

— Каваль з жалеза плуг зробіць ці барану. Жалеза ў гаспадарцы прыдасца.

Унук маўчаў, абдумваючы, відаць, тое, што сказаў дзед. З усходу насустрач усё вышэй узнімалася ўжо крыху астылае за лета сонца.

Уз'ехалі на Бабіцкую гару — высокую і стромкую, як і калісьці. Шырока, як на старажытнай гравюры, адкрылася панарама Камянца. Ужо развіднела. Відаць было, як пасярэдзіне, з яшчэ зялёнага масіву местачковых дрэваў, узвышаўся Камянецкі Стоўп. І нібы дыхнула сівой старажытнасцю. «Як стаяў, так і стаіць, — падумаў Лявон, пазіраючы на Стоўп, — трывалы, гэта ж ужо семсот гадкоў яму. З трынаццатага стагоддзя!»

[1] Валёнкі з воўны.

— А што гэта? — спытаў унук.

— Камянецкі Стоўп.

— А хто яго будаваў?

— Твой цёзка — Уладзімір Васількавіч, галіцка-валынскі князь. А мы — з дулабеў, было такое племя сярод валынянаў.

— А калі гэта было?

— Даўно-о! Некалькі стагоддзяў. Шмат вады сплыло з таго часу…

— І стаіць?

— Стаіць. Бачыш, і час яго не крануў. А каго тут толькі не было! І крыжакі былі, і шведы, і рускія, і французы, калі Напалеон на Маскву ішоў. Немец тут таксама не ўпершыню. І край гэты ў розныя часы розным дзяржавам падпарадкоўваўся, але ўсё адно належаў нашым людзям, якія тут жылі.

Гэта і сапраўды было так, як казаў Лявон. На працягу стагоддзяў крапасныя ўмацаванні Камянца і яго «Столп камен» не раз адбівалі напады ворагаў і вытрымлівалі жорсткія асады. Стоўп быў як жывая істота, якая брала чынны ўдзел у тым, што дзеялася навокал.

Унук загледзеўся на далёкі яшчэ Стоўп, а ў Лявонавай памяці пад журботны рып калёсаў пачалі разгортвацца вобразы пражытага. Ён трывала адчуваў сваю крэўную роднасць з гэтым краем. Успомніў дзядулю Кірыла, які калісьці павёз яго ў Камянец паступаць у народнае вучылішча. Калі гэта было! Даўно, яшчэ ў дзяцінстве. Тады яны ўсё мястэчка абышлі і каля Стаўпа пастаялі, падзівіліся яго велічы і магутнасці. Цудоўны чалавек быў дзядуля Кірыла. Шмат ведаў і цікавіўся ўсім. Назіраў, як заходзіць сонца і колькі расы на траве, і як выглядаюць месяц і зоры. Дзядуля казаў: «Ветах ваду з зямлі выцягвае, хутка дождж мае быць». — «Як гэта месяц можа ваду з зямлі выцягваць? — не разумеў малы Лявонка. — Ён жа далёка». — «Далёка, але цягне — і з мора, і з зямлі…»

І вось цяпер, едучы гэтым пясчаным гасцінцам, пад марудную песню калёсаў, Лявону думалася: «Усё гэта — і дзядуля, і ветах, і дождж, і раса на траве, і Камянецкі Стоўп — усё гэта адзін ланцуг жыцця, якое працягваецца, плыве з мінулага ў будучыню і валодае нейкай дзіўнай неадольнай і ўсёперамагаючай сілай, перад якой, пэўна, ніхто і нішто не можа ўстаяць. А вайна? Вось яна ў чарговы раз завітала і грозна паўстала на парозе. Вайна — гэта цяжка, цяжка ўсім — і прыродзе, і чалавеку. Але як бы ні было, усё роўна ўсё разам — гэта жыццё, і трэба жыць, знаходзячы, чым жыць…»

— Хазяін! — слаба данеслася аднекуль ззаду. Голас вярнуў Лявона да рэальнасці. Ён азірнуўся, але нікога не ўбачыў, тым не менш нацягнуў лейцы — прыпыніў каня: «Хто б гэта мог быць? А можа проста пачулася?»

— А вунь ён, — Валодзік паказаў пальцам, — за карчом.

Тады Лявон убачыў чалавека, які ляжаў пры дарозе, у асінніку. Унуку загадаў сядзець на возе, а сам хуценька саскочыў і падбег. Незнаёмы падняўся на ногі. Выглядаў ён надта худым і знясіленым. Апрануты не ў адзенне, а ў нейкае падранае шмаццё. Малады, над верхняй, па-дзіцячы прыпухлай губой, яшчэ толькі прабіваліся кволыя вусікі. Твар бледны, бяскроўны, акіданы рудым шчаціннем.

— Хазяін, пакушаць у цябе што знойдзецца?

— Хто ты?

— Рускі я. Акружэнец. Можа, хлеб ёсць? Адстаў я, ад сваіх адстаў…

Лявон вярнуўся да воза, узяў торбачку з харчам, прыгатаваным у дарогу Фёклай, — хлеб, кавалак сала, пару вараных яек, бутэльку малака.

— На!

Чалавек узяў і адразу ж накінуўся на яду, адпіў малака з бутэлькі, зажаваў хлеб. Лявон яшчэ крыху пастаяў, паглядзеў на бедалагу і павярнуўся, каб ісці да воза.

— Не пакіньце, родныя! — ледзь не плачучы, папрасіў незнаёмы. — Пагібну я здзесь… — Чалавек быў у поўным адчаі і пазіраў умольным поглядам.

«А калі ты немцаў прывядзеш ды пакажаш, хто цябе ратаваў, паіў-карміў? — мільганула ў Лявонавай галаве. — Але непадобны на правакатара. Дык што рабіць? Як з табою, чалавеча, быць?» Шкада было гэтага ўшчэнт зморанага і аслабелага чалавека. Сапраўды можа загінуць. Лявон ведаў, што апошнім часам такія, як гэты акружэнец, пачалі з'яўляцца па вёсках. Да дзядзькі Хведара-свішчаўца прыбіўся адзін, і ў Бранавічах за ракой былі акружэнцы, і па іншых вёсках. Мясцовыя называлі іх расточнікамі, а самі яны маскіраваліся пад зняволеных з працоўных лагераў, якія ў 1940—1941 гадах будавалі аэрадромы і ваенныя ўмацаванні. Сяляне давалі ім прытулак і рэгістравалі як наёмных работнікаў.

«А можа, забраць? — узнікла новая думка. — Ён і ў полі дапаможа. Усё ж такі цяжкавата цяпер, адным з Фёклай, — пасынак аддзяліўся, сваю гаспадарку займеў, а я, апроч усяго, яшчэ і інвалід, левая рука не аджыла на поўную сілу. Эх, была не была! Не пакідаць жа чалавека…»

— Чакай нас тут, як сцямнее. Будзем вяртацца і забяром! — З гэтымі словамі Лявон сеў на фурманку і цмокнуў на каня. — У корч схавайся! — гукнуў напаследак.

Пад восень 1941, калі ўцёкі ваеннапалонных са шматлікіх лагераў сталі масавымі, немцы амаль афіцыйна дазволілі вяскоўцам трымаць у сябе акружэнцаў у якасці парабкаў. Лявон пра гэта ведаў, чуў ад людзей.

Валодзік азірнуўся: чалавек усё яшчэ стаяў на дарозе, пазіраў ім услед.

Далей паехалі жвавей. Мінулі Лігну, Мікалаева. Насельнікі гэтых вёсак працавалі ў гумнах, на хатніх падворках і на агародах, дзе сярод павялага і пасохлага бадылля яшчэ жаўцелі спелыя гарбузы. Усё спакойна, як і заўжды, як бы нічога не адбылося, і час ідзе заведзенай хадою. Праехалі Замасты і праз масты трапілі ў мястэчка, фурманка загрукацела па местачковым бруку. Даехалі да цэнтра і ўбачылі перацягнутую над брукаванай вуліцай расцяжку — чорным па белым:

ALLE RДDER MЬSSEN ROLLEN FЬR DEN SIEG![1]

Яны не ведалі мовы, каб зразумець сэнс гэтых слоў, таму спыняцца не сталі. Затым павярнулі ўлева і перад імі адкрыўся Камянецкі Стоўп, цяпер прадстаў ужо зблізку, ва ўсёй сваёй годнай велічы. Магутны, складзены з адмысловай чырвонай цэглы, ён, нягледзячы на свае памеры, гонка ўзнімаўся да хмар. Валодзік ажно галаву задраў, разглядаючы зубцы на яго версе.

Праехаўшы яшчэ, Лявон павярнуў у завулак, да млына. Тым ужо стаялі падводы, гружаныя мяшкамі з зернем. Прускавец стаў у чаргу, начапіў каню на галаву торбу з аброкам, зайшоў у памяшканне млына. За ім прыбег і ўнук. Там, каля магутнага махавіка ўжо тапталіся падводчыкі, чалавек з пятнаццаць. Паміж імі мітусіўся ў скуранай тужурцы механік (які быў адначасова і за ўпраўляючага). Усе разам завіхаліся каля гэтага махавіка, спрабуючы яго ажывіць і даць ход. Кола доўга раскачвалі. Туды-сюды.

— Ну, хлопцы, паднацісніце! — камандаваў механік. — Ну, ячшэ! Яшчэ! Ну, дружней!

---

[1] УСЕ КОЛЫ ПАВІННЫ КАЦІЦЦА ДЛЯ ПЕРАМОГІ! *(ням.)*

Аграмаднае, жалезнае, няўклюднае кола аніяк не жадала круціцца. Механік з маслёнкай кідаўся ад аднаго вузла да другога, дадаваў змазкі, але безвынікова.

— Ну яшчэ! Разам!

Лявон агледзеўся, знаёмых не ўбачыў. А ў галаве не выходзілі думкі пра зблажэлага акружэнца.

«А можа, вярнуцца? Мукі яшчэ ёсць трохі. Калі што — пазычым у каго. А ён жа чакае. Што з ім? Каб чаго дрэннага не здарылася — згаладнелы ж надта. Скура ды косці…»

Між тым кола ажыло, патроху залапацела, пайшло сваім ходам і пачало набіраць абароты. Валодзік з захапленнем назіраў, як амаль бясшумныя шатуны, падобныя на чыесьці магутныя рукі, упэўнена захадзілі ўзад-уперад, надаючы цяжкаму колу патрэбную хуткасць. Усе ўзрадаваліся, пажвавелі і па чарзе пачалі цягаць, узважваць і ссыпаць зерне ў вялізны жолаб, адкуль яно валілася ў жорны,ператваралася ў муку. Мелева было шмат. Жыта ва ўсіх з аднаго ўраджаю і аднаго гатунку, чыстае і сухое, хоць зрэдку трапляецца і куколь. Мука ссыпалася ў вялікую дубовую скрыню, да якой падвешваліся мяшкі.

Валодзіку ўсё было цікава. Дайшла чарга і да дзеда Лявона, ён таксама ўзважыў прывезенае жыта і ссыпаў у агульны жолаб. Гулі жорны, у паветры стаяў белы мучны пыл і злёгку клаўся на адзенне і твары. Кожны забіраў тое, што яму належала, важыў, разлічваўся з упраўляючым. Забраў сваё і Лявон, пазносіў на падводу. Памол — добры. Трэба было вяртацца. Тут, на млыне, ён даведаўся, што немцы паспелі ўжо ўвесці каменданцкую гадзіну — ад змроку да світання. Калі злапаюць на вуліцы ў гэты час, дык на шарварак застаўлялі ісці, на дарожныя работы або каменне збіраць. Маглі і ў арышт пасадзіць.

Не было ўжо калі заказваць часанкі, і да кушняроў вырашыў не заходзіць. Уваччу зноў паўстаў хлапчына, што пэўна чакаў ля Бабіцкай гары, на нешта спадзяваўся. Лявон сеў з унукам на воз, развярнуўся і падумаў, што малы яшчэ не абедаў і што яму трэба купіць гасцінец — булку. Гэта можна было зрабіць на базары, і ён павярнуў у той бок, да знаёмага ларка. Базарная плошча пуставала, але гэты хлебны шапік працаваў і быў адчынены. За прылаўкам стаяў Айзік — Хайчын зяць, знаёмы з даўніх даваенных часоў. Пры Польшчы ён разам з цешчай трымаў у Замастах карчму. Убачыўшы знаёмага, Айзік шчыра ўзрадаваўся, распытаў пра здароўе. Прапанаваў Лявону халу і, азіраючыся па баках, спытаў:

— Слухай, Лявоне, можа, яны, таго, і сапраўды дазволяць?..

— Што дазволяць?

— Ну, гандляваць…

У Лявона не было адказу на гэтае пытанне. Над гэтым ён і не думаў, таму, няпэўна, пацiснуў плячыма:

— Цяжка сказаць, не ведаю. Як на мой погляд, дык нічога добрага чакаць не даводзіцца.

— Пац вунь адчыніў магазін, мёд прадае і хамуты.

— Мёд і хамуты?

— Ну.

— Я пра гэта не чуў.

— Калісьці мы з табой мелі ўзаемны інтэрас: ты прадаваў, я купляў, я прадаваў, ты купляў, а цяпер…

Айзік уздыхнуў.

— Маці казала: «Пакуль не позна, едзь туды…»

— Куды туды?

— На ўсход куды-небудзь! Знойдзеш месца — вернешся і нас забярэш. Не паслухаўся! Цяпер шкадую…

— Нічога не парадзіш, будзем спадзявацца на лепшае.

Падзякаваўшы Айзіку і расплаціўшыся з ім (ужо хадзілі нямецкія грошы — рэйхсмаркі), Лявон вярнуўся да воза, дзе чакаў унук, сеў, цмокнуў на каня і пагнаў яго барджэй.

— А той чалавек? — жуючы халу, спытаў Валодзік, зазірнуўшы дзеду ў вочы. — Чакае?

— Паглядзім.

Чалавек чакаў, выглядаў іх. Калі Лявон спыніўся ля таго месца, дзе яны сустрэліся, ён выйшаў з кустоў і наблізіўся да падводы. Лявон пасадзіў яго ў кельню, прыкрыў саломай.

Прыехалі прыцемкамі. Гэта і добра — каб ніхто не бачыў. Сустрэла Фёкла і падзівілася нечаканаму госцю, такі ён быў абарваны, зморany і схуднелы. Яна толькі што падаіла карову, прапанавала кубак сырадою і, уздыхнуўшы, пачала збіраць на стол. Час быў вячэраць. Запрасілі і госця. Чалавек паспрабаваў адмаўляцца, спасылаючыся на тое, што падсілкаваўся тым, што пакінуў «хазяін», але напаследак усё ж такі сеў за стол, папярэдне памыўшы рукі і твар. Паводзіў сябе вельмі сціпла і выгляд меў сумны. Праніклівы погляд шэрых вачэй, бледнасць і стомленасць на твары сведчылі, што ён шмат пабачыў і перажыў.

Елі моўчкі, але праз колькі хвілін завязалася размова.

— А як цябе завуць? — запытала Фёкла.

— Санька. Санька Растатуеў.

Гэта быў яшчэ зусім малады хлопец, і яна звярнула ўвагу на яго прыгожыя, хоць і схуднелыя рукі з крыху вузлаватымі пальцамі. «Напэўна, разумны, калі рукі такія, — падумала Фёкла, — значыць і думкі ў яго добрыя…»

— Адкуль ты? — зноў спытала яна.

— Новасібірскай вобласці, рускі.

— Мілы мой, я ж сама руская!

— Дык землякі, значыць! — узрадаваўся хлопец. — Ну і ну! А я сібірак, з-за Урала. Сібір таксама Расія.

— У тую вайну мы былі ў Расіі ў бежанстве, — патлумачыў Лявон. — Рускія былі міласэрныя да нас, няблага ставіліся, далі прытулак. Амаль сем гадоў пражылі ў Расіі, у Самарскай губерні.

— І вярнуліся?

— Бацькаўшчына. Дадому заўсёды цягне.

— Панятна. А я шафёрам служыў, на палутарцы, — пачаў Санька, адчуваючы, што гаспадары хочуць ведаць ад яго больш — хто ён і адкуль узяўся, — у Брэсце, у ваеннай ахове чыгуначных мастоў. Знянацку ён нас. Былі як бы саюзнікамі, верылі, а тут…

— Ну, так, — згадзіўся Лявон. — Германія лічылася саюзніцай, а выйшла так, што таварыш да таварыша ў камору ўваліўся.

Санька пазяхнуў і сказаў:

— Мы не адступалі, а ў сушнасці бяжалі, як авечкі. Палутарка мая засталася ў гаражы. Гнаў ён нас без аглядкі. Праўда, за Пелішчамі ўсё ж такі агрызнуліся. Урэзалі мы яму за Пелішчамі! Так нашы танкі падашлі, з-пад Жабінкі…

Вячэра заканчвалася. Валодзік ужо даўно ўладкаваўся на сваім ложку. Расказчык быў стомлены больш за ўсіх. Еў асцярожна, не шмат. Відаць было, як марыў і насядаў на яго сон.

— Ну, добра, — спыніў Лявон госця, — пра Пелішчы раскажаш у другі раз, а цяпер пара адпачываць.

— Харашо, хазяін.

Для Санькі паслалі ў хляве на вышках, і ён адразу захроп. Хроп і стагнаў, як бы яму што снілася.

Фёкла з вечара запарыла ў жлукце яго адзенне, а Лявон сказаў:

— Трэба падабраць яму нешта з нашага.

## VIII

Назаўтра Санька прадоўжыў свой аповед, трымаўся больш свабодна, не так скавана.

— Тыдні за два да пачатку вайны ўсе боепрыпасы здалі на склад. Там, сказывалі, яны будуць у сахраннасці. Ну, што ж, здалі. Вечарам яшчэ кіно глядзелі — «Чапаеў». Пасля фільма доўга не спалі, уражаныя смеласцю і подзвігамі героя. Чапаеў есць Чапаеў. Нарэшце, усё ж такі паснулі — разбудзіла бамбёжка. Узрывы, агонь! Мы выскачылі ў трусах і майках, у бялье ў двор. Я гімнасцёрку паспеў схваціць — у нагрудных карманах дакументы! Хтосьці яшчэ сказаў: «Наверна, у немцаў вучэбная памылка выйшла, не ў ту сторану страляюць, манеўры…» Аказалася, не манеўры, а вайна. Аднак супраціўлення ў сушнасці не аказалі. Пабяжалі, дзержымся бліжэй да дамоў, абганяем друг друга. Паніка! — Санька уздыхнуў, паматляў галавой, памаўчаў і пачаў зноў: — Наткнуліся на інтэнданцкі склад з прадуктамі і амундзіраваніем. Прыадзеліся на скорую руку. А кругом — поўная неразбярыха і сумбур. Дыверсанты аб'явіліся. Пачаліся дыверсіі на чыгунцы. Раз бухнула, другі, трэці. Што дзелаць? Дабраліся да таварнай станцыі. Ну і карціна! Чыгуначныя рэйкі пазадзіралі канцы ў неба, вагоны пасталі ўпоперак пуці. Ужас! Мы праз Граеўку, агародамі, на северную акраіну. Хляба стаяць няскошаныя, рож. Ну, нашых салдацікаў многа. Хаваюцца. Як бы чакаюць нечага. Прайшоў слух, і гэтаму верылі, што нашы здзержываюць націск немцаў на граніцы і вот-вот пяройдуць у контрнаступленне, аднак гэтага не здарылася. Бягуць і пагранічнікі. Атрымалі загад адступаць. Але адступаць аказалася няпроста. Па шашы да Відамлі біў вораг, нізка лятaлі, бамбілі і страчылі з кулямётаў самалёты. Крычаць раненыя. Мы з таварышамі кінуліся ў лес. Кагда-та ў гражданскую лошадзі былі, а цяпер лашадзей ведзь нет, а так бы сел і ўскакал!

— Цяпер тэхніка, аўтамабілі, — згадзіўся Лявон.

— У том-та і дзела, у яго перавага ў скорасці! — Санька ўздыхнуў. — У тэхніцы перавага! На сваіх двaіх далёка не ўйдзёш. Самі па лясах жмёмся, а дарогі немцу пакінулі. І дарогі, і тэхніку. Масты засталіся — не паўзрывалі. А колькі тэхнікі! Ох, як успомню! А самалётаў! Неба ўслана самалётамі! І ўсё не нашы… Перад вайной спявалі: «Красная Армия всех сильней», а тут — на табе!..

Слухачы былі ўражаны тым, што расказаў акружэнец, а потым ён яшчэ не раз вяртаўся да перажытага, не ўпускаў выпадку, каб дапоўніць свой аповед.

Папраўляўся, здаравеў Санька хутка. Асвойтваўся з гаспадарамі. Даймалі ўсё яшчэ сны. Снілася, што яго зноў гоняць у доўгай калоне палонных, а ён згубіў бляшанку, якой чэрпаў з лужын ваду, і памірае ад смагі. Знясілеў зусім і абваліўся на дол. Яго абмінаюць. Падбег канваір і наставіў аўтамат. Вось-вось застрэліць. Прачнуўся ад жаху, не паспеўшы пачуць трэск аўтаматнай чаргі.

Удзень пачуваўся лепей. І аднойчы, праз тыдзень які ці два, на раніцу, памыўшыся свежай калодзежнай вадой, дзелавіта папытаў:

— Ну, у сушнасці, я ўжо здаровы. Аклямаўся. Што мне рабіць, папаша?

Лявон усміхнуўся, прыгладзіў над ілбом чубчык.

— Жыццё падкажа, што рабіць. Па гаспадарцы што паможаш. Пакуль што адпачывай, уваходзь у норму. Сіл набірайся!

Мінула колькі часу, і Санька, не быў бы гэта малады дзяцюк, і сам акрыяў, нават павесялеў.

— А сям'я ў цябе ёсць? — пацікавілася Фёкла заўважыўшы, што хлопец паступова выйшаў са стану прыгнечанасці.

— Папаша з мамашай, — адказаў хлопец, апусціўшы галаву, — а сам я пакудава халасцяк.

Спачатку нейкі час ён адчуваў сябе крыху скавана, але неўзабаве асвойтаўся, паспакайнеў, толькі ў сне хроп так, нібы хто яго душыў.

Вызначыліся нарэшце з Лявонам, што трэба было рабіць па гаспадарцы. На падыходзе была восень, настала пара высяваць азіміну. Пачынаць меліся з Крухмальні, дзе Лявон заараў лубін, каб над ім кінуць у раллю жыта. Там жа, пасля лубіну, збіраўся сеяць і Васіль. Збажына на прускаўскай зямлі патрабавала азотавых угнаенняў, з гэтай мэтай і сеялі лубін, які назапашваў азот.

— Заўтра з Васілём у поле едзем, — з вечара абвясціў Лявон.

— Да і я разам. Я гатоў! — падахвоціўся сібірак.

— Хто толькі жаць будзе… — маркоцілася Фёкла.

— Да ладна! Хто жывы будзе, тот і сабярот!

— Сабярот?

— Не стані, маманя, мы яго пабядзім! — суцешыў Санька. — Я Расею знаю, устануць людзі ў бяскрайніх сцяпях, у тайзе. Вось папомніце маё слова!

Фёкла прытуліла да вачэй ражок хусткі. Лявон прамаўчаў, толькі правёў даланёю па лбе, прыгладзіўшы чубчык.

Снеданне доўга не цягнулі, усіх чакаў працоўны дзень. Крухмальня — побач з вёскай, за Плісай. Гэты кавалак зямлі з руінамі старой панскай крухмальні Лявон з Васілём купілі яшчэ пры паляках у Пацаў, якія жылі па той бок Лосьны і ім нявыгадна было мець зямлю па другі бераг даволі шырокай ракі.

Разам з Санькам кінулі на воз мяшкі з насеннем, барану, спрынжыноўку, сявеньку, торбу з харчамі і хутка былі на месцы. Лявон распрог каня, азірнуўся. Гэта мясціна — Крухмальня — яму асабліва падабалася. Любіў ён яе летам і зімой, вясной і восенню. Радавала вока ўтульнасць, суладнае і нязмушанае спалучэнне жывой, натуральнай прыроды і таго, што створана чалавечымі рукамі, што выкапана, пасаджана, узведзена: сажалкі, дрэвы, распланаваная тэрыторыя, нават замшэлыя руіны былой крухмальні, што дала назву ўсёй гэтай мясціне. Руіны пачарнелі, параслі мохам, ажынаю і хмызнякамі. У альшэўніку, нібы кагосьці папярэджваючы, затрашчала сарока. Лявон яшчэ раз азірнуўся навокал. Сажалкі заняліся зялёнай раскай, жабурыннем, як тут казалі, пад якім нерухома стаілася схаладнелая вада. Над жабурыннем клубіўся сівы туманок, а над усім наваколлем недасяжным блакітам ззяла высокае неба. Высокае і недасяжнае ў сваёй бязмежнай вышыні. Недасяжнае і нікому не падпарадкаванае, — гэтая думка як бы нават супакойвала, давала магчымасць ямчэй дыхаць.

Санька паздымаў з воза прылады і агледзеў поле. Зямля была ўжо ўзараная, на барознах там-сям блішчэла павуцінне, бялелі карэньчыкі леташняй травы.

— Малавата, аднак, у вас зямліцы, — зазначыў сібірак, — не размахнёшся!

— Гэта не ўсё, яшчэ ж і ў іншых месцах ёсць.

— Ну, тагда другое дзела.

Пад'ехаў на сваім кані Васіль. Даў «добры дзень». Рыхтавалі поле да сяўбы разам. Спачатку спрынжынавалі, рыхлілі баразны. Па полі гулялі гракі.

— Хазяін, давай семяно, сеяць будзем! — прапанаваў Санька, разганяючы гракоў.

— А ты хіба ўмееш?

— А чаму не? У Сібіры таксама сеюць хлеб. І ўраджаі збіраюць.

— Багатыя?

— Ну, цэнтнераў па дзесяць! Калі засуха не здарыцца. А калі засуха, тады прапаў хлебушка. Усё выгарае!..

— Дык што, сеяць хочаш?

— Калі давяраеце, папаша, дык магу.

— Каб не атрымалася так, што ў адным месцы густа, а ў другім пуста.

— Не атрымаецца!

П'янкім пахам дыхала пульхная, разагрэтая зямля. Санька, доўга не думаючы, узяў з воза сявеньку, насыпаў з мяшка жыта, перавесіў яе цераз плячо і падышоў да таго месца, дзе пачыналася поле. Набраў у абедзве жмені зерня, хвіліну пастаяў моўчкі, падняў галаву, паўзіраўся ў неба і прамовіў:

— Расці жыта ў аглоблю, а картошка ў калясо! — і рушыў роўным крокам наперад. Сыпануў раз, другі, трэці… Далоні ёмістыя, як каўшы — за раз сібірак набіраў шмат. Сявеньку ён нёс перад сабою, начэпленую на шыю, як вайсковы барабан, у які рытмічна, нібы палачкамі, тыркаў рукамі, то адной, то другой, быццам біў па барабане, выбіваў нейкі марш. Залатым адлівам успыхвалі зярняты, якія ён поўнымі жменямі кідаў на загон. Лявон з пасынкам стаялі ў здзіўленні: ні адзін, ні другі не бачылі, каб хто так сеяў. Чалавек адначасова раскідваў насенне і з правай, і з левай рукі. Крочыў, не згінаючыся і не апускаючы галавы, прама, на ўвесь рост.

— Гэта ж мусіць у Сібіры так? — азваўся нарэшце Васіль.

— Што край, то абычай, — здзіўлена пахітаў галавой Лявон.

— Але і сапраўды!

— Божа, памага-ай! — гукнуў Лявон наўздагон сейбіту. — Ды ён мастак! Глядзі ты, як роўна вядзе — і лешыць не трэба!

Ногі сейбіта грузлі ў пульхнай раллі, а ён ні на што не звяртаў увагі, ішоў у адзін бок, вяртаўся назад, аж пакуль не апусцела сявенька. Тады зноў насыпаў з мяшка.

Потым поле акуратна забаранавалі, прыселі перадыхнуць, бо ўжо набліжаўся час абеду. Лявон дастаў наладаваную Фёклай торбу з папаскай — хлеб, сала, гуркі, некалькі памідораў і вялікая бутэлька з малаком. Пахваліў Саньку:

— Малайчына! Умееш! Але ў мяне так не атрымаецца, не змагу я левай…

— У нас гэтак не сеюць, — сказаў Васіль.

— Дзела ў сушнасці няхітрае, — ухіліўся ад пахвалы сібірак. — Усё ў жызні трэба ўмець, але не ўсё рабіць.

— А гэта так! — згадзіўся Лявон. — Залатыя словы!

— Я ад атца навучыўся. Ён у мяне на ўсе рукі масцер, усё можа. Да і мама ў мяне слаўная, добрая.

Санька задумаўся, можа, што ўспамінаў.

Пасля абеду сеялі на Васілёвай палавіне, і да вечара работа была скончана.

— Хопіць! На сёння хопіць! — стомлена сказаў Лявон, падводзячы вынікі працоўнага дня.

— Добра-такі ўмарыліся. Будзем адпачываць.

Вяртаючыся з поля, ідучы ўслед за возам, Санька ў каторы раз, але ўпершыню гэтак востра і з дакорам самому сабе, падумаў пра сваю роту, пра таварышаў, якія недзе на фронце, у акопах, змагаліся і паміралі, а яго сярод іх не было. Гэтая думка не давала спакою, не выходзіла з галавы, вярэдзіла душу.

* * *

На наступны дзень, у нядзелю, заявіўся дзядзька Хведар са Свішчова. Даўно не бачыліся, прыехаў наведаць радню. Сёмы дзясятак размяняў, але яшчэ мацак, жвавы. У новым пінжаку, на нагах зрэбныя порткі і юхтавыя боты. Прыехаў на добрым, дагледжаным кані.

— Добры дзень! — гукнуў з парога.

— Добры дзень.

— Не хварэеце?

— Не.

— От, бачыце, — ужо не так, як пры Саветах, улада ўжо іншая — немцы! — нейкім асаблівым тонам абвясціў ён, нібы гэтага хто не ведаў.

— Вайна, — азваўся пляменнік.

На душы ў дзядзькі Хведара — Лявон пра гэта ведаў — засталася крыўда на савецкую ўладу. У кулакі чалавека запісалі і нават правы адабралі, хоць у яго няшмат чаго і было. Зямлі — усёй — гектараў з пятнаццаць. Дзве цялушкі і пара коней. Ну, вядома, і авечкі, бо з чаго пашыеш кажух? Зайздросныя вочы чапляліся за тое, што жыў на хутары — сам сабе гаспадар. Выслаць не паспелі, і цяпер дзядзька Хведар акрыяў.

Пачалася гамонка. Усё пра тое, што абмяркоўвалі ўсе: хто каго адолее — Гітлер Сталіна ці Сталін Гітлера. Хведар казаў, што немцы надта трубяць пра свае поспехі, пэўна перабольшваюць, але бальшавікам, мусіць, усё адно капцы.

— Каб на іх паморак! — вылаяўся ён у адрас адных і другіх, маючы на ўвазе і немцаў і бальшавікоў, якія меліся вывезці яго на Салаўкі.

Фёкла сабрала таго-сяго на стол, каб прывеціць родзіча.

— Шкада, што людзі гінуць, — уздыхнуў Хведар. — Маладыя хлопцы! Акружэнцы! З Казённага лесу іх цэлая група выйшла. Можа, з лагера ўцякалі, можа, яшчэ адкуль. Каля ставоў селі адпачыць ды памыцца. Распрануліся, а тут — немцы! Усіх палажылі. Чалавек з дваццаць!

— Не дай бог! — пахітаў галавою Лявон. — Гэта ж у кожнага сям'я ёсць, маці, бацька…

Нейкі час яны маўчалі.

— А солтысам каго ў вас прызначылі?

— Хрысана Гальяша.

— Ну і як?

— Пакаштаваў улады, дык каб галава не закружылася. Будзем бачыць.

— Я помню яго. Надта ён у вас сярдзіты нейкі. Ад сярдзітага, кажуць, не чакай розуму.

У хату тым часам зайшоў Санька. Дзядзька Хведар з цікавасцю зірнуў на незнаёмага, якога бачыў у першы раз.

— Гэта Санька, — сказаў Лявон.

— А адкуль узяўся?

— Акружэнец.

— Акружэнец?

— Сібірак.

— Усюды пабываў, а ў Сібір не трапіў! — Хведар сказаў гэта як бы намякаючы, што мог туды трапіць, але пранесло, выкруціўся. Зноў зірнуў на акружэнца: — А дзе ж, чалавеча, цябе акружылі?

— Прысядзь! — запрасіў Лявон.

— Не аднаго мяне — усіх акружылі, патлумачыў Санька, сядаючы на лаўцы каля сцяны. — Ну, на пачатку ўцякалі, ад самага Брэста. Беглі шашою да Відамлі. Калі бамбёжка, мы — у рож. Але за Пелішчамі агрызнуліся. Урэзалі яму як след — за Пелішчамі.

— Да нас, дарэчы, таксама акружэнец прыбіўся, — перабіў яго Хведар, — Мачала нейкі, ленаваты, але па гаспадарцы тое-сёе дапамагае. Родам ён з Сахаліна, гэта, кажа, надта даляко, паўгода ехаць трэба.

— Сахалін даляко! — пацвердзіў Санька, спыніўшы свой аповед.

— А я ў свайго Мачалы пытаюся: «А што ты рабіць умееш?» — «Усё, кажа, што загадаеце, я ўсё ўмею». — «Пажыві, кажу, адпачні, а там пабачым…»

— Нацярпеліся салдацікі, — азвалася Фёкла.

— Дык кажаш, за Пелішчамі ўрэзалі?

— Урэзалі. Будуць помніць. Гэта — танкісты. Тыя, што пад Жабінкай стаялі. Развярнуліся ў баявыя парадкі і далі сустрэчны бой. Адкінулі ажно пад Відамлю. Але тут нямецкія самалёты наляцелі. Аднака да чаго адважны ў баі рускі чалавек! Заб'юць — другі на яго месца! Я і сам па нямецкіх танках страляў. Згледзеў вінтоўку, якую нейкі салдацік кінуў, склаўся і стрэліў. Хацеў пацэліць у сматравую шчыліну, але, відаць, не папаў, а ён ужо дулам водзіць з боку ў бок, мяне ішча! Бах! Мяне ў варонку адбросіла. Варонка — ад снарада. Затаіўся я ў той варонцы і ў сушнасці нават не заўважыў, як уснуў. Чую: «Рус! Уставай, годзе спаць!» Я падняўся. Стаіць перада мной малады, як і я сам, салдат у глыбокай шэра-зялёнай касцы з аўтаматам у руках. «Ідзі!» — паказвае мне. Ну і пагналі нас па шашы табуном. Мы ўжо пленныя. Каторы абуты, каторы басой. Як хто вады з калюжыны хацеў папіць, то немец — пстрык, і ўсё. Многія падалі ад куль канваіраў, але некаторым удавалася ўцячы.

— Тое ж самае і Мачала кажа, — пацвердзіў Хведар.

— Як бы з ім пазнаёміцца?

— Пазнаёмішся. Ну-ну, расказвай!

— Саслаблі мы, здарожыліся, еле-еле ногі валачом, вот у канваіраў бдзіцельнасць прытупілася. Я выбраў мамент — і наўцёкі. Канваір іншым займаўся, а я ўбяжал.

— Уцёк? — удакладніў Хведар.

— Так точна. Удрал. Аднака свабода таксама рэч цёжолая. Да какая там свабода! Ад страха калоцішся. Ноччу зайдзёш да каго-нібудзь, папросіш пакушаць. Давалі. Баяліся, аднака давалі. Немца баяліся. Пакуль да Буга дайшоў, стаміўся страшэнна. Вырашыў недзе заначаваць. Якраз стог сена паблізу быў. Значыць, і вёска недалёка. Ісці ў вёску баюся: а што, калі немцы? Расстраляюць — у іх гэта нядоўга. Прыхінуўся да стога і хацеў заснуць, але стаміўся так, што і сон не ішоў. Ну, і голад даймаў. Ное і ное. Ну, што ты будзеш рабіць? Калі сцямнела, вырашыў у вёску ісці. Была не была. У крайнюю хату не пайшоў, а падаўся з боку агародаў, бліжэй да сярэдзіны. Згледзеў хату якую, думаю, бяднейшую, ціхенька пастукаў у дзверы. Раз-другі. Чую, нехта заварушыўся, пачуліся крокі. «Хто там?» — «Свае», — адказваю. —

«Хто — свае?». — «Адчыніце». Шморгнула засоўка. Гляджу — жанчына, не старая яшчэ. — «Хто вы?» — «Дадому іду, ці не будзе ў вас хлеба кавалачак?» — «Пачакайце». — Жанчына пайшла ў глыбіню хаты і праз пару мінут вярнулася. Падае скібку хлеба і шматочак сала. — «Адкуль вы?» — «Сібірак», — кажу. — «А мой муж у Сібіры. Пры Польшчы граніцу перайшоў, так яго ў Сібір на работу апрадзялілі». — «Дык, — я кажу, — мы з ім мястамі памяняліся». Яна ўздыхнула: «Выходзіць, што так…» З тыдзень у яе прабыў. На вуліцу не паказваўся. Мыслі разныя прыхадзілі. Што ж, думаю, пайду на васток, к сваім. Развітаўся з хазяюшкай і пайшоў. Яна мяне праз Буг пераправіла. У пуці ціжало… Ужо думаў, што не вытрымаю, загнуся дзе-небудзь пад кустом, але, слава богу, пашанцавала, хазяіна вот Лявонція Міхайлавіча сустрэў, ён мяне ў сушнасці і выратаваў. Спасіба агромнае!

— Неяк яно будзе, — няпэўна адгукнуўся Лявон.

Санька выйшаў па сваіх справах.

— Паспытаў горушка! — паспачувала Фёкла, збіраючы тое-сёе на стол, каб пачаставаць дзядзьку Хведара.

— Мой Мачала таксама расказвае страхі. Ён расказвае, а Ульяна слёзы пускае! — сказаў Хведар, падсоўваючыся бліжэй да стала. — Толькі вам трэба вашага сібірака ў солтыса зарэгістраваць, каб не прычапіліся…

Прайшло не шмат часу, і Хрысан з’явіўся сам. Жоўтыя вочы прыжмураны, на вуснах пагардлівая ўсмешка.

— Ты, Лявоне, кажуць, трымаеш у сябе чырвонаармейца!

— Я не ведаю, — адказаў Лявон, — які ён, чырвоны ці белы, але нейкі рускі прыблытаўся да мяне, гэта праўда.

— Бяры яго хутчэй за каўнер і разам ідзіце да мяне! — загадаў Хрысан. — І хай не ўздумае ўцякаць, бо тады ты сам галавой адкажаш за яго! Да мяне жандары прыехалі якраз па гэтай справе.

Вядома было, што за выяўленне чужых людзей улады абяцалі ўзнагароду, давалі дэфіцытныя тавары: соль, цукар, газу, мыла. Солтыс мог спакусіцца.

«Значыць, нехта ўжо данёс!» — мільганула ў Лявонавай галаве. Такога павароту ён не чакаў, ажно ў вачах памутнела. Але загад солтыса трэба было выконваць.

— Ты прысядзь, Хрысан, а я зараз яго пашукаю.

— Не, я пайду.

Санька ў гэты час знаходзіўся ў клуні, падмятаў ток і нешта спяваў сам сабе. Настрой у яго адразу ўпаў, калі пачуў пра загад солтыса і пра жандараў, твар пашарэў і завастрыўся.

— Ну, што ж, папаша, вы мяне ведаеце, я не хачу, каб здарылася нейкая бяда, каб вы з-за мяне пацярпелі. Пойдзем! — ён прыставіў мятлу да сцяны, уздыхнуў. — Вазможна, папаша, я ўжо не вярнуся. Але пойдзем…

Зайшлі да солтыса — ён жыў у канцы вёскі, ля школы. За сталом над яечняй і самагонкай сядзелі два жандары ў брудна-зялёных мундзірах, чутно было, як яны гергеталі паміж сабой. Тут жа на лаўцы ля сцяны сядзеў Хрысан. Лявон з Санькам павіталіся і спыніліся ля парога. Жандары павярнуліся да іх і нейкі час моўчкі ўглядаліся.

— Ну, ты, гаспадар, — звярнуўся нарэшце адзін, пэўна, старшы па чыне, да Лявона на польскай мове, — ці сапраўды ў цябе жыве гэты савет? — жандар сытым падбароддзем кіўнуў на Саньку, які ажно сагнуўся ад дрэнных прадчуванняў.

— Ну, прыйшоў, папрасіўся і жыве, — адказаў Лявон. — Сам Хрыстос навучаў людзей дапамагаць адно другому. У Святым Пісанні гэтак напісана.

— А што ён у цябе робіць? — пацікавіўся жандар.

— Усё, што яму загадаю. Я адзін, ён мне дапамагае па гаспадарцы. Паводзіць сябе сціпла.

Хрысан маўчаў. Немцы зноў загергеталі паміж сабой, і старшы звярнуўся да солтыса:

— Солтыс, ці бярэш ты гэтага «савета» на паруку? — і паказаў пальцам на Саньку.

— Я?! — здрыгануўся напалоханы Хрысан. — Ні ў якім выпадку. Навошта мне гэта?

Жандары зноў пра нешта паразмаўлялі паміж сабой.

— Ты, савет, — адазваўся па-польску старшы, — паедзеш з намі!

Санька спалохана глядзеў на жандараў, пасля на солтыса і, не сустрэўшы ў іх ні падтрымкі, ні спачування, перавёў погляд на Лявона. «Я вас не падвяду!» — гаварыла ўся яго пастава. Хрысан адвярнуўся, стаў пазіраць сабе пад ногі, нібы аглядаў боты.

— Папаша, паручыцеся за мяне! Спасіце!

Нават немцы перасталі есці яечню і паадкрываўшы раты, з цікаўнасцю назіралі, чым усё скончыцца. Сітуацыя іх забаўляла.

Лявон зніякавеў. «Канец! — падумалася яму. — Тут ужо ніхто не дапаможа! Загіне хлопец, немінуча загіне! А за што?..» І ён нечакана нават для самога сябе зрабіў крок наперад:

— Я вазьму на парукі! Я за яго адказваю!

— Gut[1]! — адгукнуўся старшы. Пажаваўшы яечню, дадаў: — Толькі хай гаспадар ведае, што адказвае за гэтага рускага ўласным жыццём. Уласным жыццём, — падкрэсліў ён, падняўшы ўгору палец і жыццём цэлай сваёй сям'і. Трэба распісацца, што гэты рускі не пойдзе ў партызаны і не будзе шкодзіць немцам.

Лявона падазвалі да стала і падсунулі нейкую паперку. Немец тыцнуў пальцам:

— Падпішы!

Кужаль паставіў подпіс на ўказаным месцы.

— Ці можам ісці? — спытаў.

— Ідзі і забірай свайго савета! — адказаў яму жандар. — Толькі памятай, калі б ён, — немец паказаў пальцам на Саньку, — захацеў у лес або іншым спосабам шкодзіць нам, — тут немец павярнуў палец у свой бок, — тады, — немец падняў са стала толькі што падпісаную паперку, — тады ты падпісаў сабе і сваёй сям'і смяротны прысуд.

З цяжкім сэрцам выходзіў Лявон ад солтыса. Думалася: «Можа, і сапраўды падпісаў сабе прысуд? Але на ўсё воля Божая…» Зірнуў на Саньку і ўбачыў, як той, пераляканы, усё яшчэ перажываў і цiснуў галаву ў плечы, але твар пасвятлеў, ужо выглядаў больш спакойным.

— Папаша! — сібірак набраў у лёгкія паветра: — Спасіба табе агромнае! — Ён памкнуўся злавіць Лявонаву руку, схіліўся, каб пацалаваць, але той рашуча яго спыніў:

— Адчапіся, я не бацюшка ў царкве, каб цалаваць руку, не трэба. Ты толькі Фёкле не кажы пра тую паперу, што я падпісаў…

У гэтую хвіліну Санька зноў чамусьці ўспомніў сяброў, якія, калі пашанцавала застацца жывымі, пэўна, ваявалі недзе на фронце. Ім было цяжка, але яму хіба лягчэй? І тут адлегласць да смерці кароткая…

[1] Добра! *(ням.)*

## IX

Сталася такое, чаго Свісціян аніяк не чакаў. Спрыяў сам лёс: яго родныя Алешкавічы, дзе ён нарадзіўся і жыў, аказаліся раптам прыгранічнай вёскай: непадалёк прайшла «дзяржаўная» мяжа паміж утвораным немцамі «бэцыркам Беласток» і рэйскамісарыятам «Украіна», што ахопліваў і тэрыторыю паўднёвай Берасцейшчыны. У суседняй з Алешкавічамі вёсцы Лешня знаходзілася нямецкая пагранзастава. Брэст, такім чынам, апыніўся за мяжой, і калі выпадала па якой патрэбе ехаць у горад, то шлях вёў праз Лешню.

Даўно вядома, што чалавек паводзіць сябе так ці інакш у залежнасці ад сітуацыі і характару. Свісціян — чалавек пракідкі, рухавы і рызыкоўны. Не прывык абмінаць тое, што дрэнна ляжыць, і адразу зарыентаваўся ў новых абставінах. Савецкая ўлада, трэба сказаць, не спрыяла разгортванню падобных яго здольнасцей, але і пры Саветах Свісціян не спаў у шапку. Дарога ў Брэст была для яго добра вядомая, да вайны разам з пpускаўскім Хвядзюшкам ездзілі мяняць соль на газу, а цяпер Свісціян вырашыў пашырыць свой бізнес. У Брэст, за мяжу, выгадна было збыць прадукты — сала, мяса, садавіну, гародніну. У гараджан-берасцейцаў вялікі попыт на прадукты — толькі давай. З-за мяжы Свісціян валок хадавыя тавары: скураны абутак, шарсцяныя адрэзы на касцюмы і паліто, мыла, цыгарэты і інш. Пагранзаставу ў Лешні ён, вядома, абмінаў, яна і сапраўды была для яго лішняй. Жонка як бы і радавалася за мужаву ўдачу, але і трывожна папярэджвала:

— Ой, глядзі, Свісціян!

— Я гляджу, ліха яго матары, але і ты, Палага, трымай язык за зубамі! Дурніца! Мне шанцуе…

— Ой! — Палага перахрысцілася. Апошнім часам яна, можна было заўважыць, надта багамольная стала: і лоб пастаянна хрысціць, і рот, калі пазяхне, і Бога часта ўспамінае.

— Пакуль існуе гэтая граніца, Свісціян не прападзе! — выскаляў ён свае клыкаватыя зубы і часта шморгаў носам.

Небяспека яго як бы нават вабіла і неўсвядомлена прыцягвала да сябе, бударажыла і пеніла кроў. Але Свісціянава кантрабанда, як гэта і трэба было чакаць, неўзабаве стала вядомай — спачатку ў вёсцы, а потым і шырэй. Дазналіся пра яе і немцы з пагранзаставы і тут жа з'явіліся да яго ў Алешкавічы, у хату, але гаспадара дома не засталі.

— Дзе ён?! — вызверыўся на Палагу аднавокі афіцэр, які кіраваў гэтай акцыяй. Другое вока закрывала чорная скураная латка, падвешаная над ім.

— Адкуль жа мне ведаць? — разводзіла рукамі жанчына. — Ён такі, што заўсёды сам па сабе.

Гэта быў начны візіт, салдаты-памежнікі абшукалі хату, хлявы і клуню, свецячы кішэннымі ліхтарыкамі, але нікога і нічога не знайшлі. Безвыніковы вобыск іх дужа раззлаваў. Палагу вывелі ў двор.

— Дзе ён?! — працягваў на ўсё больш высокіх нотах дапытвацца аднавокі, упадаючы ў істэрыку. Ён дастаў з кабуры пісталет і трос ім перад носам сваёй ахвяры.

Жанчына стаяла перад ім босая, у адной сарочцы, збялелая, як палатно, рукамі затуляючы грудзі і твар. Яна і сапраўды не ведала, дзе дзеўся муж, бо Свісціян не меў прывычкі інфармаваць каго-небудзь, у тым ліку і жонку, аб тым, куды ён накіроўваецца — адзін ці з фурманкай. Тады афіцэр загадаў Палазе стаць ля сцяны і, істэрычна рагочучы, стрэліў некалькі разоў з пісталета. Кулі ўпіліся ў бярвенні над галавой, паляцелі трэскі. Палага як стаяла,

так і асела ля той сцяны. Як забіралі свінню, карову, лавілі курэй і гусей, не помніла. З гэтай Свісціянавай жыўнасцю памежнікі і паехалі. Аднавокі загадаў на развітанне:

— У наступны раз каб быў дома!

Невядома, чула ці не чула яна тыя словы, але калі праз тыдзень яны, як і абяцалі, прыехалі зноў, Свісціяна дома не было. Дадому ён не вяртаўся і хаваўся ў лесе, чакаючы, што ўсё мінецца і будзе, як было.

Нялёгкая справа — туляцца па лесе. Надта доўгай выдалася самая першая ноч, калі ён пакінуў хату і селішча. Гэта быў лес паміж Алешкавічамі і Млынамі, што цягнуўся ўздоўж Лосьны. У асноўным сасна. Бліжэй да ракі — алешнік, лазовыя карчы, крушына.

Свісціян падняўся на ўзгорак, пастаяў, пашкроб патыліцу, ссунуўшы на лоб шапку. Не стрымаўся, каб не мацюкнуцца. Сасновы лес яму яўна не падабаўся — залішне светлы, празрысты, нават, невядома ад чаго, вясёлы. «Здрадлівая — гэтая празрыстасць і весялосць. Нехта ўбачыць…» — з апаскай падумаў ён і падаўся далей, дзе пераважалі яліны. Яловы лес імпанаваў больш: пахмурнасць, змрок, насцярожанасць. Не, сярод такога лесу адчуваеш сябе лепш. Такі лес ён паважаў за цішыню і маўклівасць. Гоману не любіў — у гомане нічога не пачуеш. Ступаў асцярожна. Пад нагамі часам пахруствалі сухія сучкі, сасновыя шышкі, ігліца. За струхлелымі пнямі хаваліся познія грыбы. «І яны, бачыш, ад некага хаваюцца!» — круцілася ў Свісціянавай галаве. Часам ён наструньваўся, напружваў слых, вадзіў сваім мясістым, прыплюснутым носам, нібы абмацваў паветра. Густа патыхала грыбным духам, водарам падвялай травы, моху. Пужнуў саву, і яна паляцела над ельнікам кудысьці ўбок, няўмела махаючы крыламі.

Бяссонная ноч далася ў знакі: пацяжэлі павекі, і не толькі павекі, даймала стомленасць усё цела. Змарыўшыся, зняў з-за спіны торбу з папаскай і сеў на камень. Трава вакол была ў расе, а камень чамусьці сухі.

Звечарэла. З неба пазірала, нібы сачыла за ім, круглае вока поўні. Свісціян нават зазлаваў. Даймалі камары. На пачатку ён адмахваўся ад гэтых назойлівых стварэнняў, расціскаў даланёю, бязлітасна пляжыў, але потым быццам нават і прывык і перастаў з імі змагацца, як бы дабравольна саступіў сваё цела. Насмактаўшыся крыві, камары сыта адвальваліся і моўчкі падалі ў траву. Вынырнуўшы аднекуль і час ад часу на момант спыняючыся, праімчаўся заяц. Свісціян праводзіў шарака вачыма: «У поле пабег, ад камароў ратуецца. Як я ад немцаў, — змрочна падумаў ён. — А можа, пажывы шукае — лубіну якога пасохлага ці свежай азіміны? У агарод падавайся! У капусту! Капусту яшчэ не паспелі сабраць…»

Падумаў яшчэ, што варта выпіць самагонкі, — камары пап'янеюць ад гарэлачнага духу і адчэпяцца. Бутэлька першаку была ў торбе разам з харчамі — салам, хлебам і цыбуляй. Ён дастаў бутэльку, зубамі выняў драўляны корак і прыклаў рылца да вуснаў, задраў галаву. У горле забулькала. Праз хвіліну запякло ўнутры. «Пяршак! — прызнаў ён з задавальненнем. — Не благі, ліха яго матары, атрымаўся — бо сам гнаў. Сабе рабіў, усё адно як ведаў, што па лесе бадзяцца давядзецца…» З зайздрасцю ўзгадаў суседзяў, аднавяскоўцаў: «Ім, хамулам, не трэба хавацца. Цяпер, пэўна, і ў вус не дзьмуюць, ліха іх матары! Спяць! Не шанцуе на гэты раз чамусьці толькі мне аднаму. І пры той уладзе цярпеў, і вось зараз. Ніколі не думаў, што ўсё можа гэтак абярнуцца…»

Выпіў яшчэ, і пацягнула на сон. Наслаў яловых лапак, бярозавага галля, малінніку, пад галаву падклаў аброслае мохам бервяно. Атрымалася неблагое

лежбішча. У ім ён і праляжаў да раніцы. Пад раніцу адчуў холад — світка грэла слаба. Каб кажух, дык было б лепш, цяплей. Але трываў. Падняўся, калі сонца было ўжо над дрэвамі. Захацелася есці, аднак вырашыў пачакаць. Яшчэ крыху паляжаў, а потым усё ж такі ўстаў, паснедаў з торбы і асцярожна пасунуўся ў іншае месца. Выйшаў да ракі. Зняў боты, пераматаў анучы, зноў абуўся і агледзеўся па баках. «Ненадзейнае месца! — засвідравала ў галаве палахлівая думка. — Тут не цяжка і злавіць. Прыціснуць да ракі і зловяць, не ўцячэш…» Ад ракі падаўся ўглыб, у гушчыню заraснікаў, дзе меней было рызыкі каго-небудзь сустрэць. Баяўся не толькі немцаў, але і вяскоўцаў.

Пад нагамі валялася нямала рознай зброі, але ён, не бачачы ад яе карысці, не звяртаў увагі, абмінаў. Харчаваўся тым, што было ў торбе. Эканоміў. Даўно заўважыў, што лясное паветра падвышае апетыт і ўзмацняе пачуццё голаду. Таму стрымліваў сябе. Калі прыпасы скончыліся, перайшоў на падножны корм, кідаў у рот ужо звялыя чарніцы, спелую ажыну, трушчыў у ляшчыне даспелыя, пукнатыя арэхі. Зрэдку, у розных месцах, выходзіў на ўскрай лесу, прыслыхоўваўся. Паводзіў сябе ціха, памятаючы, што лес чуе, а поле бачыць. Асцярожнасць ніколі не зашкодзіць. Так працягвалася з тыдзень, а можа, і болей, і ён не вытрымаў. Выбраўшы цёмную ноч, завітаў дадому. У хату — яна стаяла крыху ў баку ад вёскі — зайшоў не адразу, доўга сачыў, стаіўшыся на агародзе, ці няма засады. Падабраўся бліжэй і з-за плоту грудкай зямлі пацэліў у дзверы, стаў чакаць. Прайшоў яшчэ нейкі час, і дзверы адчыніліся, паказалася Палага, паўзіралася ў цемрань.

— Па-ла-га! — зашаптаў ён амаль аднымі вуснамі і чамусьці па складах, але жонка пачула адразу.

— Ты?

— Я.

— Заходзь! Нікога няма, — зычна прашаптала ў адказ. Ён пералез праз плот, падышоў, і яны накіраваліся ў хату.

На кухні Палага занавесіла акно і запаліла лямпу, прыкруціўшы кнот. Баязліва паўзіралася ў худое, насцярожанае і натапыранае аблічча мужа, у густое шчаціннe, што адрасло на твары. Ля носа выразна абазначыліся глыбокія складкі. Світка злямцаваная і падраная на рукавах.

— Распранайся, скідай світку!

— А яны былі?

— Былі. Учора былі. Жандармерыя з Дзям’янчыцаў.

— Ну?!

— Страшылі! Дужа страшылі!

— А ты не бойся!

— Ой! — ледзь не прастагнала жанчына. З вачэй пырскнулі слёзы, і яна пачала выціраць іх далонню.

— Пабудзь пакуль тут, а там куды-небудзь, ліха яго матары, з’едзем. Можа, нават да Берасця. У горадзе будзеш жыць на ўсім гатовым, як паня.

— Як паня?

— А што?

— Калі ж гэта будзе?

— Будзе.

— Можа, толькі абяцаеш?…

Ён павысіў голас, як бы ўзлаваўся:

— Ты мяне ведаеш! — Памаўчаўшы, дадаў: — Мне таксама цяжка. Жыву ў полі як воўк. — Пабаяўся сказаць, што цягаецца па лесе, каб і яна не ведала, дзе ён. Не ведала і, калі што, не выдала. Цяпер нікому нельга верыць.

— Але, але, — спачувала Палага.

Яны нейкі час маўчалі, быццам не было пра што гаварыць.

— Ну, Палага, я ў цябе заседжвацца не буду. Пакладзі мне што з сабой, у торбу. Сала, хлеба, шчэ чаго. Цыбулі. Солі не забудзь, без солі дрэнна. Малака бутэльку. У полі, ці яшчэ дзе, спатрэбіцца. І яшчэ вось што? Апрану я кажушок. Ён хоць і стары, і латаны, але лепш за світку.

Той жа ноччу ён зноў падаўся ў лес.

— Ну, чакай! — сказаў на развітанне.

У яго была тая асаблівасць, што ён ніколі не думаў аб наступствах сваіх дзеянняў — ні для сябе асабіста, ні для каго іншага. Але за сваё жыццё баяўся. Вельмі баяўся: «Падавацца ў Брэст? А хто там яго, ды яшчэ разам з Палагай, чакае, апроч тых жа немцаў. Знойдуць, навядуць спраўкі і — хана! Не, з імі мне не трэба сустракацца…»

Бадзяўся па лесе, па глухіх закутках, не паказваючыся дадому. Ноччу доўга ляжаў, узіраючыся ў лясную цемень з трывогай і затоеным страхам. Услухоўваўся ў кожны шорах, і кожны няясны гук прымушаў насцярожвацца. Ад лёгкага ветру ціха шумелі сосны, крычала ў лесе нейкая птушка. У небе гулі самалёты. Пачаў накрапваць дождж, і ён напяў на галаву і плечы мяшок, склаўшы яго рог у рог, як гэта рабілі пастухі ў слату ля кароў. Мяшок паклала яму з сабой Палага, прадугледзеўшы, што можа спатрэбіцца. «Усё ж такі шкадуе, — думаў ён, — не была б то жонка».

Вырашыў на ўсякі выпадак узброіцца. Прыглядаўся да таго, што валялася ў лесе, і выбраў вінтоўку, зусім новую яшчэ, СВТ — сем патронаў у магазіне. Даўгаватая, праўда, але затое мацней бабахне і куля далей паляціць. Потым падняў яшчэ і пісталет ТТ, і наган. Вінтоўку павесіў на шыю, а пісталет і наган па ўсіх правілах прымацаваў да сырамятнай дзягі, якую таксама знайшоў тут жа ў лесе. Зброя ўзняла настрой. «О, цяпер іншая справа! — падумаў ён, бо зброю паважаў здаўна і зайздросціў тым, хто яе меў. — Націснуў цэнгель[1] — і няма чалавека. Каб яшчэ пару гранатаў…»

Змайстраваў у карчах невялікі будан, лёг, паклаўшы вінтоўку побач. Перад гэтым загнаў патрон у ствол і паставіў затвор на засцерагальнік. «Так будзе надзейней!» — вырашыў ён. Будан ратаваў ад дажджу і ветру, але мог быць заўважны для чужых вачэй, асабліва калі ападзе лісце і лес аголіцца. Тады і ў лесе далёка відаць. Цюкнула думка выкапаць схрон, накшталт зямлянкі, прытулак ад чужых вачэй і ад непагоды. Вырашыў наведацца дадому — узяць папаску, а заадно рыдлёўку і вядро, каб ладаваць такі схоў і выносіць у іншае месца зямлю.

У свае Алешкавічы накіраваўся, як і ў той раз, ноччу, але замест хаты застаў папялішча, яшчэ свежае. Унутры нешта абарвалася. Вачам сваім не паверыў. Сцяўшыся, доўга стаяў над дагараўшым вуголлем, згробшы з галавы шапку, але не вытрымаў, застагнаў, скрыгатнуўшы зубамі, і асеў на попел. Адчуў, як па скронях і па твары пацяклі ручаіны халоднага поту. Гаспадаркі як і не было. Авечкі ў хляве — і тыя згарэлі. Алешкаўцы, што сабраліся навокал, пазіралі на яго як на гаротніка, але ніхто не асмельваўся падысці, закрануць ці што-небудзь сказаць. У такім няшчасці, мусіць, нават спачуванне было б не да месца. Потым Свісціян даведаўся ад вяскоўцаў, што немцы, апроч таго, што спалілі хату з усёй гаспадаркай, забралі яшчэ і Палагу як заложніцу. Люта білі. Алешкаўцы яшчэ не бачылі, каб так люта катавалі чалавека. Асабліва стараліся паліцаі, сярод якіх быў і Аўстрыец, які жыў у Ратайчыцах і служыў пры паліцыі за фурмана.

[1] Цэнгель — спускавы кручок.

У Дзям’янчыцы, у пастарунак, Палагу гналі распранутую да кашулі і босую, цкавалі сабакамі, а хату падпалілі на яе вачах.

Трымалі Палагу ў тым пастарунку, спадзеючыся, што з’явіцца сам Свісціян.

Свісціян, дазнаўшыся пра ўсё, раз’юшыўся. «Гэтага я так не пакіну. Вырадкі! Я не я буду, калі не адпомшчу! Адпомшчу! За мной не заржавее!» — загарэўся ён. Сэрца прагнула помсты. Але потым, вяртаючыся ў лес, крыху ахалоніў: «На пачатку трэба падумаць, як самому быць, куды прыткнуцца? Ні кала ні двара. Як, ліха яго матары, жыць?» І ён вырашыў: трэба будаваць лясны схоў. Схавацца, а там відаць будзе, бо спадзявацца на кагосьці, апроч сябе, не даводзілася. А хто дапаможа, калі сам сабе не дапаможаш! Шукаў неруш, гушчар. Знайшоў. Побач струменілася неглыбокая ручаіна, якая ўпадала ў Лосьну. Вада ў ручаіне халодная і празрыстая, відаць каменьчыкі на самым дне. Непадалёк, на пагорку, на схіле, зручна было капаць зямлянку, а зямлю насіць у ручаіну. Свісціян стаў думаць, што патрэбны прылады — рыдлёўка, вядро, сякера… Вось тут ён і ўспомніў пра свайго старога прыяцеля Хвядзюшку Шпунта з Прускі. Выбраўся да яго ноччу. Пруска знаходзілася па той бок Лосьны, за ракой. Закінуў за пляча СВТ, да пояса прыладаваў з аднаго боку кабуру з наганам, а з другога — кабуру з ТТ. Чоўна знайшоў у затоцы насупраць Бранавіч. Пераплыў, вяслуючы выпадковым дручком, што трапіў пад рукі. Ля ракі зноў прывязаліся, як бы чакалі яго, камары, тут яны былі асабліва бязлітасныя, і Свісціян доўга, аднак беспаспяхова ад іх адбіваўся, падняўшы каўнер кажушка і глыбей насунуўшы шапку.

Хвядзюшкава хата стаяла ў сярэдзіне вёскі, але крыху наводшыбе, адсунуўшыся ў карчы. Хата старая, пахілая, нізка прытулілася да зямлі. Гаспадар, вядома, спаў. Палахліва азіраючыся, Свісціян падабраўся бліжэй. Крыху счакаў і вырашыў падаць умоўны сігнал — заквакаў жабай. Раз, два, тры — квакнуў, крэктнуў, потым паўтарыў сігнал. Пачакаўшы, паўтарыў зноў. Нарэшце з хаты выпаўз сонны Хвядзюшка, колькі часу стаяў на парозе, потым выйшаў на падворак і стаў мачыцца проста на траву, чуйна ўслухоўваючыся ў навакольныя гукі. Свісціян падышоў яшчэ бліжэй, і Хвядзюшка пазнаў яго, але доўга ўзіраўся ў твар, у паношаны кажушок, перацягнуты на жываце сырамятным рэменем, на якім па абодвух баках целяпаліся дзве кабуры — пісталет і наган. Выгляд у нечаканага госця быў такі, што ён, мабыць, ужо даўно забыўся, калі стрыгся і галіўся. Ад яго патыхала цыбульным потам і яшчэ чымсьці нясвежым, пракіслым.

— Свісціян?

— Цішэй!

— Ты?

— Ледзь камары не з’елі! — паскардзіўся начны госць, папраўляючы СВТ, што важка вісела ў яго пры баку. Гаварыў ён глухім натужным басам, у якім адчувалася крыўда на ўвесь свет.

— Дык, можа, у хату заходзь? — няўпэўнена запрасіў напалоханы Хвядзюшка, пакасіўшыся на Свісціянаву вінтоўку і дзве кабуры, што адцягвалі сырамятную дзягу.

Госць адмоўна пахітаў галавой.

— Не, няма часу.

— У цябе, я чуў, гора…

— Спалілі. Палагу, ліха іх матары, у пастарунак забралі… Я, ведаеш, чаго да цябе прыйшоў? Пазыч мне вядро і рыдлёўку.

— Вядро і рыдлёўку? А нашто?

— Трэба. Датумкаў?

— Ну, раз трэба… А можа, вяртайся ды ў вёсцы жыві?

— Мне, каб ты ведаў, назад ходу няма. — У знак канчатковасці свайго рашэння Свісціян шматзначна пахітаў галавой.

— А можа ў мяне перакантуешся?

— Паглядзім, а пакуль што давай, што прашу!

Хвядзюшка доўга корпаўся ў хляве і ў хаце, але нарэшце прывалок і паставіў перад Свісціянам вядро, каля вядра паклаў старую лапату.

— А сякера ў цябе ёсць?

— Ёсць, але…

— Скажаш Пахолку — ён табе другую сякеру выкуе! — перабіў яго начны госць.

Хвядзюшка прынёс, азіраючыся па баках, і сякеру.

— А што я быў у цябе — нікому ні слова! Зразумела?

— А то я сам не ведаю.

— Дай, калі ёсць, з харчу што… і тытуню!

Хвядзюшка вярнуўся ў хату і, не доўга там затрымаўшыся, вынес поўбохана хлеба, спечанага на капусных лістах, скрутачак з тытунём. Усё працягнуў сябру.

— І гэта ўсё? — не зразумеў Свісціян. — А да хлеба? У цябе ж напэўна і сала ёсць, і гарэлка? Ты ў сваім розуме? Чалавек у бяду трапіў…

— Гарэлка ў мяне на гэты раз дрэнная, падгарэла.

Свісціян незадаволена шморгнуў носам і павярнуў галавой, нібы шкадуючы, што даводзіцца мець справу з такім, бачыце, дурнем.

— Сала і гарэлка не могуць быць дрэннымі, — павучальна сказаў ён і дадаў: — Без гарэлкі, браце, у лесе дужа маркотна.

Хвядзюшку нічога іншага не заставалася, як яшчэ раз схадзіць у камору і прынесці шматок сала і пляшку самагонкі. Свісціян моўчкі кінуў усё ў торбу, тытунь схаваў у кішэню і, падаўшы на развітанне руку, з усім начыннем падаўся ў бок карчоў.

Сябар дагнаў.

— Пажыві ў мяне ў хляве на вышках, ніхто ведаць не будзе! — зноў прапанаваў ён.

— Ну, пабачым!

Чалавек меў намер капаць сабе схоў. Па часе даведаўся, што Палага ў той катоўні, у Дзям'янчыцах, і памерла. Як заложніца.

***Працяг будзе.***



## Кастусь ЖУК

### РАНАК НА ПРЫПЯЦІ

Нібыта
чорнай глюгаю груган
Праклюнуў неба шкарлупу на ўсходзе:
Паўсюль яшчэ паўзмрок, густы туман,
Ды сонца
новы дзень
вось-вось народзіць.

Яно —
Магічны неба залатар —
Ужо вачэе
над каронай дрэваў,
І лес —
Чароўных зыкаў валадар —
Ажно зайшоўся
ад птушыных спеваў.

Крыляй-люляй,
птушыны веснаход,
Мелодыю жыцця,
надзей акрасу!
Праплыў па рэчцы зданню цеплаход —
Пасуцца святлацені
самапасам.

---

***Жук Канстанцін Якаўлевіч*** *нарадзіўся 2 мая 1954 года ў вёсцы Затур'я Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці. Пасля заканчэння Сейлавіцкай сярэдняй школы служыў у Савецкай Арміі, працаваў наладчыкам, электразваршчыкам на Мінскім трактарным заводзе. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1981) і Мінскую вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПБ (1988). Быў літсупрацоўнікам газеты «Чырвоная змена», карэспандэнтам шматтыражкі «На стройках Минска», рэдактарам на Беларускім тэлебачанні, старшым рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Планета маёй душы» (1982), «Зямная ноша» (1988), «Пладаносны агонь» (1991), «У найме ў сонца» (1991), «Галгофа» (1997) і інш.*

*Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Рэспублікі Беларусь (1999).*

У траў
          пазалацела барада.
Пазалацелі качкі
                              ў спудным лёце.
І залатая ў Прыпяці вада.
І ўсё наўкол —
                         у мройнай пазалоце.

## ВЁСКА

А ўсё было, нібыта ў сне,
І ўсё было — навідавоку:
Ярыла глянуў на мяне
Асветлена-ўрачыстым вокам.

І варушэнне мурашоў,
І сцежак вузкія палоскі —
Я, прасвятлелы, ўсё знайшоў
На ўскраіне драўлянай вёскі.

Там — весніц рып. Там — вёдраў стук.
Лясны гушчар ласём рыкае.
Там дзяцел адаб'е «тук-тук» —
Ад шчасця сэрца загукае.

Вясной — сустрэла старана.
Слязой — сустрэлі мама, тата.
Я ўспомню ўсё да рызмана
У роднай хаце небагатай.

## САЛДАТ

***Паўлюку Пранузу***

І сотую долю вайны
Я не ўяўляю без болю:
Віск «месսераў»…
Прысмерк скразны…
Ад выбухаў
Дыбіцца поле…

Ніяк
Не ўцячы ад жуды —
Жуды-дамавіны, —
Бо
Нават у снах праз гады —
Бомбы…
              Снарады…
                              Міны…

## ДРЫВАСЕК

А грымоты ўсё бліжай і бліжай.
А маланкі —
як нервы напятыя.
І, нявольнікі хмары рыжай,
Дрэвы ўздрыгваюць расахатыя.

Дуб
стагоддзі ствала растрывожыў —
Ён не раз быў маланкаю хрышчаны.
Ад залевы схаваўся вожык,
І нырнула ў нару
ліска рыжая.

Толькі дзед Яўхім не хаваўся:
Думаў думу
і слухаў вечар.
Ён за дзень
гэтак напрацаваўся,
Што хапіла б — на цэлую вечнасць.

## ПРЫНЦЭСА ЛЕСУ

Парыжэла
Сівізна ракі
Немачна і ціха…
І бярэ нядоедкі з рукі
(З далані!) ласіха.

Апаўю прастор я
Цеплынёй,
Падкажу ёй, смелай,
Што за кожнай
Гэтай дабрынёй —
Стрэлы,
стрэлы,
стрэлы…

Адыдзі,
Харошая,
Ў кусты,
Уцячы, Прынцэса.
Абыдзі
(Падалей ад бяды)
Гэты полаг лесу.

Тут
Вачэюць дрэвы і кусты

І трава страляе, —
Што́ з таго забойцам,
Што ёсць ты,
Лесу Прасвятая?!.

У Прынцэсы Лесу
Да цянёт —
Толькі пару крокаў,
Ды грыміць
Вінтамі верталёт
Збоку,
        збоку,
                збоку…

Недзе поруч
Вухкаюць грамы
Лосевым рыканнем.
І імчыць
Ласіха на дамы —
Там выратаванне.

Уратуюць людзі ад бяды,
Людзі — праўды суддзі.
Пачакае лось. Ён — малады.
Верным Прынцам будзе.

Ды дагнала
Куляў стракатня
Між імхоў ласіху.
І стаяла доўга
Цішыня,
Амярцвела-ціха…

## ЭМІГРАНТ

Я сёння — нічыйны.
Я — сам па сабе,
Як след ад машыны,
Як дрозд на вярбе,
Як вецер у вецці
Плакучых бяроз,
Як морак дасвецця,
Як музыка кроз.
Нічыйны, нічыйны,
Як пошчак шпачыны,
Што ўраз беспрычынна
Пакінуў айчыну…

## СТАЛЕННЕ

Сумуй, як дзіця,
А ці плач у ахвоту, —
На ўхабах жыцця
Сум і слёзы —
Работа,
Бо думкі —
Бруяцца,
Бо лёс —
Поўны кроз.
Захочаш смяяцца —
Дык смейся
Да слёз.

## ЦАРЫЦА

Я захлынаўся б ад спорнага ліўня,
Поўнае поўні
і спелага жніўня,
Мокрых аселіц
і спеўных мяцеліц,
Ад мурагоў
наймякчэйшай пасцелі.

Толькі няма найпачэснай нагоды
Жыць — не тужыць,
наталяцца прыродай,
Бо
спапялелі душы святлазоры,
Бо
апусцелі дум медазборы.
І вісажары
ўпалі на плечы,
Мой абцяжарыўшы
лёс чалавечы.

Крычма крычу я алёсам, і плёсам,
І сіняпёсам,
і жаўтапёсам,
Каб адшукалі
цябе ў жыццяплыні,
Крокі адчуўшы
вольнай багіні.

Мне без цябе —
не адбыцца, не збыцца…
Дай жа
табой азарыцца,
царыца!

## КАЛЯДНАЕ — КАЛІНЕ

Хоць і гарчыць мне
Твой на вуснах пацалунак,
Але люблю цябе, гаючую,
Спаўна —
Святочна днеюць
І жыцця святлеюць руны,
Калі з мядком
Захмеліць трунку круцізна.

Свой горкі неруш
Не хавай знарок,
Каліна, —
Дай адгавецца
Даўкай чырванню жывой.
Я папрашу,
Каб ты гады развесяліла,
Што апантана
Сёння крочаць за спіной.

На слодыч ветраных уцехаў
Не багаты, —
Спазнаў
Дакучлівых самотаў
Поўны дом.
Не першым хай,
Але пачэсным стане свята,
Калі са мной
Пакалядуеш за сталом.

Прабач, каліна,
За мае грахі-правіны:
Жыццё цугляю,
Разняверыўшыся ў ім…
Ты забяры,
Ты замалі грахі,
Каліна,
Бо ўсё астатняе, зняверыстае —
Дым.

* * *

Няхай
спрут гадоў
ператрушчвае плоць
І смерць, як сляпняк,
за маімі плячыма, —

Хачу
ў жорнах думак
перамалоць,
Што вызнаў душою
і ўбачыў вачыма.

Ад неба шклянога
і выстылых зор
Да мамінай хаткі,
збуцвелай, пахілай, —
Не мой гэта ўжо
маладзецкі дазор…
Маўчу,
бо стаміўся,
як крыж над магілай.

Сябе суцяшаю: ачышчу душу
(Не вельмі скупы я ўжо
на ачышчэнне).
Ды зноўку грашу,
і грашу,
і грашу…

А жыць-то — імгненне.



Валянціна КАДЗЕТАВА

# ТАННАЕ ЗОЛАТА

*Аповесць*

Пушыстыя зайчыкі, пацешныя малпы, царэўны-жабы ў «залатых» каронах — усё па-святочнаму яркае, заманліва прыгожае, амаль казачнае.

Некалі, вельмі-вельмі даўно, яшчэ ў *тым* жыцці, я заўжды, калі прыязджала ў горад, абавязкова хоць на хвілiначку забягала сюды, у чароўнае каралеўства, над уваходам у якое вялікімі вясёлымі літарамі было напісана: «Рынак футравых цацак».

Аднойчы я ўбачыла тут дзіўнае мядзведзяня: яно — адно-адзінае на ўсім рынку — было не звычайнага карычневага, а пяшчотна-бэзавага колеру. Мне падалося, што яму тут няўтульна з-за сваёй непадобнасці да іншых мішак, і я купіла яго. Вось і цяпер знайсці б што-небудзь такое ж кранальна-мілае для маёй дачушкі Надзейкі.

Кожны раз, калі я ўзіраюся ў смуглявы Надзейчын тварык з чорнымі вачанятамі і ярка-ружовымі пялёсткамі-вуснамі, бясконцая, як Сусвет, пяшчота перапаўняе мяне, і я — у каторы раз! — радуюся, што засталася вернай сабе, не паслухала ўгавораў-парад шматлікіх маіх «зычлiўцаў» пазбавіцца ад «чужаземнага плоду».

«Ды гэта ж маё роднае, мая часцінка», — пярэчыла я, а сэрца разрывалася ад пакутлівых сумненняў: ці даруе Бог мой ненаўмысны, але вялікі грэх? Я ж нават не магу пэўна сказаць, хто ён, бацька майго будучага дзіцяці і якім маё дзіцятка народзіцца…

На шчасце, Надзейка з’явілася на свет здаровенькай і прыгожанькай. Зрэшты, усім бацькам іхнія дзеці здаюцца самымі прыгожымі. Адно засмучае: нашы пасялковыя дасціпнікі паспелі ўжо даць маёй малышцы мянушку з вельмі крыўдным для мяне падтэкстам. Мне, вядома, гэта вельмі непрыемна, але я не паказваю выгляду і спадзяюся, што з часам тая мянушка забудзецца.

Заўтра ў Надзейкі дзень нараджэння, і я выбіраю ёй падарунак. Нічога падобнага да таго пяшчотна-бэзавага мядзведзяняці я так і не знайшла.

---

*__Кадзетава Валянціна Мікалаеўна__ нарадзілася 17 красавіка 1951 года ў вёсцы Мікалаеўка Добрушскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага (1975). Працуе настаўніцай ў Лукскай сярэдняй школе на Жлобіншчыне.*

*Аўтар кніг прозы «Ад кахання не паміраюць» (1996), «Ля трох пуцявін» (1998), «Шкляная зорка» (2008).*

Можа, купіць вось гэтага беленькага калматага сабачку? Не, лепш коніка на гушкалцы. Ці, можа… А гэта што? Ды што ж гэта?!. Няўжо *зноў*?!. Я заплюшчваю вочы. Ядавіта-зялёнае, шыракаротае, з лейкамі-вушамі вычварнае стварэнне — цацка-вырадак, мутант, народжаны нечай хворай фантазіяй, *зноў* матляецца над маім тварам. Вусны мае перасохлі ад страху, галава, ажно да хрусту шыйных пазванкоў, адкінута назад, і я *зноў* сцінаюся ў чаканні *першага,* пакуль нязведанага болю.

Але болю няма, і я асцярожна расплюшчваю вочы. Не, ядавіта-зялёны мутант не прымроіўся мне. Больш таго: перада мною, можа, дзясяткі два такіх цацак-вырадкаў з агіднымі вушамі-лейкамі.

— Дзяўчынка (гэта я дзяўчынка?!), табе блага? — ружовашчокі твар з сінімі, нібы майскае неба, вачыма набліжаецца да майго, відаць, спалатнелага твару.

— Дзякуй, усё нармальна, — з палёгкай уздыхаю я і ківаю на зялёных «мутантаў»: — Гэта што ў вас за страшылкі такія?

— Ну, дзяўчынка (зноў «дзяўчынка»!), ты мяне здзіўляеш! Гэта ж — шрэкі! Я імі ўжо амаль два гады гандлюю, бо яны з моды не выходзяць. Калі ў цябе ёсць малыя брацік ці сястрычка, купі шрэка. Вось убачыш — ім спадабаецца.

— Не, штосьці не хочацца мне мець у сваім доме такую цацку.

— А давайце я вам дапамагу выбраць што-небудзь вартае, — чуецца мужчынскі голас. — У мяне якраз і час вольны ёсць.

Начышчаныя да бляску шыкоўныя чаравікі топчуцца ля мяне, але я моўчкі кіруюся да прадаўца сабачак, што стаіць насупраць. «Чаравікі» сунуцца следам і штосьці гавораць, гавораць… Я адзначаю сама сабе, што ў дадатак да сваіх шматлікіх хібаў мужчыны яшчэ і псіхолагі «ніякія»: няўжо «чаравікі» не бачаць, што ў маім выпадку ніякія захады не могуць мець поспеху? Ні мужчынскія чаравікі, ні іхнія гаспадары не цікавяць мяне. Зусім не цікавяць. Не падумайце, што я якая-небудзь сучасная амазонка і што я ганаруся сваёй абыякавасцю да мужчын і да кахання ўвогуле. Не, мне *хочацца хацець* быць каханай, *хочацца хацець* кахаць, але я *не магу і не ўмею* гэтага хацець. Я страціла адно з галоўных жаночых жаданняў, і не ведаю, ці ўваскрэсне яно ўва мне калі-небудзь, ці я так і застануся «інвалідам жыцця».

Яшчэ ўчора я была ўпэўненая, што час вось-вось вылечыць мяне: мне ўжо амаль перасталі сніцца сны пра *тое*, я ўжо не плачу па начах, я ўжо спыняюся ля вітрын з касметыкай, а нядаўна нават купіла памаду ў прыгожым цёмнасінім з бліскавінкамі-зорачкамі футлярчыку.

Але сёння *тое* зноў зірнула на мяне вочкамі-разынкамі, ашчэрылася брыдкім бязгубым ротам ядавіта-зялёнага мутанта і пачало бязлітасна раскручваць стужку маёй памяці…

* * *

Маім першым мужчынам стаў шафёр-дальнабойшчык. Бачыла я яго ўсяго адзін раз, але наўрад ці ўдасца мне хоць калі-небудзь сцерці з памяці немалады, у фіялетавых пражылках твар, мітуслівы позірк мутна-шэрых вачэй і парослыя рудой поўсцю рукі, што пажадліва абмацвалі мяне. Я не крычала і не супраціўлялася, бо гэта было б смешна і недарэчна: ён жа не гвалціў мяне — я сама назвала цану за часовае карыстанне маім здранцвелым ад жудаснага страху целам.

Над маім тварам з перасохлымі ад страху вуснамі, над маёй галавой, адкінутай назад ажно да хрусту шыйных пазванкоў, боўталася на тонкім шнурку

ядавіта-зялёнае, шыракаротае стварэнне, цацка-вырадак, мутант, народжаны нечай хворай фантазіяй. Мутант глядзеў на мяне вочкамі-разынкамі і, здавалася, здзекліва ўсміхаўся брыдкім бязгубым ротам.

Мне было вельмі страшна і балюча, і той *першы*, раней нязведаны боль пераліваўся ў нянавісць, якая, не вытрымліваючы сілы свайго бяссілля, разляталася на сотні, тысячы аскалёпкаў-праклёнаў *усім ім*.

Мой першы мужчына, відаць, вельмі спяшаўся, бо нават не заўважыў (а можа, не захацеў заўважыць), што ён — першы.

Потым у мяне пачалася істэрыка, і мая «напарніца» Ірына біла мяне па шчоках, а калі ўсё зразумела, плакала разам са мною, прасіла ў мяне прабачэння — хаця гэта я павінна была прасіць у яе прабачэння! — і раз-пораз паўтарала: «Танечка, мілая, я ж не ведала, што ты ў свае дзевятнаццаць… І яны не ведалі. Калі б ведалі, можа, пашкадавалі б».

Яны пашкадавалі б! Быццам Ірына сама не бачыла, як гэтыя нелюдзі шкадуюць нас!

У той дзень я паклялася, што знайду таго, з чые ласкі мы трапілі сюды. Знайду і «аддзячу». І маю «падзяку» ён будзе памятаць усё сваё мярзотнае жыццё.

* * *

У дыскатэчнай зале, перапоўненай п’янаватымі і зусім п’янымі падлеткамі, я адчувала сябе, мякка кажучы, няўтульна. Сто гадоў патрэбна была б мне гэтая дыскатэка, калі б не Наташа, мая сястрычка-васьмікласніца, якая з нядаўняй пары падманам («… я да Светы, ля камп’ютара пасядзець») збягала на гэтыя «танцы». У мінулую суботу яна прыйшла дадому апоўначы і — самае жахлівае! — ці то на падпітку, ці то ачмурэлая ад якіх-небудзь «экстэзі».

Я неахвотна і зусім не ў такт аглушальнай музыцы перабірала нагамі і раз-пораз пазірала на дзверы. Наташы не было. Можа, хітруга здагадалася пра мой намер заспець яе «на месцы злачынства», а можа, хто з сяброўак, убачыўшы мяне, патэлефанаваў ёй.

Баюся я за яе. У нашым пасёлку ёсць чаго баяцца. Не, бандытаў тут, дзякуй богу, няма, але, кажуць, ёсць страшнейшае — СНІД. Наш пасёлак нібы пракляў хто. Звычайны рабочы пасёлак, але зноў жа кажуць, што ў нас людзей з венерычнымі захворваннямі нібыта больш, чым дзе ў раёне. І хто яны, мы не ведаем. Ходзім, дыхаем адным з імі паветрам, запэўніваем сябе, што «пры бытавых адносінах *гэта* небяспекі не ўяўляе, інакш усіх іх трымалі б за калючым дротам». Суцяшаем сябе, а ў глыбіні свядомасці агіда і страх, страх і агіда…

Некалі я вельмі любіла свой пасёлак — спакойны, чысты, летам увесь у зяляніне. За ваколіцай — бліскучае люстэрка возера, аздобленае срабрыстазялёнымі карункамі вербалозу. І — лясы, лясы… Для мяне, зацятай аматаркі «ціхага палявання», гэта як дарунак лёсу. Толькі-толькі маладыя бярозкі, што растуць пад акном нашага дома, пачынаюць цешыць вока сваім яшчэ празрыстым нясмела-зялёным уборам, я са светлай радасцю, якую можна параўнаць хіба што з радасцю першага спаткання, бягу па даўно не ходжанай утравелай вузкакалейцы па майскія грыбы. Майскія, ці як іх па-навуковаму называюць, георгіеўскія грыбы, пахкія, крамяныя, колеру адтопленага малака — гэта самыя першыя з грыбоў «нармальных» (розныя там смарчкі-страчкі я і пад увагу браць не хачу). А пройдзе два-тры тыдні, і ярка-аранжавымі ліхтарыкамі загарацца ў прысадах і на ўзлесках прыгажуны падасінавікі ды павысоўваюць з высокай травы матавыя светла-карычневыя шапачкі сціплыя падбярозавікі. А там чарга і за галоўным грыбным дзівам — баравікамі-чорнагаловікамі,

якіх ва ўраджайную восень на Зялёнай Горцы процьма. Я ўжо не кажу пра ягады: суніцы, ажына, маліна, чарніцы, чорная рабіна…

Не, ніколі не ўзнікала ў мяне жаданне з'ехаць адсюль, таму пасля заканчэння каледжа я вярнулася ў свой пасёлак і ўжо другі год працую ў бібліятэцы. Праца мая мне падабаецца. Я сама вельмі люблю чытаць і кожнаму, хто прыходзіць у бібліятэку, дапамагаю выбраць кніжку па гусце і, калі чытач гаворыць, што кніга яму спадабалася, радуюся нібы сама аўтар твора, які спадабаўся чытачу. Мне хацелася б пайсці вучыцца далей, але нас у маці трое. Так, у маці. Бацька наш не здабытчык і не памочнік. Можа, маці пакінула б яго, але нашу двухпакаёвую кватэру на дзве аднапакаёўкі без даплаты не разменяеш. А дзе яе ўзяць, тую даплату?..

Неўзабаве я зразумела, што чаканне маё марнае, скіравалася да дзвярэй і твар у твар сутыкнулася з маладым, даволі прыстойнага выгляду мужчынам.

— Прабачце, — сказаў ён, саступаючы мне дарогу.

Я зірнула на яго і, уявіўшы, як ён у сваім строгім цёмным касцюме, белай сарочцы і гальштуку будзе выглядаць сярод галапупай, ускудлачанай дыскатэчнай публікі, ледзьве стрымалася, каб не засмяяцца. Мужчына здзіўлена ўзняў бровы. Збянтэжаная, я прамармытала «гэта вы прабачце» і паімкнулася да выхаду, але ён спыніў мяне:

— Скажыце, калі ласка, у вас тут заўжды такі кантынгент?

— Які — такі? — перапытала я.

— Ну, так бы мовіць, празмерна юны.

Я, незадаволеная тым, што мне не ўдалося выкрыць сястру-падманшчыцу, не зусім ветліва прамовіла:

— Калі вас цікавіць больш сталы, як вы сказалі, кантынгент, то схадзіце ў дом састарэлых. Ён, дарэчы, тут недалёка, у Бараўцах. Там па выхадных таксама бываюць дыскатэкі.

— Вам хтосьці сапсаваў настрой? — прыязна ўсміхнуўся мужчына.

Я паглядзела на яго больш уважліва. Сімпатычны, акуратна паголены і, здаецца, хоча пазнаёміцца. Мяне гэта ўсцешыла, бо ад празмернай мужчынскай увагі я не пакутавала. Хутчэй наадварот — мне яе, гэтай увагі, не хапала. Я ніяк не магу зразумець прычыны гэтых, так бы мовіць, халаднаватых адносін да мяне прадстаўнікоў супрацьлеглага полу і, калі мне выпадае застацца дома адной, доўга і ўважліва разглядаю сябе ў люстэрку. Ну, здаецца ж, дзяўчына як дзяўчына: вялікія зеленавата-шэрыя вочы, выразна акрэсленыя вусны, густыя светла-русыя валасы і матавая, без аніводнай плямінкі скура. Праўда, рост у мяне не мадэльны і пышнасцю формаў я не вызначаюся, але ж колькі наўкол такіх, як я, «тонкіх і звонкіх», а кавалераў у кожнай з іх — гаць гаці!

На вуліцу мы выйшлі разам. Вадзім — так зваўся мой новы знаёмы — сказаў, што на дыскатэку трапіў выпадкова: ехаў праз наш пасёлак у горад, спыніўся ля вячэрняга магазіна, каб купіць цыгарэт, пачуў музыку і зайшоў паглядзець, як весяліцца моладзь.

— Ну і як? — спыталася я.

— Ды як і паўсюль, — махнуў рукою Вадзім, — аднолькава, што ў горадзе, што ў вёсцы.

У наступныя нашы сустрэчы Вадзім шмат расказваў пра сваю работу ў турыстычным агенцтве, а аднойчы прапанаваў:

— Хочаш, я арганізую табе пуцёўку куды заўгодна, хоць у Эміраты.

«Ага, без Эміратаў мне як без солі. Дзень і ноч толькі і думаю пра іх, бо іншых клопатаў не маю», — хацела сказаць я, але спахапілася: — Дзякуй, Вадзім, але не да падарожжаў мне.

— Матэрыяльныя праблемы? — пацікавіўся Вадзім.

— І гэта таксама, — неахвотна прызналася я і адчула, што чырванею. Добра, што на вуліцы ўжо было цёмна.

— Паслухай, — ён далікатна дакрануўся да майго пляча, — я магу дапамагчы табе.

Я падумала, што Вадзім хоча прапанаваць мне грошы, і пакрыўдзілася:

— Не такая ўжо я і жабрачка, каб прымаць міласціну!

— Ты мне ўсё больш падабаешся, — засмяяўся Вадзім. — Люблю самадастатковых жанчын. Толькі ты не так зразумела мяне. Па-першае, беднасць не загана, і яе няма чаго саромецца. Грошы — і добрыя грошы — ты можаш зарабіць сама. Ну што ты маеш у сваёй бібліятэцы? Мізэр. Сядзіш там адна сярод сваіх кніжак ды чытачоў чакаеш, як дарагіх гасцей. А чытачоў усё меней і меней. Добра яшчэ, што замуж не выскачыла за якога-небудзь мясцовага алкаша.

— Ну, гэта ўжо ніколі! — усклікнула я. — Досыць нагледзелася я на свайго бацьку.

— Ты паслухай мяне, — перапыніў Вадзім. — Ты ж ведаеш, дзе я працую. А па турыстычнай пуцёўцы не толькі ў адпачынак можна ездзіць, а і на заробкі. Тут, праўда, адна невялічкая загваздка ёсць. Але для мяне гэта дробязь. Лепш за ўсё ехаць у Польшчу. Можна, напрыклад, працаваць на аптовым рынку, як мая сястра Марына. Яна ўжо двойчы ездзіла. Дарэчы, яна са сваёй сяброўкаю зноў туды збіраецца. У гэты раз я сам адвязу іх, бо ў мяне ў Цярэспалі якраз адна важная справа ёсць. Калі захочаш, можаш паехаць з намі. А каб ты не сумнявалася, я пазнаёмлю цябе з Марынаю, яна табе ўсё больш падрабязна раскажа.

Крыху памаўчаўшы, ён схіліў галаву набок і паглядзеў на мяне знарочыста загадкава:

— А потым можна падумаць пра будучае. Дзяўчына ты, відаць, надзейная, не тое што цяперашнія верціхвосткі.

Спачатку я сур'ёзна не прыняла ні Вадзімавага даволі празрыстага намёку пра будучае (трэба разумець, наша з ім агульнае), ні ягоных слоў пра фантастычныя замежныя заробкі. Па-першае, я яшчэ ні з чыім будучым сваё будучае абагульняць не збіралася. Па-другое, я немабільны чалавек. Дарога мяне вельмі стамляе, шматлюддзе і мітусня раздражняюць. Ну, дамашняя я, і нічога з гэтым не зробіш.

Але аднойчы да мяне, што называецца, «падступіла».

У той дзень маці выпадкова пакінула на палічцы ля тэлефона кашалёк з грашыма, і татачка наш не прамінуў пакарыстацца такім выпадкам: выграб з кашалька ўсё, што там было і выправіўся «наталяцца вомегай».

Я зазірнула ў халадзільнік: два яйкі, паўпачка маргарыну, бляшанка кансерваў… Што ж, не ўпершыню. Насмажу бульбы. Агуркі ёсць, капуста — таксама.

Я абірала бульбу і ў думках час ад часу звярталася да размовы з Вадзімам. «Беднасць не загана, і яе не трэба саромецца». Беднасць не загана? Так, не загана, але ж, пагадзіцеся, і не вартасць. А ўвогуле паняцце «беднасць» несуадноснае з такімі, як «загана» і «вартасць». А вось з такім паняццем, як «бяда» не толькі суадноснае, але часам і тоеснае. Вось былі б цяпер у нашай сям'і грошы, мы б Наташцы камп'ютар купілі, і яна меней па гэтых дыскатэках бегала б. А яму, бацьку так званаму, аднапакаёўку прыдбалі б. Хай бы там піў хоць заліўся. А сабе? Сабе я перш за ўсё купіла б… шмат чаго!

Такія мае думкі перабіў тэлефонны званок:

— Дзень добры! Хай заўжды ён будзе добры для цябе!

Бадзёрасць у Вадзімавым голасе падалася мне штучнай, але я зрабіла выгляд, што не заўважыла гэтага:

— І табе таго ж, толькі ў сто разоў болей.

— Ну, як наконт маёй прапановы? Я таму пытаюся, што праз пяць дзён мы з Марынаю ад'язджаем. Так што думай.

А можа, паспрабаваць? Ну ездзяць жа іншыя, не баяцца. Вунь хоць бы Іра Барсукова. За год працы ў замежжы на аднапакаёўку зарабіла. Вось прыедзе на выхадныя да маці, схаджу, пагавару з ёй, параюся.

— Не ведаю, што табе і сказаць, — паціснула плячыма Іра, калі я паведаміла ёй пра свой намер. — Я ж са сваёй вышэйшай адукацыяй там звычайнай пакаёўкаю ў адной багатай сям'і працавала. Быццам і работы няшмат было, і ежы якой заўгодна хапала, і плацілі шчодра. Але ставіліся да мяне так, нібы я не чалавек, а побытавая рэч: ні слова добрага, ні ўсмешкі. Гаспадар пры мне ў чым маці нарадзіла мог хадзіць, а гаспадыня — паскудніца такая! — інтымнай гігіенаю займацца. Іншым разам хацелася чым-небудзь шпурнуць у іхнія сытыя твары. Ледзьве адпрацавала я ўмоўлены тэрмін. Больш не хачу такіх заробкаў.

— Але ж ты была ў Грэцыі. Ды яшчэ, прабач, служкаю, а мне прапануюць Польшчу. На рынку працаваць прадаўшчыцаю.

— Ну, пра Польшчу яшчэ можна падумаць. Кажуць, гэта амаль такая ж краіна, як і наша. Нездарма кажуць, што Польшча — не замежжа, — уголас разважала Ірына. — Калі б я ведала, што ўсё будзе так, як табе абяцаюць, то, можа, і я наважылася б. Нас жа зноў у вымушаны водпуск адправілі. Кажуць, перабоі з сыравінай.

— А давай я патэлефаную Вадзіму, каб пазнаёміў нас са сваёй сястрою. У той ужо ёсць вопыт.

…Марына сустрэла нас на парозе сваёй уласнай кватэры, прасторнай, абстаўленай шыкоўнай мэбляю. І сама яна выглядала шыкоўна: модная, аліўкавага колеру сукенка, пышныя ільняныя валасы, чаравікі на высокіх абцасах. Вось толькі золата яна начапляла на сябе занадта ж многа: на шыі ажно тры ланцужкі, адзін з якіх з вялікім медальёнам, масіўныя завушніцы, пярсцёнкі ці не на кожным пальцы.

Марына, відаць, па-свойму зразумела мой уважлівы позірк:

— Усе гэтыя цацкі я прывезла з Польшчы. Там золата вельмі таннае. Дарэчы, і на гэтым таксама можна добра зарабіць. Але што мы стаім? Праходзьце, будзем піць каву.

* * *

Ніяк не магу зразумець, адкуль гэтае недарэчнае адчуванне? Адкуль гэты гарачы чад, што нудным накіпам клубіцца ў грудзях і хвалюе жальбой па нечым? Па чым жа? Што мне трэба? Усё ж ужо вырашана. Усё быццам нармальна…

Я, Іра, Марына і яе сяброўка Святлана сядзім у салоне Вадзімавага мікрааўтобуса. Цёпла, утульна, гучыць ціхая музыка. Наконт жылля і работы Вадзім ужо дамовіўся ў тым жа Цярэспалі, дзе яго чакае нейкая неадкладная справа. Дык чаму ж ніяк не хочуць адступіць ад мяне трывогі-сумненні?

З одуму мяне выводзіць Святланін голас:

— Ой, дзяўчаты, ды тут жа ўсё як у нас! Можа, і заробкі такія ж? Ці не дарэмна мы прыехалі сюды?

І праўда, калі б мы дакладна не ведалі, дзе мы, то і не падумалі б, што гэта чужая краіна. За акном аўтобуса знаёмыя краявіды: вунь трактар, вунь жывёлагадоўчая ферма, за ёй рунее поле. Вось пасёлак з двухпавярховымі катэджамі, за агароджамі якіх ужо цвітуць жоўтыя і белыя нарцысы.

І тут, у доме, куды нас неўзабаве прывёз Вадзім, усё амаль так, як і ў нас: камбінаваная і звычайная шафы, канапы, дываны на падлозе. Толькі ў пакоі, дзе нас збіраліся пасяліць, злева ад увахода, усутыч да сцяны — светла-карычневы, пад колер падлогі, невысокі «пастамент», як я ў думках назвала гэтае незразумелае збудаванне. Толькі потым, калі гаспадыня пані Ізабела, чымсьці незадаволеная, насупленая і буркатлівая жанчына сталага веку кінула на «пастамент» пасцельную бялізну, стала ясна, што «пастамент» — гэта своеасаблівы ложак. Такія «ложкі» ёсць у многіх польскіх кватэрах.

— Ну, вы, дзяўчаткі, тут уладкоўвайцеся, адпачывайце, — сказаў Вадзім. — Хутка прыйдзе ваш… — тут ён прыпыніўся, нібы шукаў патрэбнае слова, — менеджар і растлумачыць, што і як. А я паеду вырашаць свае справы.

На развітанне ён неяк па-блазенску пакланіўся пані Ізабеле, памахаў нам рукою і няшчыра (а можа, мне падалося?) усміхнуўся. Усім разам. На мяне ён нават не зірнуў.

— Ой, Вадзік, я ж забылася ў машыне свой парасон! — усклікнула Марына. — Пайду забяру. Заадно і правяду цябе.

Марына і Вадзім сышлі, а мы пачалі распакоўваць свае сумкі і раскладаць рэчы ў шырокай, крыху старамоднай шафе.

Неўзабаве ў кватэры з'явіўся даволі высокі і хоць не такі старамодны, але амаль такі ж шырокі, як шафа, мужчына. Разам з ім прыйшлі дзве ярка размаляваныя дзяўчыны ў такіх кароценькіх спадніцах, што спадніцамі іх можна было назваць толькі ўмоўна.

— Дзяўчаткі, а вам не холадна? — спыталася Іра. — Яшчэ ж не май месяц.

— Хутка сама ўведаеш, холадна ці горача, — азвалася адна з іх, вастраносенькая, тоненькая, як пруток.

— А ну-ка, марш на сваё месца! — нечакана тонкім для свайго мажнага цела голасам крыкнуў мужчына. — І каб да раніцы я вас не бачыў!

Дзяўчаты імгненна схаваліся за дзвярыма суседняга пакоя, а менеджар (гэта быў ён) павярнуўся да нас:

— Ну, паненкі, давайце знаёміцца. Мяне завуць Ян Янавіч. Цяпер я ваш гаспадар. Перш за ўсё давайце вашы пашпарты. Заўтра мне трэба здаць іх на рэгістрацыю.

— Нешта не падабаецца мне наш менеджар, — прашаптала Святлана.

— Нічога, зараз прыйдзе Марына і ўсё высветлім, — таксама шэптам адказала я.

— Ой, нешта ж доўга яе няма! — спуджана прамовіла Іра. — Яна ж даўно павінна была вярнуцца. І дзе яе сумка? Ды яна ж без сумкі сюды зайшла!

— Што вы там шэпчацеся? — падазрона зірнуўшы на нас, сказаў Ян Янавіч і працягнуў руку з нягнуткімі тоўстымі пальцамі: — Я ж сказаў — пашпарты сюды! І мабільнікі таксама!

Я адчула, як сэрца маё забілася недзе высока-высока, ля самага горла, і, стрымліваючы дрыжыкі, прамовіла:

— Здаецца, ніякай Марыны нам не дачакацца.

— Ян Янавіч, а можа, мы самі аднясём свае пашпарты на рэгістрацыю? — яшчэ спадзеючыся на лепшае, нясмела спыталася Святлана. — Разам і горад паглядзім.

Ян Янавіч здзекліва засмяяўся. Святлана заплакала, а ўмомант зблажэлая Іра пачала пазіраць на дзверы.

— Зараз жа кіньце дурыць! Можна падумаць, вы не ведалі, куды едзеце! — голас менеджара сарваўся на фальцэт: — Я не для таго за вас грошы плаціў, каб вы тут выпендрываліся.

— Але ж мы ехалі сюды працаваць! — праз плач вымавіла Святлана. — Працаваць на рынку. Калі нельга на рынак, мы можам працаваць пакаёўкамі ці нянькамі.

— Дык вы і будзеце працаваць нянькамі, — заіржаў Ян Янавіч. — Хлопчыкаў будзеце няньчыць. І ўлагоджваць.

Забраўшы нашы пашпарты і мабільныя тэлефоны, ён націснуў кнопку свайго «Сіменса», сказаў некалькі слоў па-польску, і ў кватэру тут жа ўвайшла крыху зменшаная копія Яна Янавіча. «Копія», уладкаваўшыся ў крэсле, пагразіла нам пальцам і крыкнула:

— Пані Ізабела, накармі дзевак, і няхай яны кладуцца спаць!

Па-ранейшаму насупленая пані Ізабела павяла нас на кухню. На стале стаялі талеркі з салатаю з капусты, бульбаю і яшчэ нейкай шэрай страваю. Гэта былі флякі, прасцей кажучы, рубцы. Гатуюцца флякі з пэўнай часткі страўніка жвачных жывёл. Мне асабіста флякі не падабаюцца, яны нават брыдкія мне. Менавіта таму я пазней часта заставалася галоднай, бо флякі давалі нам па некалькі разоў на тыдзень.

— А дзе хлеб? — спыталася Святлана.

Пані Ізабела паглядзела на стол, застаўлены талеркамі, потым на нас:

— Яшчэ і хлеб? Вам што гэтага мала?!

Нам, звыклым да таго, што і першую, і другую страву ў нас ядуць з хлебам, было незразумела, чаму яна здзівілася.

Зрэшты, у той вечар нам было не да ежы.

Спалі мы ўтрох у адным пакоі. Хаця якое там «спалі»? Хіба можна было заснуць?

— Але ж і павучыха гэтая Марына! — абуралася Святлана. — Так лоўка спляла сваю павуціну! І такімі чыстымі вачыма глядзела, калі расказвала свае казачкі! Вы заўважылі, якія прыгожыя ў яе вочы — вялікія, блакітныя! А яшчэ кажуць, што вочы — люстэрка душы!

— А яе брацік-прыгажун? Такая ж сволач, як і яна сама! — азвалася я. — Ды і ці брат ён ёй? Цяпер я вельмі і вельмі ў тым сумняваюся. І што з намі будзе?

— Што будзе, што будзе? — перадражніла мяне Іра. — Проста адвязуць нас у бардэль. Гэта ў лепшым выпадку.

— Ты так гаворыш, быццам можа быць яшчэ што-небудзь горшае, — уздыхнула я.

— Можа! — усклікнула Святлана і прыўзнялася на ложку. — На органы разбяруць! Я чытала, што цяпер спрэс такое робяць!

— Ціпун табе на язык! — раззлавалася я. — Начытаешся рознай брыдоты і мелеш абы-што. Класіку чытаць трэба, а не бульварныя раманы.

— А я думаю, чаму гэта ты такая разумная? — не засталася ў даўгу Святлана. — Аказваецца, ад чытання класікі. Толькі як жа ты, разумніца, разам з намі, дурнымі, у такое ўляпалася?

— Ды перастаньце вы, — перапыніла нас Іра. — Што будзе, тое і будзе. Я вось ляжу цяпер і думаю: няхай вы зусім яшчэ маладыя, нідзе не былі, нічога не бачылі. А я? Пад трыццатнік падбіраецца, а розуму не нажыла. Ды што тут гаварыць! Давайце паспім хоць трохі.

Раніцаю, гадзін у сем, гаспадыня разбудзіла нас:

— Пад’ём. Мыцца. Апранацца. Снедаць.

Устаўшы, мы ўбачылі, што ўсё наша адзенне некуды знікла. У шафе на вешалках віселі тры не вельмі новыя халаты: сіні, зялёны і аранжавы. Давялося апранаць іх.

Мы памыліся, потым разам з Надзяй і Рытаю — дзяўчатамі, з якімі пазнаёміліся ўчора і якія аказаліся нашымі зямлячкамі — паснедалі.

Пасля снедання Надзя і Рыта апранулі міні-спадніцы і сышлі, а мы ў аднолькава змрочным настроі пасунуліся ў «свой» пакой, куды неўзабаве зайшла пані Ізабела, белагаловы мужчына гадоў сарака і маладая хударлявая жанчына з раскіданымі па плячах густымі, але непрыемнага, мышынага колеру, валасамі. Мужчына трымаў у руках дзве туга напакаваныя сумкі. Паставіўшы іх ля дзвярэй, ён пачаў бесцырымонна разглядаць нас. Мы ў сваю чаргу разглядалі яго. Белымі ў мужчыны былі не толькі валасы — белымі, як снег, былі і бровы, і вейкі. Здавалася, што ўвесь ён вымачаны ў воцаце.

«Альбінос, — адзначыла я ў думках. — Прынамсі, у жывёльным свеце такіх «беспігментных» асобін называюць альбіносамі».

«Альбінос» і пані Ізабела пайшлі, а жанчына ўсміхнулася нам шырокай белазубай усмешкаю і сказала:

— Я — Кшыся, ваша візажыстка і, скажам так, касцюмерша. Зараз, мілыя мае паненкі, — Кшысін рот ад усмешкі расцягнуўся амаль да вушэй, — мы падбяром кожнай з вас убор.

Яна расшмаргнула «маланкі» на сумках, вываліла на падлогу пярэстую кучу адзення і пачала раскладаць яго на канапе. Уся вопратка: і сукенкі, і спадніцы, нават паліто і плашчы — была такой жа даўжыні, як Рыціны і Надзіны спадніцы.

Я ніколі прынцыпова не насіла міні, таму пачала пратэставаць:

— Я такое не апрану! Дайце мне джынсы ці нармальную сукенку! Ды і навошта нам чужое рыззё? Аддайце нам нашы рэчы! І скажыце, што тут адбываецца?

— І праўда, — у адзін голас сказалі Іра са Святланай, — растлумачце, чаму нас тут трымаюць?

— І ўвогуле, выпусціце нас адсюль! — дадала я.

— Ах, выпусціць? — Кшысін голас заставаўся спакойным, нават палагоднеў, але твар пакрыўся чырвонымі плямамі, а вочы колеру жоўтай охры сталі падобнымі на два вялізныя гузікі.

«Якое негарманічнае спалучэнне — брудна-жоўтае і шэрае», — падумала я, і ў той жа момант маю левую шчаку нібы варам апякло. Перад вачыма замітусіліся залацістыя мухі, і я цудам утрымалася на нагах. Першы раз у жыцці мяне ўдарылі! Ды яшчэ па твары! Дасюль ніхто і ніколі мяне нават пальцам не крануў. Нейкае імгненне я стаяла агаломшаная тым, што здарылася, а потым кінулася да «візажысткі» і ўхапіла яе за мышыныя патлы. Яна пранізліва заверашчала і ў той жа момант у пакой ускочыў Альбінос. Ён без асаблівых намаганняў адарваў мяне ад Кшысі і штурхануў так, што я адляцела да супрацьлеглай сцяны. Калі ж крыху апамяталася, убачыла што Іра ніцма ляжыць ля канапы, а Святлана, засланіўшы рукамі твар, сядзіць побач, і скрозь тонкія пальцы яе не па-вясковаму далікатных рук цякуць слёзы.

— Ну як, хопіць? — тым жа спакойным голасам спыталася Кшыся. — Ці мо каму дабаўкі трэба? Зараз жа абмывайце свае пысы і апранайцеся!

…Мне Кшыся выбрала, мабыць, самую кароткую сукенку.

Потым яна ўласнаручна наклала на нашы твары па-дзікунску яркі макіяж і, задаволена прамармытаўшы «добжэ», крыкнула:

— Пан Вацлаў! Можаш забіраць.

Альбінос зайшоў у пакой, пакруціў на ўказальным пальцы бірульку з ключамі і бясколерным, як і сам, голасам сказаў:

— Проша, паненкі!

Мы ўслед за Альбіносам спускаліся па лесвіцы. Святлана ўслых лічыла прыступкі, а Іра моцна сціскала маю руку ў сваёй, чамусьці вельмі гарачай руцэ і з нянавісцю глядзела ў Альбіносаву спіну.

На вуліцы нас чакаў чырвоны легкавік, у якім сядзеў яшчэ адзін мужчына ў насунутым на вочы капелюшы. Нас пасадзілі на задняе сядзенне.

— Я ж казала: павязуць у бардэль, — прашаптала Іра.

— А я вось чытала, што туды адбіраюць высокіх, даўганогіх і пышнагрудых. А мы… Якія з нас путаны? Можа, яны хочуць нас бясплатнымі падмятайламі на якую-небудзь сметніцу ўладкаваць. Вунь мы ўжо за горад выехалі.

— Ага, — насмешліва прамовіла я, — таму яны так апраналі ды расфарбоўвалі нас. Самы што ні на ёсць прыдатны для падмятайлаў імідж. Не, даражэнькія, не з нашым шчасцем! Хутчэй за ўсё будзе так, як Іра гаварыла.

— Дык давайце думаць, як ратавацца будзем! — даволі гучна сказала Святлана.

— Цішэй ты! — Ірына з асцярогай паглядзела на пярэдняе сядзенне.

— Ды яны не разумеюць па-нашаму! — адмахнулася Святлана.

— Разумеем мы і па-вашаму, і па-нашаму, — раптам азваўся Альбінос. — Вось прыедзем на месца і пагаворым.

Нарэшце легкавік спыніўся на ўзбочыне трасы, да якой з абодвух бакоў падступаў сасновы лес. Справа — зона адпачынку з прыгожа размаляванымі альтанкамі.

— Вось тут, паненкі, ваш пост, — сказаў Альбінос. — Несці службу ваша змена будзе з васьмі гадзін раніцы да пяці вечара. І не ўздумайце, як вы там шапталіся, ратавацца. Зловім — а мы вас абавязкова зловім — пашкадуеце! Ну, а цяпер пра галоўнае: пра вашу работу.

Тут Альбінос павярнуўся да свайго напарніка:

— Адам, давай паперу.

Маўклівы Адам (нямко ці што?) дастаў з папкі тры складзеныя ўдвая аркушы і аддаў іх нам. Я разгарнула ліст: «К — 50, А — 40, В — 30».

— Запамінайце, — Альбінос прыжмурыў свае бялёсыя вочы, — гэта расцэнкі на вашы паслугі.

— Якія паслугі? — са страхам пазіраючы на сваю паперу спыталася Святлана (няўжо яна і сапраўды яшчэ на што-небудзь добрае спадзявалася — наіўнае стварэнне?). — І што гэта за літары: К, А, В?

— Ну, хопіць строіць з сябе недаразвітых правінцыялак! — зазлаваў Альбінос. — Паслугі сексуальныя. А калі не ведаеце, што гэта такое К, А, В, кліенты хуценька вам растлумачаць.

Я сціснула кулакі так, што пазногці ўпіліся ў далоні. О, каб я магла што-небудзь зрабіць! Я прыдумала б для гэтай сволачы такое… Сярэдневяковыя інквізітары здрыгануліся б, пачуўшы, якую кару я вынайшла б для Альбіноса!

Альбінос, нібы адчуўшы, што адбываецца са мною, наблізіў да мяне свой твар і працягваў:

— Дзе працаваць, выбірае кліент. Захоча — у ягонай машыне, захоча — у нашым перасоўным інтым-салоне. Вунь там, крыху далей стаіць белы мікрааўтобус. Гэта ён і ёсць. Заробак увесь, да апошняга злотага, аддаваць мне ці вунь яму, Адаму. Даляры (калі будуць плаціць далярамі) таксама. Заначкі

рабіць не раю. Здаецца ўсё. Вылазьце з машыны і займайце свае рабочыя месцы. З першым працоўным днём вас!

Легкавік ад'ехаў. Мы засталіся на шашы. Міма амаль няспынна імчалі машыны. Мы стаялі і калаціліся ад холаду, страху і адчаю.

— Давайце пабяжым, — прапанавала я. — Будзем бегчы і крычаць: «Ратуйце!»

— І хто нас пачуе? — азвалася Іра. — Думаеш, мы каму-небудзь патрэбныя?

— Хто-небудзь пачуе! — заўпарцілася я і, замахаўшы рукамі машынам, якія праязджалі міма нас, закрычала: — Дапамажыце!

У тую ж хвіліну немаведама адкуль выехаўшы, каля нас спыніўся чырвоны легкавік. Абое — Альбінос і Нямко — выскачылі з яго, закінулі нас у салон і пачалі біць.

Білі нас і «дома», у кватэры, куды сёння прывезлі яшчэ траіх, такіх, як мы, легкадумных дурніц. Яны яшчэ, відаць, не зразумелі, куды трапілі, бо глядзелі на нас, ускудлачаных, з размазаным па тварах макіяжам са страхам і неўразуменнем.

Вось гэтая прыгожая, светлавалосая і сінявокая, відаць, марыла пра кар'еру танцоўшчыцы ці мадэлі. Ды і астатнія на трасе стаяць не збіраліся.

Аднойчы вечарам у наш пакой прабраліся Рыта і Надзя.

— Дзяўчаты, вы, відаць, спрабавалі ўцячы? — азіраючыся на дзверы, спыталася Рыта. — Нічога ў вас не атрымаецца. Яны ж назіраюць за намі. Па-першае, з мікрааўтобуса. Па-другое, яны цэлы дзень аб'язджаюць усе «пасты» паміж Цярэспалем і Познанню. Ды і куды можна збегчы? Гэта ж табе не ў сваёй краіне. Тут жа — чужына: ні сваякоў, ні знаёмых. Акрамя таго, мы — бадзягі бяспашпартныя.

— Дык няўжо нічога нельга зрабіць?! — усклікнула Іра. — Павінна ж быць якое-небудзь выйсце!

Рыта сумна ўздыхнула:

— Вядома, павінна быць. Толькі мы з Надзяю паўгода ўжо шукаем таго выйсця, а знайсці не можам. У адным нам толькі пашанцавала — і то, хто яго ведае, можа, пакуль пашанцавала — што не прадалі нас ні туркам, ні якім-небудзь арабам. Мы ж — рабыні.

— А што — і такое можа быць? — спужалася Святлана.

Рыта моўчкі кіўнула галавой.

— А як ты сюды трапіла? — спыталася Іра. — Таксама на лёгкія грошы ды таннае золата паквапілася?

— Таксама? — здзівілася Рыта. — Дык і вы… І ці не па знаёмстве? Малады чалавек з турыстычнага агенства, імя якога…

— Вадзім! — закончыла я. — А яшчэ ў яго ёсць сястра, якую завуць Марына, і яна…

— Не, — перапыніла мяне Рыта. — Маладога чалавека звалі Віктарам, а ягоную сястру — Машаю.

— Скажы, а ты даўно іх ведала, гэтых самых Віктара ды Машу? — пацікавілася я.

— Ды, можа, з месяц. З Віктарам пазнаёмілася выпадкова: ён спыніў мяне на вуліцы і спытаў, дзе знаходзіцца ўніверсам. Разоў колькі сустрэліся, і ён запрасіў да сябе, потым туды зайшла Маша. Вось Маша мяне і ўгаварыла паехаць у Польшчу. І такую прывабную перспектыву абяцала! Казала: «За паўгода будзеш мець столькі, колькі тут за пяць гадоў не заробіш!» А пра таннае золата я нават слухаць стамілася.

— А якія яны з выгляду? — спыталася Святлана.

— У тым і справа, што выгляд у гэтых аферыстаў вельмі прыстойны. Віктар — высокі, ладны брунет, сімпатычны, вясёлы. І пахла ад яго вельмі дарагой парфумаю. А Маша? Прыгажуня! Натуральная бландзінка з сінімі вачыма. А што ўжо далікатная — хоць да раны прыкладай!

— Яны! — усклікнула я. — Вадзім і Марына!

— Ды яны такія ж Вадзім-Марына-Віктар-Маша, як я англійская каралева, — сказала Іра. — І тое, што яны не брат і сястра, а проста адна шайка-лейка, цяпер ясна як дзень. Адно толькі няясна, што нам рабіць далей? Давайце думаць.

— А ты, Надзя, чаму маўчыш? — спытала Ірына. — Мабыць, не можаш пазбыцца ілюзіі наконт Вадзіма-Віктара?

— Не, дзеўкі, — стомлена ўсміхнулася Надзя. — У мяне свая гісторыя. Я яе нават Рыце не расказвала, хоць мы з ёю тут ужо сёмы месяц пяклуемся.

Надзя абвяла нас позіркам не па-славянску раскосых вачэй з шэрымі, мармурова-мазаічнымі радужкамі і ўвабрала ў сябе паветра, быццам збіралася даць нырца, выдыхнула паветра, працягвала: — Пазнаёмілася я з адным жанацікам. Мне тады сямнаццаць было, а яму — добра за трыццаць. Знешне ён нагадваў аднаго папулярнага кінаакцёра. І кавалерам быў далікатным: і паліто ў гардэробе падасць, і ручку сваю, калі з машыны выходзілі. Ну і, вядома ж, кветкі-цукеркі-шампанскае-рэстараны. Усё як звычайна бывае, калі мужчына крытычнага ўзросту хоча ўлагодзіць маладую дзяўчыну. А што мяне ўлагоджваць? Першы ён у мяне быў ці што? Самае смешнае: ён спадзяваўся, што першы. У іх жа, самцоў юрлівых, вялікі попыт на чысціню. Дык вось, калі мы з ім у ложку пакуляліся, ён расчараваўся, надзьмуўся нават. Ну, я яму на вушы навешала лапшы па класічным рэцэпце: я — ахвяра свайго айчыма, распусніка бруднага. Паклёпнічаць на айчыма мне ніколечкі не было сорамна, бо я не мела ні айчыма, ні роднага бацькі. Не, бацька, вядома, некалі быў, толькі я яго ніколі не бачыла і не ведала, хто ён. Сумняваюся, што і маці мая хоць прыблізна ведала, каму са сваіх шматлікіх «ухажораў» яна павінна быць удзячнай за маё з'яўленне на свет.

Максім (так зваўся мой «жанацік») паспачуваў мне, «няшчасніцы», і нават пярсцёнак падарыў, вельмі міленькі пярсцёнак. Ён мне так спадабаўся, што я яго амаль ніколі з пальца не здымала. Аднойчы зайшла ў кавярню кавы са сваімі ўлюбёнымі заварнымі піројнымі папіць. Толькі прыладзілася за столікам — жанчына нейкая побач прымасцілася. Быццам іншага месца ў напалову пустой зале не знайшла. І хаця б дзеля прыліку дазволу папрасіла. Паднесла яна да вуснаў свой кубак, зірнула на мяне — і ледзьве не папярхнулася: твар пачырванеў, а ў вачах такое здзіўленне, быццам яна нешта незвычайнае ўбачыла. Я збянтэжана пачала аглядаць сябе: можа ў адзенні непарадак які? А жанчына кубак свой з кавай, амаль не кранутай, ад сябе адсунула і да мяне крок зрабіла.

— Прабачце, калі ласка, я даўно такі пярсцёнак, як у вас, прыдбаць хачу, але нідзе знайсці яго не магу. Можа б, вы свой мне прадалі? Я добра заплачу.

Я здзівілася: з-за нейкага зусім неадметнага пярсцёнка — тонкага абручыка з трыма бледна-ружовымі каменьчыкамі — такія эмоцыі?!. Але падумаўшы, што ў кожнага з нас свае «бзікі», спакойна прамовіла:

— На жаль, прадаць пярсцёнак я не магу, бо гэта падарунак вельмі блізкага мне чалавека. Але, калі хочаце, я спытаюся, дзе ён гэты пярсцёнак купіў, і патэлефаную вам.

— Не-не, пакуль не трэба, — паспешліва прагаварыла жанчына, — я яшчэ ў адно месца зазірну. Калі ўжо там не будзе, я да вас звярнуся. Толькі нумар свайго тэлефона назавіце.

Жанчына пайшла, а я, раз-пораз паціскаючы плячыма, яшчэ доўга дапівала непрыемна цёплую каву.

Дзіўная незнаёмка мне так і не патэлефанавала, і я неўзабаве забылася пра сустрэчу ў кавярні. І дарэмна забылася, бо незнаёмка была Максімавай жонкаю, у якой «любы муж» скраў той самы пярсцёнак, каб падараваць яго мне. А пярсцёнак быў не проста залаты, а рарытэтны. Ну, «благаверны», вядома ж, добрую галавамыйку атрымаў, а са мною, «змяюкай падкалоднаю», жонка паабяцала разлічыцца. І разлічылася. Таму вы тут мяне бачыце. З яе ласкі я тут апынулася. Ёсць падазрэнні, што і «жанацік» мой тут пастараўся, каб выслужыцца перад жонкаю ды грэх свой замаліць. І што ж яны, гэтая «салодкая парачка», прыдумалі? Вы толькі паслухайце…

Але паслухаць нам не ўдалося, бо ў пакой без стуку ўвайшла, а дакладней, уварвалася пані Ізабела. Перш за ўсё яна з крыкам выгнала Рыту з Надзяй, потым павярнулася да нас і скамандавала:

— Зараз жа спаць! Каб я і піску з вашага пакоя не чула, інакш паскарджуся каму трэба, і з вас зробяць адбіўныя! Загавор яны задумалі, нягодніцы!

* * *

І вось колькі ўжо часу мы «працуем». І сапраўды — колькі? Тры месяцы! Няўжо толькі тры месяцы прайшло з таго дня, калі мы прыехалі сюды, шчаслівыя ўжо аднымі сваімі спадзяваннямі.

І вось усяго за тры месяцы ад нашых надзей нічога, акрамя адчаю, не засталося, а самі мы ператварыліся ў пакорлівых маўклівых рабынь. Але самае страшнае тое, што мы пачынаем прывыкаць да свайго становішча.

Мы даўно перасталі глядзець адна адной у вочы, калі, «абслужыўшы» чарговага пачварніка, стаім у чаканні яшчэ аднаго. І яшчэ, і яшчэ… Пасля пастаянных здзекаў і пабояў, нас амаль не абураюць гэтыя мярзотнікі, жывёліны-мужчыны, большасць якіх дома чакаюць верныя жонкі, дзеці, а некаторых і ўнукі. Пакінуўшы нас, каханыя мужы прывязуць жонкам падарункі, а дзецям ці ўнукам гасцінцы «ад зайчыка», будуць з апетытам жэрці прыгатаваны жонкаю абед і класціся ў сямейныя ложкі, засланыя да іх прыезду свежай бялізнаю.

Для нас усе яны — маладыя і старыя, прыгожыя і не вельмі — аднолькава агідныя і ненавісныя. Мы пад прымусам спаталяем іх паскудны юр і баімся, каб толькі не трапіўся які-небудзь садамазахіст, бо тады… Яшчэ вельмі баімся, што хтосьці з «кліентаў» «забудзецца» заплаціць. Такой няўважлівасці «ахоўнікі»-сутэнёры нам не даруюць: здзекуюцца і б’юць.

Роўна ў пяць гадзін вечара нас вязуць назад. У трохпакаёвай кватэры дзяўчат ужо дзесяць. Сярод іх зноў новенькія: і нашы, і з іншых рэспублік некалі вялікай краіны. Той сінявокай прыгажуні, імя якой мы так і не ўведалі, тут ужо няма. Няма і дзвюх яе сяброўак. Відаць, для іх знайшлося больш «прэстыжнае» месца чым траса: іх прадалі ў які-небудзь прытон у Турцыі ці ў Эміратах.

Учора круглатварай чарнавокай украінцы Галі нейкім цудам удалося ўцячы, і ў кватэры зноў гучаць пагрозы Яна Янавіча (цікава, якое сапраўднае імя ў гэтай хадзячай шафы з голасам кураняці?):

— Я вас, шалашоўкі, прымушу расказаць, хто дапамог ёй!

Мы нічога не ведаем. Прынамсі, ні я, ні Ірына, ні Святлана, бо Галя «працавала» на другой «кропцы». Але б’юць усіх. А ў дадатак пазбаўляюць вячэры, не даюць нават чаю. Мораць голадам нас тут даволі часта.

Назаўтра ж усіх нас паасобку «гаспадары» прадалі новым сутэнёрам. Я трапіла ў Познань. Ні Іру, ні Святлану я больш ніколі не бачыла і не ведаю, як далей склаўся іхні лёс і ці жывыя яны ўвогуле.

Мой новы гаспадар — пан Станіслаў. У яго прыемная, нават інтэлігентная знешнасць, але ставіцца ён да нас яшчэ горш, чым Ян Янавіч. Хіба толькі корміць крыху лепей. Але гэта клопат дбайнага гаспадара пра рабочую жывёлу. Пан Станіслаў іншы раз і сам не грэбуе то адной, то другой сваёй рабыняй. Можа, таму так часта возіць нас на ўрачэбны агляд.

Пан Станіслаў любіць жанчын паўнацелых, высокіх. Я сваёй фігураю дзяўчынкі-падлетка не абуджаю ягонай цялеснай прагі. Мае «каляжанкі», з тых, каго пан Станіслаў «ашчаслівіў» сваёй увагаю, зайздросцяць мне, бо гаспадар наш «тая яшчэ жывёліна». Але пра гэта мы гаворым шэптам і з аглядкаю.

Цяпер я «працую» ноччу. Днём мы — а ў нашай «змене» васьмёра — па дзве на кожную з чатырох «кропак». Днём наша «змена»: я, малдаванка Соня, мая зямлячка Тамара, украінка Зоя і іншыя дзяўчаты — адсыпаемся, а з вечара заступаем на «дзяжурства». Я цяпер у пары з Соняй. Тая, назіраючы, як я пакутую, раіць:

— А ты пастарайся адключацца. Я гэтаму ўжо, здаецца, навучылася.

Не, такому, я ўпэўнена, навучыцца нельга.

Дзіўна, нават нонсенс: большасць з нас, секс-рабынь, увогуле ж прастытутак (так, мы — прастытуткі, а хто і па якой прычыне стаў належаць да гэтых занядбаных грамадствам і ім жа запатрабаваных жанчын — не ўлічваецца) ненавідзяць тых, каму прадае свае целы. І ў той жа час амаль кожная, нават самая зацюканая і самая непрыгожая ўпотайкі спадзяецца, што аднойчы сярод гэтых юрлівых жывёлін-самцоў трапіцца той, у кім раптам прачнуцца чалавечыя пачуцці, і ён спачатку пашкадуе яе, а потым пакахае моцна-моцна, на «ўсё жыццё». А яна, вядома ж, стане яму самай вернай жонкаю. Кажуць, што самыя адданыя жонкі — былыя прастытуткі (пра гэта, здаецца, я нават недзе чытала: ці не ў Эміля Заля?).

Такія спадзяванні маіх сябровак па няшчасці здаюцца мне смешнымі, а пагалоска — несусветнай лухтою. І хутчэй за ўсё ўзнікла яна сярод тых (а такіх хапае), хто свядома абраў для сябе «самую старажытную прафесію». Мэта? Знайсці апраўданне свайму ганебнаму занятку. Маўляў, ён — своеасаблівая прафілактыка такой небяспечнай для сямейнага жыцця з'явы, як здрада.

У новага гаспадара мы «працуем» не толькі на «кропках». Даволі часта ён адсылае каго-небудзь з нас і па выкліку на дом да якога-небудзь жанаціка, які з той ці іншай прычыны на нейкі кароткі час стаў халасцяком.

Пад раніцу ад аднаго з такіх «халасцякоў» прывезлі ўшчэнт змучаную Тамару. Хаваючы ад нас пачырванелыя вочы, яна як была, у адзенні, падае ў ложак.

Зоя садзіцца побач, кранае яе за плячо:

— Томачка, супакойся, калі ласка. Няўжо ты да гэтага часу не зразумела, што асобіны, якія скарыстоўваюць нас для сваіх уцех, не вартыя называцца мужчынамі ды і ўвогуле людзьмі? У іх няма ні сумлення, ні пачуцця адказнасці ні перад кім. Для іх няма нічога святога. Хацелася б мне, каб іхнія жонкі (а большасць з гэтых памаўзліўцаў жанатыя) пабачылі, што іхнія каханыя-ненаглядныя вырабляюць з намі. Усе яны паскуднікі і вычварэнцы, і не варта псаваць сабе нервы з-за сустрэчы з чарговай асобінаю, тым больш што сустрэча была і першай, і апошняй. Давайце лепш думаць, як вырвацца адсюль.

— А скажы-тка ты, Зоя, — зноў пачынае свой амаль паўсядзённы маналог Соня, — чым наш занятак горшы за які-небудзь іншы?

Не люблю я гэтую Соню, цёмнавалосую, з блудлівым позіркам вільготна-вішнёвых вачэй жанчыну. Яна якраз з тых, добраахвотніц.

А Соня працягвае:

— Не туды мы трапілі. А маглі трапіць у які-небудзь цёпленькі куточак, дзе нас як след і кармілі б, і апраналі ды яшчэ добрыя грошы плацілі. Можа, вы не ведалі, куды едзеце, а я не толькі здагадвалася, а і ўпэўненая была, што путанаю тут буду, і нікольkі таго не баялася. Мяне мая родная маці з дванаццацігадовага ўзросту мужчынам прадавала. Дык я аднойчы і падумала: а чаму сама не магу мець тыя грошы, якія мая мамачка прапівае разам са сваімі чарговымі «мужамі». А тут аб'яву ў газеце прачытала: «Патрабуюцца дзяўчаты для работы…» Канешне ж, я і не сумнявалася, што гэта за работа. Але ж не на трасе стаяць… Гэта амаль тое самае, што быць у нізкапробным турэцкім бардэлі. Мне адна мая прыяцелька, якая цудам адтуль вырвалася, расказвала, што ім там нават апранацца не давалі. Пазаганялі ў нейкі будынак накшталт стайні і разбіты на пакойчыкі-пеналы, у якіх толькі ложак і змяшчаўся. Перагародкі паміж «пеналамі» зусім тонкія, фанерныя, відаць, а дзвярэй увогуле не было, толькі лёгкія шторы. І вось любы «кліент» у любы момант мог адхінуць тыя шторы, каб агледзець «тавар», прыцаніцца да яго. А «тавар», калі яго бралі, павінен быў моўчкі выконваць усе пажаданні «кліентаў». І так круглыя суткі з невялікімі перапынкамі. Так што тут у нас яшчэ нічога. Проста нам крыху не пашанцавала. А той, каму пашанцавала, не здолеў як след гэтага ацаніць. Сядзець бы цяпер у цёплым ды добрым, ды пацiху складаць грошыкі ў панчоху. А там, можа, які-небудзь багаценькі Бураціна знайшоўся б ды і забраў да сябе на ўтрыманне. І не трэба было б і ў дождж, і ў снег на абочыне стаяць ды мурзатых шафяруг улагоджваць. Праўда, Томачка?

— Ды адчапіся ты ад яе! — амаль крычыць Зоя. — Чалавеку і так блага.

Я заўважаю, што Тамарыны плечы трасуцца, і ціха пытаюся ў Зоі:

— Яна што — нядаўна тут? Гляджу, усё плача і плача.

— Тут месяцы два, — Зоін голас сціхае да шэпту. — Але ж да гэтага з паўгода ў бардэлі была ў Кракаве. Там закахалася ў аднаго казла са сваіх так званых пастаянных і, відаць, пачала конікі выкідваць. Яе і прадалі нашаму… Ай, Таня, у кожнай з нас свая гісторыя, толькі сённяшняе ва ўсіх аднолькавае. Давай адпачнём. Нам жа з табою сёння ў начную на праклятую «кропку», хай бы яна агнём гарэла!

— Разам з нашай кліентураю, — дадаю я.

…Мы, вядома ж, тады і падумаць не маглі, што ўсяго праз некалькі гадзін «праклятая кропка» ў параўнанні з месцам, у якое мы трапім, будзе выглядаць не такой ужо і праклятай.

Пад вечар у наш пакой зазірнуў адзін з «ахоўнікаў» — Альберт, ці як мы яго называем, Алік:

— Дзеўкі, тэрміновы выклік. Паедуць двое: ты і ты (ён па чарзе тыцнуў пальцам у Зою і ў мяне).

Неўзабаве ён прывёз нас на ўскраіну горада. Машына спынілася перад невялічкім дамком, што бялеў у зеляніне саду. Насустрач нам выйшаў мужчына гадоў трыццаці пяці. Ён штосьці сказаў Аліку і падаў яму канверт. Алік паглядзеў у канверт, згодна кіўнуў і павярнуўся да нас:

— Да раніцы, паненкі. Вось вам мабільнік. Толькі ведайце, з яго можна патэлефанаваць на адзін нумар — мой. Калі закончыце сваю справу раней, паведаміце.

Два пакойчыкі, з якіх, калі не лічыць бакоўкі (відаць, кухні), складаўся ўвесь дом, уразілі нас сваёй недагледжанасцю: няпэўнага колеру фіранкі на вокнах, выцвілыя шпалеры, голая, без аніводнага ходніка падлога. З мэблі ў доме былі толькі два ссунутыя ў адно ложкі, стол і некалькі табурэтак.

— Зоя, ды гэта ж прытон нейкі, — разгублена прамовіла я. — Ты ж паглядзі, якое ўбоства.

— Нічога, Танечка, нам тут не век векаваць, — сяброўка старалася супакоіць мяне, хоць было відаць, што і сама яна пачувае сябе не лепшым чынам.

За акном пачуліся крокі і галасы, і ў дом зайшоў той, хто сустракаў нас, а за ім яшчэ адзін, два, тры… чацвёра мужчын: двое смуглявых чорнавалосых, два — бландзіны, адзін з якіх, даўгалыгі, даўганосы, з падцятымі вуснамі на шэрым прышчавым твары падаўся мне асабліва агідным.

Гаспадар, начапіўшы на твар гуллівую ўсмешку, паказаў на чорнавалосых:

— Шамсадзін. Рахмат.

Бландзіны свае імёны назвалі самі:

— Марцін.

— Валера.

Потым гаспадар тыцнуў пальцам сабе ў грудзіну:

— Іосіф.

— Валера, — яшчэ раз удакладніў прышчавы і аблапаў Зою.

Гаспадар пагразіў яму пальцам, гулліва прамовіў: «Па чарзе, браткі» і, прыабняўшы нас з Зояй за плечы, завёў у пакой, дзе стаялі ложкі, і загадаў распранацца. Убачыўшы, што мы не вельмі спяшаемся выконваць ягоны загад, ён раззлаваўся і пачаў зрываць з нас адзенне.

Зоя закрычала:

— Мы не дамаўляліся, каб вас было столькі! Зараз жа выпусці нас адсюль!

— А з вамі, шлюхі, увогуле ніхто і ні пра што не дамаўляўся, — драпежна ашчэрыўся нахабнік і выцяў Зою па твары. Тая ўпала на ложак, а ён зверам накінуўся на яе. І тут я заўважыла, што акно, якое выходзіць у сад, прачынена. Не доўга думаючы, я скочыла на падаконнік і сiганула ўніз. Прызямлілася я добра: па-першае, было невысока, па-другое, зямля аказалася мяккай. Я падхапілася і з маланкавай хуткасцю паімчалася па вуліцы. Бегла, баючыся азірнуцца: мне здавалася, што за мной гоняцца і вось-вось дагоняць, і зноў завалакуць у брудную нару, з якой мне толькі што ўдалося вырвацца.

Калі я ўрэшце прыпынілася, каб перадыхнуць, перш за ўсё падумала пра тое, што настаў момант, які я павінна скарыстаць, каб ратавацца. Я пачала ўжо разважаць, якім чынам лепш ажыццявіць задуманае, але тут у галаве мільгнула: «А як жа Зоя? Яна ж засталася з гэтымі вылюдкамі!»

Я ліхаманкава пачала абмацваць сябе. Мабільнік! Дзе мабільнік? Алік жа аддаў яго мне! Мабільніка не было. Можа, я згубіла яго. Можа, пакінула там. Што ж, трэба вяртацца «дадому». Толькі як знайсці тую «дамоўку»?

Толькі пад раніцу я, знясіленая, напаўраздзетая ўрэшце дацягнулася да свайго «дома». А недзе праз гадзіну Алік прывёз ледзьве жывую Зою…

На вуліцы ўжо глыбокая восень. Зою «зняў» нейкі лысы таўстун і павёў у сваю машыну. Толькі што міма на «бээмвэшцы» марудна праехаў наш «целаахоўнік» Алік. Пакуль ён з’ездзіць на суседнія «кропкі», я паспею зайсці ў прыдарожнае кафэ, каб крыху сагрэцца. Заходжу і чую:

— Ну, это ты, Мишка, заливаешь! Вот приедем в Варшаву, я тебе это докажу.

Прабягаю вачыма па зале: вось яны, двое браточкаў-расіян, а можа, і беларусаў. Глушу ў сябе крык радасці і кіруюся да іхняга століка. Яны тлумачаць маю ўвагу па-свойму:

— Ну что, синеглазка (пад правым вокам у мяне сіняк — «падарунак» ад учарашняга капрызлівага кліента), спонсоров ищешь? — усміхаецца адзін з іх, ружавашчокі, коратка пастрыжаны здаравяк. — Мы бы с радостью, но, понимаешь ли, злотых нет. Ніц німа.

Я падыходжу бліжэй і ціха, амаль шэптам прашу:

— Родненькія мае, ратуйце! Давязіце мяне да Варшавы. А там я сама дабяруся да дому.

Мне трэба ў пасольства.

— Вот это сюрприз! Землячка! — крычыць другі, цёмнавалосы, з радзімкаю над верхняй губою.

— Да тише ты! — перабівае першы, і да мяне, скарагаворкаю: — Иди к машине. Вон та, большая, напротив, с медвежонком за стеклом. А мы сейчас выйдем.

Я лячу на вуліцу. Толькі б паспець! Толькі б ліхая гадзіна не нанесла Аліка! У гэтую хвіліну я не думаю, хто яны, гэтыя двое: можа, бандыты ці маньякі якія, і можа, мяне чакае што-небудзь яшчэ больш жудаснае, што маю на сённяшні дзень. Галоўнае, яны свае. Толькі б паспець!

Не паспела… З цемры выплыла Алікава постаць.

— Ты гэта куды імчышся? — падазрона зірнуўшы на мяне, пытаецца Алік.

— Ды тут з кліентамі дамовілася, — радасным голасам адказваю я, хаця адчуванне такое, быццам за каўнер мне сыпанулі гарачага вуголля. — З двума адразу. Вунь іхняя машына. Ды вунь і яны ідуць ужо.

— Ну, ты малайчына, Танька, — хіхікае Алік. — З двума адразу! Хутка класнай прафесіяналкай станеш. Давай працуй, а я пайду кавы вып'ю.

Я махнула рукой (ідзі, не перашкаджай!), панадлівай хадою рушыла насустрач сваім патэнцыяльным збаўцам і гучна, каб пачуў Алік, залапатала:

— Не пашкадуеце, хлопчыкі, я ўсё ўмею!

Уяўляю, які твар быў у Аліка, калі ён зразумеў, што яго «развялі як лоха».

Усё, што змаглі зрабіць для мяне Міхась і Алег — мае нечаканыя збаўцы — гэта давезці да Варшавы. Яны параілі мне звярнуцца ў пасольства, далі некалькі злотых, паабяцалі, што перашлюць маім родным спехам напісаную на лістку з блакнота запіску, у якой я пісала, што неўзабаве прыеду…

У нашай амбасадзе мне далі дакумент, які часова замяняў пашпарт. Больш нічога я там не прасіла: было няёмка прызнацца, хто я і што… Сказала, што згубіла пашпарт.

Я выйшла на вуліцу і пасунулася сама, не ведаючы куды. Грошай, каб даехаць дадому, у мяне не было. Ішла доўга, стамілася і прысела на лаўку ў нейкім скверы. Вышмаргнула з пачка цыгарэту, але ніяк не магла запаліць яе: рукі калаціліся, а з вачэй несупынна беглі слёзы.

— Паненка, пачастуй цыгарэтай! — няўзорысты і, здаецца, п'янаваты мужчына ў расшпіленым паліто прысеў побач: — О, паненка плача? Хто яе пакрыўдзіў?

З польскай моваю ў мяне праблемы. Разумець — разумею (ды як не разумець, калі амаль восем месяцаў тут?), а гавару зусім слаба. Мне ўвогуле цяжка даюцца замежныя мовы, нават гэтая, у многім падобная да маёй роднай.

— Дык хто паненку пакрыўдзіў? — не адставаў няпрошаны сусед.

— Галава мая дурная пакрыўдзіла, — уздыхнула я і, мяшаючы польскія, рускія і беларускія словы, нечакана для сябе расказала гэтаму чужому, не зусім цвярозаму чалавеку ўсё, што здарылася са мною.

Ён спачувальна пахітаў галавою і, крыху падумаўшы, прапанаваў:

— Хадзем да мяне.

Мне стала крыўдна: ды што ж гэта такое! Я столькі спавядалася перад гэтым смарчком, а ён — туды ж! Я паімкнулася ўстаць з лаўкі, але «смарчок» затрымаў мяне:

— Няхай паненка не баіцца. Я — Зэнек. Жыву не адзін, а з сястрою.

І я пайшла за ім, амаль не спадзеючыся на добрае.

Але і ў гэты — у другі раз запар! — лёс быў літасцівы да мяне. Некалькі дзён я адпачывала і адагравалася ў доме Зэнека і ягонай сястры Ванды. Ванда была ўдавою. Дзяцей яна не мела. Можа, таму так спагадліва паставілася да мяне, дваццацігадовай жанчыны са знешнасцю дзяўчынкі-падлетка. Але заседжвацца ў Зэнека і Ванды не было як. Жылі яны небагата. Зэнек атрымліваў нейкую ці то пенсію, ці то дапамогу па беспрацоўі, а Ванда гандлявала на мясцовым рынку «на гаспадара». Я спытала, ці не можа яна дапамагчы хоць на пару месяцаў уладкавацца на рынак і мне.

— Хачу зарабіць хоць якія грошы, каб не толькі білет купіць, але і штонебудзь дадому прывезці. Сорамна жабрачкаю туды з'яўляцца. Я ж на заробкі сюды ехала.

Ванда адказала:

— Абяцаць не абяцаю, але пастараюся штонебудзь прыдумаць.

Праз два дні яна павяла мяне на рынак. Мы спыніліся ля ралетаў, дзе гандлявалі в'етнамцы. В'етнамцаў мне даводзілася бачыць і на нашым гарадскім рынку. Усе яны, маленькія, з мяне ростам, смуглатварыя з аднолькава вузкімі вачыма здаваліся мне падобнымі адзін да аднаго, як блізняты. «І як яны не пераблытаюць, хто з іх хто?» — кожны раз думала я,назіраючы за імі.

Ванда падвяла мяне да аднаго з «блізнят» і сказала:

— Знаёмся, Таня. Гэта Бон. Ён згадзіўся ўзяць цябе памочніцаю. Жыць будзеш у мяне, за кватэру платы я з цябе браць не буду, а на харч, на дарогу і на гасцінцы родным за месяц-другі ты тут заробіш.

Я стала працаваць у ралеце ў Бона: прадавала джынсы, спартыўныя касцюмы, красоўкі. Усе гэтыя рэчы былі не вельмі якасныя, але куплялі іх ахвотна, бо ў параўнанні з «фірмой» яны былі вельмі танныя.

Неўзабаве я пачала бачыць розніцу паміж «блізнятамі». Не такія ўжо яны і падобныя. Вось, напрыклад, Мэн з суседняга ралета. Ён і ростам вышэйшы, і вочы ў яго больш выразныя. І ўвогуле, Мэн нічога сабе хлопец, не тое што недарэка Бон, які да таго ж аказаўся вельмі скнарлівым. Плаціў ён мне столькі, што хапала на харч ды на цыгарэты. Я пакуль маўчала, спадзявалася на ягонае сумленне. Але аднойчы Бон папрасіў мяне дапамагчы яму прынесці тавар са склада — невялічкай будачкі ў канцы рынка, і калі мы зайшлі туды, Бон зачыніў дзверы на ключ і пачаў лапаць мяне, імкнучыся паваліць на мяшкі, што ляжалі на падлозе. Я вырвалася, адпіхнула яго і, сказаўшы, што калі ён яшчэ хоць раз дакранецца да мяне, я наб'ю яму морду і сыду. І ўвогуле: за такія грошы працаваць я больш не збіраюся.

Назаўтра Бон рабіў выгляд, быццам паміж намі нічога такога не адбылося, але ўсё роўна было відаць, што ён вельмі пакрыўджаны: як жа, ім, гаспадаром, пагрэбавалі! І хто? Валацужка нейкая! А тут я яшчэ прыгледзела на рынку недарагі світэр і папрасіла ў яго грошай у лік зарплаты. У адказ на маю просьбу Бон зрабіў непрыстойны жэст і засмяяўся.

Тут здарылася нечаканае: Мэн, які гандляваў побач, падбег да мяне. Я не паспела яшчэ нічога зразумець, як ён схапіў мяне за руку і, пагразіўшы свайму суайчынніку кулаком, павёў да свайго ралета. Бон нешта абурана залапатаў, але з месца не зрушыўся.

Увечары мы з Мэнам пайшлі да Ванды і Зэнека, каб узяць што-кольвечы з нешматлікіх маіх рэчаў. Ванда шэптам, каб не пачуў Мэн, параіла застацца, але я сказала:

— Вялікі дзякуй, пані Ванда. Не магу я вам больш дакучаць. Бон нічога не заплаціў мне, таму давядзецца яшчэ затрымацца. Я ж вам сказала, што з пустымі рукамі вяртацца на радзіму не хачу.

Ванда ўздыхнула:

— Ой, глядзі, Таня, калі што якое — прыходзь.

— Ды я і так буду заходзіць да вас, — сказала я перш чым развітацца.

Мэн прывёў мяне ў кватэру, што здымаў разам са сваім сябрам, які цяпер з'ехаў ажно на тры месяцы на сваю радзіму. Мэблі ў кватэры было мала: стол, некалькі крэслаў, невялічкая канапа і ложак-пастамент. Мы павячэралі халоднай рыбаю з рысам, выпілі па кубачку гарбаты. Мэн сам памыў посуд і будзённа, быццам паміж намі ўжо ўсё даўно вырашана, сказаў:

— Ты будзеш маёй жонкаю. Пойдзем класціся спаць.

Нельга сказаць, што ягоныя словы здзівілі мяне: Мэну было вядома, чым мне зусім нядаўна даводзілася займацца (сама, дурніца, расказала, ніхто за язык не цягнуў), і ўсё ж на душы стала пагана. «Ты будзеш маёй жонкаю!» А ў мяне ты спытаў? Ды я, можа, пасля ўсяго не толькі тваёй, але і нічыёй жонкаю ніколі быць не захачу! Але ж выйсця ў мяне няма: мне трэба зарабіць грошай, каб вярнуцца дадому. І я адступіла. Я выключылася з рэальнасці і пачала ўваскрашаць у памяці самае добрае і светлае. Усё добрае і светлае было ў мінулым. Райскім куточкам бачыўся мне непрываблівы некалі мой далёкі цяпер пасёлак. Прыгожымі і роднымі здаваліся ўсе яго насельнікі, нават бабулі-пляткаркі, што цэлымі днямі сядзелі на лаўках і адным сваім выглядам псавалі мне настрой.

Мэн, вядома ж, не заўважаў майго стану… Ён ведаў, што яму ад мяне трэба… Больш яго нішто не цікавіла.

Прайшоў месяц, а Мэн пакуль не заплаціў мне ніводнага злотага ды, відаць, і не збіраўся плаціць. Я была ў адчаі і аднойчы, калі адзін з мужчын, што гандлявалі на рынку, які зваўся Туро, прапанаваў спаткацца з ім за пэўную плату, я згадзілася. З таго «спаткання» з мізэрнай платаю (гэты паскуднік таксама абдурыў!), заціснутай у кулаку, са слязьмі на вачах і крыўдаю на ўвесь белы свет прыбегла на «сваю» кватэру.

Мэн сядзеў за сталом, падлічваў дзённую выручку і складаў грошы ў барсетку. Я з рашучым выглядам падышла да яго:

— Мэн, мне патрэбны грошы.

Ён узняў галаву:

— Навошта табе грошы? У цябе ёсць дзе жыць, ёсць ува што апранацца, пра ежу таксама не трэба клапаціцца. Ты ж мая жонка.

— Я не хачу быць і не буду тваёй жонкаю. Мне трэба ехаць дадому. Ты чуеш: да-до-му! Я больш за месяц цэлымі днямі стаяла на рынку, прадавала тваё рыззё. Заплаці мне, вельмі прашу.

І тут заўжды спакойны і далікатны мой «муж» непрыгожа ашчэрыў буйныя жаўтаватыя зубы і крыкнуў:

— Ты не адпрацавала яшчэ тое, што я заплаціў за цябе Бону! Ніякіх грошай ты не атрымаеш, шлюха!

— Ах, дык і ты купіў мяне?!

Страшэнная, непадуладная розуму злосць апанавала ўсю маю істоту. Перад вачыма закрыўляліся, заскалілі зубы варожыя мужчынскія твары, нахабныя, пажадлівыя, ненавісныя… Не ўжо, больш ніхто і ніколі не будзе купляць-прадаваць мяне!

Не памятаю, як у маіх руках апынуўся зэдлік (на ім жа толькі што сядзеў Мэн!) і як я з усяго размаху апусціла яго на галаву Мэна. Ён упаў на падлогу і знерухомеў. Я спужалася, але толькі на адно імгненне. Нічога з ім, паскуднікам, не зробіцца. Ачомаецца.

У наступнае імгненне, прыціскаючы да грудзей «мужаву» барсетку з грашыма, я бегла па вуліцы, а праз колькі хвілін ужо сядзела ў таксі. На паўдарозе да вакзала спахапілася: я ж пакінула дакумент, атрыманы ў амбасадзе ў Ванды! А што, калі ні Ванды, ні Зэнека не будзе дома?!

Мне пашанцавала. Калі я ўварвалася да іх, Ванда і Зэнек збіраліся піць каву. Убачыўшы мяне, задыханую, у расшпіленым паліто, Ванда спужалася:

— Што з табою? Хто за табой гоніцца?

— Пакуль ніхто, — адказала я, а сама падумала, што Мэн, калі апамятаецца (а мо ўжо і апамятаўся), перш за ўсё кінецца шукаць мяне менавіта тут, у Ванды, адрас жа яе ён ведае.

Я забрала дакумент і астатнія свае рэчы, пацалавала Ванду, абняла Зэнека. Ля парога прыпынілася, дастала з барсеткі частку грошай і, не пералічваючы, паклала на тумбачку пад вешалкай.

* * *

Няўжо я дома?! Так, ужо тыдзень я дома, а ўсё ніяк не магу паверыць, што бярозка пад акном — гэта не сон, не міраж, а сапраўднасць і што па радыё і на вуліцы гучыць не абрыдлая шыпячая, а мая родная і (толькі цяпер я зразумела гэта) вельмі прыгожая мова. Нішто не магло сапсаваць майго святочнага настрою: ні празмерна цікаўныя позіркі суседзяў, ні іхні перашэпт за маёй спінаю, ні бацькава п’яная буркатня, ні нават тое незразумелае, што з нядаўняй пары час ад часу рабілася са мною. А рабілася дзіўнае: мне раптам станавілася млосна, па ўсім целе прабягала гарачая хваля і мяне пачынала нудзіць. Але звычайна доўжылася гэта ўсяго некалькі хвілін, а потым навакольнае зноў паўставала перада мною ў радасных фарбах.

— Нічога, — суцяшала я сябе, — гэта часовае, пасляcтрэсавае, відаць. Вось хутка атрымаю пашпарт, уладкуюся на працу, і ўсё стане на сваё месца. Само жыццё паставіць усё і ўсіх на свае месцы, кожнаму аддасць належнае. І *тым* — таксама. Абавязкова аддасць.

Тады я яшчэ не здагадвалася, што я ўжо не адна і што маё «пасляcтрэсавае» — гэта першыя звесткі пра новае жыццё, якое я нашу ў сабе, і якое стане маім болем і радасцю, шчымлівай трывогаю і горкім маім шчасцем…



## Ірына КАРЭЛІНА

* * *

І будзе світанак...
Гаючы.
Саспелы.
Вясновы.
Самотныя сны
запалоняць чацвёрты вагон.
І будуць пастукваць
па рэйках імклівыя колы.
І будзе званіць безнадзейна
чужы тэлефон.
Я буду маўчаць
і сачыць праз вільготныя вокны:
сасновым туманам
укрыта чароўна зямля.
І буду глядзець
на ўвесь свет безнадзейна прамоклы,
як рэйкі жыццё разразаюць
на «да» і «пасля».

### БАЧЫШ, ПТУШКІ ЎЗЛЯТАЮЦЬ НАД ГОРАДАМ...

Паміж намі — папрокі сцяной...
Бачыш, птушкі ўзлятаюць над горадам?
Не было мне ніколі так халодна,
нават самой суровай зімой.

---

*Карэліна Ірына Ігараўна* нарадзілася 24 снежня 1990 года ў Полацку. Студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ.

*Вершы друкаваліся ў «Литературной газете», у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», у часопісе «Маладосць».*

На аблоках запыніцца зрок.
Купалы разліваюцца золатам.
Неўгамонныя птушкі над горадам...
Да свабоды — адзіны рывок.

Я чужыя імёны шапчу.
Ад надрыўных званоў вее холадам.
Крыкі птушак над стомленым горадам...
Абнімі ж ты мяне! Я прашу.

Будзь сягоння мацнейшым!
Хоць раз.
Не шукай аніякага поваду.
Гоман птушак знікае за горадам...
Гэта быў твой упушчаны шанс.

## РЭКВІЕМ

Ляціць па-над вечнасцю ліст —
плён думкі маёй у бяскрайнасці.
За вокнамі — дождж-піяніст.
Сусвет — у самотнай танальнасці.

Лілова гарыць манітор,
і ў сэрцы — праменне ліловае.
На вуліцы — дождж-дырыжор
сваёй сівізной зачароўвае.

У нас — толькі некалькі слоў
і цэлая вечнасць маўчання.
«На жаль, мне пара… Ясных сноў.
Вось дождж, ён складзе Вам кампанію».

Ляціць па-над вечнасцю ліст,
і думкі скрозь вечнасць праносяцца.
А дождж мне іграе «на біс»
кастрычніцкі рэквіем восені.

* * *

Воблака падобна на трызубец,
што нябёсы пратыкнуў наскрозь…
Да краёў напоўніць чашу вуліц
з ран нябёсных нечаканы дождж.

Цёмна-фіялетавай гуашшу
вечар размалюе гарызонт,
а пасля, спакойна і разважна,
падбяжыць пад чыйсьці парасон.

Падкрадзецца дождж у двор ліловы
і замрэ каля майго акна…
(Пах дажджу увесну адмысловы:
ландышаў і белага віна.)

Мне б той дождж прыгрэць і прыгалубіць —
вочы яго сумныя ад слёз…
Воблака падобна на трызубец,
што нябёсы пратыкнуў наскрозь.

* * *

Смяецца месяц, быццам кот Чашырскі,
хмялее ноч ад выпітага віскі...
Нам першыя даюць урокі твісту
завеі срэбнавокія агні.
Расколаты фарфор нябёсаў зорны…
Вы ветраны і надта несур'ёзны.
Я ведаю, што вас кахаць — кур'ёзна,
ды вечар быў ізноў «на вышыні».

Застынуць на каменных вежах стрэлкі,
са снегу злепіць снежань «рафаэлкі»,
пакрые гаспадарліва пабелкай
патрэсканы стагоддзямі фасад...
А я ўдыхну апалавы світанак,
шукаючы дарэмна ў Вас заганы.
Ды выдасць мой настрой зачараваны
вачэй зялёных радасны пагляд.

***Пераклад з рускай***
***Рагнеда МАЛАХОЎСКАГА.***



Уладзімір ДУКТАЎ

# АПАВЯДАННІ

## Апёк

Цёплым майскім адвячоркам мяне пільнаваў у нашым двары шыкоўны чорны аўтамабіль.

— Ці не вы будзеце Арцём Шчарбіна? — не выходзячы з машыны, праз адчыненую фортку спытаў у мяне сівы лысаваты мужчына маіх гадоў. Быў ён у спартыўным касцюме і зацемненых акулярах.

Я якраз скіраваўся да свайго пад'езда ў шматпавярховым гмаху, пачуўшы гэта, спыніўся:

— Так, я Арцём Шчарбіна, а што вы хацелі?..

— Можна з вамі пагаварыць?

— Вядома, можна. Але, прабачце, я нешта не магу прыгадаць вас…

— Сядайце да мяне ў салон, пазнаёмімся.

Я легкадумна ўладкаваўся ў легкавушцы побач з вадзіцелем.

— Вам няма чаго хвалявацца, — сказаў роўным аксамітавым голасам мужчына, і, не здымаючы акуляраў, дадаў: — Дарэчы, мы з вамі дамаўляліся сёння з'ездзіць паглядзець вашу дачу. Я той пакупнік, што званіў вам учора вечарам. Мы дамаўляліся сустрэцца а пятай гадзіне, а зараз палова на шостую.

Толькі цяпер я ўспомніў: сапраўды, учора мне званіў чалавек, казаў, што хоча купіць маю дачу. Я паабяцаў незнаёмцу, што сёння ўвечары з'езджу з ім туды, дзе маё лецішча. Яго я і збіраюся прадаць: даў аб'яву ў газеце, дзе працую карэспандэнтам.

— Прабачце, калі ласка, што спазніўся, — сказаў я, — на працы здарылася непрадбачанае. Вось і... Але наша дамоўленасць застаецца ў сіле. Заўтра субота, таму я магу нават там і застацца. Жонка ж і сын прыедуць заўтра апоўдні цягніком: у жонкі заняткі ў школе, яна настаўніца, а сын — студэнт-выпускнік. Трэба генеральную ўборку зрабіць на ўчастку, бо раней ніяк не атрымоўвалася выбрацца на прыроду... А як вы мяне пазналі? Я ж, здаецца, не гаварыў, як выглядаю.

---

*Дуктаў Уладзімір Уладзіміравіч нарадзіўся 28 снежня 1953 года ў горадзе Крычаве Магілёўскай вобласці. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1976) і Мінскую вышэйшую партыйную школу (1989). Працаваў карэспандэнтам клімавіцкай раённай газеты, рэдактарам магілёўскай раённай газеты. Цяпер — старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Выдаў кнігі прозы «Дзякуй і даруй» (1993), «Трэцяя асоба» (1997), «Смешкі-пацешкі» (1998), «Кніжнік» (2005).*

— Ваша жонка сказала, што вы будзеце апрануты ў джынсавы касцюм, ды і бародка ў вас… Прыкметы запамінальныя. Я з мабільніка пазваніў на ваш хатні тэлефон, калі ў прызначаны час не дачакаўся вас. Падумаў спачатку, што мы размінуліся… Дык, значыць, сёння падскочым у Панізоў?..

— Пачакайце, я толькі збегаю дамоў, пакіну дыпламат і адразу ж паедзем.

— Дазваляю нават і павячэраць, — пажартаваў незнаёмец. — А я праз паўгадзіны буду чакаць вас на гэтым месцы. Мне таксама яшчэ трэба па справах крутнуцца. Часу ж хопіць, майскі дзень вялікі.

— Згода, — сказаў я. — Праз пятнаццаць хвілін можаце пад'язджаць за мной.

Я пайшоў дамоў, пакінуў дыпламат, выпіў кавы, крыху адпачыў і хвілін праз пятнаццаць, як і дамаўляліся, выйшаў у двор. Тым часам патэнцыяльны пакупнік маёй дачы чакаў мяне. Я сеў у машыну, і мы адразу рушылі ў дарогу. Тры дзясяткі кіламетраў адолелі без аніякіх прыгод. Увесь час размаўлялі. Міхась Пятровіч — так назваўся пакупнік — пацікавіўся, чаму ў мяне невясёлы настрой і ці не звязана гэта з той непрадбачанай сітуацыяй, аб якой я абмовіўся на пачатку нашай сустрэчы.

— Але, — сказаў я, — звязана. Мы выпускаем рэкламны дадатак да нашай газеты. Я сёння дзяжурыў па нумары. Дык даў зевака. У рубрыцы «Клуб знаёмстваў» змясцілі такую аб'яву: «Жадаю пазнаёміцца з жанчынай сарака год. Мне сорак пяць гадоў. Не куру, злоўжываю спіртнымі напоямі…» І гэтак надрукавалі ўвесь тыраж. Я ўгледзеў памылку за гадзіну да таго, як паштавікі павінны былі забіраць газету з друкарні. Давялося мне перад «злоўжываю» шарыкавай ручкай з чорнай пастай дапісваць «не» ад рукі… на ўсіх пяці тысячах экзэмплярах.

— Застаецца толькі паспачуваць вам…

— Наадварот. Мне вельмі пашанцавала. А то схапіў бы вымову і прэміяльных за месяц не ўбачыў бы, як сваіх вушэй, калі б гэткая недарэчнасць праскочыла… Заўсёды так атрымліваецца, як даводзіцца дзяжурыць з маладой карэктаркай. Ёсць у нас яшчэ адзін вельмі вопытны карэктар, сталая жанчына, дык за той, як за каменнай сцяной. Яна нават жартуе калі-нікалі: «Я хутчэй палец сабе адкушу, чым памылку ў нашай газеце прапушчу».

— А вы, калі не сакрэт, чым займаецеся, дзе працуеце? — спытаў я.

— Я малады ваенны пенсіянер, — проста адказаў Міхась Пятровіч, — служыў апошнім часам у Бабруйску. Кватэру добрую там маю. А родам адсюль, з-пад Магілёва, вёска мая суседняя з Панізовам, дзе ваша дача.

— Дык жа ў вас, відаць, і бацькоўскі дом ёсць?

— Хата сапраўды засталася. Але ўжо амаль два дзесяцігоддзі жывуць у ёй чужыя людзі. Маці прадала праз паўгода, як бацьку забіла токам, калі ён фарбаваў сцяну ў нашай хаце ўлетку. Выпадкова зачапіў неізаляваны дрот. Сам жа ён элетрыкам усё жыццё адпрацаваў, вось што дзіўна. Нездарма кажуць: часцей тонуць тыя, хто ўмее плаваць… Я тады пад Хабараўскам служыў. Нават на пахаванне не прыязджаў, бо вёльмі ж далёкі шлях… Старэйшы брат Кастусь пахаваннем займаўся. Потым маці да яго ў Магілёў перабралася. Яна на той час перастала даіць кароў у калгасе, на пенсію выйшла. Так і жыве цяпер разам з Кастусём і ягонай жонкай Галяй у трохпакаёвай кватэры. Кастусь і Галя выкладаюць у інстытуце, абое кандыдаты навук. Дзяцей у іх чамусьці няма, дык хоць нейкі занятак будзе ім у Панізове на дачы…

— А што ваш брат на гэта кажа? — пацікавіўся я.

— Як ні дзіўна, адмаўляецца. Учора яму споўнілася пяцьдзясят год. Я спецыяльна да яго юбілею купіў сабе прыгожы касцюм. Вунь ён на заднім

сядзенні ляжыць, загорнуты ў цэлафан. Учора за святочным сталом я сказаў, што хачу падарыць Кастусю дачу побач з нашай роднай вёскай… Усе ў далоні запляскалі, а Косцік на падпітку даў каманду «Адстаўіць!» Маўляў, ён не жабрак і міласціну не прыме ад мяне. Добра, што я без жонкі прыехаў на юбілей, як адчуваў, што мой братка можа такога коніка выкінуць. Ат, ён жа з дзяцінства такі недарэка…

— Чаму ж так? Няўжо?.. — здзівіўся я.

— Не верыце? Ды вось хаця б такую гісторыю паслухайце… Бачыце на ілбе апёк? — Міхась Пятровіч павярнуўся да мяне ў анфас.

Я паглядзеў на ягоны лоб. На ім, пасярэдзіне, выдзяляўся кавалачак тонкай ружовай скуры памерам з ладны бярозавы лісток: апёк.

— Шэсць год мне было тады, здаецца, не болей, — працягваў Міхась Пятровіч. — Помню, я свавольнічаў, згарнуў з газеты самакрутку, бачыў жа, як бацька гэта робіць, тытунь ён ад нас, сыноў, ніколі не хаваў. Ну і закурыў. Цыгарка ж успыхнула, полымем падпаліла мне чуб. Старэйшы брат Косцік, ён тады ўжо хадзіў у другі клас, якраз прыйшоў са школы, пачаў тушыць мой чуб, прыціскаючы партфелем мае валасы да ілба. Так я і застаўся на ўсё жыццё мечаным...

— Дык жа ваш брат ненаўмысна гэта зрабіў…

— Вядома. А то б я яго па стойцы «смірна!» даўно паставіў, — помсліва вымавіў Міхась Пятровіч і, крыху памаўчаўшы, працягваў: — Мне неяк тая гісторыя з чубам акрэсліла ўсё далейшае жыццё. Увесь час імкнуўся сабе і іншым даказаць, што я не зломак. Настаўніца мне нават казала: «Ты, Міша, быў бы яшчэ лепшым хлопцам, калі б не спяшаўся». А я сапраўды імкнуўся ўсё зрабіць першым: сачыненне напісаць і здаць раней за ўсіх, на школьных спаборніцтвах прабегчы хутчэй за астатніх, макулатуры сабраць больш чым хто…

Памятаю, узімку той-сёй з вучняў на лыжні спецыяльна школьную лыжыну зламае і клыпае пяціху пехатой да фінішу, а я, колькі ёсць сілы, махаю лыжнымі палкамі.

І вось так усё жыццё імкнуся быць лепшым і першым… Пасля ваеннага вучылішча і ў войску заўсёды сярод лепшых афіцэраў значыўся. Палкоўнікам стаў, папаху некалькі год назад атрымаў… А на гэта шмат сіл і нерваў трэба было пакласці. І на Крайнюю Поўнач, дзе цяжкія ўмовы, сам папрасіўся служыць. Там яркім снегам рагавіцу вачэй папсаваў, таму ў зацемненых акулярах цяпер хаджу… Здароўе ж не жалезнае… Апошні год кожны дзень лічыў, колькі засталося да пенсіі — гэтак пачаў стамляцца, а мне ж усяго сорак сем год споўнілася нядаўна.

— Ёсць выдатныя санаторыі, дзе можна набрацца моцы, — сказаў я.

— Вядома, але на добры санаторый патрэбны немалыя грошы. Пенсія пенсіяй, а... Вось я і стаў прадпрымальнікам, маю ўласную краму, сямейны бізнес, гандлюем мэбляй. Але два маіх сыны ў асноўным займаюцца гэтым, я ж патроху ім памагаю парадамі.

— Значыць, самі не хочаце кіраваць.

— Але, не буду ж я чакаць, пакуль дзеці скажуць, маўляў, без цябе, бацька, справімся... — Ён на хвіліну змоўк, потым працягваў: — Дарэчы, чаму вы надумаліся прадаваць дачу? Няхай бы сыну дасталася.

— Дык вось менавіта сыну не хапае пару тысяч долараў, каб ён змог купіць аднапакаёвую кватэру. Ён жа летась ажаніўся, жыве з намі. Сваты нашы ў Слаўгарадзе жывуць. Хаця і прасторную двухпакаёўку маем, але ўсё роўна лепей, калі маладыя будуць жыць асобна.

Нарэшце мы дабраліся да Панізова, агледзелі мой аднапавярховы з белай сілікатнай цэглы дачны дамок, шэсць сотак вакол яго. Пабудова Міхасю Пятровічу спадабалася.

— Я зараз вярнуся на Бабруйскую шашу і паеду дамоў, — сказаў на развітанне Міхась Пятровіч. — Сазванюся з Кастусём і, калі ён папросіць у мяне прабачэння за свае абразлівыя словы і ўчынак на ягоным юбілеі, дык я куплю гэтую дачу яму ў падарунак.

Але нездарма кажуць, нібыта шчаслівыя дні мужчынскія, гэта панядзелак, аўторак і чацвер. У такія дні і трэба распачынаць нейкую справу, тады можна спадзявацца на ўдачу. А мы распачалі справу якраз надварот — у суботу, а гэта дзень жаночы, у такія дні мне не шанцуе. На наступным тыдні я так і не дачакаўся званка ад Міхася Пятровіча. Задатак ён мне за будучую пакупку не перадаваў, таму я напрыканцы мая прадаў сваю дачу іншаму пакупніку.

## Аднакашнікі

Вучыўся Юрась Муха старанна, таму пасля заканчэння педагагічнага інстытута яго пакінулі працаваць тут выкладчыкам. Неўзабаве хлопец ажаніўся са студэнткай. Жылі на прыватнай кватэры. Спачатку жонка, скончыўшы інстытут, працавала ў адной са школ горада, але год таму сказала, што ёй тут усё абрыдла, з’ехала ў Гродна да сваіх бацькоў, Юрасю паабяцала, што выкліча яго, калі знойдзе і сабе, і яму там неблагую працу. Дзяцей у іх не было. Таму Юрась не надта сумаваў па сваёй палавінцы, чакаючы, калі ж яна знойдзе там і сабе, і яму месца. Нават калі надышоў доўгачаканы водпуск, ён не памкнуўся ехаць да жонкі ў Гродна. Муха прыгадаў свайго аднакашніка Сяргея Когута, які жыў і працаваў у вясковай школе ля Бабруйска і неаднойчы запрашаў да сябе ў госці. Муха сазваніўся з ім па тэлефоне, дамовіўся аб сустрэчы.

Да Бабруйска Юрась дабраўся рэйсавым аўтобусам зранку ў ліпеньскі будзень. На аўтастанцыі яго сустрэў на сваіх «Жыгулях» Сяргей Когут. Когут быў на дзве галавы вышэйшы за Юрася. Юрасю здалося, што за тых некалькі гадоў, як яны не бачыліся, Сяргей пасталеў, памужнеў.

— Ты што, не пазнаеш мяне, музыканцік? — здзівіўся Сяргей, заўважыўшы, што Юрась глядзіць на яго недаўменна.

— Чаму ж? Пазнаю. Але ж ты крыху змяніўся, Сяргей, — прызнаўся Юрась.— Можа, каб дзе сустрэліся нечакана і не пазнаў бы.

Некалі ў студэнцкую пару яны жылі ў адным інтэрнацкім пакоі. Не сказаць, што былі сябрамі, але і не цураліся адзін аднаго. Так і правучыліся чатыры гады. У студэнта Юрася Мухі быў цяжкі характар. Хлопец вызначаўся ганарлівасцю, фанабэрыстасцю. Да вучобы ў інстытуце ён скончыў Магілёўскае музычнае вучылішча. Падзарабляў ігрой на кларнеце ў аркестры ў рэстаране. Быў заўсёды сыты, і грошы ў яго вяліся… Неяк на першым курсе інстытута прыходзіць у інтэрнацкі пакой вечарам. Глядзіць, а за сталом сядзяць хлопцы і ядуць нішчымныя макароны з цыбуляй. Нават на стале няма хлеба, мабыць, грошы скончыліся, а да стыпендыі яшчэ далёка.

— Калгаснікі, вучыцеся грошы зарабляць. Бяры вілаус, ідзі капаць гнойс, — з парога няўдала пажартаваў сыты Юрась, пагардліва паглядаючы на аднакурснікаў, чакаючы, што яны скажуць на гэта.

І дачакаўся: Сяргей Когут нетаропка ўзняўся з-за стала, узяў патэльню і вываліў макароны на галаву Юрасю. Пакрыўджаны Юрась кінуўся з кулакамі на Когута, але дужы Сяргей схапіў Муху за каўнер і так шпурнуў у шафу, якая

стаяла між ложкамі ля сцяны. Той прабіў галавой фанерныя дзверцы шафы, ды так, што галава зашчамілася, бы ў ціскі трапіла.

— Выбавіце мяне адсюль хутчэй! — узмаліўся Юрась, паспрабаваўшы вызваліцца з шафы, але дзе там!

Когут зарагатаў і апусціўся на крэсла.

— Не, музыканцік, будзеш сядзець там, пакуль не паразумнееш.

Юрась зноў пакруціў галавой — фанера вастрэй упілася ў шыю. Але яму нейкім чынам усё ж удалося адчыніць дзверцы шафы, толькі ўсё адно галава па-ранейшаму была, як у цісках.

— Хлопцы, даруйце, я пажартаваў, — нарэшце ўзмаліўся Юрась. — Прашу прабачэння...

Хлопцы падышлі да Юрася, зразумелі, што справа — дрэнь: пачне круціцца, парэжа шыю, сцячэ крывёю, разгубіліся. Сяргей жа загадаў яму не шавяліцца, пачакаць крыху, збегаў да сталяроў у падвал інтэрната, прынёс нажоўку. Ён асцярожна распілаваў дзверцы і неўзабаве вызваліў Юрася з пасткі. Хлопцы агледзелі шыю перапалоханага не на жарт таварыша па пакоі.

Яна была добра-такі падрапаная. І зноў выручыў Когут. Ён схадзіў да дзяўчат, узяў у іх бінт і ёд. Юрасю перабінтавалі шыю, і так ён хадзіў потым яшчэ амаль тыдзень.

Муха не стаў скардзіцца на Когута ў дэканат, але і Когут больш не чапаў яго, музыканціка. Але пасля таго выпадку і Юрась таксама прыкметна змяніўся, падабрэў. Ён нават невялікія грошы, якія зарабляў у рэстаранным ансамблі, калі-нікалі пазычаў аднапакаёўцам без аніякіх працэнтаў. Але і тыя ўжо прызвычаіліся падзарабляць да стыпендыі: хадзілі ў выхадныя і святочныя дні на чыгунку, разгружалі таварныя вагоны…

— Так, — працягваў Муха.— Усяго нейкіх шэсць гадоў мінула, як мы закончылі інстытут, а ты гэтак пасталеў, што і пазнаць цяжка.

Па дарозе ў вёску, дзе жыў Когут, ён расказаў Юрасю, што з раніцы ягоны сусед Андрэй Барабуля па просьбе Когута напаліў лазню: з дарогі добра будзе папарыцца. Таксама сказаў, што сваёй лазні ў яго няма: калгас выдзеліў новы катэдж, а ў ім — ванны пакой з душам. Казаў, што пасля лазні іх чакае рыбалка з лодкі на Бярэзіне. Таксама паведаміў, што ён цяпер у адпачынку, так што пагуляюць як мае быць.

— Дык я таксама ў адпачынку, — азваўся Юрась.— Часу багата маю вольнага. Напэўна, паеду неўзабаве да жонкі ў Гродна. Яна там цяпер у бацькоў жыве. Мае ж па-ранейшаму ў Барысаве. Жонка кліча наогул да яе паразджаць, толькі вось пакуль што шкада пакідаць інстытут, усё ж такі праца ў мяне тут добрая, наўрад ці знайду нешта падобнае ў Гродне.

— Так, працу добрую атрымаць вельмі складана, — пагадзіўся Когут і дадаў:— А то давай да мяне ў школу: і табе, і жонцы праца знойдзецца. Я ж ці ведаеш, ужо дырэктарам працую. Таму, бачыш, і ў ліпені ад’ехаць далёка не ўдаецца, бо трэба рамонтам займацца, рыхтаваць школу да новага навучальнага года.

— Ну, а гісторыю па-ранейшаму выкладаеш? — спытаў Муха, і нібы нагадаў: — Мы ж — гісторыкі з табой.

— А як жа? — нібы здзівіўся Когут. — І за настаўніка таксама даводзіцца рабіць. Вось Валя, жонка мая, з дэкрэтнага восенню выйдзе, англійскую мову будзе весці, а то мне яшчэ і за яе прыходзілася выкладаць.

— Я табе лішніх турбот не зраблю, калі затрымаюся на які дзень? — спытаў Юрась.

— Ніколькі. Жонка с сынам паехалі да яе бацькоў на Віцебшчыну. Так што я часова халасцякую. Таму нікому мы з табой не будзем замінаць.

У лазню пайшлі мыцца ўтрох: Муха, Когут і сам яе гаспадар Андрэй Барабуля. Гэта быў саракагадовы грузны мужчына. Ён прынёс двухлітровую пластыкавую бутэльку светлага піва, наліў, можа, з шклянку ў конаўку і пляснуў на гарачыя камяні печы. Лазня напоўнілася прыемным пахам.

— Вось у гэтым духу і трэба мыцца, — з веданнем справы зазначыў Андрэй. — А інакш, якая гэта лазня? І наогул мне падабаецца эксперыментаваць з парай: то гэта на камяні лінеш, то тое... Парыцца я люблю ўвогуле. Хаця яшчэ люблю і таму, што трэба лячыць раматус. У войску прычапілася гэтая хвароба, я ж на флоце служыў, падводнікам. Неяк прастудзіўся, моцна хварэў на двухбаковае запаленне лёгкіх. Цяпер спіна час ад часу даймае.

Андрэй ляжаў на палку, прасіў паддаць пары. Сяргей і Юрась выконвалі просьбу. Самі ж час ад часу выскоквалі ў прылазнік ахалоджвацца. А неўзабаве Барабуля ўстрывожана паскардзіўся:

—Хлопцы, нешта мне блага, дапамажыце выйсці з лазні.

Сяргей і Юрась узялі Андрэя пад пахі і вывелі ў прылазнік, і тут Андрэй страціў прытомнасць. Настаўнікі спалохаліся, голыя цераз агарод пацягнулі голага гаспадара да ягонай хаты. Андрэева жонка Ніна, убачыўшы праз акно гэта, перапужалася не на жарт, выскачыла на двор, загаласіла, думаючы, што ён памёр…

Ужо калі Сяргей і Юрась усцягнулі Андрэя на ганак, ён раптам ачомаўся, адкрыў вочы, спытаў:

— Куды вы мяне цягнеце? — заўважыў жонку і загадаў: — Ніна, запрашай гасцей у хату, стаў на стол пачастунак!

Сяргей з Юрасём пасадзілі Андрэя на ганак, збегалі ў лазню, апрануліся, потым завялі Барабулю ў хату, паклалі на ложак. Ніна, дзябёлая кабета, дастала танометр, пачала мераць мужу ціск.

— Трохі павышаны, але для яго цярпімы, — сказала яна і дадала: — Андрэй мой ветэрынарным урачом у калгасе рабіў. Любіў добра выпіць, вось і заробіў гіпертанію. Летась неяк нахіліўся над хворым цялём, рэзка разагнуўся і страціў прытомнасць. Калі ачуняў, не змог паварушыць ні рукой, ні нагой. Такім яго і забрала «хуткая». Дактары вызначылі: мікраінсульт. Праляжаў амаль месяц. Далі інваліднасць, не працуе цяпер. Не, бярог бы сябе, дык ён яшчэ хоча быць як усе. Баюся, будзе піць — памрэ. Што тады мне рабіць адной з дзюма дочкамі-школьніцамі і з зарплатай медсястры? Я і так праз кожныя дзве гадзіны ціск яму мераю, добра што мая ўчастковая бальніца побач з нашым домам, а так... Я і ў лазню забараніла яму аднаму, без мяне, хадзіць. Ён жа парыцца любіць, а гэта яму цяпер нельга.

Сяргей з Юрасём, радыя, што ўсё абышлося, пайшлі дадому да Когута. Андрэя ж жонка не адпусціла з хаты.

Седзячы за сталом у Сяргея, узяўшы па чарцы, пачалі ўспамінаць студэнцтва. Юрась прыгадаў, як у іх пакоі ў замку праварочваўся ключ, з-за чаго дзверы не зачыняліся. Аднойчы вечарам хлопцы гулялі ў карты. Дамовіліся: той, хто прайграваў, залазіць пад стол і брэша па-сабачы, гырчыць... У пакоі стаяў рогат, час ад часу чуўся брэх, то візглівы, тонкі, то басавіты, густы... Андрэю доўга шанцавала, але нарэшце і ён прайграў, і, падпарадкоўваючыся правілам, палез пад стол...

Паверхам ніжэй жыла камендант інтэрната. Яна, ўсё гэта чула, доўга цярпела і раптам раззлаваная паднялася на іх паверх, адчыніла дзверы. Убачыўшы яе на парозе, хлопцы знерухомелі ад нечаканасці: яны ж замкнулі дзверы на замок, але не праверылі, ці зачыніліся тыя. Да ўсяго хлопцы былі без кашуль і штаноў, у адных трусах. Когут, седзячы пад сталом, не бачыў камен-

данткі і працягваў брахаць і выць. А тая, прысеўшы на кукішкі, зазірнула пад стол. Яны сутыкнуліся твар у твар. Сяргей ад нечаканасці анямеў.

— Вылеціш, Когут, з інстытута, заўтра рэктару мая дакладная ляжа на стол! — паабяцала камендант і выйшла з пакоя.

Когут, як быў у трусах, памкнуўся ўслед за ёй. Дагнаў і, ідучы па калідоры, упрошваў не рабіць гэтага. Маўляў, ён адзін у маці, вясковай жанчыны, тая не перажыве, калі яго вытураць з інстытута...

Насустрач траплялiся дзяўчаты, якія жылі ў інтэрнаце. Уражаныя выглядам напаўраздзетага Когута, яны ўзнялі лямант. Камендантка была няўмольная: «Не!..» Спачатку яна не звяртала ўвагі, як выглядае Когут, а калі заўважыла, то закрычала: «Вар'ят!..»

І тады Когут сказаў:

— Калі вы гэта зробіце, дык я накладу на сябе рукі.

Ён вярнуўся ў пакой, прывязаў на вяроўку армейскія, з доўгімі халявамі чаравікі, у якіх прыйшоў з войска. Затым замацаваўшы другі канец вяроўкі за батарэю цэнтральнага ацяплення спусціў чаравікі ў акно так, каб яны напалову вытыркаліся перад акном каменданта на першым паверсе...

Раніцой, прачнуўшыся, камендант убачыла чаравікі і загаласіла. З крыкам «павесіўся!» яна кінулася да вахцёра, дзе быў тэлефон, набрала нумар «хуткай дапамогі» і страціла прытомнасць. Але ў вахцёра быў нашатыр, які ён даў камендантцы панюхаць, тая ачуняла і не чакаючы «хуткай» пабегла на другі паверх. Дзверы пакоя, у якім жыў Когут, былі не замкнёныя, і, яна, убегшы ў пакой, убачыла Когута, які спакойна пасопваў у ложку. Камендантка, нібыта тыгрыца, наляцела на «нябожчыка» і пачала яго лупцаваць далонямі па чым папала.

Хлопцы ледзь уратавалі таварыша, бо жанчына аказалася надта дужай. Зрэшты, жанчына супакоілася толькі тады, калі хлопцы скінуліся на шампанскае, цукеркі і занеслі ёй — у дэканат не паведаміла...

Калі ж прыехала «хуткая», вахцёр, пажылы мужчына, пенсіянер, былы настаўнік, які любіў студэнтаў, адправіў медыкаў, сказаўшы, што выйшла памылка. Маўляў, аднаму было кепска, а студэнты — народ такі, усё перablыталі…

— Што было, тое сплыло, — заўважыў цвярозы Когут, калі яны ўволю насмяяліся, успомніўшы гэта. Когут выпіў толькі чарку, сам больш не піў, бо вырашыў захмяліць і адправіць Юрася дамоў, у Магілёў, усё падліваў таму. Прыехаў, насмяшылі вяскоўцаў: людзі ж бачылі, як яны голыя цягнулі з лазні Андрэя, а гэта дырэктару школы не да твару. Ды і наогул, што можа звязваць яго, дырэктара, і нейкага дробненькага выкладчыка інстытута? Ён жа нават не кандыдат… У студэнцтве вунь якія конікі выкідваў, глядзі, тут яшчэ не такое можа зрабіць…

Юрась жа, хоць і быў на падпітку, таксама разумеў, што дарэмна ён сюды прыехаў: здаецца, даўно не бачыліся, сустрэліся, а гаварыць няма пра што. Ён раптам успомніў, што яму на мабільны тэлефон, як ехаў сюды, нібыта званіў кіраўнік ягонай кандыдацкай дысертацыі, прызначыў сустрэчу назаўтра ў інстытуце.

— Калі так, то трэба ехаць, — з палёгкай уздыхнуў Сяргей, гледзячы на інстытуцкага таварыша.

Когут вечарам таго ж дня завёз Юрася на сваіх «Жыгулях» на аўтастанцыю, і яны амаль па-сяброўску развіталіся. Кожны разумеў, што больш яны сустракацца не будуць.



## Павел ПРУДНІКАЎ

### «Жыць не па ілжы…»

*«Жыць не па ілжы…» — гэты афарызм Аляксандра Салжаніцына найбольш дакладна характарызуе вядомага беларускага паэта і пісьменніка Паўла Іванавіча Пруднікава. Яго лёс адлюстраваў складанасць і супярэчлівасць эпохі, у якую прыйшлося жыць паэту. Тым не менш нястомная працавітасць і вера ў свае сілы дапамаглі яму заняць пачэснае месца ў беларускай літаратуры XX стагоддзя, а яго жыццёвы шлях з'яўляецца прыкладам таго, што справядлівасць возьме верх і гісторыя расставіць усё на свае месцы.*

*Павел Пруднікаў нарадзіўся 14 ліпеня 1911 года ў вёсцы Стары Дзедзін Клімавіцкага павета ў шматдзетнай сям'і Івана і Кацярыны Пруднікавых. Першая публікацыя — верш «На вакацыі» — адбылася ў 1930 годзе, а ўжо ў дваццаць адзін год Паўлюк разам з Я. Субачам выдае сваю першую кніжку вершаў «Песні грузчыкаў». У тыя гады ён пісаў пад псеўданімам Паўлюк Буравей, каб яго не блыталі са стрыечным братам Алесем Пруднікавым.*

*Напрыканцы 1932 года Павел Іванавіч ад'язджае ў Ленінград, паступае ў Педагагічны інстытут імя Бубнава (цяпер — Санкт-Пецярбургскі педагагічны ўніверсітэт імя Герцэна), дзе пачаў вывучаць славянскія мовы. Павел Пруднікаў стаў адным з рэдкіх беларускіх пісьменнікаў, хто атрымаў вышэйшую філалагічную адукацыю ў паўночнай расійскай сталіцы. У 1937 годзе прафесар К. Пушкарэвіч напісаў яму рэкамендацыю для вучобы ў аспірантуры, аднак юнака напаткаў той жа лёс, што і многіх не толькі літаратараў, але і звычайных людзей таго часу: па ілжывым даносе ён быў арыштаваны і правёў у ГУЛАГу восем гадоў. Рэабілітаваны паэт быў толькі ў 1956 годзе.*

*Лёс Паўла Пруднікава склаўся так, што пасля вяртання з Сібіры яму не давялося затрымацца ў родных мясцінах: пераехаў у Смаленскую вобласць, затым — на Браслаўшчыну, у вёску Слабодка, і, нарэшце, — у Мінск. Менавіта Браслаўшчына дала яму натхненне на новы пачатак сваёй літаратурнай дзейнасці. У 1968 годзе выйшла ў свет другая кніжка паэта «Час майго нараджэння». І менавіта з гэтага часу пачынаецца найбольш плённы перыяд яго творчасці.*

*Доўгі і складаны жыццёвы шлях абумовіў унікальнасць творчага лёсу Паўла Пруднікава. Нарадзіўся ён яшчэ ў царскай Расіі, творчую дзейнасць пачаў у міжваенны перыяд, яе найбольш плённыя гады прыпалі на пасляваенны савецкі час, а заслужанае прызнанне атрымаў у незалежнай Беларусі:*

*у 1992 годзе яму было прысвоена званне «Заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь».*

*Дзякуючы надзвычай доўгаму творчаму жыццю Павел Пруднікаў быў знаёмы з беларускімі паэтамі і пісьменнікамі розных часоў, што дазволіла яму пакінуць успаміны пра многіх літаратараў — Янку Купалу, Якуба Коласа, Цішку Гартнага, Аркадзя Куляшова, Івана Мележа і інш. Асабліва каштоўнымі з'яўляюцца яго ўспаміны пра літаратурнае жыццё 1930-х гадоў, многіх сяброў, якія заўчасна пайшлі з жыцця. Гэтыя ўспаміны склалі кнігу «Далёкае, але не забытае». Неапублікаваным застаўся яшчэ адзін зборнік «З памяці не сцёрлася».*

*Лёсам было наканавана, каб Павел Пруднікаў дажыў да таго часу, калі можна было расказаць поўную праўду пра жах сталінскіх рэпрэсій. Гэтай тэме прысвечаны яго аповесці «Яжовыя рукавіцы» і «Паўночнае пекла», а таксама паэмы «Таймыр» і «Кожны другі». Напісаў, але не паспеў апублікаваць яшчэ шэраг твораў: аповесць «Апала», паэму «Ізгой», у якіх расказваў пра свае пакуты і блуканні пасля вызвалення.*

*Вось так склаўся лёс аднаго са старэйшых паэтаў Беларусі. Ён стаў сведкам жахлівых падзей XX стагоддзя, якія ламалі лёсы і жыцці мільёнаў людзей. Але не зламалі характар паэта. Павел Пруднікаў годна вытрымаў усе выпрабаванні і зрабіў самае галоўнае: змог данесці да нашчадкаў сваю праўду аб убачаным, адлюстраваць не толькі бяздушнасць «машыны рэспрэсій», але і зайздрасць, здраду, якія праяўляюцца ва ўсе часы ў паўсядзённым жыцці. Што дапамагло яму выстаяць? Аптымізм, нястомная працалюбівасць і вечная маладосць душы. Гэтае светаўспрыманне адлюстравалася ў яго наступных радках:*

*Гляджу ўдалячынь праз гады я,*
*Там будучынь, песня мая.*
*Я з вамі, сябры маладыя,*
*Не ўчорашні —*
*сённяшні я!*

*Думаецца, што жыццёвы і творчы прыклад Паўла Пруднікава будзе і далей натхняць маладых літаратараў на новыя дасягненні, даваць веру ў свае сілы і надзею на лепшае.*

***Ігар АЎЛАСЕНКА***

* * *

Мяне тундра тугою прыкрыла,
Чым заўсёды багаты Таймыр,
І падрэзала лёгкія крылы,
Каб лягчэй было скінуць у вір.

Не да рыфмаў было, не да рытмаў,
Ледзь трымаўся жывым на плыву.
Забываўся мастак на палітру:
Ён бярог перш за ўсё галаву.

Дзякуй Богу за тое, што маю,
Што я змог расказаць чытачу.
Мне не трэба нябёснага раю,
І ад боляў зямных не крычу.

## ЕНІСЕЙ

Мы даўно з ім пабрацімы,
З гэтым волатам-ракой.
Хоць ён мне і не радзіма,
Ў яго хвалях — мой спакой.

Па ім плыў я у няволю
Ў цесным труме карабля.
Колькі дум, разваг і болю
Я тады ў сябе ўвабраў.

Была цяжкаю дарога,
Што згубілася ў гадах.
Ля Казачанскіх парогаў
Аб былым пяе вада.

* * *

Я не ведаў ні стомы, ні болю
На асцёрскіх крутых берагах.
Гартаваўся за плугам у полі
І з касой на мурожных лугах.

І сякеру лічыў за сяброўку,
Калі ездзіў па дровы у лес.
Працаваў ёю здатна і лоўка,
Толькі ў бойку ніколі не лез.

Шчаслівейшым лічу, што не хлюпік,
Бо я трапіў раптоўна ў бяду.
Кожны дзень штосьці рупіць і рупіць:
Я застаўся з жыццём у ладу.

## Я ВУЧЫЎ ДЗЯЦЕЙ У ШКОЛЕ

Я вучыў дзяцей у школе
Больш за дваццаць год.
Не крычаў на іх ніколі —
Плавіў сэрца лёд.

Я вучыў не толькі мове —
Працы і жыццю.
Зберагаў іх родным словам
Ад зладзюг-бандзюг.

Я вучыў любіць парадак,
Паважаць закон,
Не цурацца родных градак,
Гойсаць з рукзаком.

І мяне любілі дзеткі,
Як сваіх бацькоў.
Мы збіралі разам кветкі
З імі і дачкой.

Я вучыў, і сам вучыўся
Новаму жыццю,
За шкалятаў лёс маліўся
Ў будзень, на куццю.

Так жылі мы разам, дружна
Многія гады.
Гартавалі ў сэрцы мужнасць,
Стойкую заўжды.

* * *

Люблю гул навакольны і гоман:
Значыць, ёсць на планеце жыццё.
Значыць, ёсць і Дняпро тут, і Нёман,
І мой  сябар — празрысты Асцёр.

Даспадобы няспынныя рухі,
З шумам, грукатам, гамай гудкоў,
Без тугі і самотнае скрухі
І з птушынай гамонкай садкоў.

Ненавіджу пранізлівы грукат,
Што прыносіць на крылах вайна.
Ён развязвае «ястрабам» рукі,
Дорыць смерці з руінамі нам.

## МАЙСКАЕ

Чую песень знаёмыя гукі
Маіх даўніх пярнатых сяброў.
Я прасцёр да іх хворыя рукі —
Аж у скроні мне ўдарыла кроў.

Распускаецца бэз і чаромха,
А цюльпаны палаюць агнём.
Зацвітаюць і травы патроху —
Ўсё мацней і мацней з кожным днём.

Весяляцца хрушчы на бярозах
Ў свой кароткі бясклопатны век.
Я гляджу на ўсё гэта цвяроза,
Як звычайна глядзіць чалавек.

* * *

Да мяне сягоння завітаў падлетак
І прынёс мне жменьку кветак палявых.
Я не чую птушак, я не бачу кветак,
Толькі пах дурманіць свежае травы.

Мне здаецца, быццам адспявалі птушкі
І раптоўна неяк травы адцвілі.
Я цяпер ва ўладзе коўдры і падушкі,
І чужымі сталі родныя палі.

Мне б цяпер хоць трошкі бачыць лес і поле,
Бачыць луг мурожны, ціхую раку.
І скажу вам шчыра, што нічога болей
Не патрэбна сёння дзеду Паўлюку.

## КВЕТКА ШЧАСЦЯ

Я шукаю больш за паўвека
Тую кветку, што шчасцем завуць,
Бо яна для мяне — гэта лекі,
Што змываюць душэўную муць.

У сасновых барах Прыдняпроўя,
На Урале, ў Сібірскай тайзе
Памагчы заклікаў і сяброў я
Мне шукаць у лясной паласе.

Яна сніцца бялявай русалкай —
Гаспадыняй зялёных дуброў,
У каго закаханы я змалку,
Бо яна зычыць толькі дабро.

Дзе ж яно, тое шчасце лясное,
Што шукаю, ніяк не знайду?
Мо схавалася не пад сасною,
А расце ў маім ціхім саду?

* * *

Даспявае налітае жыта,
У садах — залацісты ранет.
Перажытае мною забыта,
Стаў свабодны ад хмары паэт.

## НА ВЕРАСНЁЎСКІМ ЛУЗЕ

На зарэччы пуста, скрозь пажоўклі пожні,
Свечкамі паўсталі стромкія стагі.
Толькі, мабыць, часам сумны падарожнік
Паўздыхае цяжка ад журбы-тугі.

Ні буслоў не бачна, ні гракоў, ні галак,
Пазнікалі ціха ў ранішняй смузе.
Толькі ў небе свеціць сонечны агарак,
Страпянецца спудна страх начны ў лазе.

## РАЗМОВА ПА ШЧЫРАСЦІ

Сёння я пішу з такім запалам,
Як і сем дзясяткаў год таму,
Хоць прайшоў праз краты і апалы,
Здзекам падвяргаўся на даму.

Мяне ўсё да дробязей хвалюе:
Радасць, смутак, невыносны боль.
Не люблю, калі прахвост балюе!
Я тады іду ў сасновы бор.

Я страчаю там сяброў пярнатых,
А падчас і падпяваю ім.
Не хачу вяртацца зноў дахаты:
Слухаю адвечны лесу гімн.

* * *

Шумелі бураны, згушчаліся хмары,
Штодзень я чакаў грамавых навальніц.
Былі мне далёкімі светлыя мары…
Хацелася плакаць, а часам і выць…

І толькі на схіле гадоў незайздросных
Я стаў чалавекам сваім, не чужым.
Без хмар навальнічных —
няўмольных і грозных —
Жыву, як дагэтуль ніколі не жыў.

*Падрыхтоўка тэксту і публікацыя*
*Ігара АЎЛАСЕНКІ.*



Янка СІПАКОЎ

# МАЯ БІБЛІЯТЭКА

*Кніга пра кнігі*[1]
*Паліца другая. Аўтографы*

А вось як сваю цудоўнаю кнігу «Зямля пад белымі крыламі» падпісаў мне дарагі мой зямляча Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч:

«Дарагому другу і земляку ва ўсіх сэнсах (і па зямлі, і па сэрцу) Янку Сіпакову на добры ўспамін. Ул. Караткевіч. 21 лютага 78 г.».

У маёй бібліятэцы ёсць усе кнігі Уладзіміра Караткевіча, пачынаючы ад яго першага зборніка «Матчына душа», які мяне ўразіў і захапіў, і да апошняга «Быў. Ёсць. Буду», які ён падрыхтаваў сам, але пабачыць які ўжо не змог. Ёсць і васьмітомны Збор твораў, у якім (том 8, кніга 2) найцудоўнае і вельмі дарагое мне эсэ пра маё «Веча славянскіх балад». Я ж адгукнуўся на яго апошнюю кнігу «Быў. Ёсць. Буду» вялікім артыкулам «Між Дняпром і крыкам жураўліным», які надрукаваны ў кнізе «Журба ў стылі рэтра».

Вось як Уладзімір Сямёнавіч расказвае пра «Веча»:

«У сучаснага чалавека вечна не хапае часу, мы ўсе заўсёды некуды спяшаемся. І, як ні дзіўна, менавіта гэта дапамагло мне напісаць пра кнігу Янкі Сіпакова «Веча славянскіх балад». Выпраўляючыся на адну пачцівую творчую нараду ў Крым, я ўзяў гэтую кнігу з сабой. І там мне прыйшла ў галаву думка выпрабаваць кнігу на аўдыторыі, вельмі далёкай вершам і Беларусі.

Прачытаў ёй некалькі балад. І тут пачалося тое, чаго я, прызнацца, аніяк не чакаў. Людзі, якія не ведалі анічога па-беларуску, людзі, якія мала ведалі нашу літаратуру, раптам нібы страпянуліся, узрушаныя да глыбіні (не пабаюся ўжыць гэта слова) чымсьці, што мне спачатку здалося, магчыма, і не зусім важлівым, хаця кніга і вельмі падабалася мне.

Сібірак передрукаваў «выбранае» на машынцы, ставячы адзінку замест «і». Ленінградзец завучвае «Лазню» і «Еш!» на памяць, просіць выправіць вымаўленне, перапісвае. І ўсе, чалавек дзевяць, просяць саму кнігу».

Шырыня і шчодрасць душы Уладзіміра Караткевіча нават дазволілі сказаць яму вось такія, дарагія для мяне словы: «Гэты хлопец, сам таго не жадаючы, даў ладнага выспятка паэтам майго пакалення, і ў тым ліку, мне».

Гэта надзвычай дарагая для мяне ацэнка. Але ж мне яшчэ даражэй вось гэтае ўпэўненае, сказанае абдуманна:

«І кніга гэта добра паслужыць людзям і Беларусі».

А кніжачку сваіх казак «Чортаў скарб» У. Караткевіч падпісаў мне вось гэтак: «Чорту Янку Сіпакову ад чорта Уладзіміра Караткевіча».

Я вельмі даражу аўтографамі Янкі Брыля, Івана Мележа, Івана Шамякіна…

---

[1] Працяг. Пачатак у № 2, 3, 5 2012 г.

Янка Брыль, Алесь Адамовіч і Уладзімір Калеснік падпісалі мне дужа страшную кнігу «Я з вогненнай вёскі…». Гэта запісы ўспамінаў людзей, якія засталіся жывымі ў спаленых вёсках, перажылі агонь, які павінен быў іх, як і іншых спаліць. Яе немагчыма чытаць — перахоплівае дыханне, у горле з'яўляецца, душыць камяк са слёз і болю:

«Сыночак ты мой, а нашто ж ты абуў гумовыя боцікі, яны ж дужа доўга будуць гарэць на тваіх ножках» (пераказваю па памяці, даруйце).

Гэтак жа сама немагчыма чытаць і ўспаміны ахвяр спаленых вёсак (з людзьмі), запісаныя пісьменнікамі на магнітафон. Але ж трэба. Наш народ і гэтую жудасць павінен ведаць і помніць.

Іван Мележ падараваў мне дзве кнігі з аўтографамі: том выбранай прозы ў «Бібліятэцы беларускай прозы» і кнігу «Жыццёвыя клопаты» — артыкулы, эсэ, інтэрв'ю. На апошняй ён пажадаў мне поспехаў: «Янку Сіпакову — з пажаданнем: няхай дужэе крыло прозы тваёй! Высокага палёту! Іван Мележ. 8.І.76 г. г. Мінск».

А ў томе ў артыкуле «Пакаленне за пакаленнем», напісаным на аснове даклада на пленуме Саюза пісьменнікаў у 1969 годзе, Іван Паўлавіч згадаў і пра мяне:

«Твор Я. Сіпакова «Акно, расчыненае ў зіму», толькі нядаўна апублікаваны ў «Полымі», радуе непрыдуманай праўдай жыцця, яркасцю мастацкіх фарбаў і сур'ёзнасцю, шырынёй роздуму пісьменніка».

Бачыце, як мы ўсе жылі роднай літаратурай у савецкі час: твор толькі што надрукаваны ў «Полымі», а Мележ ужо яго прачытаў і нават уставіў у свой сур'ёзны даклад!

Маглі тады шаноўныя мэтры і шчыра адгукнуцца і павіншаваць маладога пісьменніка з нейкай ягонай творчай радасцю. Іван Шамякін кнігаю, у якой змешчаны дзве ягоныя новыя аповесці — «Гандлярка і паэт» і «Шлюбная ноч» — павіншаваў мяне з прысуджэннем Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы.

«Янку Сіпакову ў знамянальны для цябе дзень з асаблівай радасцю высылаю табе гэтыя аповесці, якія, прызнаюся па сакрэту, я люблю. А крытыкі — як хочуць. Віншую. Жадаю новых удач. Іван Шамякін. 16.ХІІ. 76 г.».

А раней ён на рамане «Атланты і карыятыды» зрабіў такі ласкавы надпіс:

«Янку Сіпакову. З любоўю да твайго таленту, светлага і шчырага, як і твой характар».

І пасля ў сваіх аўтографах ён заўсёды быў шчыры і добры:

«Янку Сіпакову. Дружа мой, рады тваім творчым удачам. Жадаю табе новых поспехаў. Дзякую за добрыя словы пра мае творы».

Гэта на рамане «Возьму твой боль».

А на цікавейшай сваёй кнізе «Роздум на апошнім перагоне (дзённікі 1980—1995 гадоў)» Іван Пятровіч напісаў:

«Янку Сіпакову, добраму чалавеку, шчыраму сябру, выбітнаму пісьменніку, — з пажаданнем новых творчых адкрыццяў, здароўя, дабрабыту, многіх радасцей. Іван Шамякін. 15 лютага 2000 г.».

Перабудова, вэрхал, анархія. У думках і справах. Непрыманне, неразуменне, нязгода. Пошукі ісціны, сэнсу, справядлівасці.

Такі Народны пісьменнік у сваіх дзённіках.

Запіс ад 17 чэрвеня 1992 года:

«Ельцын перад сумесным пасяджэннем кангрэса і сената: «Коммунистический идол рухнул навсегда. Это заявляю я вам…» Няма слоў для абурэння. Май жа сумленне: ты — адзін з тых, хто ствараў гэтага ідала…

Кангрэсмены і сенатары сустрэлі заяву Ельцына авацыяй, падняўшыся з месцаў. Яшчэ б — такая радасць! Пра такое яны і не марылі, і не снілі. А як рагатаў з прыдуркаватага Ельцына прэзідэнт ЗША Клінтан, калі той нёс на СССР нейкую поўную лухту».

А пачынаецца дзённік з 1982 года.

Таксама свае клопаты. Праблемы з раманам «Петраград—Брэст». Маскоўскі «Истпарт» вырашае быць ці не быць яго рускаму вырыянту… А тут яшчэ і хвароба:

«З 13 мая знаходжуся ў маскоўскай бальніцы. 2 мая адчуў дыскамфорт у левым баку. 5 мая акуліст падняла трывогу, паказала прафесару Т. В. Бірыч. Тромб сасуда. Паклалі ў рэспубліканскую бальніцу. Праз тыдзень, нягледзячы на інтэнсіўнае лячэнне, я, па сутнасці, страціў зрок левага вока: густы туман, заслона. Кансіліум мінскіх прафесараў вырашыў накіраваць мяне ў вочнае аддзяленне гэтай бальніцы».

Чэрвень. Лета ў бальніцы. Сумна. Спавядаецца ён дзённіку.

«Званіў Ц. Я. Кісялёў. Як здароўе? Пажаданні. Прыемна. Ён і ў Мінску званіў у бальніцу, віншаваў з Днём Перамогі. А некаторыя, хто кляўся ў дружбе, мабыць, выкінулі з памяці. Сумна. Але хіба толькі ад гэтага сумна?

Званілі Лабанок, Палякоў, Сняжкова, Андрэй Макаёнак, Грачанікаў, Сіпакоў, Сачанка…

Прыемна, што людзі не забываюць. Можа, і недарэмна я працаваў 26 гадоў у СП. Працаваў з поўнай аддачай. Нешта ж зрабіў, што нельга выкінуць з памяці людзей».

На фоне перабудовы — цікавыя ўспаміны пра бацьку-лесніка, пра службу падчас вайны на Поўначы ў зенітных войсках, пра працу над першым раманам «Глыбокая плынь»: «У 1953 годзе мне асабіста расказваў Панамарэнка, ён любіў пахваліць сябе: «Сталін на Палітбюро спытаў маю думку пра ваш раман. Я даў яму тую ацэнку, якую даў Лынькоў». Можна заключыць: Панамарэнка ішоў на Палітбюро, узброены артыкулам Лынькова».

Другі яго раман «У добры час», які выйшаў у 1953 г., мне падаравалі ў 1955 годзе супрацоўнікі Шклоўскай раённай газеты, дзе я працаваў пасля заканчэння Зубрэвіцкай сярэдняй школы. На вялікі жаль, я не маю яго ў сваёй бібліятэцы — у студэнцкіх інтэрнатах ён са шчырымі аўтографамі-пажаданнямі маіх сяброў — шклоўскіх журналістаў — недзе згубіўся. Дарэчы, я браў гэты раман «аб людзях калгаснай вёскі» з сабою, калі хадзіў пехатою ў камандзіроўкі ў тыя ж вёскі, да тых жа самых людзей. Мне было цікава: Шамякін пісаў пра тое, што я, раённы газетчык, бачыў, можна сказаць, кожны дзень.

Згадваецца і такое:

Аднойчы мой швагер, Валодзя Загоскін, прыязджае да мяне ўзрушаны і ўсхваляваны.

— Што здарылася, Валодзя? — пытаюся.

— Ого, яшчэ і пытаецца! Здарылася.

Валодзя працаваў у міліярацыі на Віцебшчыне, у Бычысе. А Шамякін абіраўся ў дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР па іхняй акрузе і прыехаў на сустрэчу са сваімі выбаршчыкамі. Валодзя вазьмі і спытайся ў яго: «А ці ведаеце вы Янку Сіпакова?» — «Ведаю вельмі добра, — сур'ёзна адказаў Іван Пятровіч. — Я з ім нярэдка каньяк п'ю».

Вось Валодзя пасля гэтага і расхвaляваўся: «Дык ты з Шамякінам, дэпутатам, народным, Героем — п'еш каньяк і маўчыш?»

Успамінаецца адно застолле ў кавярні Дома літаратара. Добрай кампаніяй сядзелі за сталом, добра гаманілі. Быў між намі нават і генерал Сульянаў. Чыгрынаў раптам усміхнуўся і пажартаваў:

«Калі б у дзяцінстве я сказаў сваім сябрам-аднагодкам, што як вырасту, буду піць гарэлку за адным сталом з генералам, — не паверылі б, а то і брахуном абазвалі: «Ну і загнуў». А мы вось сядзім, п’ём з Анатолем — і нічога сабе».

## 8

Ёсць у маёй бібліятэцы і вельмі кароткія, сціплыя аўтографы. Як вось гэты, напісаны на тоненькай кніжачцы, выдадзенай у бібліятэцы газеты «Голас Радзімы» — «Зразумець як сваё», зроблены Аляксеем Гардзіцкім, нашым саратнікам па кнігах, кнігалюбам і кнігаманам — ён, дарэчы, меў у сваёй бібліятэцы амаль усё, што выдавалася з беларускай літаратуры ў свеце на іншых мовах.

«Янку Сіпакову з удзячнасцю за загаловак да гэтай кніжкі. 20. IX. 1977 г.».

Я ўжо не памятаю, як гэта было, а ён, бачыце, памятае і дзякуе…

А Алесь Яскевіч, вельмі мудры і арыгінальны даследчык, на сваёй навуковай кнізе «Старажытныя граматыкі. Да праблемы агульнафілалагічнай цэласнасці», выдадзенай пад грыфам Акадэміі навук Беларусі, таксама быў сціплы ў подпісу:

«Шаноўнаму Івану Данілавічу, у шчырым захапленні ад Вашай паэтычнай творчасці, славянскіх балад, з павагай аўтар 10.06.98».

Кароценькім, але якім для мяне важным быў надпіс Фёдара Янкоўскага на яго кнізе «Прыпыніся на часіну»: «Дарагому Янку Сіпакову, нашай радасці і нашай надзеі. Шчыра Фёдар Янкоўскі. Мінск, 79. X».

Вячаслаў Рагойша падараваў мне сваю кнігу «Тэорыя літаратуры ў тэрмінах». Навукова-метадычны цэнтр вучэбнай кнігі і сродкаў навучання Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь рэкамендаваў яе ў якасці дапаможніка для студэнтаў-філолагаў ВНУ. Мне, калі я працаваў у «Беларускай Энцыклапедыі», давялося за яе змагацца. Аднак кніга выйшла ўжо тады, калі я пакінуў энцыклапедыю і перайшоў у часопіс «Беларусь». І ўсё ж Вячаслаў Пятровіч, помнячы пра ўсё, пакінуў мне на ёй свой усхваляваны надпіс:

«Дарагі Іване! Найперш Ты стымуляваў стварэнне гэтай кніжкі, Ты быў шчыра зацікаўлены ў яе з’яўленні. Вялікае, вялікае Табе дзякуй за гэта! Янку Сіпакову — Вячаслаў Рагойша. Мінск, 16.07.2001 г.».

І свой «Паэтычны слоўнік» Рагойша падпісаў мне не менш эмацыянальна:

«Аднаму з актыўнейшых паэтычных сааўтараў гэтай кніжкі, цудоўнаму нашаму паэту Янку Сіпакову з сардэчнасцю — Вячаслаў. Мінск, 15. XII. 79 г.».

А ў слоўніку:

«Сярод беларускіх паэтаў асаблівым багаццем страфічнай арганізацыі верша вызначаюцца Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч, М. Танк, Р. Барадулін, Я. Сіпакоў і інш.».

І яшчэ:

«Вершы-акварэлі сустракаюцца ў П. Труса (уступ да паэмы «Дзесяты падмурак», Я. Сіпакова («Лента. Акварэль») і некаторых іншых беларускіх паэтаў».

Зноў жа, тамсама:

«Ламаная рыфма — канцавая рыфма, што звязвае не цэлыя словы, а толькі часткі слоў, раздзеленых, «разламаных» міжрадковымі паўзамі. Такую рыфму ўжыў, у прыватнасці, У. Дубоўка ў паэме 70-х гг. «Там, дзе вазёры»:

Яны вучылі ненавідзець пана,
яшчэ — кахаць хаўрус сям'і працоў-
ных і працы. І ў абшарпана-
га пастушка будзілі кроў.

Тут у другім і трэцім радках міжрадковыя паўзы дзеляць словы на дзве часткі. Гэты падзел, зразумела, штучны, досыць фармальны, не абумоўлены праблемамі зместу. З большай падставай ламаная рыфма ўжыта ў вершы Я. Сіпакова «Мелодыя на званах», хоць і тут выразная фармальная зададзенасць яе:

Прысні-
ся мне
звон дзіў-
ны ў сне.
Прыйшоў
я ў гай
мой жоў-
ты край».

Сяргей Іванавіч Грахоўскі, якога заўсёды было прыемна бачыць усюды, дзе я працаваў (і ў «Маладосці», і ў «Беларусі»), на сваёй кнізе вершаў і выбраных перакладаў «Зазімак» напісаў мне:

«Дарагому Янку Сіпакову з даўняй улюбёнасцю ў творчасць і асобу слаўнага паэта ў вершах і ў прозе».

Аднаго разу, успамінаецца, прыйшоў ён, прынёс новыя вершы, прачытаў іх — ён любіў чытаць свае вершы ўголас — і пайшоў. А тут праз нейкі час званок:

— Іване, ці не ў цябе я пакінуў сваю кульбу?

Я агледзеўся — кульба дзяржаннем вісела на ражку майго стала.

— У мяне, у мяне, — адказаў я і пажартаваў: — А калі вы, Сяргей Іванавіч, яе забываецеся, то яна вам, маладому яшчэ, зусім непатрэбная.

Сустрэліся, я аддаў кульбу, і мы яшчэ раз хораша пахадзілі, пагаварылі.

Георгія Юрчанку я, стары вожыкавец, ведаў па яго гумары — ён пісаў выдатныя пародыі — «Распрэжаны Пегас», «Вярхом на вожыку», «Негабляваная пегасня», «Немеладычныя мелодыі».

І раптам Георгій Фёдаравіч пачаў настойліва заяўляць пра сябе як навуковец, даследчык роднай мовы. Кніга за кнігай пачалі выходзіць яго дыялектычныя слоўнікі, даследаванні: «Народная сінаніміка», дыхтоўны трохтомны збор дыялектычнай фразеалогіі Мсціслаўшчаны. Я чытаў гэтыя навуковыя даследаванні як мастацкія рэчы, зачытваўся імі: «З табою ні ў пір, ні ў вір, ні ў добрыя людзі, куды ня пойдзеш — людзей насьмяшыш». Праўда, часам хацелася і паспрачацца з ім. Скажам, слова «смаллянка» ён тлумачыць гэтак:

«Смаллянка (смыллянка) ж. жарт. Жыхарка Смаленшчыны. Не думай, тую смыльлянку ня дужа правядзеш».

У нас жа смалянкаю завуць звычайнага пацука. Смалянка — смаленая, недасмаленая. І прычым тут Смаленшчына? Калі смалянка — пацук, тады і паводзіны жанчыны, падобнай на яго, зразумелыя: пацука не правядзеш, такую кабету — таксама: яна — хітрая і юрлівая.

Затое слова «сваякіня» — цуд!

«Сваякіня (свыякіня) так проста ж. іран. Сваячка. Свыякіню збіраецца трухтаваць, бутылачку красінькага купляла».

Усе мовазнаўчыя кнігі (ды і гумарыстычныя) я купляў сам. А трэцюю кнігу з Мсціслаўскай фразеалогіі «Слова за слова. Устойлівыя словазлучэн-

ні ў гаворцы Мсціслаўшчыны» Георгій Фёдаравіч падараваў мне з цёплым аўтографам:

«Янку Сіпакову з пажаданнем яшчэ большых творчых поспехаў. З выключным задавальннем чытаў «У поўдзень, да вады». Паболей такіх кніг! Г. Юрчанка. 21 чэрвеня 1978 г.».

А вось пародыя Георгія Юрчанкі на Янку Сіпакова з кнігі парадыста «Немеладычныя мелодыі»:

ДАРОГУ!
ЯНКА СІПАКОЎ

Шыра бяскрайняя
небная!
Сын я твой,
а не пасынак.
Мне грукнуць — павер! —
патрэбна
Па Млечнаму Шляху абцасам.

Клічуць сусветы дальнія,
Таму я заўсёды ў дарозе.
Радасць мая,
жыццядайная
Едзе
на зорным возе.

Далі астранамічныя
Мой розум пранізваюць смела.
Ноч адышла,
навальнічная,
Пярунная,
адгрукацела.

Азон удыхаю бясконца
Праз лёгкія,
печань
і ныркі
І крочу —
з сонцаў сонца я! —
Зямлёю.
Удоўжкі і ўшыркі.

Дзякуй Вам, Георгій Фёдаравіч, і за гэтыя словы. Яны прыемныя мне. Але ж гэта не пародыя, а сапраўдная ода мне, простаму, звычайнаму чалавеку.

Я даражу аўтографам Жанны Дапкюнас на кнізе «Янка Купала і «Наша Ніва», у якой сабраны матэрыялы з Міжнароднай навуковай канферэнцыі:

«Лаўрэату Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы, паважанаму сп. Янку Сіпакову з удзячнасцю за ўсё шчырае і добрае, што робіцца Вамі для ўшанавання памяці Янкі Купалы. 11.08.99 г.».

Жанна Дапкюнас — дачка пляменніцы Янкі Купалы. І таму мне яшчэ даражэй гэтая ўвага да маіх сціплых, але шчырых публікацый і роздуму, да маіх вершаў, прысвечаных дзядзьку Янку, нашым Ляўкам, да якіх ад маіх Зубрэвіч усяго нейкіх дзесяць кіламетраў.

Язэп Янушкевіч свой аўтограф пакінуў на важкім томе нашага нацыянальнага Бога Францішка Багушэвіча, які ён склаў, тэксталагічна падрыхтаваў і напісаў прамову да яго:

«Янку Данілавічу Сіпакову з даўняй улюбёнасцю ў яго «Веча славянскіх балад» і з удзячнасцю за беларускага Уітмена. З павагаю Язэп Янушкевіч. 24 траўня 1991 г. г. Мінск».

Тонкі і выразны мастак Юзаф Пучынскі, з якім я неяк шчымліва сябраваў, распісаўся на каталогу сваёй выставы:

«Дорогому моему другу, умному и талантливому человеку Ивану Сипакову от Юзафа».

Пачаў успамінаць, ці былі мы калі-небудзь з ім пры сустрэчах панурыя, злыя, і не знайшоў такіх момантаў — ніводнага! — у памяці: Юзаф заўсёды быў уважлівы, прыязна ўсміхаўся і вочы яго заўсёды былі поўныя дабраты. Я адказваў яму тым жа самым.

Васіль Фёдаравіч Праскураў, рэдактар Ганцавіцкай раённай газеты, пра якога, як пра выдатнага чалавека і літаратара ўспамінаюць усе, хто быў з ім знаёмы, на сваёй кнізе нарысаў (не, сапраўднай прозы!) «Пакланіся зямлі-карміцельцы» напісаў:

«Івану Данілавічу Сіпакову — майму літаратурнаму настаўніку, з глыбокай павагай і пажаданнямі высокага творчага ўзлётку. Шчыра В. Ф. Праскураў. Ганцавічы. 26.XI. 82 г.».

Васіль Фёдаравіч быў амаль мой зямляк — з Дубровенскага раёна — аднак Ганцавічы сталі для яго другою радзімаю — ён, сам таленавіты і зычлівы, адкрыў там, можна сказаць, выхаваў цэлую плеяду, магутны куст таленавітых літаратараў: М. Рудкоўскі, М. Купрэеў, І. Кірэйчык, М. Дубянецкі, В. Гардзей, А. Кажадуб, А. Каско, Ул. Марук…

## 9

Дантэ Аліг'еры. Боская камедыя. Пераклад з італьянскай мовы Уладзіміра Скарынкіна. Серыя «Скарбы сусветнай літаратуры». На кнізе ўзрушаны, вершаваны аўтограф:

Мой пераклад рэдагаваў
Ты так старанна, бы сапфір
Для царскай шапкі шліфаваў
Найлепшы ў свеце ювелір.

А потым, быццам паладзін —
Свайго манарха на вайне,
Ты ад мячоў і пік адзін
Бясстрашна бараніў мяне.

*Дзякуй табе за гэта!*
*Уладзімір СКАРЫНКІН.*
*03.03.98 г.*

А як тое здарылася?

Пазванілі з выдавецтва «Мастацкая літаратура». Сам галоўны рэдактар Серафім Андраюк. Сказаў, што ў іх ёсць рукапіс «Боскай камедыі» Дантэ ў беларускім перакладзе і спытаўся, ці не згадзіўся б я пачытаць яго і ці не стаў бы я рэдактарам кнігі.

Пра тое ж самае прасіў мяне па тэлефоне і сам Уладзімір Скарынкін — цікавы паэт — зямляк з Гарадка, перакладчык гэтага твора.

«Вядома, вядома», — адразу згадзіўся я. Я не мог не згадзіцца! Бо гэта ж найвялікшая падзея — з'яўленне на беларускай мове ці не самага славутага шэдэўра ў сусветнай літаратуры! Амаль сем стагоддзяў наш народ цярпліва чакаў гэтага. Хіба можна ад гэтага адмаўляцца?!

Па тых публікацыях, што Скарынкін паспеў ужо выдрукаваць у беларускім друку, было відаць, што гэта вельмі сур'ёзная праца, што перакладчык,

так бы мовіць, выкладаецца ўвесь, і Дантэ ў яго перастварэнні гучыць вельмі нават годна, у повен рост, і натуральна — нібыта ён і пісаў па-беларуску.

Уладзімір Максімавіч прынёс мне рукапіс, і я засеў за яго. Чытаў і меў асалоду ад гэтага.

У розны час розныя людзі па-рознаму адносіліся да «Боскай камедыі». Вальтэр, да прыкладу, хваліўся, што не дачытаў яе да канца, лічыў, што і іншыя таксама не адолелі ўвесь твор, а панавыскублівалі, панавышморгвалі выдатных цытат з яе і заўсёды карыстаюцца толькі імі.

Я чытаў «Боскую камедыю» ўсё лета. Не скажу, што гэта лёгкае чытанне, аднак я асіліў твор да канца. Таму магу засведчыць, дапусціць, што я, выключаючы самаго перакладчыка ды яшчэ сяго-таго з яго родзічаў, адзіны ў свеце чалавек, які поўнасцю, цалкам, да канца прачытаў «Боскую камедыю» на беларускай мове!

І магу засведчыць, што яна, дзякуючы натуральнасці сказа перакладчыка, гучыць нязмушана і не стамляе, як думалася і чакалася. У беларускім перакладзе яна набыла якуюсьці зямную, рэальную аснову, і ў ёй ужо менш, амаль няма той неканкрэтыкі, той напышлівасці і «красивостей», якія часам здараюцца ў цудоўным — бліскучым і звонкім — рускім перакладзе Міхаіла Лазінскага.

Тэрцыны Дантэ загучалі як найлепей па-беларуску! «Боская камедыя», нарэшце, прыйшла да беларускага чытача. На тытульнай старонцы з'явіўся радок: «Прадмова і рэдагаванне перакладу Янкі Сіпакова» — вельмі дарагі мне радок: і я такім чынам дакрануўся да гэтага шэдэўра!

Не ведаю, ці вельмі я дапамог перакладчыку, але ж Уладзімір Скарынкін у сваіх каментарыях быў уважлівы да мяне:

«У падрыхтоўцы гэтай кнігі да друку вялізарную дапамогу мне аказаў немітуслівы, разважлівы, патрабавальны і добразычлівы Янка Сіпакоў».

Я ж у сваёй прадмове «Песняспевы смерці і жыцця» парадаваўся:

«Такім творам у сусветнай літаратуры з'яўляецца геніяльная «Боская камедыя» Дантэ Аліг'еры.

І такою краінаю, якая прыняла ў сябе гэты неўміручы твор, стала Беларусь. Нарадзіўшыся, паўстаўшы, узнікшы сёння на беларускай мове, паэма пазначыла і для нас тую вышыню, якой павінна трымацца, якую павінна шанаваць і наша родная літаратура — неад'емная частка сусветнай культуры».

Разумеючы, што гэта выдатная праца перакладчыка, я шчыра, ведаючы ёй цану, абараняў яе дзе толькі мог. Хацеў, каб яна была ўшанавана Дзяржаўнай прэміяй, а таму, можна сказаць, у адзіноце змагаўся, каб яе вылучыў Саюз пісьменнікаў. Аднак там ужо выбралі іншую кандыдатуру, і ён атрымаў прэмію, а Дантэ і Скарынкін засталіся ўбаку. Пра гэта Уладзімір Максімавіч нагадаў мне ў сваім аўтографе.

Аднак усё ж праца перакладчыка была ўшанавана Дзяржаўнай прэміяй. Праўда, крыху пазней — на другі год яе вылучыў Віцебскі дзяржаўны універсітэт і да гэтай думкі прыслухаліся.

Акрылены поспехам, Скарынкін пераклаў томік паэзіі (паэмы «Дон-Жуан» і «Прароцтва Дантэ») Байрана, а таксама лірыку Петраркі. Атрымаўся магутны трыпціх — Дантэ, Петрарка, Байран.

Байран выйшаў у той жа серыі «Скарбы сусветнай літаратуры». У. Скарынкін, усё яшчэ помнячы нашу працу над «Боскай камедыяй», у аўтографе на томе Байрана прызнаўся:

«Дарагі зямляк, шаноўны Іван Данілавіч!
Вы сцвердзіцца мне ў свеце
памаглі,
За што паклон Вам нізкі —
да зямлі.
*Уладзімір СКАРЫНКІН.*
*25.10.04 г.*

Аляксандр Бабарэка ў сваёй кнізе ўспамінаў «Дороги и звоны» таксама найперш згадаў пра ўдзячнасць: «Дорогому Ивану Даниловичу Сипакову, который всегда поддерживал меня в моих трудах добрым словам. А. Бабареко. 25. VI. 94».

Дружбаю ж з гэтым, здавалася б, вельмі неэмацыянальным, нават сухаватым, але такім найцікавейшым чалавекам і суразмоўцам, я ганаруся і сёння.

А пазнаёміліся мы з Аляксандрам Кузьмічом Бабарэкам у Кактэбелі, у Доме творчасці.

Стаялі там, у Валошынскім садзе, невялічкія катэджы на чатыры сям'і з сумесным санвузлом на дзве сям'і. З хваляваннем успамінаюцца тыя шчаслівыя звычайныя ў жыцці летнія дні, калі я жыў побач з цікавымі пісьменнікамі: з Пятром Лукічом Праскурыным, які шумеў тады са сваім раманам «Судьба» — па ім на тэлебачанні ішлі цэлыя серыялы; з нашым Алесем Адамовічам, з кім на адпачынку ўсё было неяк лёгка і нязмушана, і, часам, на пляжы, гуляючы з мячом, а то і ў вадзе блазнавалі так, што «почтенным» даводзілася нават нас супакойваць; і з ім, Васем Аксёнавым, нашым шасцідзясятнікам, сябрам часопіса «Юность», аўтарам нашумелага тады рамана «Звёздный билет». Часта вечарам на яго верандзе дапазна курылі, гаманілі, спявалі — у Васі і тут было шмат сяброў! — а назаўтра жонка замыкала яго ў пакоі, бо на пляж, зразумела, ён пайсці не мог, аднак ён усё роўна прыходзіў да мяне праз нашу сумесную тэрыторыю, і я, каюся, выпускаў яго на волю праз свой уваход-выхад.

Нядаўна Вася памёр недзе ў ЗША. Ехаў за рулём на машыне і спынілася сэрца…

З Аляксандрам Кузьмічом мы падружыліся неяк адразу ж. Можа, таму, што землякі — ён траюрадны пляменнік Адама Бабарэкі, расказваў, як у педтэхнікуме імя В. М. Ігнатоўскага ўсе пыталіся ў яго — і выкладчыкі і вучні, ці не радня ён славутаму на той час крытыку. Успамінаў, як Адам прыязджаў у родную вёску Слабада-Кучынка на Случчыне, як прывозіў дзецям цукеркі. Я хацеў распытаць пра ягонага дзядзьку больш падрабязна, але Аляксандр Кузьміч успамінаў нейкія дробязі. Але ж у кнізе Аляксандр Кузьміч не мог не згадаць дзядзьку.

«Адам Антонавіч Бабарэка — вядомы літаратурны крытык і белетрыст, рэдактар аднаго з часопісаў, выкладаў у Беларускім дзяржаўным універсітэце. Я — яго траюрадны брат. Ён з нашай вёскі. Партызаніў пры паляках. Аднак гэтыя яго заслугі ў барацьбе за незалежнасць краю не ўратавалі яго ад турмы. У 1931 г. яго арыштавалі…» Адам Антонавіч, вязень лагера ў Комі АССР, на будаўніцтве чыгункі вазіў тачкаю з кар'ера зямлю да восені 1938 года, пакуль не памёр.

Мне ж тады хацелася распытаць у пляменніка нешта такое, чаго мы не ведалі яшчэ. Бо потым бібліяграфічны слоўнік «Беларускія пісьменнікі» напіша пра яго так:

«Творчасць А. Бабарэкі адлюстравала складаны і супярэчлівы шлях станаўлення навуковага прафесіяналізму ў беларускай літаратурна-мастацкай крытыцы». Але ж гэта будзе потым.

Але Аляксандр Кузьміч ігнараваў усе мае спробы пачуць пра яго дзядзьку нешта цікавае, невядомае. Было відаць, што ён заняты нечым іншым — вялікім і глабальным і тое, шаноўнае для яго, займае яго цалкам і поўнасцю.

Мы часта ўвечары гулялі сем’ямі па Валошынскім садзе і з намі вельмі часта хадзіла і Анна Максімаўна, жонка Бабарэкі.

І толькі ён пачне: «Іван Аляксеевіч Бунін тады…» Анна Максімаўна тут жа перахоплівае гаворку і хуценька, скорагаворкаю выпальвае ўсё тое, што ведае пра гэта — тра-та-та-та.

— Анна Максімаўна, ну пагадзі, ты ж нічога не ведаеш, — спакойна, не злуючыся, супакойвае жонку Аляксандр Кузьміч і зноў здалёку пачынае:

— Калі Іван Аляксеевіч Бунін…

А Анна Максімаўна зноў выстрэльвае:

— Тра-та-та-та.

І ўсё ж Аляксандр Кузьміч шмат што даверліва расказваў мне.

І тады я зразумеў, што самай галоўнай мэтай ягонага жыцця, а хутчэй за ўсё нават самім жыццём быў для яго вялікі рускі пісьменнік Іван Аляксеевіч Бунін.

А я лезу да яго з пытаннямі пра Адама Бабарэку…

Для Першага тома з першага Збору твораў І. А. Буніна, які выйшаў з друку ў 1965 годзе, Аляксандр Кузьміч Бабарэка падрыхтаваў усе тэксты. Калі нехта падумае, што гэта было лёгка зрабіць, то мушу запярэчыць: не, вельмі цяжка было ўпершыню падрыхтаваць да выдання том пісьменніка, які, як лічылася, ненавідзеў Савецкую ўладу і так і не раскаяўся ў гэтым.

Ён жа разам з Алегам Міхайлавым зрабіў заўвагі. Ён працаваў у выдавецтве «Художественная литература», у рэдакцыі, якая выдавала класікаў.

Прадмову да гэтага дзевяцітомніка напісаў Аляксандр Твардоўскі. Памятаю, яна нам усім тады вельмі спадабалася — глыбокая і нечаканая.

А інакш і быць не магло: Бунін заўважыў «Цёркіна» ў эміграцыі і пахваліў яго ў пісьме Целяшову: «Якая свабода, якая цудоўная ўдаласць, якая меткасць, дакладнасць ва ўсім і якая незвычайная салдацкая мова!»

Твардоўскі ніяк не зрэагаваў на гэту пахвалу. І таму сваёй прадмовай Аляксандр Трыфанавіч нібы віniўся перад класікам. Класік — перад класікам.

Дык вось матэрыялы да напісання гэтага артыкула Твардоўскаму даваў Аляксандр Кузьміч.

«Дарагі Аляксандр Кузьміч! — пісаў Твардоўскі Бабарэку 18 красавіка 1965 года. — Дзякуй вялікае за прадстаўленыя мне матэрыялы па Буніну, якія вяртаю ў цэласнасці. Дзякуй за «Арсеньева» і іншыя дары.

Я абавязкова меў на ўвазе прасіць вас прачытаць мой артыкул і рады, што вы згадзіліся гэта зрабіць, але, прагледзеўшы яго зараз, вырашыў пакуль што не даваць яго вам, — там яшчэ шмат пустотак і даўжынь, — трэба яшчэ пасядзець».

«Артыкул яго я прачытаў, — запісвае Аляксандр Кузьміч, — ён развіваў такія ацэнкі, якія былі для мяне непрымальнымі; а тое, што ў эміграцыі, на яго думку, талент Буніна пацярпеў некаторы «ўрон», мяне закранула асабліва. Я напісаў яму 24 мая 1965 года доўгае пісьмо, сказаў адкрыта ўсё, што думаў пра артыкул. У тыя дні Аляксандр Трыфанавіч знаходзіўся ў Кунцаўскай бальніцы — ад курэння табака штосьці здарылася з пальцамі адной нагі. Яго жонка, Марыя Іларыёнаўна, прыязджала на аўтамабілі ў выдавецтва і па дарозе ў бальніцу захапіла з сабою мяне, — я жыў у Кунцава. Марыя Іларыёнаўна сказала, што Аляксандр Трыфанавіч быў бы рады, калі б я наведаў яго

ў бальніцы. Аднак жа ці мог я пасля такога бескампраміснага пісьма, якое я адправіў, але якое ён яшчэ не чытаў, прыйсці да яго? Як потым высветлілася, ён не пакрыўдзіўся і сёе-тое ў артыкуле змяніў».

А перад гэтым, у 1961 годзе, Аляксандр Трыфанавіч Твардоўскі моцна падставіў сваё плячо ў адной важнай справе для Расіі.

У Парыжы памёрла жонка Буніна Вера Мікалаеўна Буніна-Мурамцава, з якою пры жыцці Аляксандр Кузьміч вёў шчырую, даверлівую перапіску. І ўвесь архіў Нобелеўскага лаўрэата застаўся ў Леаніда Фёдаравіча Зурава, які гадоў трыццаць жыў у доме Буніных. Зураў, сам душэўна хворы, з трывогай пісаў Бабарэку:

«На маіх руках архівы Івана Аляксеевіча і Веры Мікалаеўны. Чамаданы з яе дзённікамі, успамінамі. Тысячы пісем. Усё жыццё Буніных. Дзённікі Івана Аляксеевіча за некалькі дзесяцігоддзяў, аўтографы яго твораў, у тым ліку — неапублікаваныя апавяданні і вершы.

Зураў адносіўся з даверам да Бабарэкі і клікаў яго ў Парыж:

«З асалодай пабачыў бы вас, пагаварылі б з вамі шмат пра што, — пісаў Зураў. — Вось і Вера Мікалаеўна марыла пра тое, што вы прыедзеце ў Парыж. Колькі б яна вам расказала. Не, ні аднаго літаратуразнаўца да яе не прыслалі. А гутарка з чалавекам, які любіць, як і вы, творчасць Івана Аляксеевіча, былі б для Веры Мікалаеўны адпачынкам і асалодаю. Чаму вы не прыехалі ў Парыж?»

А растлумачыць гэта не мог і сам Бабарэка.

У гэтую «справу» былі ўключаны дзясяткі, сотні людзей, камандзіроўкаю займаліся ў Саюзе пісьменнікаў СССР, у КДБ, у ЦК КПСС на ўзроўні сакратароў ЦК, Твардоўскі дамогся нават прыёму ў сакратара ЦК КПСС Л. Ф. Ільічова…

Каля трох гадоў працягвалася гэта эпапея. Зураву Бабарэка пасылаў у Парыж толькі адну за адной тэлеграмы. На французскай мове.

«Прыеду абавязкова. У бліжэйшыя дні ўсё будзе вырашана».

«Мой ад’езд вырашыцца праз два-тры дні».

«Усё вырашана канчаткова. Паездка афармляецца».

«Паездка аформлена, чакаем візу».

А заканчваецца ўсё нечакана: у Парыж едзе Ажаеў, ён, ведаеце, і зойдзе да Зурава…

«Вярнуўся Ажаеў раззлаваны, — зларадніча Бабарэка, — відно, што ніякага кантакту з Зуравым у яго не атрымалася. Потым Зураў здзіўляўся «потрясающему невежеству» Ажаева. А пісьменнік ён вядома які: прысвоіў рукапіс якогасьці зэка і апублікаваў пад сваім імем кнігу «Далеко от Москвы».

Аляксандр Кузьміч паспрабаваў яшчэ раз прайсціся па гэтым цяжкім крузе, аднак у яго зноў жа нічога не атрымалася. Архіў Буніна тады так і застаўся ў Парыжы: «Зураў варожы Савецкаму Саюзу. Ды і Бунін вораг, эмігрант таксама. А Твардоўскага «лічаць на Захадзе чалавекам, які стаіць у апазіцыі да афіцыйных улад».

Між тым Твардоўскі цяжка хварэе. Пасля паралічу. Бабарэка наведвае яго. «3 чэрвіня 1971 года, — піша Аляксандр Кузьміч ва ўспамінах, — я ў яго ў Краснай Пахры…

Марыя Іларыёнаўна праводзіць мяне да веснічак; запрашае зноў наведаць Аляксандра Трыфанавіча пасля маёй паездкі ў Кактэбель.

13 верасня 1971 года — я зноў у Краснай Пахры…»

Звычайна мы з Аляксандрам Кузьмічом бывалі ў Кактэбелі ў жніўні — першай палове верасня. Папярэдне спісваліся і потым прасілі ў Літфондзе

пуцёўкі менавіта на гэты час — каб зноў і зноў сустрэцца. З чалавекам, з якім было не нагаварыцца… Пасля размова адбывалася ліставаннем. У мяне цэлая папка ягоных найцікавейшых пісем…

Можа, і тады ў Пахру да Твардоўскага ён паехаў пасля праходак па нашым любімым Валошынскім парку? Калі я, развесіўшы вушы, слухаў яго…

Аляксандр Кузьміч Бабарэка шмат, вельмі шмат зрабіў для падрыхтоўкі і выдання Збору твораў у дзевяці тамах, пра які ўжо згадвалася. Склаў праспект выдання. Гэта была нялёгкая праца: многае не сабрана, многае не даследавана, бібліяграфія не распрацавана…

23 ліпеня 1962 года ў выдавецтве «Художественная литература» абмяркоўваецца Бабарэкаў пералік твораў па тамах.

«І я звыш усялякай меры, — злуецца ён у «Дарогах і званах», — наслухаўся дэмагагічных разважанняў ад «начальствующей» дамы А. І ад тых, хто перад ёю прагінаўся.

— Павінен быць строгі адбор. Бунін — мешчанін і пашляк у «Цёмных алеях», — упэўнена выстрэльвала яна словы, іншыя падтаквалі.

Пра «Вызваленне Талстога» толкі гэтых людзей былі не разумнейшыя. Мне дадзена было зразумець, што ў мяне няма «палітычнага чуцця», і сказана, што я «фанатычна ўлюблёны ў Буніна» — у сэнсе вялікага «ідэйнага граху». Мой каментарый да 3 тома — да «Деревни» і «Суходолу» аддалі для выпраўлення ідэйнай пазіцыі «суаўтару» А. Н. Міхайлаву. Ад «суаўтарства» я адмовіўся.

Дзявяты том не павінен быў выйсці. А ён выйшаў. А там было «Вызваленне Талстога», «Трэці Талстой». Дзённікі, запісныя кніжкі, успаміны.

«Трэці Талстой» — успаміны пра графа Аляксея Мікалаевіча Талстога, аўтара «Пятра Першага» і «Блукання па пакутах» — быў надрукаваны, як піша Бабарэка, «з вялікімі цэнзурнымі скарачэннямі». А ў ім Аляксей Мікалаевіч выглядае не такім, якім яго бачыла савецкае літаратуразнаўства. Бунін піша свой партрэт пісьменніка:

«У эміграцыі, гаворачы пра яго, часта называлі яго то зняважліва, Алёшкам, то паблажліва і ласкава, Алёшам, і амаль заўсёды забаўляліся ім: ён быў вясёлы, цікавы субяседнік, выдатны расказчык, цудоўны чытальнік сваіх твораў, чароўны ў сваёй шчырасці цынік; быў надзелены немалым і вельмі праніклівым розумам, хоць любіў прыкідвацца дурнаватым і бесклапотным шалапутам, быў лоўкі рвач, але і шчодры мот, валодаў багатай рускай мовай, усё рускае ведаў і адчуваў, як вельмі нямногія… Паводзіў ён сябе ў эміграцыі нярэдка і сапраўды «Алёшкам», хуліганам, быў частым госцем у багатых людзей, якіх за вочы называў свалатою, і ўсе ведалі гэта і ўсё-ткі даравалі яму: што ж, маўляў, узяць з Алёшкі!»

Зразумела, такая характарыстыка не ўпісвалася ў вобраз графа — савецкага пісьменніка.

І яшчэ больш нечаканым у «Вызваленні Талстога» атрымаўся ў Буніна другі граф — Леў Мікалаевіч.

Я прашу прабачэння, але хачу прасіць дазволу ў цябе, дарагі мой чытач, прывесці ніжэй вельмі доўгаю цытату з бунінскага «Вызвалення Талстога», каб зразумець сэнс гэтай вельмі цікавай працы.

Гэтая цытата не простая, яна нават шматступеньчатая, як матрошка: я прыводжу цытату з Буніна, Іван Аляксеевіч упамінае цытату з успамінаў Соф'і Андрэеўны, а тая ў сваю чаргу цытуе самога Льва Мікалаевіча.

«Усе пераканаты, што так адносіўся ён да «цялеснага пачатку» (сутнасць, істота чалавечая складаецца з духоўнага і цялеснага пачаткаў) толькі ў стара-

сці. Паўтараю, — ад усякага можна пачуць: «Усё гэта вынік усім вядомых прычын: той бурнай пачуццёвасці, пажадлівасці, у якой прайшла яго маладосць, той мужчынскай страсці, вынікам якой было нараджэнне ім трынаццаці чалавек дзяцей, той сілы, з якой гаварыў ён заўсёды аб усім цялесным…»

Што да дзяцей, то іх было нават не трынаццаць, а чатырнаццаць. Летам 1909 года ён сам запісаў пра гэта:

— Паглядзеў на босыя ногі (жаночыя), успомніў Аксінню, тое, што яна жывая, і, кажуць, Ерміл, мой сын (ад яе)…

Гэтая Аксіння наогул можа быць вялікім козырам у руках тых, хто перакананы ў вялікай «грахоўнасці» яго. Гэта Аксіння прымусіла яго пісаць у старасці «Д’ябла» і некаторыя радкі ў іншых творах той жа пары з небывалай для такіх гадоў вастрынёй цялесна-любоўных пачуццяў. У тым жа 1909 годзе Соф’я Андрэеўна перапісвала яго новае апавяданне «Хто забойцы?» і запісала:

«Тэма — рэвалюцыянеры, пакаранні і паходжанне ўсяго гэтага. Магло быць цікава. Але ўсё тыя ж прыёмы — апісанне мужыцкага жыцця. Смакаванне моцнай жаночай паставы з загарэлымі нагамі дзеўкі, тое, што калісьці так моцна спакусіла яго; тая ж Аксіння з вачыма, што блішчаць, якая амаль падсвядома цяпер, у 80 гадоў, зноў паднялася з глыбіні ўспамінаў і адчуванняў мінулых гадоў. Аксіння была баба яснапалянская, апошняя да жаніцьбы палюбоўніца Льва Мікалаевіча».

Пра гэтую Аксінню Соф’я Андрэеўна пісала і ў самым пачатку свайго замужняга жыцця, праз некалькі месяцаў пасля свайго вяселля. Аксіння разам з другой яснапалянскай бабай мыла ў Талстых падлогу, і вось Соф’я Андрэеўна пісала: «Закаханы, як ніколі! І проста баба, тоўстая, белая, — жахліва. Я з такім задавальненнем глядзела на кінжал, стрэльбы…» Аксіння была апошняя да жаніцьбы палюбоўніца Льва Мікалаевіча. Значыць, былі і іншыя; ён сам пра гэта гаварыў: «У маладосці я вёў вельмі непрыгожае жыццё, а дзве падзеі гэтага жыцця асабліва і да гэтага часу мучаць мяне… Гэтыя здарэнні былі: сувязь з сялянскай жанчынай з нашай вёскі да мае жаніцьбы, — на гэта ёсць намёк у маім апавяданні «Д’ябал». Другое — гэта злачынства, якое я зрабіў з пакаёўкаю Гашай, якая жыла ў доме маёй цёткі. Яна была нявінная, я яе спакусіў, яе прагналі, і яна загінула», — як Кацюша Маслава ў «Воскресении». Тут кожны можа мне сказаць: якія яшчэ трэба вам доказы яго пажадлівасці, калі ён сам пісаў пра Аксінню падчас сваёй сувязі з ёй, што ў яго да яе «пачуццё аленя»? Ён пісаў Чарткову і яшчэ пра адну жанчыну: гэта была яго кухарка Домна, моцным, гарачым пачуццём да якой ён «пакутаваў жахліва, змагаўся і адчуваў сваё бяссілле». І заўважце, скажуць мне, якая незвычайная памятлівасць пачуццяў, — на працягу цэлых дзесяцігоддзяў, да самай глыбокай старасці, захоўваць у сабе такую свежасць іх, пры якой толькі і магчыма тое «д’ябальскае» захапленне, з якім напісаны месцамі і «Д’ябал», і пачатак кахання Нехлюдава і Кацюшы».

Яшчэ раз перапрашаю за доўгі ўрывак з «Вызвалення Талстога». Але ён як найлепей паказвае, за што крытыкавалі дзявяты том І. Буніна.

Выступаў на абмеркаванні апошняга тома і Твардоўскі. І крытыкаваў таксама. Але крытыкаваў крытыкаў. І хваліў Бабарэку.

У «Дарогах і звонах» Аляксандр Кузьміч расказвае пра гэта:

«Твардоўскі сказаў нямала харошых слоў пра мяне: ацаніў і мой удзел у гэтым выданні. Душы выдавецкіх дам, якія камандавалі выданнем Буніна, А. і Б., не маглі гэтага вынесці, і яны выкраслілі са стэнаграмы пахвалы паэта».

Дастаю з паліцы два важкія фаліянты з «Литературного наследия» — 84-ы том у 2-х кнігах: Іван Бунін. Разумею, як, цяжка было стварыць гэта выданне — парыжскі ж архіў Буніна-эмігранта быў у Шатландыі!

Сярод тых, хто дапамагаў сваімі парадамі і матэрыяламі ў прадмове «Ад рэдакцыі», выказваецца падзяка вельмі многім навукоўцам і пісьменнікам — К. Федзіну, Б. Слуцкаму, Л. Мартынаву, Н. Балтыйскай-Целешавай, Л. Цімафееву, нябожчыку Л. Зураву і інш.

І асобным радком падзяка яму, Бабарэку:

«Асабліва вялікі і каштоўны ўклад у стварэнне гэтага тома ўнёс вядомы знаўца жыцця і творчасці Буніна А. К. Бабарэка».

Вось апавяданне «Багіня Розуму» з прадмоваю Аляксандра Кузьміча. Яно пра Свята, якое святкавалася падчас рэвалюцыі ў Саборы Парыжскай Божай Маці, на якім Багіняй Розуму была абрана маладзенькая і прыгожанькая парыжанка, актрыса Тэрэза Анжэліка Обры — яе ўрачыста ўнеслі ў Цюільрыўскі палац, у Канвент, як жывое ўвасабленне новага Бажаства, якое даруецца чалавеку. Мінутная слава і трагічнае ўсё жыццё. Гэта неадпаведнасць рэвалюцыі і Розуму, якіх нельга прымірыць. Гэта падкрэсліваюць і аўтар, і той, хто напісаў прадмову да апавядання.

«Гэта цуд Прыроды», — прадстаўлялі яе Канвенту.

«Няўжо гэта ты? — пытаўся ў сваім вершы «Багіня» Беранжэ. — Ты, якую я бачыў такою цудоўнай, калі натоўп, акружыўшы тваю калясніцу, вітаў цябе, называючы той бессмяротнай, чый сцяг развінаўся ў тваіх руках? Ты ішла гордая нашым пакаленнем, нашымі радаснымі воклічамі, сваёй урачыстасцю і сваёй прыгажосцю — і праўда, тады ты была багіняй, Багіня Волі!»

Яна памерла, яшчэ пры жыцці пра яе забыліся ўсе, калі яна яшчэ была жывая. Пахавалі Тэрэзу Анжэліку Обры на Монмартрскіх могілках.

Бунін шукае гэтую магілку. Усе, у каго ён пытаецца, недаўменна паціскаюць плячыма:

— Багіня Розуму? А што гэта такое?

Ага, дарага каштавала ёй тая хвіліна славы, трыумфу і пакланення!

Шмат папрацаваў на гэтае выданне Аляксандр Кузьміч Бабарэка! Гэта і публікацыя невядомых вершаў Буніна, і публікацыя інтэрв'ю Івана Аляксеевіча, і «Аўтабіяграфічныя і літаратурныя запіскі» ў яго публікацыі («Дні і гады. Вандраванні», «Кніга майго жыцця»).

Вось урыўкі з «Кнігі майго жыцця»:

«Не можа не ўскрыкнуць той, хто адчуў боль, захапленне ці здзіўленне: што яму да таго, што ўскрыквалі ўжо тысячы іншых?»

Гэта сказана кімсьці, памёрлым трыццаць стагоддзяў таму назад, але чым я адрозніваюся ад таго, хто сказаў гэта (памёрлі людзі, якія напісалі кнігі пра сваё зямное існаванне, але што мне да таго? Ва ўсе часы і стагоддзі, з дзяцінства да магілы мучыць кожнага з нас неадступнае жаданне гаварыць пра сябе — вось бы ў слове і хоць бы ў малой долі захаваць сваё жыццё — і вось першае, што павінен я засведчыць пра сваё жыццё: гэта непарушна звязанаю з ёю і поўную глыбокага значэння патрэбнасць выразіць і прадоўжыць сябе на зямлі».

А вось гэтыя высокія, амаль завоблачныя, думкі:

«Я пражыў амаль паўвека. Але мне калісьці сказалі гэта — тое, што я нарадзіўся ў такім-та годзе, у такі-та дзень і гадзіну: інакш я не ведаў бы не толькі дня свайго нараджэння, — а, такім чынам, і ліку пражытых мною гадоў, — але нават і таго, што я існую якраз з выпадку нараджэння. Ды і наогул дзіўная аснова майго жыцця: варта мне толькі крыху задумацца над гэтым жыццём — адразу ж непаразуменне, здзіўленне, якое нічым не здымаецца. Гэта як калі ты глядзішся ў люстэрка: што гэта такое, хто гэта такі, каго я бачу, які ёсць я і пра якога я думаю, і хто ўрэшце на каго глядзіць? Небяспечны занятак, звар'яцець можна».

У-ху-ху! Якая глыбіня — і дна не відаць.

І яшчэ дзявяты том Збору твораў Буніна — гэта, вядома ж, яго славутая праца «Пра Чэхава». Яны сябравалі, і гэтыя ўспаміны — шчырая згадка пра свайго, бунінскага, Чэхава.

«Ці было ў яго жыцці хоць адно вялікае каханне? — задумваецца Бунін і тут жа адказвае сам сабе. — Думаю, што не». Адразу ж папраўляецца: «Не, было. Да Авілавай». І дадае: «Хіба нармальна было так легкадумна адносіцца да свайго крывахаркання, як ён адносіўся з 1884 года, а ў 1897 годзе, нягледзячы на хваробу, паехаў у Маскву, каб пабачыцца з Л. А. Авілавай?..»

«У ёй усё было чароўнае: голас, нейкая сарамлівасць, погляд дзівосных шэра-блакітных вачэй, — захапляецца Іван Аляксеевіч, і нам здаецца, што і ён сам не раўнадушны, не абыякавы да гэтай жанчыны, любуецца ёю. — Для мяне цалаваць яе пяшчотную шляхетную ручку было заўсёды сапраўдным шчасцем».

Да другой жанчыны, да Кніпер-Чэхавай, жонкі Антона Паўлавіча, Бунін адносіўся крыху іранічна, пасмейваўся з яе, — а з каго ён, вядомы скептык, скажыце, не кпіў, не жартаваў?

Пра гэта Бабарэку напісаў у пісьме ад 16 ліпеня 1965 года Георгій Адамовіч, якому Бунін расказваў пра адно наведванне Чэхава ў Маскве:

«Чэхаў быў ужо хворы. Кніпер увечары іграла ў тэатры і прасіла Буніна пасядзець з Чэхавым да яе вяртання. Па яе заехаў Неміровіч-Данчанка, прыбраны, шыкоўны, у фраку, вельмі ўважлівы і ветлівы. Чэхаў на яго касіўся не зусім дружалюбна.

Да дванаццаці ўсё ішло добра. Чэхаў глядзеў на гадзіннік і ўсё паўтараў: «Пачакайце яшчэ хвілінку, зараз яна вернецца».

Гадзіна ночы, дзве, тры. Кніпер няма. Чэхаў сядзіць бледны, хмуры, усё глядзіць на гадзіннік. Нарэшце, а чацвёртай гадзіне яна з'яўляецца.

— Дарагі, мілы, ну што ж ты мяне чакаеш? Навошта? Я была ўпэўнена, што ты лёг… І вы тут (да Буніна), ну, як гэта міла! Разумееце, наладзілі рэпетыцыю, я рвалася дадому, але нельга было…

Чэхаў быццам бы ў адказ маўчаў, сціснуўшы зубы, апусціўшы галаву: ад Кніпер пахла тытунём разам з духамі».

Пра каханне Чэхава і Авілавай расказвае Бунін з ласкаю і дабрынёю — здаецца, нават з зайздрасцю.

Гэта і праўда было незвычайнае каханне: трое дзяцей, якіх яна пяшчотна любіць, добрая сям'я, харошы муж, які, праўда, насмешліва адносіўся да яе літаратурных пісанняў:

— Ну, маці, час у пасцель, хопіць тваёй творчасці.

Бунін цаніў яе творчасць, Чэхаў хваліў шмат якія апавяданні, а Леў Талстой, які бываў у іхнім доме, нават сказаў (гэта запісаў Макавецкі), што «Авілава піша лепей за Л. Андрэева».

Вось яна, яе кніга «Рассказы и воспоминания», выдадзеная ў 1984 годзе. Апавяданні. Успаміны пра Л. Талстога і М. Горкага. Дзённікавыя запісы. І вядома ж яна, аповесць-успамін «А. П. Чэхаў у маім жыцці», дзе Авілава шчыра расказвае пра сваё незвычайнае каханне.

Іван Аляксеевіч даў вельмі высокую ацэнку гэтай аповесці:

«Успаміны Авілавай, напісаныя з вялікім бляскам, хваляваннем, рэдкай таленавітасцю і незвычайным тактам, былі для мяне адкрыццём.

Я добра ведаў Лідзію Аляксееўну, адметнымі рысамі якой былі праўдзівасць, розум, таленавітасць, сарамлівасць і рэдкае пачуццё гумару нават над самой сабою.

Прачытаўшы яе ўспаміны, я і на Чэхава зірнуў інакш, сёе-тое па-новаму мне ў ім прыадкрылася.

Я і не падазраваў пра тыя адносіны, якія існавалі між імі…

А колькі гадоў яна маўчала. Ні адным словам не намякнула пры жыцці (а я ж з ёю сустракаўся) пра сваё каханне.

Яе ўспаміны надрукаваны праз дзесяць гадоў пасля яе смерці».

Гэтае каханне было, на жаль, вельмі трагічнае.

А пачыналася яно рамантычна. Упершыню яны сустрэліся ў яе сястры Надзі: «Прыходзь зараз жа, абавязкова, у нас Чэхаў».

Яна карміла Лёвачку, якому ўжо было дзевяць месяцаў, але кінула ўсё і пайшла — вядома, што пасля купання Лёвачка будзе спакойна спаць.

Як яно, гэта, пачынаецца — цяжка растлумачыць.

«Антон Паўлавіч зазірнуў мне ў вочы. І ўсяго толькі! А яно ўжо пачалося».

«Як цяжка часам растлумачыць, — здзіўляецца і сама Авілава, — і нават улавіць тое, што здарылася. А па сутнасці ж нічога і не здарылася. Мы проста зірнулі блізка ў вочы адно аднаму. Але як гэта было шмат! У мяне ў душы быццам узарвалася і ярка, радасна і ўрачыста, з захапленнем узвілася ракета. Я ніколі не сумнявалася, што з Антонам Паўлавічам здарылася тое ж, і мы глядзелі адно на аднаго здзіўленыя і ўзрадаваныя».

І тры гады яны не бачыліся.

А сустрэліся зноў у доме яе сястры Надзі, муж якой, рэдактар «Петербургской газеты», адзначаў юбілей свайго выдання.

Выпадкова яны сутыкнуліся ў натоўпе. А не, гэта толькі здаецца, што выпадкова!

— Я не чакала вас бачыць, — сказала яна.

— А я чакаў, — адказаў ён. — І ведаеце, што? Мы зноў сядзем побач, як тады.

І селі — знайшлі больш-менш зацішны куток і быццам бы адасобіліся. Іх зноў клікалі ў шум і гам, аднак яны адмаўляліся, і іх, нарэшце, пакінулі ў спакоі.

Ды няхай дзе хочуць, там і сядзяць, — сказала Надзя.

— Бачыце, як хораша, — усміхнуўся Антон Паўлавіч Лідзіі Аляксееўне. — Мы перамаглі.

І адразу ж загаварыў да яе:

— А ці не здаецца вам, што калі сустрэліся з вамі тры гады назад, мы не пазнаёміліся, а знайшлі адно аднаго пасля доўгага расстання?

— Ага, — нерашуча адказала яна.

— Вядома ж! Я ведаю. Такое пачуццё можа быць толькі ўзаемным. Пачуццё ўзаемнай блізкасці.

— Расстанне было доўгім. Бо гэта ж было не ў сапраўдным, а ў нейкім іншым забытым жыцці…

— Але мы тады кахалі адно аднаго.

Да іх падыходзілі, чокаліся шампанскім, кланяліся, усміхаліся. Чэхаў слухаў іх і, здаецца, нецярпліва чакаў, калі іх зноў пакінуць удваіх.

Пачалі ўставаць з-за стала.

«Абед цягнуўся гадзіны тры, а для мяне прайшоў хутка», — піша Лідзія Аляксееўна.

Яна ўбачыла Мішу, які прабіраўся да яе. Ён быў не ў настроі.

— Я еду дадому. А ты? — спытаўся муж.

«Я сказала, што яшчэ застануся», — успамінае Лідзія Аляксееўна.

— Зразумела, — сказаў ён.

«А дома мяне чакала бура. Мішу вельмі не спадабалася, што мы не селі там, дзе нам было назначана».

Яны ўвесь час, калі сустракаліся, ён жыў у Маскве, яна — у Пецярбургу, то сустракаліся толькі пры людзях. Сам-насам пабыць ім ніяк не выпадала.

«А я ўжо ведала цяпер. Упершыню, без усялякага сумнення, бясспрэчна, выразна я ведала, што кахаю Антона Паўлавіча. Кахаю!» — прызнаецца яна.

Але аднойчы такая сустрэча на адзіноце ледзь не адбылася. На масленку Лідзія Аляксееўна нечакана для сябе самой запрасіла Чэхава дадому:

— Прыязджайце заўтра ўвечары да мяне.

— У вас будзе шмат гасцей? — спытаўся Чэхаў.

— Наадварот, нікога. Міша на Каўказе, а без яго ў мяне некаму бываць. Надзя ўвечары не прыходзіць, будзем удваіх і будзем гаварыць, гаварыць…

Але сустрэча не адбылася. Да Авілавай нечакана пазванілі і завaліліся мужавы знаёмыя — муж з жонкаю, і калі Антон Паўлавіч пазваніў, яны ўжо даядалі вячэру і дапівалі віно, падрыхтаваныя для яго.

Чэхаў быў збянтэжаны і нічога не разумеў. Так і на гэты раз сустрэча сам-насам не адбылася. У такім непаразуменні ён і паехаў у сваю Маскву.

Авілава вельмі перажывала. У сваім Пецярбургу. І адважылася нават на такое: купіла бірульку, напісала на ёй старонку і радок у кнізе Чэхава, запоўніўшы якія, можна было прачытаць:

«Калі табе калі-небудзь спатрэбіцца маё жыццё, то прыйдзі і вазьмі яго».

І праз брата перадала бірульку ў Маскву — для Антона Паўлавіча.

І ён адказаў ёй. Са сцэны, калі ішла ў Пецярбурзе яго п’еса «Чайка», адзін білет на спектакль дастаў ёй Міша. Вуснамі «Чайкі». Вуснамі Трыгорава. У п’есе, якую асвістала публіка: свісталі, хлопалі, рагаталі, абураліся. Казалі, што Чэхаў збег з тэатра: у фраку, у сваю Маскву.

Яго асвістваюць, а ён, бачыце, са сцэны прызнаецца ёй, Авілавай, адной толькі ёй, у каханні, і акцёры падказваюць, у якой кнізе і на якой старонцы і нават у якім радку трэба ёй шукаць гэтае прызнанне, адказ на тое, што напісала яна на бірульцы.

Здавалася б, дзяцінства. Але гэта было каханне. З абодвух бакоў.

Сустракаліся яны заўсёды толькі ў нейкіх незвычайных і нязручных для спаткання месцах.

То ў Пецярбургу, у тэатры Суворына. На масленку. На маскарадзе: «Маска, ты мяне не ведаеш». — «Я кахала цябе. Цябе, цябе». — «Не інтрыгуй мяне, маска».

То ў Маскве. «Мы вырашылі сустрэцца ў Маскве, — успамінае Лідзія Аляксееўна. — Я павінна была быць там у сакавіку. Антон Паўлавіч сказаў, што прыедзе з Меліхава». — Яны дамовіліся пра спатканне. — «Значыць, да сустрэчы. Ваш Чэхаў».

Але сустрэчы на гэты раз не адбылося. Швейцар гасцініцы, у якой спыніўся Антон Паўлавіч, сказаў Авілавай, што Чэхава няма ў нумары. «Не можа быць!» — не верыла Лідзія Аляксееўна. Але гэта была праўда: Чэхава ў гасцініцы не было.

На другі дзень ён прыслаў ёй запіску:

«Ноччу я стаў пляваць крывёю. Раніцай паехаў у Маскву. У 6 гадзін паехаў з Суворыным у Эрмітаж абедаць і толькі сеў за стол, як у мяне кроў пайшла горлам форменным чынам…»

І ўсё ж яны сустрэліся. У клініцы.

Доктар не пускаў:

— Антона Паўлавіча бачыць нельга. Дапусціць вас я не магу ні ў якім разе… Вы ў Маскве праездам?

— Ага.

— І гэта, каб пабачыцца з вамі, ён хворы, паехаў з вёскі ў такое надвор'е.

— Што мне рабіць? Пайсці?

— Немагчыма цяпер. Ён вас чакае. Хвалюецца. Што тут зробіш? Хадзем… Даю вам тры хвіліны. Тры хвіліны, не болей… Праз тры хвіліны я прыйду.

«Ён ляжаў адзін, — успамінае Лідзія Аляксееўна. — Ляжаў на спіне, павярнуўшы галаву да дзвярэй».

Яны прабылі разам усяго тры хвіліны. Тры хвіліны гэтага вялікага, без сумнення, кахання…

Бачачы, што ім усім цяжка ад гэтага кахання, Антон Паўлавіч сам здаліўся ад яго — перастаў адказваць на лісты Лідзіі Аляксееўны. У яе — дзеці, ён — хворы. А неўзабаве, нібы спяшаючыся, ажаніўся з Вольгай Леанардаўнай Кніпер. Усе здзіўляліся: як? навошта? чаму? Яна ж не бачыла яго аж пяць гадоў.

І вось эпілог аповесці «А. П. Чэхаў у маім жыцці». Лідзія Аляксееўна назвала яго «Тысяча дзевяцьсот чацвёрты год».

«Чацвёртага ліпеня мы чакалі з вячэрнім поездам шмат гасцей. Пятага святкаваўся дзень нашага вяселля, і ўсе нашы сябры і родзічы з'язджаліся і па чыгунцы, і на конях, каб павесяліцца і пабаляваць.

Поезд прыходзіў каля 11-ці вечара. Мы чулі, як ён прасвістаў, як экіпажы прагрымелі на плаціне. Выйшлі сустракаць на ганак.

Усім быў прыгатаваны начлег, і, пасля шумнай мітусні прыезду, госці разышліся па пакоях, каб прывесці сябе ў парадак. Я стаяла ў сталовай, агледаючы накрыты да вячэры стол. Міша хутка падышоў да мяне, узяў мяне пад руку і вывеў на неасветлены балкон.

— Вось што… — сказаў ён рэзка, як быццам злаваўся — вось што… Я патрабую, каб не было ніякіх істэрык. Я патрабую. Чуеш? З газет вядома, што другога ў Бадэнвейлеры памёр Чэхаў. Мы гэтай газеты яшчэ не атрымалі. Дык вось… Паводзь сябе прыстойна! Памятай!

Вось як яно бывае ў жыцці: дзень твайго вяселля і смерць твайго кахання…

Міша адразу ж пайшоў. Яна засталася адна ў цёмным кутку. Ухапілася за парэнчы, стаяла і дыхала. Дыхаць было цяжка. І стаяць — таксама.

«Чэхаў памёр — напомніла я сабе. — Памёр».

Я прыўзнялася і абаперлася на падаконнік. Ужо зусім развіднелася, і высока ў небе запунсавела воблачка. І зноў усплыў твар Чэхава на падушцы. — Мілая, — пачула я яго голас. Рэзкім болем кальнула ў сэрца, я міжволі ўскрыкнула, і тады слёзы паліліся з вачэй…»

Пасля Авілава напіша:

«Чытаючы яго пісьмы да жонкі, я два разы натыкнулася на пытанне: «Ці сустракаеш ты Авілаву?» Ну а як жа! Мы сустрэліся твар у твар, але наўрад ці яна мяне пазнала. Мы неяк ігралі ў тэатры ў п'есе «Дзіўны збег абставін». Але мы тады абедзве былі маладыя. Яна іграла тады адну Соф'ю Андрэеўну, а я — іншую Соф'ю Андрэеўну. У гэтым і заключаўся збег абставін. І дзіўным было тое, што гэта мне, а не ёй прадказвалі сцэнічную кар'еру. Міма мяне прайшло ўсё, што ў поўнай меры дасталося ёй».

Бунін смуткуе:

«Памёр ён спакойна, без пакут, сярод цішыні і прыгажосці летняга світання, якое так любіў заўсёды.

«Іх штэрбэ». Гэтыя свае апошнія словы ён чамусьці сказаў па-нямецку. — Я паміраю. І калі памёр: «выраз шчасця з'явіўся адразу на яго памаладзелым твары…»

Гэта з кнігі «Пра Чэхава», якая ўпрыгожыла дзявяты том «Збору твораў І. А. Буніна.

Том, які не павінен быў выйсці. Але які выйшаў!

Дзякуючы і А. К. Бабарэку таксама.

Яму, Аляксандру Кузьмічу Бабарэку, пісалі з эміграцыі Іван Бунін, Барыс Зайцаў, Андрэй Сядых, Глеб Струве, Сяргей Ліфар, Аляксандра Талстая, Вера Мурамцава-Буніна, Георгій Адамовіч. І ён, не зважаючы на тое, што гэта тады было небяспечна, вельмі нават небяспечна, пісаў ім, эмігрантам, у Парыж ды ў Нью-Ёрк.

У 1967 годзе ў «Художественной литературе» выйшла кніга Бабарэкі «І. А. Бунін. Матэрыялы для біяграфіі».

Яна многім спадабалася.

«На працягу двух дзён, не адрываючыся, літаральна запоем прачытаў я вашу кнігу пра Буніна», — пісаў яму Павел Антакольскі.

«Прачытаў вашу кнігу — дзякуй. Нахлынула шмат думак і ўспамінаў. Было б цудоўна, калі б вы наведалі мяне ў Перадзелкіне… і мы пагаварылі б і пра вашу кнігу, і пра Івана Аляксеевіча», — запрашаў Карней Чукоўскі.

Але асаблівы рэзананс гэтая кніга мела за мяжою, у асяроддзі рускіх эмігрантаў.

З Нью-Ёрка Бабарэку пісаў Сядых:

«Дарагі Аляксандр Кузьміч! Ад душы віншую вас з выхадам вашай цудоўнай кнігі. Мне здавалася, што я даволі добра ведаю жыццё Буніна, але аказалася, што вельмі многае з яго першай паловы жыцця мне невядома… Паўтараю, кніга гэтая застанецца ў рускай літаратуры, — ніхто, хто будзе пісаць пра Буніна і даследаваць яго творчасць, не зможа без яе абысціся».

З Ніцы адгукнуўся Георгій Адамовіч:

«Бунін» вельмі цікавы, відаць, вялікая праца, вялікая ўвага. Я напішу пра яе ў парыжскай газеце, прышлю вам выразку — спадзяюся дойдзе».

З Парыжа напісаў Барыс Зайцаў:

«У вашу кнігу пра Буніна нярэдка заглядваю. Хораша вы яе зрабілі, грунтоўна і з любоўю. Многае ведаю. (Але пісьмо Веры пра смерць упершыню прачытаў). Ён прайшоў праз усё маё жыццё. У канцы… мы разышліся. Гэта вельмі сумна. Але ўспамінаю заўсёды лепшае, а не горшае».

Прысылала пісьмы Галіна Мікалаеўна Кузняцова, якая жыла ў доме Буніных з 1927 года па 1942. «Як многа значылі яны для мяне!» — прызнаецца Бабарэка. Яна шмат што ведала пра Буніна, бо яго жыццё многія гады было ў яе навідавоку. Яна, як прызнаецца Бабарэка, натхняла яго да паглыбленых разважанняў над жыццестварэннем Буніна.

«Дарагі Аляксандр Кузьміч! Не спяшаючыся і з найвялікшай увагаю прачытала вашу кнігу пра Буніна.

Вы зрабілі бясконца цяжкую, мазаічную працу, з вялікім тактам абыходзячы ўсё, што магло б сказіць вобраз Івана Аляксеевіча».

У другім лісце Галіна Мікалаеўна паведамляе Бабарэку:

«Пра вас, пра вашу кнігу «Матэрыялы для біяграфіі Буніна» вельмі шмат гавораць у літаратурных колах, яе ўсе чытаюць і хваляць. Як гэта мяне радуе! Спадзяюся, што калі-небудзь вы будзеце яшчэ карыстацца многімі маімі запіскамі, якім пакуль яшчэ не настаў час выходзіць у свет».

Яна пыталася, што б ён хацеў мець з бунінскага архіва. Яна прыслала яму сваю кнігу «Граскі дзённік», якая выйшла ў Вашынгтоне. І напісала:

«Дарагому Аляксандру Кузьмічу Бабарэку ў надзеі, што гэты дзённік паможа яму ў яго будучых працах пра Буніна. Сардэчна Г. Кузняцова. 19.2.68. Мюнхен».

Сардэчна. Ён жа яе, мне здавалася, крыху недалюбліваў. Вядома, Аляксандр Кузьміч быў уважлівы да яе, галантны, з удзячнасцю прымаў дапамогу, аднак у нашых праходках па Валошынскім садзе ў Картэбелі, у яго прарвалася:

— Ведаеце, Вера Мікалаеўна на кухні рыхтуе ім снеданне, а яны, Іван Аляксеевіч і Галя, у спальні спакойна размаўляюць.

А ў друку Аляксандр Кузьміч пра Галіну Міхайлаўну пісаў годна і паважліва:

«У Буніных на «Бяльведэры» з 1927 года жыла паэтэса Галіна Мікалаеўна Кузняцова (1900—1976). Часам яна з’язджала ад іх на два-тры месяцы і канчаткова пакінула гэты гасцінны дом у красавіку 1942 года. Яна перасялілася ў Каны, потым у Амерыку, дзе працавала карэктарам у выдавецкім аддзеле савецкага прадстаўніцтва ў ААН; апошнія гады пражыла ў Мюнхене. Яна пісала прозу, вершы, яе «Граскі дзённік» — таленавітая і вельмі каштоўная кніга для вывучэння біяграфіі і творчасці Буніна».

Пра адносіны Івана Аляксеевіча да жанчын вельмі падрабязна напісаў Андрэй Сядых — прашу прабачыць, але я дазволю сабе прывесці тут вялікую цытату, у якой як найлепей раскрываецца гэтая тэма «Бунін і жанчыны».

«У яго былі раманы, хоць сваю жонку Веру Мікалаеўну ён кахаў сапраўдным, нават нейкім прымхлівым каханнем. Я глыбока перакананы, што ні на каго Веру Міхайлаўну ён не памяняў бы. І пры ўсім гэтым ён любіў бачыць каля сабе маладых, таленавітых жанчын, заляцаўся да іх, фліртаваў, і гэта патрэбнасць з гадамі толькі павялічвалася. Аўтар «Цёмных алей» хацеў даказаць самому сабе, што ён яшчэ можа падабацца і заваёўваць жаночыя сэрцы. Па-сапраўднаму быў у Івана Аляксеевіча на схіле гадоў толькі адзін сур’ёзны і пакутлівы раман з сёння нябожчыцай, таленавітай пісьменніцай Галінай Мікалаеўнай Кузняцовай. Ведаў я пра гэты раман ад Івана Аляксеевіча ад самой Галі, з якой сябраваў з 1933 года, з часу бунінскай паездкі ў Стакгольм, куды мы яго суправаджалі. Значна меней гаварыла пра гэта Вера Мікалаеўна. Мне здавалася, што яна ўрэшце прымірылася — лічыла, што пісьменнік Бунін — чалавек асаблівы, што яго эмацыянальныя патрэбнасці выходзяць за межы нармальнага сямейнага жыцця, і ў сваім бясконцым каханні і адданасці «Яму» яна пайшла і на гэту, самую вялікую сваю ахвяру. Урэшце, Вера Мікалаеўна і Галя нават пасябравалі…»

Аляксандр Кузьміч неяк вельмі зацята, нават узнёсла любіў і паважаў Веру Мікалаеўну Мурамцаву-Буніну.

Але спачатку пра той шум, які выклікала ў рускай эміграцыі кніга Бабарэкі «І. А. Бунін». Пра яе і праўда гаварылі ўсе, пісалі ўсе эмігранцкія газеты, хвалілі і захапляліся ёю.

Уся эміграцыя бурліць, эмігранты хваляць.

Аляксандр Кузьміч радаваўся — поспех! Але гэтая радасць скінулася потым бядою і каштавала аўтару шмат нерваў, і, як ён кажа, крыві. Калі Бабарэка ў 1983 годзе перавыдаваў кнігу, з яе павыкрэслівалі імёны Б. Зайцава, Г. Адамовіча і іншых эмігрантаў, цытаванне з іх водгукаў і кніг.

«За ўсёй гэтай бессаромнасцю, — абураўся Бабарэка, — з’явіўся загад дырэктара: рэдактару вымова — і пазбавіць прэміі, — недагледзела, не выкрасліла імёны, якія спакойна ўпрыгожваюць першае выданне кнігі, якая выйшла ў 1967 годзе».

Дык вось Вера Мікалаеўна Мурамцава-Буніна.

У 1956 годзе, калі анкеты палохалі пытаннем: «Ці была ў вас сувязь з замежжам?», Аляксандр Кузьміч Бабарэка паслаў у Парыж пісьмо і свае працы пра Буніна Веры Мікалаеўне Мурамцавай-Бунінай. Да Бабарэкі з Расіі ёй ніхто не пісаў і таму Вера Мікалаеўна была рада ягонаму пісьму.

«Вы хораша справіліся з вашай задачай, з вялікаю ўвагаю і любоўю, за што прыношу вам сваю ўдзячнасць. Але ёсць недакладнасць», — пісала Вера Мікалаеўна.

Маўляў, вы пішаце, што Бунін карпатліва і ўпарта працаваў над сваімі фразамі, а гэта няпраўда, бо яму не трэба ўпарта працаваць — у яго была «пастаўлена мова», як, да прыкладу, у Нежданавай голас і яму пісалася адразу лёгка.

Буніна папярэджвала Бабарэку ад памылак, якімі грашаць некаторыя іншыя даследчыкі.

Бунін ніколі не корпаўся ў зямлі, гэта заўсёды рабіў Зураў.

«Я ніколі не называла Івана Аляксеевіча — «Ваняй», а заўсёды «Янам».

Заўсёды ў нас былі розныя спальні і ніколі не было байкавых коўдраў. Іван Аляксеевіч заўсёды накрываўся вельмі дарагім пледам».

Між імі пачалася ажыўленая і плённая перапіска. Вера Мікалаеўна якраз працавала над сваімі ўспамінамі.

«В. М. Буніна, — успамінаў у «Дарогах і званах» Бабарэка, — пісала пра сваю працу над кнігамі «Жизнь Бунина» і «Беседы с памятью». Я пасылаў ёй тое, што ўдавалася надрукаваць з маіх архіўных пошукаў пра Буніна, у прыватнасці, яго пісьмы».

«Вельмі я вам удзячная, — адказвала яна, — за тое, што вы паведамілі мне ў сваім пісьме, гэта дапамагло маёй працы, хоць і затрымала яе на нейкі час».

І з лёгкаю журбою:

«Аднойчы нават выпаў снег, што было вельмі прыемна, але ён уміг на маставой і тратуарах ператварыўся ў слоту і галалёдзіцу. Снег тут рэдкасць і не кожную зіму бывае, а таму мы, рускія, радуемся яму, як дзеці».

І яшчэ болей з тугою:

«Наогул я сумую галоўным чынам па рускай прыродзе, тут яна меней паэтычная і больш аднастайная».

І вось, нарэшце, у 1958 годзе «Жизнь Бунина» выйшла! У колькасці ўсяго 500 экзэмпляраў.

Вера Мікалаеўна пасылала кнігу ў Расію, у Маскву. Скардзілася: «У Маскву мае кнігі даходзяць, а ў іншыя гарады — не».

Яна марыла перавыдаць гэтую кнігу ў Савецкім Саюзе. Нават спадзявалася.

«Гэтую кнігу — піша А. Бабарэка, — я прапанаваў у 1960 годзе выдавецтву «Советский писатель». Надрукаваць адмовіліся».

А Вера Мікалаеўна да яго сама ўвага:

«Добра б вам сабрацца да нас у Парыж, — клікала яна Бабарэку. — Многа б вы маглі атрымаць для вашай працы па біяграфіі Івана Аляксеевіча».

Але Аляксандра Кузьміча ў Парыж не пусцілі.

«Мне дарога да В. М. Бунінай была забаронена», — хмура канстатаваў ён гэты факт.

І ўсё ж гэтая кніга ў Савецкім Саюзе выйшла. У 1989 годзе. Выйшла разам з «Беседами с памятью». Калі Веры Мікалаеўны ўжо даўно не было ў жывых.

Складанне, прадмова і заўвагі да яе зрабіў А. К. Бабарэка.

Ён столькі зрабіў для гэтай кнігі, што і яго, на добры лад, можна было б лічыць суаўтарам.

Бабарэка піша пра Буніна:

«Ужо тады (у дзяцінстве, калі ён пасвіў жывёлу разам з сялянскімі дзецьмі, ездзіў на начлег, еў з імі чорны хлеб, рэдзьку, «шурпатыя, пузлаватыя, з бугарочкамі агурочкі) — ужо тады з рэдкаю сілаю ўспрыняцця ён адчуваў, па ўласным прызнанні, «боскае хараство свету» — галоўны матыў усёй яго творчасці».

Вера Мікалаеўна. Дачка члена маскоўскай гарадской управы і пляменніца старшыні Першай Дзяржаўнай думы С. А. Мурамцава. Успамінае Георгій Адамовіч:

«Не ўсім добрым, нават вялікім рускім пісьменнікам — ці трэба называць імёны? — пашчасціла знайсці ў шлюбе не толькі сябра, які кахае, але і ўсёю сваёй істотаю адданага, гатовага ахвяраваць сабою, ва ўсім уступаць, застаўшыся пры гэтым жывым чалавекам, не ператварыўшыся ў безгалосы цень. Цяпер яшчэ не час успамінаць у друку тое, што гаварыў пра сваю жонку Бунін. Магу ўсё ж засведчыць, што за яе бясконцую вернасць ён быў ёй бясконца ўдзячны і цаніў яе звыш усялякай меры. Нябожчык Іван Аляксеевіч у паўсядзённых адносінах не быў чалавекам лёгкім і сам гэта, вядома, разумеў. І таму яшчэ глыбей ён адчуваў усё, чым сваёй жонцы абавязаны».

Дзве кнігі ў адной — «Жизнь Бунина» і «Беседы с памятью». Змястоўная, напоўненая, шчырая кніга. Гэта і біяграфія — свая, Буніна, родных і блізкіх, сяброў і знаёмых і адначасова ўспаміны, дзённікі і ў той жа час высокамастацкі твор, які ад пачатку да канца чытаецца з неаслабнаю ўвагаю.

Адна з першых згадак самаго Буніна:

«Яшчэ ўспамінаецца, а, можа, гэта мне расказала маці, што я часам, калі яна сядзела з гасцямі, вызываў яе, клічучы пальчыкам, каб яна дала мне грудзі — яна вельмі доўга карміла мяне, не ў прыклад іншым дзецям».

І гэтая высакародная, дастойна апранутая жанчына слухалася сына — кідала гасцей і ішла да яго.

І адна з апошніх: дзень, калі Буніну была прысвоена Нобелеўская прэмія. Напружаны, цяжкі, увесь у чаканні і, можна сказаць, вар'яцкі дзень.

Вось амаль стэнаграфічныя запісы Веры Мікалаеўны.

«9 лістапада. Сняданне. Ядзім грэчневую кашу. Усе ўнутрана хвалюемся…

Тэлеграма Кальгрэна парушыла наш спакой. Ён пытаўся, якое падданства ў Яна. Адказалі: рускі выгнаннік.

Пасля снядання ўсе разышліся. Ян сеў пісаць. Не пісалася!

Галя Кузняцова прапанавала кіно. І яны з Янам пайшлі ў сінема. Не глядзелася!

Вера Мікалаеўна засталася дома. Званок па тэлефоне. Бяру трубку. Пытаюць: ці хачу я прыняць тэлефон са Стакгольма. Тут мяне ахоплівае хваляванне і калі мне зноў звоняць, і я праз шум, гул, нейкія галасы лаўлю асобныя словы: «Ваш муж — лаўрэат Нобелеўскай прэміі, мы хацелі б пагаварыць з мсье Бунiным?» Адказваю: «Мой муж выйшаў, не больш як праз паўгадзіны вернецца».

Лёня Зураў ляціць у сінема.

Веру Мікалаеўну ахоплівае неспакой — а раптам гэта нехта пажартаваў? Яна кідаецца да тэлефона і пытае, ці праўда, што ім званілі са Стакгольма. На станцыі здзіўляюцца: «Дык вы ж не прынялі званок».

Зноў званок. Пасылаю па Жозефа, не спадзеючыся на свой слых — ён пачаў у мяне псавацца».

Іван Аляксеевіч вярнуўся з Зуравым. Галя пайшла да шаўца, успомніўшы, што Вера Мікалаеўна не можа выйсці без чаравікоў.

Вярнулася Галя з чаравікамі. Зноў тэлефон са Стакгольма. Адказвала Галя, бо яна лепш за ўсіх чула.

Пасля яшчэ аднаго званка Ян пайшоў гуляць.

Жозеф спытаў у нас, ці трэба на заўтра кашу, і мы ўсе трое хорам адказалі: non, non, non!!! Гэта быў самы радасны момант.

Да адзінаццаці гадзін усё скончылася. Леглі спаць. Але наўрад ці спала віла Бяльведэр у тую ноч. Кожны думаў свае думы. Закончылася частка нашага жыцця, вельмі ціхага, беднага, але чыстага і непрыкметнага».

У прадмове да гэтай кнігі Вера Мікалаеўна Мурамцава-Буніна напісала:

«Дзякуй Аляксандру Кузьмічу Бабарэку, які падчас маёй працы дасылаў патрэбныя дадзеныя для маёй кнігі».

Аляксандр Кузьміч Бабарэка вельмі радаваўся выхаду гэтай кнігі — ён лічыў гэта адной са сваіх перамог.

Ён прыслаў мне «Жизнь Бунина» і «Беседы с памятью» з Масквы з добрым надпісам:

«Дарагому Івану Данілавічу Сіпакову. Сардэчна. А. Бабарэка. 14.X.89».

Гэтак жа Бабарэка падпісаў мне і «Окаянные дни», якія выйшлі ў «Советском писателе» ў 1990 годзе. І гэтую кнігу па сутнасці таксама зрабіў ён адзін — і складанне, і падрыхтоўка тэксту, і прадмова, і каментарыі — усё яго, Аляксандра Кузьміча.

Кніга, як найлепей клалася на той час, калі яна выйшла, — ішла якраз перабудова, і «окаянные дни» нібыта вярнуліся зноў.

У сваёй прадмове Бабарэка піша:

«Грамадства наша дэградзіравала. Мы на мяжы катастрофы. Пра гэта штодзённа можна чытаць у прэсе, можно чуць у парламенце, у прамовах нашых знаных палітыкаў. У заняпадзе тэатр, музычнае мастацтва. Вечныя маральныя каштоўнасці — дабрыня, прыгажосць і г. д. — топчуцца, у кіно ідзе прапаганда насілля і парнаграфіі».

А ў пісьме, якое я атрымаў раней чым кнігу, якраз на Каляды 7 студзеня 1990 г., Аляксандр Кузьміч расказваў пра гэтую кнігу, якая яшчэ павінна была толькі выйсці:

«Дарагі Іван Данілавіч! З Новым і Новым старым годам, са святам Нараджэння Хрыстова! Я і Анна Максімаўна віншуем Вас і Раісу Фёдараўну, Сергея, нявестку і ўнучку. Сёння прыйшло Ваша пісьмо. Доўга Уліта ехала, а прыехаўшы, узрадавала невымоўна. Бо толькі і ёсць радасці, што падтрымка сяброў, тое, што пачуеш добрае слова пра сваю працу, якую адольваеш і сапраўды з крывавымі слязамі…

Палітычнага ж нічога рашуча няма ў «Жизни Бунина», але ж не выдалі, гэта нанесла вялікі ўдар аўтару, Веры Мікалаеўне. Яна пакутліва перанесла няўдачу, а я не атрымаў патрэбных удакладненняў, якія яна хацела прыслаць, зараз давялося агаворваць недакладнасці ў каментарыі.

Дзякуй Вам ад усяе душы, велізарная ўдзячнасць за цудоўнае пісьмо, якое акрыляе на новую працу. Работы ж шмат, не ведаю як і справіцца…

Я толькі што здаў — закончыў працу над незвычайнай кнігаю: «І. А. Бунін «Окаянные дни». Успаміны, Артыкулы». Мая прадмова на паўтары аркушы ўтрымлівае шмат цікавых, а то і проста-такі нечаканых дадзеных; каментарыі — два аркушы. Дасталося ад Буніна Горкаму па заслугах (і ад мяне), Маякоўскаму і ўсялякай беспрынцыпнасці, прыстасаванству, прадажнасці пісьменнікаў з іх адсутнасцю маралі, з іх няведаннем народа, сялянства, вёскі.

Упершыню ўспаміны даюцца поўнасцю, акрамя нямногіх фраз, якія рэдакцыя палічыла нецэнзурнымі. Артыкулы друкуюцца ўпершыню: пра Горкага, пра А. К. Талстога і інш. Выдавецтва нібыта спяшаецца кнігу выдаць, сказалі: экспрэс-выданне; гэта значыць, у шчаслівым выпадку кніга выйшла б да лета. Гэта было б літаратурнаю падзеяй!»

У «Аўтабіяграфічных заметках» Іван Аляксеевіч злуецца амаль на ўсю тагачасную літаратуру: Меражкоўскі, Гіпіус, Бальмонт, Салагуб, Блок, Андрэеў, «нейкі» Хлебнікаў і іншыя, і іншыя, і іншыя.

Бунін прызнае толькі Аляксандра Пушкіна і Льва Талстога. І то пра апошняга іранізуе:

«Між іншым, памятаю, што бацька нярэдка смяяўся, расказваючы, як чытаюць «Вайну і мір» нашы суседзі памешчыкі: адзін чытае толькі «Вайну», а другі толькі «Мір», — адзін, чытаючы, прапускае ўсё, што датычыцца вайны, а другі — наадварот»…

Але ўсё ж такі ён захапляецца Львом Мікалаевічам; і сваім бацькам — таксама: «І я глядзеў на яго ва ўсе вочы: жывога Талстога бачыў!»

А гэтую кнігу, у якой сабрана ўсё, літаральна ўсё пра Буніна, якую Аляксандр Кузьміч падпісаў мне ў 1983 годзе: «Дорогому Ивану Даниловичу Сипакову, которого я неизменно чту и люблю. А. Бабареко», можна лічыць сэнсам, вынікам усёй ягонай даследчыцкай навуковай працы. Ён назваў яе проста і дакладна «І. А. Бунін. Матэрыялы для біяграфіі». Заўважце, не манаграфія, не даследаванне, а ўсяго толькі «матэрыял для біяграфіі». А ў кнізе — проста лавіна новых адкрыццяў, невядомых фактаў, цікавых дэталей, нечаканых думак, смелых паваротаў у жыцці — і ў звычайным, і ў творчым, — што нават забываешся, што чытаеш навуковае даследаванне — чытаецца як раман, як мастацкі твор даследчыка.

Матэрыялы для даследавання — гэта і пісьмо Варвары Пашчанкі да Івана Аляксеевіча з арлоўскага перыяду іх любві і сварак:

«Уезжаю, Ваня! Чтобы хотя сколько-нибудь привести в норму наши, как и сам знаешь, ненормальные отношения, нужно вдали взглянуть на всё наиболее объективно; последнее возможно именно, когда мы с тобой в разлуке. Надо сообразить, что собственно не даёт мне покоя, чего я хочу и на что способна. Да ты, голубчик, сам знаешь, что у меня в душе. А так, как жили, не приведя все душевные смуты в порядок, нельзя продолжать жить. Ты без меня будешь свободнее, бросишь, наверное, службу. И этот мотив сильно звучит в душе. Результат всех моих размышлений напишу из дому. Будь мне другом, верь, что я столько выстрадала за это последнее время, что, если бы дольше осталась — сошла бы с ума. Не фраза это, если ты хоть капельку знаешь меня, ты бы это понял.

Будь же другом дорогим — пиши мне. Дома я и полечусь, и успакоюсь, и вернусь бодрая, готовая и трудиться, и жить хорошо со всеми людьми. Сколько раз ты говорил, что я тебя измучила, но ведь и сама я мучалась не меньше, если не больше. Каждая ссора оставляла след, всё накопилось, не могу так жить, тяжело, не вижу смысла в этой жизни. Прости, родимый! И пойми, что это не каприз, это необходимо для дальнейшей жизни. Лучшего не придумаю. Пиши, голубчик».

***Падрыхтоўка тэксту і публікацыя Сяргея СІПАКОВА.***

***Працяг будзе.***

**Ганна МЯТЛІЦКАЯ**

# ПРАСТОРАВЫЯ АРХЕТЫПЫ ЯК КАМПАНЕНТЫ МАСТАЦКАГА СВЕТУ ЯНКІ КУПАЛЫ

Мастацкая мадэль свету як сістэма ўніверсальных духоўных адносін, адлюстраванне ўсёй сумы ўяўленняў пра свет унутры пэўнай культурнай традыцыі ў літаратуры выяўляе сябе як «унутраная форма» пэўнага твора або творчасці таго ці іншага аўтара, пабудаваная «знешняй формай» — моўнай сістэмай. Кожная з'ява ў мастацкай мадэлі свету ў межах эстэтычна функцыянуючага тэксту ўключаецца ў сістэму іншых узаемадапаўняльных кампанентаў гэтай мадэлі, не з'яўляецца выпадковай, набывае павышаную семантычную нагрузку. «Мастацкае функцыянаванне спараджае не тэкст, ачышчаны ад значэнняў, а, наадварот, тэкст, максімальна перагружаны значэннямі», — піша Ф. П. Фёдараў [19, с. 7].

Мастацкі свет (сінанімічныя паняцці «паэтычная рэальнасць», «мастацкі космас» і інш.) уключае ў сябе «сістэму адлюстраваных, узноўленых рэалій быцця (час, прастору, чалавека) і катэгорыі, якімі абумоўлена мастацкае ўспрыняцце пісьменніка (эстэтычныя і маральныя ўяўленні, погляды на чалавека, грамадства, народ, гісторыю). Разам з тым мастацкі свет гэта не толькі адлюстраванне, але і канцэпцыя аб'ектыўнай рэальнасці, яе ацэнка, яе версія». Пры гэтым «рэчаіснасць узнаўляецца ў нейкім «скарочаным», умоўным варыянце» [15, с. 5].

Даследчыца Р. А. Ткачова вылучае тры асноўныя канцэпцыі мастацкага свету, якія вызначаюць асноўныя прынцыпы аналізу і апісання прасторы: Ю. М. Лотмана, У. М. Тапарова і Ф. П. Фёдарава. Кожная з гэтых канцэпцый «аказваецца прадуктыўнай толькі пры даследаванні пэўнага тыпу прасторы: міфапаэтычнага (У. М. Тапароў), рамантычнага (Ф. П. Фёдараў) ці найбольш універсальнага — прасторы культуры (Ю. М. Лотман) — і пры ўмове, што ў творы будуць дастаткова выразна выяўлены дамінуючыя (міфалагічныя, рамантычныя або рэалістычныя) тэндэнцыі» [15, с. 5]. Як выявілася ў ходзе аналізу паэтычнай спадчыны Янкі Купалы нашаніўскага перыяду, найбольш прыдатнай для апісання яе мастацкай мадэлі свету з'яўляецца канцэпцыя У. М. Тапарова.

Дамінуючай асаблівасцю ў светапоглядзе беларусаў, на думку айчыннага даследчыка Л. Я. Гараніна, з'яўляецца «адчуванне непарыўнай, так бы мовіць, кроўнай сувязі беларусаў са сваім краем, сваім ландшафтам, прадметамі і з'явамі навакольнага свету... Час, гістарычны прагрэс не разбуралі язычніцкія ўяўленні, як гэта звычайна бывае, а быццам бы трансфармавалі іх у новую якасць, прыстасоўвалі да новай рэальнасці» [7, с. 169].

Еднасць, непасрэдная сувязь чалавека з прыродай, з навакольным светам яскрава адлюстравана ў паэзіі Янкі Купалы. Мысленне беларусаў арыентавана «на сінтэз прадметна-пачуццёвага свету са светам духоўным, зямной прасторы — з унутранай прасторай чалавека. У народнай свядомасці прырода жыве і выяўляе сябе ва ўнісон з чалавекам, і кожная часцінка прасторы поўніцца канкрэтным зместам» [21, с. 336].

Менавіта невыдзяленне чалавекам сябе з навакольнай прыроды (з'яднанасць з ёю) з'яўляецца важным законам міфалагічнага мыслення. Архаічнае разуменне прасторы звязана з тым, што прастора «не папярэднічае рэчам, якія яе запаўня-

юць, а, наадварот, канстытуіруецца імі. Міфалагічная прастора заўсёды запоўнена і заўсёды прадметная», — заўважае У. М. Тапароў [16, с. 234]. Прастора міфа выступае як чаргаванне шэрагу такіх аб'ектаў, як горы, лясы, мора, сонца, багі, людзі, жывёлы, расліны, сакральныя і міфалагізаваныя аб'екты са сферы культуры, — усяго таго, што так ці інакш арганізуе прастору, збірае яе, аб'ядноўвае ў адзіным цэнтры.

«У міфапаэтычнай мадэлі свету прастора знаходзіць сябе ў рэчы і тым выразней, чым больш сакральнай з'яўляецца рэч... Рэчы не толькі канстытуіруюць прастору праз заданне яе межаў, якія аддзяляюць прастору ад не-прасторы, але і арганізуюць яе структурна, надаючы ёй значымасць і значэнне (семантычнае абжыванне прасторы)» [16, с. 238—239]. Таму Сусвет у міфалогіі — гэта цэласная, арганізаваная сістэма, і разам з тым ён раздзелены, складаецца з частак. Сусвет (Космас) супрацьстаіць неарганізаванай прасторы — Хаосу, які па меры пашырэння і павелічэння колькасці засвоеных, упарадкаваных аб'ектаў выцясняецца на перыферыю.

Як было зазначана, важным кампанентам міфалагічнай мадэлі свету з'яўляецца цэнтр. «У гарызантальнай плоскасці Сусвету прастора становіцца ўсё больш сакральна значнай па меры руху да цэнтра, унутр, праз рад як бы ўкладзеных адна ў адну «падпрастор», або аб'ектаў» [16, с. 256]. Міфалагізаваныя аб'екты, запаўняючы прастору і вызначаючы яе склад, «выбудоўваюць у межах агульнай прасторы нейкую семантычную падпрастору пэўнай структуры... Лакальнае размеркаванне значэнняў у гэтай падпрасторы такое, што яна падпарадкавана прынцыпу паступовага нарастання сакральнай пазначанасці аб'екта па меры руху ад перыферыі да таго пункта прасторы, які лічыцца яе цэнтрам» [16, с. 256].

Міфалагічны цэнтр (axis mundi) злучае гарызантальную і вертыкальную плоскасці прасторы, ім звычайна з'яўляюцца храм, Сусветнае Дрэва, алтар, камень і інш. Гарызантальную плоскасць утвараюць зямныя аб'екты, сярод якіх жыве чалавек, а вертыкаль — гэта ўмоўна праведзеная вось, якая злучае Неба і Зямлю: «У вертыкальным разрэзе Сусвету як найбольш сакральна пазначаны пункт прасторы звычайна разглядаецца нябесны канец уяўнай «сусветнай восі», г. зн. абсалютны верх», а ніжні пункт вертыкальнай лініі «змяшчаецца там, дзе «сусветная вось» уваходзіць у зямлю; у гэтым выпадку ён супадае з цэнтрам гарызантальнай плоскасці» [16, с. 257].

У нашаніўскай паэзіі Янкі Купалы часта сустракаецца вобраз свету, пад якім перш за ўсё разумеюцца сусвет (верш «Плачуць мае песні»), жыццё (вершы «Не тужы», «Хоць ты, сэрца, лопні, трэсні...») або людзі (вершы «Вы кажаце...», «Прывітанне» і інш.). Свет таксама называецца бел-светам, белым светам (напрыклад, у вершах «Песня сонцу», «Спроба актавы»). Як адзначае А. М. Афанасьеў, выраз белы свет «атрымаў сэнс сусвету, г. зн. усяго бачнага, азоранага нябесным святлом» [1, с. 50]. Характарыстыкамі Сусвету выступаюць яго нязмеранасць (верш «Мая малітва»), прыгажосць (вершы «Калі ў свет я ні гляну прыгожы...», «Думкі»), адухоўленасць усіх яго з'яў (вершы «Сёмуха», «Грайце, песні»). У некаторых творах свет можа быць зменным (верш «Страх»), цярністым (верш «Абнімі...»), залітым «крывавым агнём» (верш «З песень аб няволі»), поўным «няпраўды благой» (верш «Доля ўдавы»).

Сакральнай прасторай унутры вялікага, неабсяжнага Космасу, «свету божага» для Купалы з'яўляецца *радзіма*. «Чалавек заўсёды ўспрымае свет, які вакол яго, адносна самога сябе, ставячы сябе ў цэнтры Сусвету, ён — пачатак адліку пры любым дзеянні, пры любым вымярэнні, пры любой спробе вызначыць, структураваць і змерыць прастору... Цэнтр свету — гэта «Я», мой дом, маё паселішча, мой клан, мой народ, мая краіна», — піша А. В. Падасінаў [12, с. 460]. Паэт не мае прывязкі да пэўнага локуса (верш «Плачуць мае песні»), лічыць домам увесь сусвет (вершы «Мой дом», «Каб я меў загончык нівы»). А для галоўнага яго героя селяніна сакральнай прасторай з'яўляецца *вёска*, а яе цэнтрам — *родная хата*.

Вертыкальная плоскасць Сусвету выяўлена бінарнай апазіцыяй Неба — Зямля. Верх, або *Неба*, суадносіцца ў паэзіі Я. Купалы з вобразам Бога. «Цудоўнае, раскошнае жыццё прыроды, якое гучна чутно ў мільёнах разнастайных галасоў і імкліва развіваецца ў шматлікіх формах, абумоўлена сілай святла і цяпла; без яго ўсё заміpae. Падобна да іншых народаў, нашы продкі абагаўлялі неба, мяркуючы, што там яго вечнае царства; бо з неба падаюць сонечныя промні, адтуль свецяць і месяц і зоркі і праліваецца дождж, што творыць урадлівасць. У большай частцы моў словы, якімі называецца неба, адначасова служаць і назвамі бога... Ва ўсіх рэлігіях неба — жыллё боства, яго... прастол, а зямля — падножжа», — так адзначае сувязь слоў Бог і неба А. М. Афанасьеў [1, с. 33].

Неба — станоўчы вобраз, гэта — «вясёлая яснасць» (верш «З песень аб вясне»), даль «нязведзістая», даль свабоды і славы (верш «Шчаслівасць»). Матыў імкнення ўверх — да сонца, да зор — характэрны для многіх твораў. Паэт адчувае сваю з’яднанасць з небам, моліцца да неба (вершы «Развейся, туман», «З сіроцкай долі» і інш.), называе сябе сынам зямлі і сонца (верш «Вечар»). На думку паэта, неба прымае актыўны ўдзел у імкненні абудзіць беларускі народ: «яно сваймі слязамі // З табою плача над табой; // Шле буры, громы з перунамі, // Каб сон збудзіць магільны твой!» [III, с. 175], — чытаем у вершы «Брату-беларусу».

*Зямля* як кампанент згаданай бінарнай апазіцыі (Ніз) адлюстравана ў вобразах *беларускага краю* і *поля* (раллі). Адпаведна, жыццё на зямлі, як паказвае яго Купала, — бязвольнае, напоўненае горам, смуткам, пакутамі, што з’яўляецца апазіцыяй да жыцця на небе. Сутнасць суадносін Неба і Зямлі ў славянскай свядомасці добра раскрыта Г. Д. Гачавым: неба і зямля не звязаны палкім каханнем (адсутнічае паняцце шлюбу неба і зямлі), акрамя таго, зямля — «сырая», «г. зн. не жонка ў каханні і маці (як Гея), а толькі маці з пачуццямі пяшчоты і пакут» [8, с. 247]. Сувязь паміж зямлёй і чалавекам — гэта сувязь доўгацярпення [8, с. 248].

Гарызантальная плоскасць Сусвету як космас, дзе праходзіць жыццё чалавека (мясціны, звязаныя з яго жыццядзейнасцю), у нашаніўскай паэзіі Янкі Купалы акрэслена больш выразна, чым вертыкальная. Прастора ў жыцці беларуса — «гэта заўсёды нейкая абмежаваная, замкнутая ў сабе прастора (хата, сядзіба, лес, поле, луг, нейкая мясцовасць, родны край у вузкім і шырокім значэнні гэтага слова)... Унутраны змест гэтага вобраза... тое або іншае адзінства адчувальнага, прадметнага свету, свету прыязнага, супакойлівага, які саграваe душу чалавека», — адзначае Л. Я. Гаранін [7, с. 173].

Для купалаўскага мужыка прастора — гэта найперш хата і яе прыбудовы (гумно, пуня, адрыня, свіронак), а таксама — поле і некаторыя іншыя больш аддаленыя аб’екты, звязаныя з яго штодзённай працай. Элементы прасторы набываюць сакральнасць, з імі звязаны ўспаміны, селянін зросся з імі, прывык да іх: «Прырос неяк, як корч да зямлі!..» [I, с. 194]. Як падкрэсліваецца ў творах, галоўнай сялянскай працай з’яўляецца земляробства, жыццё чалавека падпарадкавана змене пор года, працы на зямлі. Зямля — галоўная каштоўнасць для гаспадара, самае сакральнае для яго, гэтаксама як і родная хата. Дарэчы, словы «селянін, сяляне» тлумачацца Г. Д. Гачавым як «тыя, што *селі* на зямлю, пусцілі карані» [8, с. 140].

*Хата* — цэнтр усяго чалавечага жыцця, абараняе яго ад варожых сіл навакольнага свету і разам з тым далучае чалавека да пэўнай прасторы, краіны, Сусвету ў цэлым. Хата і яе кампаненты ў міфалогіі адпавядаюць будове Сусвету. З аднаго боку, яна з’яўляецца часткай Сусвету, а з другога — яго мадэллю. Нездарма як мае быць выбіраецца месца для будаўніцтва хаты, вызначаюцца месцазнаходжанне покуці, накіраванасць вокнаў. У Я. Купалы хата — гэта абагульнены і — у некаторых творах — сімвалічны вобраз: яна сімвалізуе Беларусь. Рамантычна настроены лірычны герой хату селяніна называе палацам, хорамам (напрыклад, у паэме «Яна і я», вершы «З зорак усходніх, заходніх, з бліскучай...»). Горыччу прасякнуты матыў выгнання з хаты (вершы «Над калыскай», «Для куска хлеба»,

«Хоць ты, сэрца, лопні, трэснi...», «Вось тут і жывi...», «Гоніш мяне, панічок...», «Згнаннік»), не маюць сваёй хаты сіроты (верш «З песенек сіраты»).

Паводле У. В. Колесава, галоўным значэннем слова «дом» у старажытнасці ў многіх краінах было ‘род, сям’я’, а ў Старажытнай Русі (у часы феадалізму) — ‘гаспадарка’: «у аснове народнага ўяўлення пра дом ляжыць не паняцце пра будынак, а паняцце пра нешта створанае, сталае, агульнае для ўсіх «сваіх», што аб’ядноўваюцца дахам такога дома. Менавіта гэта значэнне адлюстравана ў Слоўніку Даля: *дом* — родны дах; зразумела, з усімі прыпасамі (гаспадаркай), з усім насельніцтвам, аб’яднаным роднаснымі сувязямі» [9, с. 207]. Паступова адбывалася размежаванне двух значэнняў: род (сям’я) і гаспадарка (маёмасць) — «на Русі ў XI стагоддзі падобныя адрозненні ўжо вядомыя» [9, с. 208]. «У родавым грамадстве дом — гэта перш за ўсё людзі, якія насяляюць яго, у феадальным свеце Старажытнай Русі — гаспадарка, і толькі бліжэй да нашага часу — будынак, у якім можа хавацца ўсё гэта — і людзі, і нажытая маёмасць, і само жыццё» [9, с. 210].

Звычайна пра хату гаворыцца, што яна нізкая (верш «Перад Сёмухай»), нізенькая (верш «Згінула сонца...»), курная (вершы «На сенажаці», «З песень жыцця»), пахілая, крывая (вершы «Песня» («Там, гэй, на ліпе на расахатай...»), «Адзін», «Пашкадуй мужыка!»), дымная (верш «Памаліся...»), згніўшая (верш «Брату»). Унутры хаты цёмна (верш «Пашкадуй мужыка!»), голад, холад, смутак, бяда (вершы «Не рвіся к багатым», «Вось тут і жыві...»). «Хацінка свой зжывае век» [I, с. 134], — гаворыць паэт у вершы «Ворагам беларушчыны». У некаторых творах знаходзім разгорнутае апісанне хаты — вершы «Мая хатка», «Хатка», «На дудцы», «Восень». *Страха* ў хаціны саламяная (вершы «Сэрца спытай...», «На дудцы»), дзіравая, бо яе здзірае віхор (вершы «Усе разам», «З песень аб мужыцкай долі»), на ёй расце мох (вершы «Хатка», «Мая хатка»). Згадваецца застрэшак, з якога мужык возьме касу (верш «Што ты спіш?..»). У цэлым — хата бедная, знешне непрывабная, пра яе гаворыць паэт: «І старая, і крывая // Хатачка мая, — // Уся злеплена, як будка, // З аднаго гнілля» [I, с. 233] або «Пахінулася, // Ў зямлю ўехала // Ты, вясковая // Хата бедная!..» [II, с. 188]. *Сцены* хаты — на падпорах, гнілыя (верш «На дудцы»), не сключатаваныя (верш «Мая хатка»), хатка дрыжыць ад вятроў: «Хатка старая // Стогне, трасецца, // Туж-туж бяссільна // Рухне здаецца» [I, с. 229]. Шыбы ў *вокнах* зроблены з лучын (вершы «Хатка», «Мая хатка»), рамы нізкія, праз іх «глянуць ясна сонца // Не хоча» [II, с. 176]. *Дзверы* таксама нізкія, *падлога* выбіта з друзу, *столь* — з дранiц. Інтэр’ер хаты адлюстроўвае беднасць яе гаспадара:

І ў сярэдзіне у хатцы
    Бедна, хоць ты плач:
Непачэсна выглядае,
    Бо я ж не багач [I, с. 234], —

тлумачыць чытачам лірычны герой верша «Мая хатка».

Унутры хаты ля ўваходу згадваецца *печ*, зробленая з гліны, пад ёй жывуць куры (верш «Мая хатка»). У адным з вершаў — «Што ты спіш?..» — Я. Купала выкарыстоўвае вобраз печы для ўзмацнення паказу беднасці селяніна: «А у печцы тваёй, // Хоць мароз, хоць зіма, // Агонь тры дні не быў, // Дроў паленца няма!» [I, с. 67], а ў згаданым вышэй вершы «Мая хатка» печ параўноўваецца зураднікам: «На ўсю хату, як ураднік, // З-пад ілба глядзіць» [I, с. 234]. Насупраць печы знаходзяцца жорны, ля іх — палок, над якім пад бэлькай захоўваюцца каса і брусок; пад абразамі на покуці размешчаны *стол*, ля яго — лаўкі і тапчан. У хаце таксама згадваецца калыска (верш «Спусташэнне»), пералічваюцца рэчы мужыка: світка, лапці (верш «На сенажаці»). У хаце няма святліцы, пры ёй ёсць толькі невялікі *ганак* (верш «Мая хатка») «з нізкімі акнамі» або сенцы (верш «Сват»). Гаспадар любіць сваю хату, не прамяняе яе на любую іншую. «Бедна, хатка, ты, // Але вечная, // І палацы ўсе // Перастоіш ты» [II, с. 189], — робіць выснову паэт.

Як бачна, у апісанні хаты Я. Купалам захавана галоўная асаблівасць традыцыйнага інтэр'еру сялянскай хаты — дыяганаль пячнога кута і покуці. Вось як аб гэтым піша Т. В. Валодзіна: «Ля ўваходу размяшчалася печ, ля якой знаходзіўся качарэжнік. Супраць печы каля ўваходу размяшчаўся гаспадарчы («бабін») кут, дзе стаялі вёдры, кадушкі, а на сцяне вісела паліца з посудам. Па дыяганалі на ўсход віселі абразы, там знаходзілася покуць» [5, с. 527—528]. Печ і покуць — два галоўныя сімвалы дому. *Печ* аб'ядноўвае ўсіх членаў роду, гэта «сімвал духоўнага і матэрыяльнага адзінства родзічаў, якія жывуць у доме, крыніца жыцця» [13, с. 117]. Печ не толькі сімвалізуе цяпло, а значыць жыццё, суадносіцца з чэравам маці, але і злучае хату са знешнім светам. У печы жывуць душы памерлых. Комін — гэта містычны ўваход у дом, а попел — свяшчэнны, выконвае ахоўную функцыю. *Покуць* мела асаблівае значэнне ў арганізацыі хатняй прасторы: ёй кланяліся, заходзячы ў хату, там садзілі госця, жаніха і нявесту ў час вяселля, туды ставілі труну з нябожчыкам. «Уласна кажучы, покуць — пачэсны кут выконваў ролю невялічкай, прыбліжанай да чалавека копіі храма. З гэтай нагоды ў верхняй частцы кута заўсёды вісеў абраз, абавязкова пакрыты прыгожым саматканым ручніком» [10, с. 298]. За абразом захоўваліся ахоўна-засцерагальныя прадметы: грамнічныя свечкі, зёлкі і інш. Сядзець за сталом на покуці лічылася пачэсным. Паэт выкарыстоўвае гэты вобраз у вершы «Дужыя і слабыя», дзе на «балі жыцця» багатыя сядзяць за сталом на покуці, а бедныя — ля парога, што адлюстроўвае іх паніжэнне. А таксама на пачэсны кут лірычны герой садзіць сваю жонку (паэма «Яна і я»: раздзел «У хаце»).

У міфалогіі вялікае значэнне надаецца *межам*: дзверы, парог, вокны, лесвіца, мост і іншае сімвалізуюць пераход паміж дзвюма па-рознаму арганізаванымі падпрасторамі, аддзяляюць сваю і чужую прастору, асвоеную і неасвоеную. Асаблівую значнасць меў парог, які гістарычна з'яўляўся «зонай захавання продкаў» [10, с. 301], таму яму прыпісвалі рытуальныя функцыі і прытрымліваліся розных перасцярог, звязаных з ім. Пра спецыфічны характар злучэння жылой прасторы праз вокны са знешнім светам піша А. К. Байбурын: «Вокны звязваюць жыллё не проста з астатнім светам, а са светам касмічных з'яў і працэсаў, такіх, як сонца (месяц), напрамкі свету, ландшафт, чаргаванне святла і цемры, дня і ночы, зімы і лета і г. д. Іншымі словамі, сімволіка акна вызначаецца не толькі супрацьпастаўленнем знешняга — унутранаму, але і апазіцыяй бачны / нябачны, прычым асаблівая роля адводзіцца сонцу, святлу і цемры як актыўным з'явам, якім вокны абавязаны сваім існаваннем» [3, с. 140 — 141]. Сярод стандартных сітуацый, звязаных з акном, даследчык адзначае, што «стаяць (звонку) пад акном» — своеасаблівая формула з даволі акрэсленымі значэннямі, а іменна «быць жабраком», а таксама «быць святым», што не супярэчыць адно другому, бо жабрацтва нярэдка разглядаецца як знак святасці, а жабракі — людзі, набліжаныя да бога» [3, с. 143]. Адзначым, што ў Я. Купалы пад акном стаіць дзядок-жабрак (верш «Не кляніце мяне»), а сіроты часцей згадваюцца ля варот (вершы «З песень нядолі», «Не кляніце мяне», «Чаго б я хацеў»), а таксама пад акном збіраюцца дзяўчаты (верш «З нуды»).

Непасрэдна каля хаты размешчаны *сад*, «зялёны садочак» — месца спатканняў і адпачынку. Самы прыгожы вобраз саду знаходзім у паэме «Яна і я», дзе сад параўноўваецца з Раем: «Яблыні цвітуць, так хораша цвітуць, // Як белым высыпаны пухам, // Пчолкі на цвяткі па мёд сабе лятуць, // З вулля ў вулей нясуцца духам. // ...Раем на зямлі выглядываў нам сад» [VI, с. 117]. У садзе растуць пасаджаныя гаспадарамі вішнячок («Прыпеўка»), грушка (верш «Выйду, выйду...»), яблыні і слівы (верш «Гэта крык, што жыве Беларусь»), чарэшні, яблыні і грушы (верш «Сад»), іх лісце вабіць у свой цень адпачыць.

*Двор* у адносінах да вуліцы разглядаецца як уласны, унутраны локус. Наступнай мяжой з'ўляецца аколіца, што аддзяляе вёску ад знешняга свету [4, с. 96]. Як адзначае У. В. Колесаў, першапачаткова двор успрымаўся як бліжэйшая да чалавека частка навакольнага свету — «самая бліжняя, сумежная грань знешняга

свету», а пасля «стаў гаспадарчай часткай «дома» [9, с. 306], на ім і размяшчаліся ўсе галоўныя сядзібныя забудовы.

«У тыповым варыянце сядзібны комплекс беларускага селяніна... складаўся з двух- ці трохкамернага жылля, варыўні (стопкі) або функцыянальна блізкага паграба (склепа), клеці, хлявоў, адрыны для сена, павецей, гумна, сушні (ёўні, асеці), лазні. Аднак наяўнасць усіх названых пабудоў у сядзібным комплексе была неабавязковай і адлюстроўвала, з аднаго боку, сацыяльнае расслаенне, якое асабліва ўзмацнілася пасля рэформы 1861 г., з другога — мясцовыя народныя традыцыі» [20, с. 63], — піша даследчык традыцыйнай беларускай культуры В. С. Цітоў. Двухкамернае жыллё складалася з хаты і сенцаў, а трохкамернае мела тры кампаненты: хата+сенцы+клець; хата+сенцы+хата; хата+сенцы+камора і інш. Сенцы выкарыстоўваліся не толькі ў якасці падсобнага, але і жылога памяшкання, у іх «ставілі ложак (ці ўладкоўвалі адпаведны памост), дзе летам спалі» [20, с. 63 — 64]. Усе дваровыя забудовы выкарыстоўваліся з адметнымі рэгіянальнымі асаблівасцямі.

Вобраз *клеці* згадваецца ў вершах «Пятровы час», «Благая жонка», «Маладым на вяселлі», *свіронак* знаходзім у вершы «На прадвесні» і інш. Як адзначае В. С. Цітоў, словы «клець» і «свіран» «выступалі нярэдка як ідэнтычныя паняцці. Ідэнтычнасць была абумоўлена функцыянальным падабенствам і ўзаемазамяняльнасцю гэтых памяшканняў, асабліва ў небагатых гаспадарках». «Свіран служыў для захавання адборнага зерня і будаваўся, як правіла, асобна». Функцыі клеці «не абмяжоўваліся захаваннем хлеба на надзённыя патрэбы. Яна служыла паўжылым (летнім) памяшканнем» [20, с. 72]. У. В. Колесаў зазначае: клець была пакоем, у якім акрамя маёмасці захоўваліся каштоўнасці; менавіта туды забаранялася заходзіць чужому, бо чалавек, які ўзяў што-небудзь у клеці, лічыўся злодзеем. А з канца XII стагоддзя клеткай або клетцай пачалі называць любую кладоўку [9, с. 217].

«Некалі ўбаку ад дваровага комплексу ў межах сядзібы будаваліся гумны, сушні, лазні, пуні для сена» [20, с. 74]. *Гумно* (у Я. Купалы сустракаецца і іншы варыянт назвы — *тачок*, *ток*) выкарыстоўвалася «для працяглага захоўвання і апрацоўкі неабмалочанай збажыны, саломы, сена» [23, с. 162]. Звычайна пры ім будавалі *сушню* (ёўню, асець), дзе сушылі снапы. «У гуменны комплекс уваходзілі і адрыны для сена» [20, с. 81] (у Купалы яны яшчэ называюцца *пунямі*), а таксама *лазні*. Хатка, гумно (тачок), лазня з любоўю пералічваюцца лірычным героем верша «Гэта крык, што жыве Беларусь». Пуня згадваецца ў вершах «Поле», «Сяўцу» (у вершы «Перад вясной» — пад сінанімічнай назвай *адрынка*), хлеўчукі, адрынкі — у вершы «Спусташэнне». Часта вобразы забудоў выкарыстоўваюцца паэтам для ілюстрацыі беднасці простага народа: «А тут хоць гавей душою, — // Пуста ў пуні, пуста ў клеці» [ІІ, с. 193] або «Прыйдзе восень, золка стане — // Час цяжкі; // Па пустым таку б'е зрання // Цэп важкі» [ІІ, с. 176]. Элементы абжытай прасторы набываюць для мужыка сакральнасць, успрымаюцца ім адухоўлена:

Тут усякая рэч як гавора з табой:  
І крывая бярозка, і столетні дуб,  
Снег халоднай зімой, траўка летняй парой,  
І асвер, і абцінены зруб... [І, с. 194].

Гістарычна першасным было паняцце «дом» у значэнні 'род, сям'я' і 'гаспадарка', а паняцце «*вёска*» ўзнікла пазней. «Слова «вёска» этымалагічна ўзыходзіць да стараславянскага «въсь», якое да нашага часу бытуе ў мовах усіх славян. Як тып паселішча ўзнікла пры рассяленні земляробчага насельніцтва» [23, с. 109]. У. В. Колесаў тлумачыць значэнне санскрыцкага кораня viś праз сувязь гэтага слова «з непадзельным паняццем род~дом, род як дом, (па)селішча і (на)сельніцтва разам» [9, с. 248]. Слова «*сяло*» мела іншую семантыку — паселішча, «асвоенае» князем або баярынам у якасці феадальнай уласнасці; у адрозненне ад пагоста, верві, «дыма», весі і г. д., сяло з'яўляецца ўладальніцкім пасёлкам. Менавіта таму

сёлы і весі згадваюцца побач аж да XV стагоддзя, пасля чаго, трэба разумець, усе перш вольныя весі сталі ўжо сёламі» [9, с. 249]. У Я. Купалы словы «вёска» і «сяло» ўжываюцца сінанімічна, часам яны маюць значэнне 'людзі', напрыклад: «сяло... спяшыць к жывёліне сваёй» [I, с. 223] у вершы «Пры скаціне».

*Вёска* складаецца з асобных сядзіб, што размяшчаюцца абапал гасцінца: яна надта бедная (верш «Праз вайну»), выглядае нясмелай (верш «Брату ў чужыне»), звычайна ў ёй поўным ходам ідзе працоўнае жыццё — скрыпяць павозкі, асверы, рыкае скаціна, іграюць жалейкі (верш «Вясенняя раніца»). Можна адшукаць і апісанні беднасці вёскі: у ёй няма ні святла, ні хлеба (верш «Перад вісельняй»), яна — сваёй крыўды сведка (верш «Я люблю»). Як кампаненты вёскі згадваюцца млын, студні, «магазын»... У некаторых творах Я. Купала параўноўвае вёску з горадам (паэма «Адплата кахання», верш «Пры выпіўцы»), з палацам (верш «Град»). У вершы «Чаго нам трэба» паэт спрабуе вызначыць, што патрэбна вёсцы: новыя хаты, сады, школа, роўная дарога, шпіталь, прытулак для старых людзей, а таксама — больш зямлі для кожнага гаспадара.

З працай селяніна цесна звязаны вобразы *поля* (нівы, гоняў, шнура, загонаў, раллі), *сенажаці*. Як адзначае У. М. Тапароў: «Перш за ўсё ў архаічнай мадэлі свету прастора не супрацьпастаўлена часу як знешняя форма сузірання ўнутранай... Прастора і час... не аддзельныя адно ад другога, яны ўтвараюць адзіны прасторава-часавы кантынуум» [16, с. 231]. Таму прасторавыя вобразы поля, сенажаці і наогул усіх мясцін, з якімі звязана праца селяніна, адлюстроўваюць гэту асаблівасць — сувязь з рытмам прыроды, з чаргаваннем вясны — лета — восені — зімы, непарыўнасць прасторы і часу.

Жыццё чалавека ў вёсцы мае малую дыстанцыю паміж чалавекам і прыродай, паміж гаспадарчай і жыллёвай прасторай. Магчыма, таму купалаўскі мужык успрымае навакольныя мясціны адухоўлена, надае ім сакральную значнасць.

*Сенажаць* (як варыянтны вобраз — луг, лог) зарастае лазой (верш «Беларушчына»), на ёй — сівец і куп'ё (верш «З песень аб сваёй старонцы»). Гэты вобраз суадносіцца з беларушчынай, што таксама зарастае зеллем чужым «Сотні лет, непрыяцелем-братам прыбітая» [II, с. 34]. Запусцелым дзірваном метафарычна называе Я. Купала Беларусь, бачыць сваёй галоўнай задачай — падняць на ім «скібіну слова» [I, с. 135]. *Поле* — камяністае (верш «Выйду...»), пусцейшая ралля (верш «Хлеб»), беднае (верш «Яшчэ прыйдзе вясна»), «шнур вузенькі // Не дасць шмат хлеба» [I, с. 129], родзіць несамавіта (верш «З песень аб сваёй старонцы»). Праца ў полі цяжкая, на ім чалавек млее, млеў (верш «Брату»), поле зліває слязамі, потам (верш «Тае снег...»), спочанае (верш «Сяброўцам па долі»). Сяляне кормяць роднай нівай чужынцаў (верш «Вясна за вясною»), на ніве «крыўда гняздзіцца» [II, с. 162]. Разам з тым селянін любіць поле, успрымае яго як дар Божы, любіць яго «межаў // Стужак рад зялёны, // Роўныя барозны // Шырокіх загонаў» [II, с. 189], — чытаем у вершы «Поле». Таксама і ў вершы «Жальцеся, грайкія струны...» поле называецца ціхім, kroўным, а ў вершы «Поле роднае» выразна выяўляецца сімвалічнасць гэтага вобраза: поле сімвалізуе Беларусь, родную зямлю, якую паэт заклікае абудзіцца. Наогул вобраз поля ў нашаніўскай паэзіі Янкі Купалы звязаны са змаганнем: да прыкладу, у вершы «Праявы» па полі ходзіць кліч «З прыкліканнем новай долі» [III, с. 200], а ў вершы «Дзе вы?» паэт згадвае непакорных хлопцаў, якія «на поле на прасторнае // ...хадзілі грамадою» [II, с. 19]. Поле ўспрымаецца як прыволле, на якім адчувальны прадзедаў сляды (верш «Аратаму»). Вобразы сейбіта, аратага ў Я. Купалы сімвалічныя — з людзьмі працы паэт звязвае мару пра адраджэнне радзімы. На пачатку XX стагоддзя ў адраджэнскай паэзіі вобраз нівы, якая зеллем зарастае, або іншыя падобныя вобразы і матывы былі скразнымі, паўтаральнымі. Іх сустракаем у творах К. Каганца (верш «Наша ніўка»), Цёткі (верш «Наш палетак») і г. д.

Магчыма, пад уплывам фальклору ў многіх творах Я. Купалы вобраз поля суадносіцца з вобразам долі. З аднаго боку, доля і воля выступаюць як неад'емныя

якасці поля: «Звоніць поле доляй, воляй, // Звоніць поле ў каласкі» [III, с. 167] або вецер нясе песні ў поле, «дзе воля, // Дзе няма гора, слёз» [I, с. 54]. З другога боку, згадваецца вобраз чыстага поля, на якое ўцякла доля мужыка (верш «Араты»), або ў вершы «Мая доля» поле — месца, куды селянін хоча, каб уцякла яго нядоля. «Доля няшчаснага ў полі бадзяецца» (верш «Над ніваю ў непагоду»). Нагадаем, што ў фальклоры вобраз *чыстага поля* мае значэнне «месца, дзе герой дзейнічае, змагаецца, абараняючы радзіму, і дзе ён гіне. Пагібель — ...абавязковая ўмова чыстага поля, адна з яго важнейшых прыкмет» [9, с. 224]. «Сухавей у чыстым полі // Гуляе з зернем-сіратой» [III, с. 67]. Па полі блудзіць сіротка, шукаючы долі (верш «З сіроцкай долі»), на поле збіраецца з касою селянін — таксама для пошуку долі (верш «З песень нядолі»). У некаторых творах з замілаваннем прыгадваецца кожная дэталь сакральнай сялянскай прасторы (напрыклад, у вершах «Брату ў чужыне», «Гэта крык, што жыве Беларусь»), якая ў цэлым з'яўляецца роднай, прыгожай і адначасова — пакутнай, нешчаслівай: «Гора ў хаце і за хатай, // Гора ў полі і за полем» [I, с. 85].

Вобраз *могілак* таксама адносіцца да архетыпаў вясковай прасторы. Апісанні могілак адлюстроўваюць іх дваякасць: яны і адштурхоўваюць як мёртвае, чужароднае жывому, і выклікаюць роздум лірычнага героя. Над магільнымі наспамі ўзносяцца слёзы мглою, туманамі (вобраз з верша «Над магіламі»). На могілках спяць «загнаныя, бяздольныя, горам забітыя», спяць «ваякі гаротныя» (вершы «На могілках», «Над магіламі»). Некаторыя апісанні могілак нейтральныя, да прыкладу, у вершы «Над магіламі»: «Крыжы яловыя // Набок скрывіліся, // Наспы пасмертныя // Вадой размыліся» [I, с. 241] ці ў вершы «Сельскія могілкі» — «Дзе крыж і страшыць, і галубіць, // Слязой дзе кожан дол абмыт» [II, с. 133], а некаторыя — выразна негатыўныя: «А магіла пры магіле // Дзікай пусткай страша» [I, с. 128]. Гэтаксама і вобраз магілы разумеецца, з аднаго боку, як вынік (заканчэнне) чалавечага жыцця, нават у нечым больш спакойны і лёгкі для селяніна, чым яго жыццёвыя пакуты (вершы «Не чакай...», «З бяды і нуды» і інш.), а з другога — выразна адмоўны як алегарычны вобраз яміны-магілы ў вершы «Гэй, капайце, далакопы», у якой ворагі хочуць пахаваць Беларусь, або ў вершы «Грабар», герой якога імкнецца выкапаць яміну ўсяму Жыццю.

Вобраз *кургана* таксама належыць да кампанентаў сакральнай прасторы, складае адзін з элементаў ландшафту, успрымаецца адухоўлена, сімвалізуе найперш памяць народную, повязь мінулага, сучаснасці і будучыні. Міфалагічная семантыка вобраза кургана звязана з сімволікай цэнтра пэўнай сакральнай тэрыторыі, курган лічыцца месцам судакранання рэальнага свету і іншасвету [17, с. 182]. Зварот Я. Купалы да вобраза кургана выяўляе глыбіні нацыянальнага светаадчування: развітасць курганнай культуры на беларускай зямлі, сакральнае стаўленне беларусаў да курганоў, якія злучаюць гістарычнае (грамадскае) і прыроднае. Адухоўленасць курганоў выразна праяўляецца ў вершы «Курганы», у якім гаворыцца, што курганы дрэмлюць, стогнуць, яны сумныя. У вершы «Не спадзейся» пры апісанні чорнай долі адзначаецца, што курган уздыхае. У творах паэта курганы выступаюць сведкамі гісторыі, непакояцца за жыццё беларускага краю, а часам — проста маўкліва ўспрымаюць рэальнасць (курган нямы — вершы «Адцвітанне», «О. М. Пяшчынскаму»). У вершы «Песня мая...» у дачыненні да сэрца ўжываецца эпітэт «скурганенае», што можна патлумачыць выяўленнем аўтарскага адчування пакут (унутранага болю) і маўклівасці, уласцівых кургану. У курганах спіць мінулае [II, с. 93], курган называецца адвечным, збірае «гоман-славу» [II, с. 132], менавіта з кургана ўзыдзе дуброва, што адлюстроўвае паэтаву мару пра лепшую будучыню [I, с. 98]. А таксама праз вобраз кургана Я. Купала перадае бяспамяцтва чалавека да гісторыі, сваіх продкаў [II, с. 94, 136]. Варта адзначыць, што купалаўскі вобраз кургана прыцягваў увагу многіх беларускіх літаратуразнаўцаў, на думку якіх курган разумеецца як помнік шматвекавога змагання [18, с. 29], сімвал вечнасці, звязаны з прыроднымі стыхіямі, сімвал народнай памяці, «рэквіем над магілай народнага заступніка» [22, с. 86] і г. д.

З прасторай, абжытай і занятай селянінам, у нашаніўскай паэзіі Янкі Купалы кантрастуе *панская прастора*. Унутры сакральнай прасторы радзімы адбываецца суіснаванне сваёй і чужой прасторы, якія фактычна не маюць падзяляючых іх фізічных меж. Пры гэтым некаторыя элементы ўласцівы і той і другой прасторы або пераходзяць з адной у другую: «Наяўнасць у рамках аднаго мастацкага свету дзвюх вялікіх і складаных прастор, не падзеленых выразнымі тэрытарыяльнымі межамі, прыводзіць да складанай сістэмы іх «дыялагічнага» (М. М. Бахцін) узаемадзеяння» [15, с. 17]. «Дыялог» паміж дзвюма рознымі прасторамі не перадаецца непасрэдна ў творах паэта (за выключэннем верша «Праступнік», дзе назіраецца змяшанне меж свайго і чужога), але ён адчувальны, успрымаецца чытачом, хоць і застаецца па-за межамі адлюстраванага свету: *палац* пабудаваны рукамі сялян; усё нажытае панам дабро збіраецца за кошт мужыцкай працы. Акрамя таго, знаходзім вобраз пераходу кампанентаў чужога космасу ў свой (асваенне чужой прасторы): «Дзе ляжалі дзірванамі // Панскія абшары, // Дзе казённыя вякамі // Пусцелі гушчары, // Дзе была адна пустыня — // Елкі ды бярозкі, — // Поле будзе, пушча згіне, // Стануць хаты, вёскі» [I, с. 77].

Палац (хорам, хорамы) называецца белым (верш «Не дружы...»), высокім, «збудован роўна, ўсё пад шнур» [I, с. 122]. Звычайна палац дрыжыць ад гулянняў багача, з яго чуюцца музыка, песні «п'янае ўцехі» (вершы «Для куска хлеба», «Не тужы»). Згадваюцца таксама панскія двор, пуня, гумно (верш «Цяжка мне, цяжка, слузе беспрытоннаму...»). Гэтаксама і поле ў некаторых вершах — панскае, чужое (вершы «Былі ў бацькі тры сыны...», «Цяжка мне, цяжка, слузе беспрытоннаму...»), на ім працуюць бяспраўныя бедакі. Найбольш удала вобраз палаца і яго гаспадара-князя Я. Купала адлюстраваў у паэме «Курган». Палац вылучаецца ў наваколлі сваёй недасяжнасцю, пазірае «грозна, думна» [VI, с. 53]. Гусляр называе яго «хорам-астрог», гаворыць, што «б'е ад сцен-цэгел лёдам зімовым» [VI, с. 56]. Адпаведна гусляр характарызуе і князя — праз яго падабенства з палацам: «Сэрца маеш, як гэты цагляны парог, // І душу — як скляпоў гэтых сховы» [VI, с. 56]. Князь не ведае, як жывуць тыя, хто арэ яго палеткі, а ў падзямеллях палаца па яго волі і жаданні гінуць людзі. Адмоўнасць вобраза палаца ў нашаніўскай паэзіі Янкі Купалы ўзмацняюць яго параўнанне з астрогам (паэма «Магіла льва», верш «Палац») і засцярога простым людзям: «Не йдзі да палацу шукаці пацехі!» [I, с. 69]. У вершы «Нібы казка» і некаторых іншых алегарычных творах апавядаецца пра лёс тых, хто «цераз панскі парог не пралез» [II, с. 42]. Варта адзначыць, што этымалогія слоў «палац», «хорамы» ўтрымлівае ў сабе значэнне прыгажосці, дасканаласці: «Палаты — заўсёды 'шыкоўныя пакоі'... Зборнасць значэння слова заключаецца ў тым, што адначасова яно абазначала і памяшканне знатнага чалавека, і скарбніцу, якая знаходзілася пры ім, і асаблівую форму пабудовы — шатровую, дахавую ці іншую, але накіраванасць уверх (як сімвал імкнення, узнясення ўверх да неба?)... Хорам... не проста дом або дах (прамое значэнне слова), пад якім хаваліся, але яшчэ і нешта прыгожае, высокае і лёгкае» [9, с. 217—218]. У Я. Купалы галоўнай семантычнай якасцю палаца выступае яго варожасць. Палац сімвалізуе прыгнёт, сацыяльную няроўнасць паміж багатымі і беднымі.

Вобразам, які знаходзіцца на мяжы сваёй і чужой (панскай) прасторы, у паэзіі Янкі Купалы з'яўляецца *лес*. Паводле У. В. Колесава, першапачаткова чалавек ставіўся да лесу нядобразычліва, меў страх перад ім. У старажытнасці было ўяўленне пра лес, як пра варожую жывую стыхію, чужое ў адрозненне ад свайго, асвоенага. «Дыялектыка жыцця ў тым і была, што, адчуваючы велізарны страх, славянін усё ж уваходзіў у свой лес і пакараў яго, прымерваў да сябе ўсё, што трэба, што ў справе спатрэбіцца, без чаго не пражыць — і плуг, і посах» [9, с. 221]. І як піша даследчык далей: «Зыходны вобраз, які ляжыць у аснове наймення лес: гэта ўяўленне аб бесперапынным росце парасткаў, лісця, кары, галля. Яны выбіліся з глебы, лезуць са ствалоў, буйна змяшаліся, спляліся вершалінамі і зрасліся карэннем; засланяючы свет, пагрозліва шумяць навокал. Усё, што парас-

ло лесам, — лясное, лесуна. Не праяўляючыся канкрэтна, усё гэта згушчалася ва ўяўленні пра жывую варожую сілу, пра нейкую істоту, якая падымаецца супраць чалавека, ловіць яго, заманьвае, губіць, — пра лесавіка... У народных гаворках яшчэ ў мінулым стагоддзі (XIX — ***Г. М.***) лесавік называецца часам з павагай і па-старадаўняму — проста лес» [9, с. 221]. Уяўленне пра лес як варожую стыхію замацавалася ў фальклоры. Лес (бор, гай, пушча, дуброва) у творчасці Я. Купалы з'яўляецца адухоўленым вобразам: ён можа смяяцца і плакаць (вершы «Па захадзе», «З табою...»), дзівіцца (верш «Два браты»), стагнаць (верш «Гуслі-самаграі»). Бор «З небам вядзе патайны разгавор» [II, с. 27], называецца неспакойным (верш «Бор»), цёмным (верш «З думак маркотных»), адвечным (верш «Калі пачнуць...»), пушчы — паважнымі (верш «Вясна»), дуброва — зялёнай (верш «Дзяўчынка і вянок»), згадваецца вобраз святых дуброў і зніч (верш «З мінуўшых дзён»). Я. Купала адзначае, што лес — нацыянальная прыкмета беларускага краю: «Ой, багата лесам-пушчай // Нашая старонка: // Ў само неба так і лезе // Сосна за сасонкай» [II, с. 59]. Лірычны герой некаторых вершаў размаўляе з лесам, які здольны зразумець яго боль і жаль (вершы «Думкі перад вясной», «Як пайду я, пайду...» і інш.), а ў легендзе «Паляўнічы і пара галубкоў» створаны вобраз лесу-хаты для звяроў і птушак. У цэлым у творах Я. Купалы вобраз лесу набывае сацыяльную семантыку: лес — панскі, але ён добразычліва ставіцца да вяскоўцаў, спачувае ім, фактычна ён такі ж бязвольны перад панам, як і сяляне. Пушча дае людзям дровы, дапамагае ім ваяваць з зімой (верш «Як пайду я, пайду...»), яе шум — голас пратэсту супраць несвабоднага, бяспраўнага жыцця: «Быццам хоча сказаць свету // Дзерава лясное, // Як ідзе несправядліва // Ў нас жыццё людскoе» [II, с. 61]. А ў некаторых творах лес міфалагізуецца: у ім жывуць цемнатворы (верш «Ў вечным боры...»), лясная царэўна (верш «Лясная царэўна»), дух пушчы пільнуе папарацькветку (верш «У купальскую ноч»).

Варожымі чалавеку ў творах Я. Купалы з'яўляюцца карчма, турма і балота. *Балота* вызначаецца як пагібельнае месца, у ім пануюць цемнатворы (верш «Блізкім і далёкім»), у яго дзікіх багнах жыве Чорны Бог (верш «Чорны Бог»). Як вядома, у замовах балоты выконваюць функцыю паглынальніка зла, хвароб. Наогул, у народзе яны ўспрымаліся негатыўна, лічылася, што ў іх жывуць чэрці. Як бачна, купалаўскі вобраз адлюстроўвае гэта ўяўленне. *Турма* (цямніцы, астрог, катаргі) увасабляе пакуты, бяспраўе. Там свае законы, гэтаксама як і перад віселеньняй, дзе нават любоў сына да маці не можа нічога змяніць (верш «Кат»). «Путы, катаргі, астрогі, // Сібір поўная бясконца» [II, с. 136] — рэаліі верша «Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?». *Карчма* (шынок), з аднаго боку, «вясёлы наш край», як называе яе герой верша «Пры выпіўцы», але ў ёй «гора-забава», бо селянін прапівае апошняе (верш «На старую ноту»).

У некаторых творах згадваюцца *горад*, дэталі гарадскога краявіду: вуліцы, слупы, чыгунка, цагляныя муры, ліхтары (верш «На вуліцы»), фабрыка (куплеты «І як тут не смяяцца...»). Паэт называе горад грэшным (верш «На вуліцы»), паказвае кантраст горада і вёскі (верш «Шуман»). Банк, царква, царскі палац, караблі, чыгунка называюцца як усё тое, што існуе за грошы мужыка (верш «Што ты спіш?..»).

Гарызантальныя прасторавыя вобразы злучаюцца паміж сабой топасам *дарогі*. У розных кантэкстах нашаніўскай паэзіі Янкі Купалы ўжываюцца вобразы шляху, дарогі, гасцінца, пуцявіны, сцежкі, следу, Млечнага Шляху. З гэтым топасам звязаны вобразы вандроўнікаў, матывы беззямельнасці, бездарожжа, блукання.

Паводле Г. Д. Гачава, які размяжоўвае паняцці дарога і шлях, шлях — гэта ўнутрана адчувальная ніць прасторы, яго адчувае качэўнік, а дарога — гэта аднaлінейна накіраваная далячынь, яе ўспрымае чалавек, прывязаны да пэўнага кавалка зямлі [8, с. 85], гэта значыць, што шлях набывае семантычны кампанент унутранага напаўнення, бо яго чалавек адчувае сэрцам, душой, а дарогу бачыць зрокам, успрымае праз знешнія прыкметы. У Я. Купалы вобраз шляху (дарогі) у асноўным суадносіцца з чалавечым жыццём, а шматлікія перашкоды, размешча-

ныя на ім, сімвалізуюць выпрабаванні. Так, у вершы «Па жыццёвай пуцявіне» вобраз пуцявіны сімвалізуе лёс чалавека ад нараджэння да смерці (гэтаксама як вобраз дарогі ў вершы «З песень жыцця») — услед за чалавекам нядоля гоніць бяду, якая насылае слёзы, жаль. Выказваецца думка: лепш смерць, чым такое жыццё. У іншых вершах знаходзім эпітэты, якія характарызуюць пуцявіну: цярністая, цярнёвая (вершы «Маладая Беларусь», «Увесь да дна...»), колкая (верш «Дзяўчынцы»), камяністая (вершы «Сон», «Па дарозе»), дэталі, пры дапамозе якіх перадаецца цяжкасць шляху: цемра (вершы «Загляне сонца і ў наша аконца», «Ноч за ночкай...»), церні (верш «Бяседа»), калючкі (верш «Адповедзь»), бадыллё, магілы (верш «Нашай долі» Першай беларускай газеце»), беды (верш «Шлях мой...»), лёд (верш «Легла на сэрцы гора нядольнае...»), ваўкі (верш «Зіма»), шлях называецца заломным (верш «Вісельнік»), «жалезныя краты // Звакол пазіраюць» [II, с. 44].

Паэт прыкмячае, што ў адных людзей дарога колкая, а ў другіх добрая, і гэта залежыць ад іх долі (паэма «Калека»), як правіла, простаму народу наканавана «бяспуцце» (верш «Адгукніся, душа!..»).

Многа сцежак-дарожак ля нас лягло тут,
Толькі з іх мужыку — адны мукі і блуд... *(верш «У шынку»).*

Або:

Сцяжыны замкнуты туды, дзе ясны быт
        Душы не кідае ў бадылі;
Шырок гасцінец вечна толькі чыст, адкрыт
        К шынку, астрогу і магіле *(верш «Памяці С. Палуяна»).*

Пра наканаванасць цяжкога жыццёвага шляху сялян спявае маці свайму сыну ў вершы «Над калыскай» — у дзіцяці два шляхі: застацца верным народу, быць такім, як усе працоўныя людзі, або стаць чужынцам на сваёй зямлі, шукаючы шчасця між багатых. Толькі ў адным вершы «Па шляху» сустракаем нейтральнае апісанне шляху, для якога паэт выкарыстоўвае прыём адухаўлення: «Ляжыць, уецца ў белсвет, як вужака, // Стары, утоптаны вякамі шлях, // Снючы былыя сказы, небарака, // Што перачуў на змучаных грудзях» [III, с. 194]. Уздоўж дарог звычайна згадваюцца *прысады* — дрэвы, што растуць наўзбоч іх. Так і ў гэтым вершы бярозы-плачкі Я. Купала называе нямой вартай, што стаяць уздоўж шляху.

Паводле «Слоўніка мовы Янкі Купалы», найбольш значэнняў са згаданых вобразаў мае слова *дарога*: «1. Прыстасаваная паласа для язды і хадзьбы. 2. Працягласць шляху. 3. Месца для пераходу, праезду. // *Перан.* Доступ куды-небудзь. 4. Падарожжа, паход, паездка. 5. Напрамак руху. // Сродак для дасягнення мэты» [14, II, с. 25]. Значэнне ‘жыццёвы шлях’ мае слова *сцежка* [14, V, с. 55]. *Пуціна* пазначаецца прыкметай «паэтычнае» — са значэннем ‘шлях, дарога’ [14, IV, с. 128]. Слову *гасцінец* уласціва значэнне ‘бойкая дарога, шлях, тракт’ [14, I, с. 294].

У міфапаэтычнай мадэлі свету, якую даследаваў У. М. Тапароў, шлях — гэта «вобраз сувязі паміж двума пазначанымі пунктамі прасторы... тое, што звязвае — у максімуме ўмоў — самую аддаленую і цяжкадаступную перыферыю і ўсе аб’екты, якія запаўняюць і (або) утвараюць прастору з вышэйшай сакральнай каштоўнасцю, што знаходзіцца ў цэнтры, прычым дасягненне мэты суб’ектам шляху заўжды выклікае павышэнне рангу ў сацыяльна-міфалагічным або сакральным статусе» [16, с. 258]. Шлях, як правіла, нялёгкі, гэта яго галоўная прыкмета: «Цяжкасць шляху — заўсёдная і неад’емная якасць; рухацца па шляху, пераадольваць яго ўжо ёсць подзвіг, падзвіжніцтва з боку падзвіжніка, вандроўніка, які па ім ідзе. У міфалагеме шляху акцэнт ставіцца на яго негамагеннасці, на тым, што ён будуецца па лініі ўзрастаючых цяжкасцей і небяспек, якія пагражаюць міфалагічнаму герою-вандроўніку і нават яго жыццю» [16, с. 258]. Такі шлях запоўнены рознымі нечаканымі перашкодамі, пагрозамі. У. М. Тапароў вызначае

генезіс міфалагемы шляху — звязвае яе з шырока распаўсюджанай міфалагемай «пра шлях Сонца або адпаведнага сонечнага боства (яго коней, калясніцы, ладдзі і г. д.) на працягу сутачнага або гадавога цыкла» [16, с. 264].

Рух па шляху — як рух ад аднаго пункта прасторы да другога з мэтай і нейкім унутраным змяненнем чалавека прасочваецца ў купалаўскім вершы «Па шляху», лірычны герой якога ідзе па ім «з ношкаю разбітых дум» [III, с. 194]. Але, па сутнасці, такія асаблівасці, як сталенне, асэнсаванне новага жыццёвага вопыту, у гэтым вершы ледзь улоўныя.

Звычайна ў Я. Купалы жыццё чалавека ілюструюць вобразы «бяспуцця», бадзяння. У «*бяспуцці*» гібеюць стагоддзямі старонка (верш «Маладая Беларусь») і яе людзі (верш «Прафесару п. Б. Эпімах-Шыпілу»). Або адпаведна ў тым самым значэнні ўжываюцца матывы *блукання*, *бадзяння*: вершы «Ужо днее», «Суды», «Адповедзь», «З бяды і нуды» і інш. Людзі блудзяць і днём і ноччу — век блудзяць, гэта значыць жывуць без сэнсу, мэты, плёну (верш «А як мы з хаткі выходзім...»). У польскамоўным вершы «Люблю цябе, зямля...» згадваецца бадзяжніцкае жыццё, якое нясе «столькі клопатаў і столькі горкіх слёз» [I, с. 411]. У «Слоўніку мовы Янкі Купалы» выраз «без пуцця» тлумачыцца як ‘марна, дарэмна, бясплодна’ [14, IV, с. 128].

Вобраз вандроўніка, паводле Я. Купалы, гэта вобраз чалавека, які ў выпрабаваннях спасцігае жыццё. Падарожны ў вершы «Чатыры крыжы» вяртаецца з чужыны на радзіму, зведаўшы і горыч разлукі з роднай зямлёй, і пакуты і выпрабаванні ў чужым краі, і новую няпэўнасць у час вяртання — усведамленне страты блізкіх і родных людзей. Вандроўнікамі становяцца і людзі, выгнаныя з хаты, якія не маюць сваёй зямлі (вершы «З песень беззямельнага», «Беззямельныя»): «Крывавім сцежкі мы слязьмі, // Увесь свет для нас магільным сном» [II, с. 159]. Такія ж і вобразы бадзягі ў польскамоўным вершы «Бадзяга», што валачэцца без слёз і скаргаў, падарожнага, якому няма дзе прытуліцца, да каго пайсці (верш «Падарожны»).

З блуканнем звязаны таксама вобразы старцаў, жабракоў: жабрак-калека Кукса ў паэме «Калека»; старцы, што ідуць «даўным следам» на кірмаш і з кірмашу (верш «Старцы»); два аднаногія жабракі хаваюць загінуўшых разбойнікаў (верш «Два браты»). Як слушна заўважае А. Я. Ленсу, у даўнія часы людзі шанавалі старцаў: «Беларускія старцы мелі сваё самакіраванне... сваіх настаўнікаў (майстроў), якія вучылі навічкоў спеву песень і малітваў... Але ў канцы XIX стагоддзя... пад прыгнётам капіталістычных адносін, якія развіваліся і рушылі ў беларускай вёсцы асновы патрыярхальнага быту, пачало выраджацца і старцаванне. Старцы ператвараліся ў звычайных жабракоў, у іх асяроддзе ўліваўся авантурыстычны элемент, словам, гэта была ўжо маса басоты... з характэрным для гэтага асяроддзя маральным разлажэннем» [11, с. 111].

Па адабранай зямлі да сумных хат сцежкай ідуць прарок, які імкнецца абудзіць людзей (верш «Прарок»), і падарожны-пясняр (верш «Забытая скрыпка»). Яшчэ адзін адметны вобраз, звязаны з матывам блукання, — валачобнікі. Звычай на Вялікдзень хадзіць па вёсцы і спяваць песні пад вокнамі хат Я. Купала робіць метафарай пакут беларускага народа:

Ні з добрай сваёй волі, ні ў прымусе,
Ніхто, нідзе не чэз такой жывінай,
Як чэзнеш ты, няшчасны беларусе,
У валачобнікі запісаны судзьбінай...
Штогод ты ходзіш дабравольным жабраком
І рабства вечнае ўсхваляеш пад акном [III, с. 202].

Вобраз *следу* ў Я. Купалы сумяшчае два асноўныя значэнні: гэта тое, што пакідае за сабой чалавек, пройдзены адрэзак жыццёвага шляху: сын ідзе «з пакорай // Свайго бацькі следам» (верш «Над калыскай»), «потам, крывёю век сцелецца след» (верш «Холадна...»), шлях, які наканаваны чалавеку ў жыцці, неадрыўны ад чалавека: «След слязой пачнеш крывавіць» (верш «Крыжы») і

адначасова — гэта вобраз, які звязвае чалавека з будучыняй, накіраваны ўперад: «след к шчасцю» (вершы «Не чакай...», «Мусіць, трэба было»), да шчасця, волі і долі (верш «Вучыся»): «Крыўдзіцеляў зможаш, след вечны пралажыш // І к долі, і к волі, і к славе...» [I, с. 145], — гаворыць чытачам паэт.

Будучыня ў некаторых творах успрымаецца праз вобраз далечыні (напрыклад, у вершах «Шлях мой...», «З недацветаў»). Вобраз шляху са значэннем выхаду з цяжкога беспрасветнага жыцця называецца новым шляхам (верш «Аб мужыцкай долі»), шляхам да сонца (вершы «Забытая скрыпка», «Гусляр»), квяцістым пуцём (верш «З недацветаў»), шляхам залатым (верш «Песня і сіла»), шляхам да новай долі (верш «Гэй, наперад!»). Звычайна вобраз шляху ў будучыню ўжываецца ў мэтах адлюстравання нялёгкага пошуку свабоды і долі: як шлях, які трэба «працерабіць» [II, с. 153], «адкрыць» [II, с. 36], як шлях у новае жыццё, да пошукаў якога паэт імкнецца абудзіць чытачоў:

Блудныя сцежкі цёмнага жыцця
Навукі сонцам мусім рассвятліць,
Каб мы і наша ў прышласці дзіця,
Не блудзячы, маглі свой век дажыць [I, с. 94].

У гэтым жа значэнні ўжываецца і вобраз Млечнага Шляху (вершы «Песняй толькі», «У ночным царстве»), які, паводле ўяўленняў старажытных славян, утвораны з разлітага па небе малака, душы памерлых падымаюцца па ім на неба [2, с. 112, 301—302].

У цэлым вобраз шляху ў нашаніўскай паэзіі Янкі Купалы найперш сімвалізуе жыццёвыя выпрабаванні, якія неабходна пераадольваць. Шлях злучае гарызантальныя прасторавыя аб’екты, сумяшчае ў сабе як мінулае і сучаснасць, так і веру ў лепшую будучыню. Паводле сімвалічнага значэння гэты топас блізкі да рэканструяванай французскім даследчыкам Эмілем Бенвеністам семантыкі слова дарога (pánthāḥ) у санскрыце: «гэта не проста «дарога» як прастора, якую трэба прайсці з канца ў канец. Паняцце pánthāḥ уключае ў сябе працу, няўпэўненасць і небяспеку, у такой дарогі ёсць непрадбачаныя павароты, яна можа змяняцца разам з тым, хто яе праходзіць, і да таго ж яна не толькі зямная: у птушак свая такая дарога, у рэк — свая. Pánthāḥ, як вынікае, — гэта дарога, якая не пракладзена загадзя і на якой няма рэгулярнага руху. Гэта хутчэй «пераход», які спрабуюць прарабіць праз невядомую і часта варожую мясцовасць... карацей кажучы, шлях некуды, куды не ходзяць проста, сродак пераадолець небяспечную, поўную непрадбачаных выпадковасцей прастору. Самым блізкім яго эквівалентам будзе хутчэй «пераход, пераадоленне», чым «дарога» [6, с. 339].

*Адлегласць*, *шырыня* і *далячынь* перадаюцца ў нашаніўскай паэзіі Янкі Купалы праз выразы «ад гораў да гораў», «ад краю да краю» (верш «Пад крыжам»), «ад нівы да нівы» (верш «Вялікдзень»), што набываюць значэнне ‘ўсюды’, па ўсёй Беларусі і па ўсім свеце. У некаторых вершах выяўляецца імкненне лірычнага героя ў свет, «у шырокую далеч» (напрыклад, у польскамоўным вершы «Гэй, у свет!..»), думы і песні паэт накіроўвае «ў свету даль» [I, с. 165] — вершы «Не дайце згінуць...», «Замаўчыце, думы...». Далеч успрымаецца як чужая прастора, якая часта перадаецца праз вобраз *гор*: героя забяруць у салдаты — «За трыццатую ад хаты // Загоняць гару» [I, с. 82]; як няпэўная, невядомая, недасяжная прастора: даль нязнаная, пахмурная, за якую зайшло, закацілася сонца (верш «Захад сонца»), або: хлеб «спынуўся ад нас за дзясятай гарой... счураўся замучаных сёл» [I, с. 117] (верш «Хлеб»). Значэнне ‘некуды’ набывае выраз «за горы, за моры» — туды адыходзіць дзень (верш «Заручыны»). Значэнне ‘паўсюль’ перадаецца словам «полем-борам», праз якія ішла слава пра герояў верша «Ён і яна». Згадаем, што вобразы гор, мора часта выкарыстоўваюцца ў фальклоры пры апісанні месцазнаходжання казачных краін. У некаторых творах Я. Купалы гэтыя вобразы кладуцца ў аснову гіпербалы: «Мінаем даліны і горы» [II, с. 16] — у значэнні ‘едзем далёка’ (верш «Сват»), у вершы «Песня-казка» пры дапамозе

падобных вобразаў акрэсліваецца месцазнаходжанне розных краёў, у якіх жывуць тры героі: «далёка за морам за сінім» жыве Світазара, «далёка за лесам, за борам» жыве князь і «далёка за хатай, за вёскай» знаходзіцца трэцяя старонка, дзе жыве малады дзяцюк. Гэтаксама і ў вершы «Не шукай...» вобраз *чужыны* перадаецца праз выразы «на чужым, далёкім полі», «за шумным лесам-борам», «за шырокім сінім морам» [III, с. 161]. Паняцце «*там*» у творчасці Я. Купалы таксама мае семантыку няпэўнасці, аддаленасці: там — гэта месца змагання, у супастаўленні з *тут*, ‘у родным краі’ (верш «Там»), або — нейкае аддаленае месца, куды імкнецца абуджаны чалавек (верш «Пойдзем...»). Толькі ў вершы «Тут і там» значэнне слоў «тут» і «там» змянілася, памянялася месцамі: ‘у паноў’ абазначаецца словам «тут», а ‘ў сялян’ — «там», бо верш звернуты да паноў.

Напрамкі свету (*поўдзень*, *поўнач*, *захад* і *ўсход*) у творах Я. Купалы звычайна пішуцца з вялікай літары або бяруцца ў двукоссе, як у вершы «Над Нёманам». Іншы раз гэтыя вобразы ўжываюцца не ў значэнні напрамкаў свету, а ў значэнні частак сутак (перыядаў унутры сутак), гэта значыць не як прасторавыя, а як часавыя вобразы-паняцці (напрыклад, поўнач і поўдзень у вершы «Песня мая», усход у вершах «Вясна» («Ой, вясна, ой, вясна!..»), «Прафесару Б. Эпімах-Шыпілу з новым 1910 годам»). А. В. Падасінаў адзначае, што ў старажытных славян была арыентацыя на ўсход і поўдзень, звязаная з іх салярнай сімволікай, а захад лічыўся небяспечным напрамкам: «Хрысціянская сімволіка сакральнага ўсходу наклалася на язычніцкую і падтрымлівала яе ў значэнні супрацьпастаўлення добрага і злога бакоў» [12, с. 369]. Пад уплывам гэтага ўяўлення ў фальклоры вобраз поўначы асацыіруецца з холадам, змрокам і інш., яго значэнне супрацьлеглае значэнню вобраза поўдня, суадносіны поўдня і поўначы адпавядаюць суадносінам усходу і захаду. Дарэчы, у творах Я. Купалы вобраз зімы таксама негатыўны, з ёй звязаны смерць, знішчэнне, заняпад, голад, холад і г. д. Поўнач і поўдзень як напрамкі свету паэт згадвае рэдка (напрыклад, у вершах «Над Нёманам», «Памяці Т. Шаўчэнкі»), усход і захад успрымаюцца ім як бакі, якія ўвесь час варагуюць, а Беларусь — цэнтр, што знаходзіцца паміж імі. Напрыклад, у вершы «Хаўруснікам» (1913) згадваюцца Варшава і Масква, іх замахі на тэрыторыю беларускага краю. Або ў вершы «Годзе...» ёсць радкі: «Вашу карысць нам і вашы заслугі // Добра ўжо скеміў таптаны народ; // Добра вядомы і путы і пугі, // Песціў якімі ваш Захад і Ўсход» [III, с. 82]. Вобразы захаду і ўсходу часта з'яўляюцца мастацкімі дэталямі, на першы погляд незаўважнымі: так, у вершы «Страшны вір» пасля забойства малодшай сястры адна яе сястра ўцякае на захад, другая — на ўсход; гасцінцы, па якіх выпраўляе ў свет чараўнік сваіх сыноў, таксама вядуць на захад і ўсход (верш «Чараўнік» («Забытая казка»)), два груганы прылятаюць на сяло з гэтых напрамкаў свету (верш «Груганы»), чужынец прыходзіць з захаду, прапануе народу змяніць веру («Урывак з паэмы»). У цэлым вобразы захаду і ўсходу як напрамкаў свету ўспрымаюцца як адмоўнае, варожае, небяспечнае.

Адметнай рысай мастацкай мадэлі свету нашаніўскай паэзіі Янкі Купалы з'яўляецца стварэнне «асаблівай, рэальна-гіпатэтычнай прасторы, дзе рэальнасць і вымысел зліты ў адно» [15, с. 12]. Рэчаіснасць у некаторых творах паэта аказваецца неверагоднай за кошт далучэння, накладання на рэальную прастору *другой*, *міфалагічнай рэальнасці*, у якой жывуць і дзейнічаюць разнастайныя міфалагічныя істоты (ведзьмы, ваўкалакі, чэрці і г. д.). Чалавек з міфалагічным мысленнем (а такім з'яўляецца неадукаваны («цёмны») Купалаў мужык) жыве ў свеце, поўным міфалагічных сіл і адносін. Для яго міфалагічная і сапраўдная рэальнасці існуюць адначасова як раўнапраўныя, узаемадапаўняльныя рэальнасці, пераплеценыя паміж сабой. Нагнятанне міфалагічных абставін на мяжы рэальнасці і іншасвету праяўляецца ў вобразах гулянняў нечысці (вершы «Хохлік», «Русалка», «Дзе ні вылеці з няволі...», «Люлі, люлі, мужычок!» і інш.).

Такім чынам, мастацкая мадэль свету ў паэзіі Янкі Купалы нашаніўскага перыяду ў цэлым адпавядае канцэпцыі міфапаэтычнага тыпу прасторы, распрацаванай У. М. Тапаровым. Яе галоўнымі рысамі з'яўляюцца канцэнтрычная сістэ-

ма локусаў, згрупаваных вакол двух супрацьлеглых полюсаў «сваё» і «чужое», сакральная роля цэнтра, у якасці якога выступае сялянская хата, павышэнне ўпарадкаванасці і сакральнай значнасці элементаў прасторы ад перыферыі да цэнтра. Большасць прасторавых архетыпаў, да якіх адносяцца хата, лес, сад, вёска і некаторыя іншыя, адлюстроўвае спалучэнне гарызантальнай і вертыкальнай плоскасцей Сусвету, іх нельга аднесці да такіх выразна гарызантальных вобразаў, як дарога, поле, сенажаць, ці да вертыкальных, прадстаўленых бінарнай апазіцыяй Неба — Зямля, што характарызуе арыентацыю беларусаў у навакольным свеце як гарызантальна-вертыкальную. Далягляд закрыты, чалавек зжываецца з мясцінамі, якія вакол яго.

## Спіс літаратуры

I—VI. Купала, Я. Поўны збор твораў: у 9 т. / Я. Купала. — Мінск: Маст. літ., 1995 — 1999. — Т. 1—6.

1. Афанасьев, А. Н. Поэтические воззрения славян на природу: в 3 т. / А. Н. Афанасьев. — М.: Совр. писатель, 1995. — Т. 1. — 416 с.

2. Афанасьев, А. Н. Происхождение мифа: ст. по фольклору, этнографии и мифологии / А. Н. Афанасьев. — М.: Изд-во «Индрик», 1996. — 640 с.

3. Байбурин, А. К. Жилище в обрядах и представлениях восточных славян / А. К. Байбурин. — Л.: Изд-во «Наука», Ленингр. отд., 1983. — 188 с.

4. Байбурин, А. К. К описанию организации пространства в восточнославянской свадьбе / А. К. Байбурин, Г. А. Левинтон // Русский народный свадебный обряд: исслед. и материалы. — Л.: Наука, 1978. — С. 89 — 105.

5. Беларуская міфалогія: энцыкл. слоўнік / навук. рэд. С. Санько. — Мінск: Беларусь, 2004. — 592 с.

6. Бенвенист, Э. Общая лингвистика / Э. Бенвенист; под ред. Ю. С. Степанова. — М.: Прогресс, 1974. — 406 с.

7. Гаранін, Л. Я. Нацыянальная ідэя ў беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя / Л. Я. Гаранін. — Мінск: Беларус. навука, 1996. — 176 с.

8. Гачев, Г. Национальные образы мира / Г. Гачев. — М.: Сов. писатель, 1988. — 448 с.

9. Колесов, В. В. Древняя Русь: наследие в слове. Мир человека / В. В. Колесов. — СПб.: Филол. фак. С.-Петерб. гос. ун-та, 2000. — 326 с.

10. Крук, Я. Сімволіка беларускай народнай культуры / Я. Крук. — 2-е выд., стэр. — Мінск: Ураджай, 2001. — 350 с.

11. Ленсу, Е. Я. Фольклорные традиции в дооктябрьском творчестве Янки Купалы / Е. Я. Ленсу. — Минск: Высш. школа, 1965. — 122 с.

12. Подосинов, А. В. Ex oriente lux! Ориентация по странам света в архаических культурах Евразии / А. В. Подосинов. — М.: «Языки русской культуры», 1999. — 720 с.

13. Славянские древности: этнолингв. словарь: в 5 т. / под общ. ред. Н. И. Толстого. — М.: Междунар. отношения, 1999. — Т. 2: Д — К (Крошки). — 704 с.

14. Слоўнік мовы Янкі Купалы: у 8 т. — Мінск: Беларус. навука, 1997 — 2002. — Т. 1—5.

15. Ткачева, Р. А. Художественное пространство как основа интерпретации художественного мира: автореф. ...дис. канд. филол. наук: 10.01.08 / Р. А. Ткачева; Тверской гос. ун-т. — Тверь, 2002. — 20 с.

16. Топоров, В. Н. Пространство и текст / В. Н. Топоров // Текст: семантика и структура: сб. ст. — М.: Наука, 1983. — С. 227—284.

17. Тресиддер, Дж. Словарь символов / Дж. Тресиддер. — М.: ФАИР-ПРЕСС, 1999. — 448 с.

18. Трус, М. Да пытання развіцця беларускай паэзіі нашаніўскага перыяду ў

агульнаславянскім кантэксце / М. Трус // Янка Купала і «Наша Ніва»: матэрыялы Міжнар. навук. канф., Мінск, 7—8 кастр. 1996 г. — Мінск, 1997. — С. 27—31.

19. Федоров, Ф. П. Романтический художественный мир: пространство и время / Ф. П. Федоров. — Рига: Зинатне, 1988. — 454 с.

20. Цітоў, В. С. Народная спадчына: Матэрыяльная культура ў лакальна-тыпалагічнай разнастайнасці / В. С. Цітоў. — Мінск: Навука і тэхніка, 1994. — 300 с.

21. Шамякіна, Т. Касмасофія і літаратура (Беларускі нацыянальны космас і душа беларуса ў творчасці Якуба Коласа) / Т. Шамякіна // Беларусіка — Albaruthenica: кн. 2 / рэд. А. Анціпенка [і інш.]. — Мінск: Нац. навук.-асвет. цэнтр імя Ф. Скарыны, 1992. — С. 336—339.

22. Шамякіна, Т. І. Нацыянальны космас беларусаў і літаратура (да пастаноўкі праблемы) / Т. І. Шамякіна // Шляхам стагоддзяў. — Мінск, 1992. — С. 78—87.

23. Этнаграфія Беларусі: энцыкл. — Мінск: БелСЭ, 1989. — 575 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 1 лютага 2012 г.

**Ганна Мятліцкая**

## «Прасторавыя архетыпы як кампаненты мастацкага свету Янкі Купалы»

## Рэзюмэ

Артыкул прысвечаны даследаванню семантыкі сістэмы прасторавых вобразаў у паэзіі Янкі Купалы нашаніўскага перыяду, разгляду ўплыву на творчасць паэта славянскай і сусветнай міфалагічных традыцый. Вертыкальная плоскасць Сусвету прадстаўлена дыхатаміяй Неба — Зямля, а гарызантальная — раскрываецца праз канцэнтрычную сістэму локусаў, згрупаваных вакол двух процілеглых полюсаў — «сваё» і «чужое». Свая (сакральная) прастора — гэта радзіма, а яе сакральны цэнтр — хата, вакол якой згрупаваны забудовы, двор, ваколіца, вёска, поле і інш. З імі суседнічаюць кампаненты чужой (панскай) прасторы, прадстаўленай локусамі палац, лес і інш. Акрамя таго, у вершах Янкі Купалы назіраецца накладанне на рэальную прастору другой, міфалагічнай рэальнасці, у якой жывуць і дзейнічаюць міфалагічныя персанажы.

**Hanna Miatlitskaya**

## «The Spatial Archetypes as the Components of Yanka Kupala’s Poetic World»

## Summary

The article contains some systematic investigation of the spatial imagery in Yanka Kupala’s poetry of pre-revolutionary period, reveals the influence of the Slavic and world mythological traditions on the poet’s literary works. The vertical plane of the Universe is represented by the dichotomy of Heaven and Earth, and the horizontal one is — revealed through the concentric system of loci, grouped around two opposite poles of «own» and «alien». The «own» (sacred) space is the native land, and the sacred centre of this space is a peasant’s hut whith the outbuildings grouped a round, the yard, village, outskirts, field and other loci. The components of the «alien» space which is represented by the loci belonged to rich men (palace, wood, etc.). Besides that the other, mythological reality, in which mythological characters act overlaps the reality in Yanka Kupala’s verses.

## *«Круглы стол» у НАН Беларусі, прысвечаны 130-годдзю з дня нараджэння народнага песняра Янкі КУПАЛЫ*

# НАМ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА

*Апошнім часам, у прамежку двух-трох гадоў назіраецца збег юбілеяў знакамітых беларускіх пісьменнікаў. Летась, як вядома, урачыста адзначалася 120-годдзе з дня нараджэння класіка нацыянальнай літаратуры Максіма Багдановіча. У 2013-м гэткія ж угодкі споўняцца з таго часу, як на свет з'явіўся яшчэ адзін наш класік — Максім Гарэцкі. Сёлета ж 100 гадоў з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Максіма Танка і па 95 гадоў з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Янкі Брыля і народнага паэта Пімена Панчанкі. Аднак, высока ацэньваючы здзейсненае згаданымі творцамі, тым не менш відавочна, што ў юбілейным календары 2012 года ёсць дзве асабліва значныя даты. Гэта, пазначаныя 7 ліпеня і 3 лістапада, — 130-я ўгодкі з дня нараджэння народных песняроў Янкі Купалы і Якуба Коласа, пра якіх так хораша сказаў у вершы «Купала і Колас, вы нас гадавалі...» яшчэ адзін слынны паэт Беларусі Пятрусь Броўка:*

*Купала і Колас, вы нас гадавалі!*
*Вы звалі на волю*
*З цямноты, з прымусу,*
*Каб горда насілі імя беларуса;*
*Каб з ганьбай ніколі спіны не згіналі,*
*Каб цвёрда за праўду з братамі стаялі,*
*Каб сонца*
*Над нашай Радзімай заззяла.*
*І Колас нас клікаў, і клікаў Купала.*

*Поклічнае слова Купалы і Коласа кранаецца нашых сэрцаў заўсёды. І тады, калі азіраемся на шлях, пройдзены Бацькаўшчынай — яны ж былі выказнікамі спаконвечных мар беларускага народа, пільна прыглядаючыся да таго, што робіцца і як робіцца. Словы слынных народных песняроў адгукаецца ў нашых душах і падчас сягання ў думках у дзень заўтрашні, у тую будучыню, якая ў сваіх асноўных выявах ужо акрэсліваецца сёння, а ёю ж, гэтай будучыняй, жылі і Купала з Коласам, даючы нам наказ ніколі не цурацца роднай мовы, працаваць дзеля свайго народа, дзеля незалежнай і свабоднай Беларусі, ні ў якім разе не забываючы ўсяго таго добрага, значнага, што зроблена папярэднікамі.*

*У сувязі з гэтым глыбокі сэнс набывае адзін з лепшых Купалавых вершаў «Спадчына»:*

*Ад прадзедаў спакон вякоў*
*Мне засталася спадчына;*
*Паміж сваіх і чужакоў*
*Яна мне ласкай матчынай.*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*І ў белы дзень, і ў горку ноч*
*Я ўся ж раблю агледзіны.*
*Ці гэты скарб не збрыў дзе проч,*
*Ці трутнем ён не з'едзены.*

*Нашу яго ў жывой душы,*
*Як вечны светач-полымя,*
*Што сярод цемры і глушы*
*Мне свеціць між вандоламі.*

*Ды як жа іначай, калі скарб гэты асаблівы, той, якога грэшна, недаравальна цурацца. Наадварот, яго трэба заўсёды ашчадна берагчы і зберагаць, каб ніхто не мог на яго паквапіцца, а тым больш забраць яго, бо «завецца ж спадчына мая // Ўсяго С т а р о н к а й Р о д н а ю». Таму і вырашылі рэдакцыі часопісаў «Полымя» і «Нёман», праводзячы сумесна з Аддзяленнем гуманітарных навук і мастацтваў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі «круглы стол», прысвечаны 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы, вынесці ў назву яго крыху перафразіраваныя Купалавы радкі: «Нам засталася спадчына...» Для ўдзелу ў гэтым важным мерапрыемстве былі запрошаны навукоўцы, якія ў той ці іншай ступені спрычыніліся да даследавання жыцця і творчасці народнага песняра, да выдання і прапаганды ягонай мастакоўскай спадчыны.*

Уступным словам пасяджэнне «круглага стала» адкрыў акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў, доктар гістарычных навук, прафесар **Аляксандр Каваленя**, які зазначыў: «У кожнага свой Янка Купала, у кожнага асабістае адчуванне яго непаўторнага мілагучнага каларыту, напоўненага нацыянальна-грамадскім гучаннем і глыбокай філасофскай думкай. Вядома, большасць з нас пасцігалі яго творчасць праз школьны альбо вузаўскі курс, а некаторыя прафесійна асэнсоўвалі мастацка-філасофскую сутнасць паэтычнай спадчыны». Аляксандр Аляксандравіч прыгадаў, як да непаўторнага Купалавага свету далучаўся сам: «Маё асабістае знаёмства з творчасцю нацыянальнага песняра, як і для многіх прадстаўнікоў майго пакалення, адбывалася праз верш «Хлопчык і лётчык», што быў змешчаны ў «Буквары». Пазней пазнаёміўся з вершамі «Мужык», «Курган» і іншымі. Гэтыя творы не патрэбна было завучваць, бо ў іх адлюстроўвалася народная сутнасць, і яны міжволі назаўсёды западалі ў душу, спрыялі нацыянальнаму сталенню падрастаючага пакалення, выхаванню павагі да Радзімы і народа».

Прамоўца прыгадаў, як у канцы 70-х гадоў ХХ стагоддзя, займаючыся даследаваннем падзей Вялікай Айчыннай вайны, а калі гаварыць больш канкрэтна — спасціжэннем арганізацыі і сутнасці ідэалагічнай работы, якую разгарнулі партызаны і падпольшчыкі на акупіраванай тэрыторыі Беларусі, яму ўдалося выявіць цэлы пласт арыгінальных архіўных матэрыялаў, у тым ліку і дакументы Другога славянскага мітынгу, што адбыўся ў сакавіку 1942 года ў Казані. Сярод іх былі і тыя матэрыялы, што расказвалі аб удзеле ў гэтым важным грамадска-палітычным мерапрыемстве Купалы. Пра знойдзеныя публікацыі А. Каваленя расказаў у адным са сваіх артыкулаў. Праз некалькі гадоў да яго па тэлефоне звярнулася супрацоўніца Купалавага музея з просьбай перадаць выяўленыя матэрыялы, якія тычацца народнага песняра, для публікацыі ў Зборы твораў Янкі Купалы, што А. Каваленя, безумоўна, зрабіў з вялікім задавальненнем. Адначасова гэты званок падштурхнуў яго яшчэ больш паглыбіцца ў творчасць Купалы. У першую чаргу зацікавіцца ягоным жыццёвым лёсам, перыядам яго нацыянальна-грамадзянскага станаўлення.

«На мой погляд, — засведчыў Аляксандр Аляксандравіч, — сярод вялікай плеяды слынных сыноў беларускай зямлі Янка Купала — найбольш адметная творчая і грамадская асоба. Я б сказаў, — гэта нацыянальны крэмень, ён той, хто не толькі інтуітыўна разумеў неабходнасць нацыянальнага абуджэння беларускага грамадства, але і здолеў унесці найбольш важкі ўклад у ідэйна-нацыянальнае сталенне грамадскай думкі, назаўсёды стаўся нацыянальным сімвалам беларускай дзяржаўнасці. Яго вершы перыяду пошуку нацыянальна-дзяржаўнага станаўлення ў пачатку ХХ стагоддзя «Мужык», «Аб мужыцкай долі», «Беларушчына», «На ўсход!», «Моладзі», «Будзь смелым!», «Не шукай», «Спадчына» — гэта не проста роздум паэта пра гістарычны шлях, пройдзены беларусамі, а ўнутраны стан душы творцы, яго грамадзянская сутнасць, напоўненая ўласцівай Купалу глыбокім філасофскім роздумам аб будучыні беларускага народа, яго будучай дзяржаўнасці».

Аляксандр Каваленя адзначыў, што «Купалу не толькі перапаўняла любоў да роднага краю, да беларускага народа, а і перакананасць у тым, што душой народа

з'яўляецца яго мова. Бог даў беларусам выдатнае месца для жыцця, даў мову для паразумення, якая доўгі час не прызнавалася, называлася «мужыцкаю», а беларусы — то «сапсаванымі палякамі», то «сапсаванымі рускімі». Аднак нягледзячы на ўсе супярэчнасці, нават наперакор ім, наша мова жыла і развівалася. Кожны гістарычны перыяд абумоўліваў свае прычыны існавання беларускай мовы, якія былі напоўнены характэрнымі рысамі і асаблівасцямі для яе існавання».

Нагадаўшы хрэстаматыйнае выказванне Францішка Багушэвіча: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі», — выступоўца засяродзіў увагу на тым, што Купала не толькі добра разумеў наказ Ф. Багушэвіча, а і «шмат здолеў здзейсніць дзеля таго, каб жыла і развівалася мова беларускага народа. Ён быў упэўнены, што мова — не толькі душа народа, але і аснова нацыі, патрыятызму і грамадзянскіх якасцей народа. Без мовы народ ператвараецца ў тутэйшых жыхароў ці ў лепшым выпадку ў грамадзян. Калі знікне мова, знікне і народ. Ілюстраваць дадзены тэзіс можна яго шматлікімі паэтычнымі радкамі. Янка Купала нямала здзейсніў, каб жыла і развівалася мілагучная душа народа — мова. У 1908 годзе ён піша грамадска значны верш «Роднае слова»:

Магутнае слова, ты, роднае слова!
Са мной ты на яве і ў сне;
Душу мне затрэсла пагудкаю новай,
Ты песень навучыла мяне.
Бяссмертнае слова, ты, роднае слова!
Ты крыўды, няпраўды змагло;
Хоць гналі цябе, накладалі аковы,
Дый дарма: жывеш як жыло!
Свабоднае слова, ты, роднае слова!
Зайграй ты смялей, весялей!
Хоць гадзіны сыкаюць, кружацца совы,
Жывеш ты на хвалу людзей.
Загнанае слова, ты, роднае слова!
Грымі ж над радзімай зямлёй:
Што родная мова, хоць бедная мова,
Мілей найбагатшай чужой!

Паэт-трыбун паказаў моц і сілу мовы ў працэсе супярэчлівага шляху фарміравання беларускай нацыі, называў роднае слова «магутным», «бяссмяротным», «свабодным», падкрэсліваючы той факт, што калі будзе жыць мова, будзе жыць і квітнець беларускі народ. Купала пастаянна звяртаўся да праблемы беларускай мовы. Ён напісаў некалькі вершаў з ідэнтычнай назвай «Роднае слова», што сведчыць пра тое вялікае значэнне, якое надаваў паэт роднай мове ў працэсе станаўлення беларускага народа».

Для пацвярджэння выказанай думкі А. Каваленя прывёў яшчэ такі прыклад: «У 1910 годзе ў артыкуле «Ці маем мы права выракацца роднай мовы» Купала з болем у сэрцы і адначасова з верай пісаў: «Усё ж колькісотлетняя паняверка, валачэнне ярма чужога ўладарства на сваім набалелым карку не прайшло для нас без ніякага знаку: яно ацямрыла і затрымала на доўгія вякі наша культурнае і нацыянальнае развіццё, пакідаючы нам свае вучыльні і свае «языкі», увялічыла нехаць к знанію, к прасвеце, к пазнаванню вялікіх думак людзей навукі і ідэі; асталіся мы на самым апошнім месцы, ніжэй парога, паміж усіх чыста славянскіх народаў; асталіся мы, як аблудныя авечкі, без пуцця, без веры ў новую светлую будучыню. Але ж такі асталіся і мы самі, як народ, як нацыя, і асталася пры нас наша простая родная мова, праз якую ўсе знаюць, знае свет, што мы не прыблуды якія, а колькімільённы народ — беларусы, засяляючыя сваю адвечную Бацькаўшчыну — Беларусь».

Аляксандр Каваленя завяршыў сваё выступленне так: «Думаю, што вось гэты зварот паэта не страціў актуальнасць, нават наадварот, жыццё сведчыць, што нам неабходна і сёння не толькі актыўна вывучаць нашу нацыянальна-культурную і гістарычную спадчыну, але і шырокім фронтам несці навуковыя веды ў грамадскае

асяроддзе. У наш час, калі адбываецца будаўніцтва незалежнай Рэспублікі Беларусь, навукоўцы і творчая інтэлігенцыя абавязаны рабіць усё магчымае, каб не была парушана духоўная раўнавага беларускага народа, а гэта значыць, захоўваць памяць аб тых, хто так шмат здзейсніў дзеля свайго народа, сваёй Радзімы, каго мудрацы называлі ПРАРОКАМІ».

Адштурхоўваючыся ад назвы «круглага стала», галоўны рэдактар часопіса «Полымя», лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы **Мікола Мятліцкі** звярнуў увагу на тое, наколькі важкае, аб'ёмнае само паняцце спадчына і як ашчадна, з пашанотай да яе трэба ставіцца. Прынамсі, да спадчыны, — нагадаў выступоўца, — адносіцца і даўні куфар, які стаіць у куце сялянскай хаты. Гэта добра, калі ў яго зазіраюць час ад часу, вымаючы адтуль старыя рэчы, каб палюбавацца імі, а праз іх, гэтыя рэчы, адчуць сваю повязь з тым, што было раней, а таксама з тымі, хто жыў да нас. Шкода, праўда, — канстатаваў М. Мятліцкі, — што ўсё меней становіцца людзей, якія ў гэтым адчуваюць патрэбу. Гэта ж тычыцца, калі глядзець на ўсё шырэй, і таго, вобразна кажучы, куфра духоўнасці, без якой немагчыма жыць годна і вартасна. Аднак, на жаль, і тут пакуль не ўсё добра. Ва ўсякім разе не так, як таго хацелася б. Зноў жа асаблівую небяспеку ўяўляе сабой стаўленне да ўсяго моладзі, падрастаючага пакалення. Мы заўважаем, чым часта забіты сёння галавы юнакоў і дзяўчат. Для іх становіцца чужой родная мова, іх не радуе народная беларуская песня. Купала акурат і павінен быць прыкладам таго, як неабходна адносіцца да ўсяго беларускага, ставіцца да нацыянальных святыняў. Юбілейныя ўгодкі з дня нараджэння народнага песняра, — упэўнены М. Мятліцкі, — з'яўляюцца яшчэ адной магчымасцю лепш прапагандаваць ягоную творчасць, даносячы яе да чытачоў, не ў апошнюю чаргу да чытачоў маладых. Больш за тое, на цяперашні час самая вялікая справа — гэта станавіцца прапагандыстамі тых вялікіх духоўных спадчынных асноў, якія, на шчасце, пакінулі нам нашы волаты духу, а менавіта імі былі Купала і Колас.

Творчасць Купалы добра вядома далёка за межамі нашай краіны. Гэта пацвердзіў сваім выступленнем і галоўны рэдактар газеты «Звязда», лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне» **Алесь Карлюкевіч**.

— Тэма прысутнасці беларускай літаратуры ў Кітаі, — сказаў ён, — дастаткова шырокая тэма. Вытокі яе — ў першай палове XX стагоддзя, у 1928—1931 гадах у Харбіне нёс службу грэка-каталіцкі місіянер, рэлігійны публіцыст Фабіян Абрантовіч (1884—1940), які нарадзіўся ў Навагрудку. Значная частка ўспамінаў Вінцука Адважнага «Кітай — Сібір — Масква» прысвечана гадам жыцця і працы святаром у Харбіне. Ёсць у В. Адважнага і вершаванае апавяданне «На Далёкім Усходзе» (1937). У Кітаі неаднаразова выходзілі ў перакладзе творы беларускіх пісьменнікаў. У «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі» (том 5) згадваюцца наступныя факты: «На кітайскую мову некаторыя вершы Я. Купалы пераклаў Эмі Сяо, які выступіў у Мінску ў 1936 на 3-м пленуме праўлення ССП СССР. На кітайскую мову перакладзены творы беларускай паэзіі, прозы і драматургіі: Я. Купалы «Зборнік вершаў» (1946) і «Жалейка» (1953) — пер. Чжу Цзы; паэмы Куляшова «Толькі ўперад» (1956), «Новае рэчышча» і «Прыгоды цымбал» (пад назвай «Цымбалы», 1957) — пер. Му Муцянь; М. Танка «Выбраныя творы» (1958, пер. Гэ Баоцюань, У. Ланьхань); Я. Коласа «Дрыгва» (пад назвай «Дзед Талаш», пер. Лі Ланмінь, 1958, 1959); Броўкі («Калі зліваюцца рэкі» (пер. Суань Гуанін, 1960); Брыля «У Забалоцці днее» (Чжао Мін, 1955) і апавяд. «Зялёная школа» (1958); раманы Шамякіна «Вазьму твой боль» (1984) і «Трывожнае шчасце» (1985); Быкава «Выбраныя аповесці» (1980); К. Крапівы «Хто смяецца апошнім» (1955, 1956) і «Пяюць жаваранкі» (1955) — пер. Гу Жэньфан; кнігі для дзяцей Я. Маўра «Палескія рабінзоны» (пер. Ван Вэнь, 1956); П. Кавалёва «Андрэйка (1953)...»

— Але ж, — зазначыў выступоўца, — спынімся на ўвазе кітайскага прыгожага пісьменства да неўміручай паэзіі народнага песняра Беларусі Янкі Купалы.

Не выключана, што пераклады, зробленыя Эмі Сяо, друкаваліся па-кітайску ў выданнях СССР у 1930-х, бо ён доўгі час жыў у Савецкім Саюзе. Між іншым, перакладчыкам Эмі Сяо на рускую мову быў Сяргей Гарадзецкі — добры сябра Янкі Купалы і Якуба Коласа. А што да «Жалейкі» і яе перакладчыка Чжу Цзы... Увогуле, у выходных дадзеных гэтага зборніка ў 1946 годзе называюцца лепшыя прадстаўнікі перакладчыцкай школы таго часу: Гэ Баоцюань (аўтар прадмовы), Цао Цузіньуа (галоўны рэдктар выдання). Другое выданне «Жалейкі» было ажыццёўлена ў 1953 годзе ўжо самім Чжу Цзы. Як бачыце, у «ЭЛіМБеле» толькі пра 1953 год... Чжу Цзы — гэта псеўданім знакамітага перакладчыка і выдаўца Сунь Шэньчу (нарадзіўся ў 1917 годзе). Сунь Шэньчу яшчэ і пад іншым псеўданімам — Сунь Вэй — перакладаў асобныя творы Купалы, напісаў энцыклапедычныя артыкулы пра Я. Купалу, В. Быкава, І. Шамякіна для Вялікай Кітайскай Энцыклапедыі, а таксама аглядны артыкул, прысвечаны гісторыі беларускай літаратуры.

Алесь Карлюкевіч перакананы:

— Творчасць Купалы і ў Кітаі патрабуе шмат большай увагі. Як і ўвогуле і ў іншых краінах Азіі. Зірніце на карту Азіі. Яе колеры апавядаюць пра вялікія краіны і вялікія народы. У В’етнаме, дзе пражываюць больш як 60 народнасцей, — каля 80 мільёнаў чалавек. У свой час у нас шмат зроблена для прадстаўлення в’етнамскай паэзіі і прозы на мове Янкі Купалы. Ці ведаюць пра аўтара «Жалейкі» ў Малайзіі (насельніцтва — болей за 20 мільёнаў чалавек, мова — малайская і малайзійская)? А ў Інданезіі, дзе жыве болей 200 мільёнаў чалавек, якія размаўляюць на інданезійскай, а яшчэ на галандскай, яванскай і англійскіх мовах? Як бачыце, не складзе цяжкасцей і падрыхтоўка падрадкоўнікаў, іх можна зрабіць на англійскай мове. Адрасоў для пашырэння купалаўскай літаратурнай геаграфіі можна назваць досыць шмат. І тут пэўнымі ініцыятарамі для развіцця літаратурнага пабрацімства маглі б стаць беларускія амбасады ў азіяцкіх краінах. Несумненна, гэта будзе толькі на карысць культурнаму, палітычнаму іміджу Беларусі ў свеце. Але, відавочна, такія ініцыятывы патрабуюць складання і зацвярджэння пэўнай дзяржаўнай перакладчыцкай праграмы. Як тое робяць у іншых краінах.

«Янка Купала і «забраны край» — так вызначыў тэму свайго выступлення загадчык сектара Інстытута гісторыі НАН Беларусі **Андрэй Унучак**. Ён сказаў:

— З’яўленне ў беларускай літаратуры «песняра» (так назваў Я. Купалу Антон Луцкевіч), шчыльна звязана з паняццем «забраны край». Гэтае паняцце сімвалічнае, здольнае ахапіць многія бакі тагачаснай беларускай рэчаіснасці. У зборніку «Шляхам жыцця», што пабачыў свет у 1913 г., быў апублікаваны верш з аднайменнай назвай, які меў падзагаловак «Балканскім славянам». Сам твор напісаны годам раней і, натуральна, з цэнзурных меркаванняў, Купала вымушаны быў «прысвяціць» яго «балканскім славянам». Хоць, на сённяшні дзень мы можам знайсці ў ім шэраг момантаў, якія сведчаць пра тое, што ў першую чаргу верш напісаны пра Беларусь: «Людзей запытаеш, — адкажуць спакойна: // «Забраны край» гэты калісь».

У 1914 г. рэдактар-выдавец «Нашай нівы» Купала мусіў тлумачаць, зважаючы на нападкі «Виленского Вестника», адкуль узяўся тэрмін «забраны край» у «першай беларускай газэце з рысункамі». Больш за тое, афіцыйнае расійскае выданне сцвярджала, што нібыта паняцце «забраны край» ніколі раней «Наша ніва» не выкарыстоўвала. І толькі з прыходам на рэдактарскую пасаду новага рэдактара-выдаўца адразу з’явіўся «крамольны» выраз. Я. Купала ў адказ напісаў, што запазычыў яго з «Материалов для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края» П. Шэйна, які, праводзячы адпаведнае апытанне сялян Гродзенскай губерні, запісаў іх самавызначэнне: «наша страна ні руска ні польска, але забраны край!»

Цікава, што нападкі расійскай афіцыёзнай і заходнерускай прэсы на «Нашу ніву» былі звязаны не толькі са зместам купалаўскага артыкула «А ўсё ж такі мы жывём!...», але і з эпіграфам да яго «Не пагаснуць зоркі ў небі, // Покі небо будзе, // Не загіне край забраны, // Покі будуць людзі…»

Артыкул Я. Купала напісаў пра тое, што «польскія і расейскія нацыяналісты» вялі бесперапыннае змаганне з беларускім рухам, імкнучыся даказаць самім сабе і іншым, што беларусаў як нацыі не існуе. Але гэта справа, паводле Я. Купалы, была марнай, бо сваёй мэты ні рускія, ні палякі дасягнуць ужо не здольныя. Беларускае адраджэнне паказала і даказала сваю жыццёвасць і паспяховасць: «У некалькі год мы зрабілі тое, што ў палякаў і расейцаў рабілася чуць ня цэлымі сталецьцямі». Тэрмін жа «забраны край» быў занадта сур'ёзным намёкам на ліквідацыю Вялікага Княства Літоўскага ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай. Калі беларусы негатыўна ацэньвалі тыя падзеі, значыць, не прызнавалі сябе «рускімі» і больш за тое, павінны былі свой край «адбіраць» назад.

Такім чынам, Я. Купала выкарыстоўваў азначэнне «забраны край», каб паказаць сутнасць становішча беларускіх земляў у Расійскай імперыі. Купала пісаў у адным з ранніх вершаў у 1905 г. «Мяне ўзялі ў салдаты ў чужацкі палон». У вершы «Што ты спіш?» (1906), Купала ставіць праблему становішча «забранага краю» вельмі востра: «А не грошы твае // Там у банку ляжаць? // Не за грошы ж твае // Цар ідзе ваяваць? / Не за грошы ж твае // Цэркаў гэта стаіць? // Не за грошы ж твае // Яна срэбрам блішчыць?». Тут паказваецца не толькі матэрыяльнае абрабаванне краю, але і канфесійная палітыка Расійскай імперыі ў паслямураўёўскі перыяд.

Вяртаючыся трохі назад, нельга не ўзгадаць верш «Прарок», апублікаваны ў апошнім нумары «Нашай нівы» за 1912 г. Мова ішла аб прароку, які паўстаў з народа і адолеў вялікі шлях, каб яго, той народ, дасягнуць: «Аж так дасціг — аквечан хвалай / Зямлі забранай, сумных хат / Дзе царства цемры панавала / Дзе сілу ўзяў над катам кат». У гэтым вершы, напісаным у Пецярбургу ў снежні 1912 г., алегарычна падаецца гісторыя беларусаў, народа, які добраахвотна апусціўся да нацыянальнага рабства, забыўся нават сваё імя. Таму місія прарока не проста клікаць-абуджаць нацыю, але і заступацца за яе перад Богам: «За мной, за мной, забраны людзе! // Я добрай доляй послан к вам; // І знаю, што было, што будзе, // І вас у крыўду не аддам.».

На нашу думку, гэты верш і выраз «забраны край» здольны прыадчыніць сэнс псеўданіма Яна Луцэвіча. Прыгадаем сабе, што на пачатку 1907 г. у адказ на навагодняе віншаванне Я. Купалы Уладзімір Самойла прысвяціў апошняму цэлы верш на рускай мове, у якім ёсць такія радкі: «Так было, будет в каждом веке: // Поэт хранит святую нить, // Чтоб всё, что Божье в человеке // В борьбе кровавой сохранить».

У 1925 г. у Менску, так тады называлася наша сталіца, выйшаў з друку «Беларуска-расійскі слоўнік», складзены Мікалаем Байковым і Сцяпанам Некрашэвічам. У гэтым слоўніку слова «Купала» перакладаецца на рускую мову як «1) бог белорусской мифологии; 2) Иван Креститель». Калі звярнуцца да этымалогіі слова «Купала», то можна заўважыць, што гэта літаральны пераклад слова «Хрысціцель» з грэцкай мовы і азначае «той, хто акунае ў ваду для ачышчэння». У многіх славянскіх народаў імя Ян Хрысціцель перакладалася як Іван Купала. Таму, на нашу думку, можна сцвярджаць, што псеўданім беларускага песняра звязаны менавіта з біблійным прарокам, а не з Купаллем. Пра гэта сведчыць яго творчасць.

Звернем увагу на гістарычнага Яна Хрысціцеля. Біблія сведчыць, што на самым пачатку нашай эры ізраільскі народ знаходзіўся пад рымскай акупацыяй і прагнуў вызвалення. Рымская культура, мова, звычаі, рэлігія — усё было чужым і непрымальным для яўрэяў, якія марылі пра незалежнасць і сваю дзяржаву, сваё царства. Да гэтага дадаваліся месіянскія чаканні. Месія, па-грэцку Хрыстос, павінен быў прыйсці і вызваліць Ізраіль. Менавіта ў гэты час на гістарычную арэну выходзіць Ян Хрысціцель, які аб'яўляецца на Заходнім беразе ракі Ярдан і прапаведуе хуткі прыход Месіі і ўсталяванне Валадарства Божага. Ірад Анціпа, тагачасны тэтрарха ў Палесціне, быў надзвычай здзіўлены поспехамі маладога прапаведніка. Ён быў уражаны той вялікай хваляй пакаянняў-хрышчэнняў, якія адбываліся на Ярдане і загадаў зняволіць Яна Хрысціцеля ў крэпасці Махерон.

І хоць яго чакала пакутніцкая смерць, ён выканаў сваю місію — падрыхтаваў народ да прыходу Хрыста, Які і ўсталяваў Валадарства Божае.

Пры гэтым Ян Хрысціцель прапаведаваў усяму народу, людзям усіх прафесій — мытнікам (тым, хто служыў Рыму і лічыўся здраднікам) і звычайным грэшнікам. Ён не меў афіцыйнай пасады, але меў фенаменальны поспех і пры гэтым адкрыта заяўляў, што не ён Месія, а толькі той, хто прыйшоў «каб вярнуць сэрцы бацькоў дзецям, і непакорлівым лад думак праведнікаў, каб з'явіць Госпаду народ падрыхтаваны». Сам пра сябе Ян казаў, што ён «голас таго, хто кліча ў пустыні». Усе гэтыя характарыстыкі мы з поўным правам можам прымяніць і да Янкі Купалы, да яго бачання сваёй ролі ў беларускім адраджэнні. Верш «Забраны край» проста грыміць голасам біблійнага прарока: «Сляпы знемагаецца бацька ў цямніцы; // На стражы пастаўлен сынок; // У поўных калісьці ад шчасця святліцах // Чужак зневажае дачок // Дзяцей сваіх маткі кідаюць у здзеку, // За «мамак» к наездзцам ідуць, // А тыя за іх малако, за апеку // «Забраны край» болей гнятуць».

Тут варта, нарэшце, звярнуцца да радаводу Купалы, каб больш ясна зразумець што ён меў на ўвазе, пішучы пра Беларусь як пра «забраны край». Род Луцэвічаў, як і іншая дробная беларуская шляхта, быў зацверджаны ў расійскім дваранстве яшчэ ў пачатку XIX ст. Прапрадзед Я. Купалы, таксама Ян, жыў у засценку Луцэвічы, Ігуменскага павета Мінскай губерні і належаў да чыншавай шляхты князя Дамініка Радзівіла. Гэты апошні прадстаўнік нясвіжскай лініі Радзівілаў стаў на бок Напалеона, што далёка не было выключэннем у асяроддзі магнатаў і шляхты былога ВКЛ, і застаўся яму верны да канца, што сустракалася ўжо радзей. У выніку такога палітычнага выбару нясвіжскага ардыната і ягонай заўчаснай смерці, зямля, на якой жылі продкі Я. Купалы, перайшла да расійскіх магнатаў Вітгенштэйнаў, з якімі ў Луцэвічаў адносіны не склаліся.

Але ў 1830-х гг. продкі песняра мусілі распачынаць справу афіцыйнага прызнання дваранскай годнасці зноў. Мінская дваранская дэпутацкая зборня неаднаразова зацвярджала Луцэвічаў у дваранстве, аднак пецярбургская герольдыя (Дэпартамент герольдыі ў Сенаце) знаходзіла ўсё новыя і новыя пярэчанні. У 1849 г. дзед Я. Купалы, разам са сваімі сваякамі, атрымаў «Пасведчанні», што «дворяне Луцевичи …по спискам дворянским Игуменского уезда во втором разряде записанными состоят и что прописанные лица ни же предки их к подушному окладу не принадлежали и ныне не принадлежат, а напротив пользовались дворянскими преимуществами…»

У 1862 г. герольдыяй была нарэшце зацверджана адна галіна роду Луцэвічаў, а другая (галіна непасрэдных продкаў Я. Купалы) неўзабаве падпала пад дзеянне ўказу ад 23 верасня 1864 г. і трапіла ў лік мінскіх «граждан», а потым мяшчан.

З 1860 г. галоўным хадайнікам у гэтай справе выступаў дзед Я. Купалы Ануфрый. На працягу 15 гадоў ён разам са стрыечным братам Людвігам займаўся гэтай справай, збіраў патрэбныя дакументы, пісаў шматлікія прашэнні, даваў тлумачэнні. Тут можна назбіраць матэрыялу на цэлую дэтэктыўную гісторыю на аснове толькі таго матэрыялу, які апублікаваны Генадзем Кісялёвым у знакамітых «Пуцявінамі Янкі Купалы». Так, 31 кастрычніка 1868 г. Луцэвічы падалі ў Мінскую дваранскую зборню 111 дакументаў па сваім радаводзе, агульнай колькасцю калі 300 аркушаў, заплаціўшы пры гэтым 720 руб. пошліны. Аднак безвынікова, Пецярбургу ўсё адно «не хапала доказаў».

Нарэшце, у 1875 г., палічыўшы далейшую барацьбу безнадзейнай, Ануфрый і Людвіг Луцэвічы забралі з дэпутацкай зборні грошы, унесеныя туды за шматлікую радню. Трэба думаць, на гэта рашэнне мела ўплыў барацьба за зямлю з князямі Вітгенштэйнамі, якія каля гэтага часу пазбавілі Луцэвічаў з арэнды.

Улічваючы гэтую гісторыю з радаводам Я. Купалы, зусім па-іншаму чытаецца ягоны верш «Мужык», які сам аўтар назваў «першы мой выступ у Беларускай літэратуры». Беручы пад увагу саслоўную палітыку Расійскай імперыі ў Беларусі, радкі «Што я мужык, усе тут знаюць // І як ёсць гэты свет вялік // З мяне смяюцца,

пагарджаюць, — // Бо я мужык, дурны мужык», гучаць як крык шляхціца, незаконна пазбаўленага шляхецтва. Шляхецтва — гэта асабістая свабода, гэта традыцыі старой дзяржаўнасці і г. д.

У 1910 г. у радках, прысвечаных рэдакцыі «Нашай нівы», пясняр пісаў: «Пад навалай крыўдаў, многія сталецця // Мы няслі пакорна лямку безпрасвецця. // Мы няслі — ўсё ныла, гінула памалу, // Аж не нашай наша бацькаўшчына стала».

Аднак, насуперак усяму, у зборніку «Жалейка» Купала пісаў: «Душой, я вольны чалавек, // і Гэткім буду цэлы век». У зборніку «Шляхам жыцця», што выйшаў праз 5 гадоў пасля «Жалейкі», ёсць словы пра тое, што свабода важнейшая за жыццё: «Лепей сам сябе дам // пахаваці людзям // Як свабоду хаваць, // Злыбядзе аддаваць».

У гэтым святле, дарэчы будзе сказаць, трохі па-іншаму чытаюцца і іншыя радкі з таго ж класічнага верша «Мужык»: «Чытаць, пісаць я не ўмею, // Не ходзіць гладка мой язык, // Бо толькі вечна ару, сею, — // Бо я мужык, дурны *мужык.*». Тое, што большасць беларусаў у дасавецкі перыяд не ўмелі чытаць і пісаць, доўгі час было ледзьве не аксіёмай. Але тут варта зрабіць адну рэмарку, спасылаючыся на В. Дуніна-Марцінкевіча, у XIX ст. беларусы пераважным чынам не ўмелі чытаць і пісаць па-руску. Адначасова, вялікая маса людзей наведвала патаемныя школы, так у 1870-я гг. расійская паліцыя выкрывала штогод 200 патаемных школ у Віленскай навучальнай акрузе. Важным фактам з'яўляецца і тое, што пры правядзенні перапісу 1897 г. чалавеку неабходна было паведаміць не толькі ці ўмее ён чытаць, але і дзе навучаўся. Гэта ва ўмовах масавага патаемнага школьніцтва ў пасляпаўстанскай Беларусі магло прыводзіць і прыводзіла да сур'ёзных статыстычных хібаў.

Тэма «забранага краю» шчыльна звязана з нацыянальна-вызваленчымі паўстаннямі XIX ст. Я. Купала ў сваім першым вершы ў «Нашай ніве» пад назвай «Касцу» пісаў якраз пра касінераў — «народную сілу» паўстання: «Быў даўней народ хітрэй, // Не знаў стрэльбаў, дык аей! // Коскі шаблямі былі, // Ваяваць з імі ішлі». «Сярмяжная праўда» другой паловы XIX ст. палягала ў тым, што расійская ўлада мэтанакіравана цкавала сялянства на паноў. Таму, як і ў літаратараў XIX ст. у Купалы праглядаліся паўстанцкія матывы: «Ці даждуся калі кос і песень касцоў // На другой, на вялікай касьбе?..».

Такім чынам, мы можам сказаць, што Купала ў «нашаніўскі перыяд» сваёй творчасці паступова ўводзіў у беларускі літаратурны і грамадска-палітычны кантэкст паняцце «забраны край». Тое, што Купала стаў «песняром», фігурай агульнанацыянальнага маштабу, было вынікам таго, што ён бачыў і рэалізоўваў сваё пакліканне ў справе нацыянальнага адраджэння. На сёння яшчэ стаіць пытанне інтэрпрэтацыі ідэйнай спадчыны Купалы і 130-годдзе з дня ягонага нараджэння — добрая нагода для правядзення гэтай працы.

Намеснік дырэктара па навуковай рабоце Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі **Сяргей Гаранін,** закранаючы пытанне шляхецтва Купалы, засведчыў, што шляхта ніякім чынам не хацела «аб'ядноўвацца» ні з беларусамі, ні з мужыкамі. Для шляхціца было знявагай тое, што яго маглі абвінаваціць у тым, што ён мужык. Купала, сказаўшы, што «я мужык», адмовіўся ад свайго шляхецтва, тым самым пачаў атаясамліваць сябе з самім народам. Адмовіўся ён і ад той значнай часткі культурнай спадчыны, што была ў шляхты, але асацыяравалася з польскамоўнасцю і польскасцю. Купала звярнуўся да іншай спадчыны, да ўсяго таго, што яму было блізка, да чаго ён сам належаў. Таму адна з задач акадэмічнага літаратуразнаўства ў цяперашні час, на думку С. Гараніна, заключаецца не толькі, безумоўна, у вельмі патрэбным зборы самых разнастайных фактаў, што тычацца Купалы, як, пра што гаварылася ў кітайскай культуры, а таксама ў іншых усходніх, аддаленых ад Беларусі культурах, але і ў інтэрпрэтацыі ягонай творчасці, зыходзячы з сучасных пазіцый, уяўленняў пра літаратурны і культурны працэс у Беларусі і задач, якія з гэтага вынікаюць. У гэтым плане творчасць Купалы заўсёды знаходзіцца ў цэнтры ўвагі супрацоўнікаў Інстытута мовы і літаратуры. Фактычная кожная дысертацыя і значная частка артыкулаў — як на-

вуковых, так і навукова-папулярных, дый зусім папулярных заўсёды трымала Купалу калі не непасрэдна ў полі зроку, то ва ўсякім разе арыентавалася на ягоную прысутнасць у беларускай культуры. Дый фактычна значная частка беларускага літаратуразнаўства — гэта купалазнаўства. Купала, з'яўляючыся спадчыннікам беларускай культуры, на якую ён абапіраўся, разам з тым і сам ужо стаў часткай гэтай духоўнай спадчыны беларускага народа.

Сяргей Гаранін выказаў думку аб неабходнасці прыняцця ў нашай краіне дзяржаўнай праграмы падтрымкі чытання. Тым больш, што ў іншых краінах, як, напрыклад, у Германіі, такія праграмы ўжо дзейнічаюць. У першую чаргу яны скіраваны на тое, каб далучыць да чытання моладзь. Так, бібліятэчныя работнікі ў Германіі адзначаюць у фармулярах, хто і калі зайшоў у бібліятэку, якія кнігі ўзяў. Падобнае наведванне мае абавязковы характар. Чаму б не пераняць падобны вопыт? Праўда, прамоўца засумняваўся, што ўзятая кніга будзе абавязкова прачытана. Усё ж у нас іншы менталітэт, чым у немцаў. Тым не менш праграма чытання неабходна.

Член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы **Міхась Мушынскі** адзначыў як з'яву ў культурна-грамадскім жыцці тое, што нарэшце выдадзены Поўны збор твораў Янкі Купалы. Ён стаў другім аналагічным выданнем у гісторыі Беларусі. Першым, як вядома, быў трохтомнік Максіма Багдановіча. Міхасю Іосіфавічу пашанцавала быць навуковым кіраўніком ажыццяўлення праекта поўнага выдання творчай спадчыны Купалы, працаваць над ягоным увасабленнем у жыццё. Дарэчы, свой унёсак у гэтае выданне зрабіла фактычна ўся нацыянальна свядомая беларуская інтэлігенцыя. Асабліва адзначыў М. Мушынскі дапамогу Віталя Скалабана, які, на жаль, заўчасна пайшоў з жыцця. Дзякуючы В. Скалабану поўна прадстаўлена публіцыстыка народнага песняра. У выніку Купала паўстаў не палепшаны, не падмаляваны, не адрэдагаваны, не з купюрамі, а аўтэнтычны. Такім, якім ён і быў у сапраўднасці. «Аднак, — прадоўжыў М. Мушынскі, — задавальняцца зробленым не хацелася б. Прынамсі, было б добра асобна выдаць «Летапіс жыцця і творчасці Янкі Купалы».

Гаворку за «круглым сталом» прадоўжыў акадэмік НАН Беларусі, доктар гістарычных навук, прафесар **Міхась Касцюк**:

— Жыццё Янкі Купалы, яго дзейнасць, асабліва літаратурная творчасць непасрэдна звязаны, нават знітаваны з тымі грамадска-палітычнымі абставінамі, якія існавалі на Беларусі ў розныя перыяды яе развіцця. Характэрна, што такая ўзаемазалежнасць нават нарастала, па меры таго як ускладняліся палітычныя і сацыяльныя абставіны ва ўмовах савецкай рэчаіснасці, адпаведна павышалася яго папулярнасць і вядомасць.

У гэтых адносінах пачатак уступлення Я. Купалы на творчы шлях, які ў першую чаргу звязаны з ягоным супрацоўніцтвам у газеце «Наша ніва», а затым яе рэдагаваннем і некаторыя наступныя гады ўяўляюць сабой у многіх праявах рамантычны этап яго жыцця. Аб гэтым сведчаць акалічнасці, звязаныя з напісаннем рамантычных паэм і, магчыма, у першую чаргу стварэннем п'есы «Паўлінка».

Як вядома, яе назва супадае з імем першай выканаўцы гэтай ролі — Паўліны Мядзёлкі. Іх узаемаадносіны, а таксама некаторыя яе рысы аўтар п'есы перанёс у гэты вобраз. Іх супрацоўніцтва пэўным чынам адлюстравана ў кнізе П. Мядзёлкі «Сцежкамі жыцця». Хоць гэтыя «сцежкі» пры выданні былі значна пачышчаны савецкімі цэнзарамі. Тым самым да нас не дайшлі многія факты з жыцця Я. Купалы тых часоў. А шкада, таму што гэта абядняе ў нашым уяўленні воблік пачынаючага паэта і драматурга ў яго маладыя гады.

Пасля складаных перыпетый у перыяд Першай сусветнай вайны і пачатковых гадоў савецкай улады ўздзеянне грамадска-палітычных абставін на жыццё і творчасць Я. Купалы не толькі не зменшылася, а паступова нават узмацнялася. Гэта характэрна і для сярэдзіны 1920-х гадоў, калі ва ўмовах дзеяння новай эканамічнай палітыкі і ажыццяўлення беларусізацыі, духоўна-культурнае, у тым ліку

літаратурнае жыццё ў Беларускай ССР віравала. Ствараліся новыя літаратурныя аб'яднанні, актыўна ўключаліся ў творчую дзейнасць не толькі сталыя, але і многія маладыя паэты і празаікі.

І тым не менш, у 1926 г. была першы раз забаронена пастаноўка Купалавай п'есы «Тутэйшыя». Канешне, яна мела пэўную грамадска-бытавую вастрыню, але менавіта дзякуючы выдатнаму таленту яе аўтара ўдалося надзвычай яскрава, выпукла, рэльефна адлюстраваць становішча беларускага народа паміж рускім і польскім народамі. Дарэчы, у наступныя дзесяцігоддзі, нават пасляваенныя, гэты сюжэт неаднаразова па-мастацку знаходзіў выражэнне і ў вершах, і ў напісаных на іх аснове мелодыях. Але ў той час, калі п'еса з'явілася, яна была даволі хутка забаронена, нягледзячы на пэўны лібералізм у грамадска-палітычным і культурным жыцці. Можна ўявіць, якое ўздзеянне гэта аказала на аўтара.

А між тым, такая павышаная ўвага з боку тагачасных ідэалагічных органаў і ў першую чаргу нядаўна створанага Галоўліта звязана з пачаткам барацьбы партыйна-дзяржаўных структур з так званым беларускім нацыянал-дэмакратызмам. Ініцыятарам гэтага ў рэспубліцы стаў тагачасны першы сакратар ЦК КП(б)Б А. Крыніцкі. На працягу 1925 г. ён нават двойчы, выступаючы на сходзе Мінскай гарадской партыйнай арганізацыі, узмоцнена засяроджваў увагу на неабходнасці весці барацьбу з гэтай, на яго думку, заганнай з'явай беларускай савецкай рэчаіснасці.

Дарэчы, такія абставіны ў жыцці Янкі Купалы паўтараліся неаднойчы. Вядома, у прыватнасці, як непрыхільна быў сустрэты ва ўладных стуктурах яго верш «Перад будучыняй», а таксама некаторыя іншыя творы. Пры гэтым Я. Купалу і даводзілася ствараць і адпаведныя літаратурныя рэчы па заказе. Да прыкладу — «Над ракой Арэсай» і іншыя.

Складаным праяўленнем зніťаванасці яго жыцця і творчасці з грамадска-палітычнымі абставінамі з'явіліся падзеі канца 1920-х — пачатку 1930-х гадоў, калі ў БССР разгарнулася актыўная і бескампрамісная барацьба з так званым «Саюзам вызвалення Беларусі», які, як цяпер вядома, ніколі не існаваў, а быў сфабрыкаваны. Паэту прыпісвалася адна з вядучых роляў у гэтай міфічнай арганізацыі. Пад уздзеяннем допытаў ён зрабіў замах на сваё жыццё. На шчасце, усё абышлося, аднак згаданы факт, несумненна, гаворыць аб многім. Нездарма, паведамленні аб гэтым ішлі ў Маскву на ўзроўні вышэйшых асоб.

Працуючы з матэрыяламі архіваў, у прыватнасці, з пратаколамі пасяджэнняў палітбюро ЦК УКП(б), што цяпер захоўваюцца ў Расійскай Федэрацыі, я звярнуў увагу, што на працягу 1930-х гадоў прозвішча Янкі Купалы там не сустракаецца, але неаднойчы фігуруе Якуб Колас. Пры гэтым нярэдка прысутнічае яго вызначэнне як беларускага нацыяналіста, хоць у той час ён займаў пасаду віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук Беларускай ССР.

Канешне, у апошнія дзесяцігоддзі беларускія гісторыкі, літаратары, наогул гуманітарыі, многія іншыя зацікаўленыя людзі актыўна аналізуюць абставіны, што прывялі да трагічнай гібелі нашага літаратурнага класіка. Больш за ўсё звяртаецца ўвага на тое, што не адбывалася аніякая падрыхтоўка да 60-гадовага юбілею Я. Купалы, да якога заставалася не болей як дзесяць дзён. Але дажыць да гэтай даты яму не было суджана.

Юбілей з часу нараджэння нашага песняра і Прарока, а таксама круглая дата, як яго не стала, заўсёды будуць ісці побач, так як у гэтым годзе. Магчыма, гэта ў нейкім сэнсе і сімвалічна. Ва ўсялякім разе Янка Купала — гэта наш гонар, гэта наша годнасць. Аднак гэта і наш боль, калі мець на ўвазе яго трагічную гібель. Але асобы такога ўзроўню жывуць, пакуль жыве народ, які яны так услаўлялі і ў які так верылі.

У сваім выступленні загадчык аддзела Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі **Вераніка Ярмалінская** расказала пра тое, наколькі імя Купалы блізкае і дарагое для тэатра і тэатразнаўцаў. Знамянальна, што яго носіць і наш знакаміты Нацы-

янальны акадэмічны тэатр, пра які добра ведаюць аматары сцэны не толькі ў Беларусі, а і далёка за межамі нашай краіны. Значнае месца творы народнага песняра займаюць у рэпертуары гэтага тэатра, чарговы сезон нязменна адкрываецца неўміручай «Паўлінкай», што ўпершыню на афішы купалаўцаў з'явілася 23 мая 1944 года, калі творчы калектыў знаходзіўся ў эвакуацыі ў Томску. В. Ярмалінская падрабязна паведала гісторыю сцэнічнага ўвасаблення гэтай знакамітай п'есы песняра, пачынаючы з першай пастаноўкі, што адбылася 27 студзеня 1913 года ў Вільні на вечарынцы, дзякуючы Беларускаму музычна-драматычнаму гуртку. Галоўную ролю тады выконвала Софія Маркевіч (Маркевічанка), а на прэм'еру з Пецярбурга прыехаў сам аўтар. У самой жа расійскай сталіцы спектакль быў паказаны 9 лютага таго ж 1913 года Беларускім навукова-літаратурным гуртком студэнтаў, калі ролю Паўлінкі выканала чароўная Паўліна Мядзёлка. Расказала В. Ярмалінская і пра тое, як на вобразах Паўлінкі, а таксама пана Быкоўскага выхавалася цэлая плеяда беларускіх акцёраў.

«Фундаментальныя недакладнасці ў раскрыцці класікі» — так вызначыў тэму свайго выступлення старшы навуковы супрацоўнік Інтытута мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы НАН Беларусі, кандыдат філалагічных навук **Ігар Шаладонаў.** Ён спыніўся на факце развіцця і функцыянавання мастацкай класічнай спадчыны на сучасным этапе, падкрэсліўшы, што творчая спадчына класікаў літаратуры Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, М. Гарэцкага і іншых — гэта залаты духоўны фонд нацыі, тым больш беларускай, дзе доўгі час сацыяльна-культурнае развіццё мела, па агульным прызнанні, літаратурацэнтрычны характар, «таму вывучэнню класічных твораў нашых карыфеяў слоўнага мастацтва ўдзялялася і зараз удзяляецца нашым літаратуразнаўствам, мовазнаўствам, філасофіяй, культуралогіяй і іншымі навукамі асабліва пільная ўвага, — зазначыў І. Шаладонаў. — Мастацкая класіка — гэта не застылы скарб, які можна трымаць на паліцах кнігасховішчаў і бібліятэк, гэта «жывая вада» для далейшага нацыянальна-культурнага і нават сацыяльна-палітычнага руху народа, краіны на сучасным этапе і на шляху яго ў будучыню. І таму, думаецца, фундаментальна-аналітычны, філасофска-культуралагічны, мастацка-доследны і інш. падыходы да яе вывучэння і далейшага больш глыбіннага спасціжэння набываюць сёння ўсё больш складаны характар судакранання і перасячэння з рознымі ідэйна-тэарэтычнымі і сацыяльна-палітычнымі плынямі і напрамкамі. З асаблівымі авангардысцкімі навацыямі ў культурнай прасторы еўрапейскіх краін і ў тым ліку нашай апошнія дзесяцігоддзі вылучаецца постмадэрністычная светапоглядная плынь у культуры, якая імкнецца радыкальна перагледзець усе ранейшыя каноны, пастулаты і прынцыпы культурна-мастацкай наміналогіі і светабудовы. Важна ў гэтай размаітай палітры светапогляднага плюралізму пастарацца захаваць нацынальна-ўнікальную цэласнасць нашай мастацкай атлантыды, не згубіць яе сэнсава-ідэйнае і мастацка-вобразнае канцэптуальнае ядро». Свае асноўныя развагі І. Шаладонаў пабудаваў вакол паэм Якуба Коласа «Сымон-музыка» і «Новая зямля» і іх разгляду ў адной з манаграфій. Тэма, безумоўна, вельмі важная.

«Купалу трэба перачытваць і ў глыбіню, і ў шырыню», — перакананы доктар філалагічных навук загадчык аддзела Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі **Міхась Тычына**. Адштурхоўваючыся ад энцыклапедычнага даведніка «Янка Купала», выдадзенага яшчэ ў 1986 годзе, ён акцэнтаваў увагу прысутных на тым, што сёння гэтае выданне не вытрымлівае суровай крытыкі, асабліва параўноўваючы яго з Поўным зборам твораў Я. Купалы. Калі рыхтаваць другое выданне даведніка, то, несумненна, узнікне шмат праблем. У тым ліку і з класіфікацыяй твораў народнага песняра. Гэта тычыцца і ягонай інтымнай лірыкі. Як зазначыў М. Тычына, адна са студэнтак, якая пісала дыпломную працу пад ягоным кіраўніцтвам, налічыла ў Купалы ажно 75 вершаў на тэму кахання. У той час як у Пушкіна — 50. Ёсць, як кажуць, над чым паразважаць,

ёсць пра што пагаварыць. А што меў на ўвазе Купала, зазначыў М. Тычына, калі ў сваім вершы «Грабар» сцвярджаў, што ён, грабар, «я́му ўсяму рыў жыццю!». Значыць, хацеў пахаваць увесь свет. Пры аналізе шмат якіх Купалавых твораў нельга не ўлічваць і іронію, якой яны напоўнены. Гэта ж чамусьці часта застаецца па-за ўвагай даследчыкаў.

Нельга не пагадзіцца з членам-карэспандэнтам НАН Беларусі, доктарам філалагічных навук, прафесарам **Сцяпанам Лаўшуком**: «Для нас Купала — гэта ўсё». Згадаўшы, што гэтым пасяджэннем «круглага стала» распачынаецца адзначэнне 130-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы, ён прызнаўся: «Не ведаю, па якой гэта асацыяцыі, але ўспомніўся мне зараз далёкі ўжо 1981 год. А больш канкрэтна, адзін з сакавіцкіх вечароў у Купалаўскім тэатры, дзе ўдзячная грамадскасць адзначала 85-годдзе народнага пісьменніка Беларусі Кандрата Крапівы. Вечар вёў дасціпны Андрэй Макаёнак, таму ў зале панавала атмасфера ўрачыстай прыўзнятасці, весялосці, добразычлівасці. Усім было добра. Светлай усмешкай свяціўся твар юбіляра — яму таксама было добра! У сваім заключным слове ён шчыра дзякаваў усім за віншаванні, за ўвагу да сябе. Але Крапіва ёсць Крапіва. Многім запомнілася фінальная фраза яго выступлення: «Да наступнага юбілею!» Запомнілася, хоць і не ўсе ўлавілі горкі яе падтэкст».

Сцяпан Лаўшук працягваў:

«Ад юбілею да юбілею — вось звычайны вектар ушанавання нашых класікаў. Выдатна ўсведамляючы, што такая практыка шмат у чым заганная, асабіста я не схільны драматызаваць сітуацыю і з удавана-пафаснай з'едлівасцю лямантаваць: «Гэта ж мы, Госпадзі!» Не ўсё існае з'яўляецца разумным, але калі ў грамадстве ўсталявалася менавіта такая практыка ўшанавання сваіх выдатных сыноў, дык яе варта лічыць прымальнай. І прымаць яе з-за адсутнасці лепшай. Аднак жа, у кожнага народа ёсць суперасобы, якія звычайна называюць айцамі нацыі. У беларусаў — гэта перш за ўсё Янка Купала і Якуб Колас. Такіх — неўміручых — бацькоў неабходна шанаваць не перыядычна, не па пэўных датах, а заўсёды. І не ім гэта патрэбна — нам! Бо менавіта яны здольны дапамагчы нам не заблудзіцца, зарыентавацца ў архіскладаных варунках сучаснага жыцця.

Мы сабраліся за гэтым «сталом», каб паразважаць пра непераходнае значэнне спадчыны Янкі Купалы. Для нас, беларусаў, Янка Купала — волат духу. У справядлівасці гэтай высновы пераконваешся літаральна на кожным кроку. Дзве гадзіны назад, збіраючыся на наша пасяджэнне, я гартаў зборнік «Верш на свабоду». Зусім выпадкова наткнуўся на верш прысутнага тут Міколы Мятліцкага, у якім лірычны герой, паэт-пачатковец згадвае настойліва наказ-патрабаванне старэйшага таварыша па пяры:

Чытайце Купалу сябрынаю шчыльнай услых,
І мала-памалу не стане паэтаў глухіх!»

Выступоўца выказаў занепакоенасць тым, што «апошнім часам «глухія» паэты пачалі з'яўляцца вельмі дружна гэткай, на жаль, не свежай, але паўнаводнай плынню» і ўдакладніў: «Глухія людзі маюць уласцівасць гаварыць гучна, фарсіраваць гук, таму часам здаецца, што нармальных наўкола наогул няма. Іх паэтэса Святлана Яўсеева ў нядаўнім лімаўскім інтэрв'ю ахрысціла самазванцамі, якія апроч шкоды нічога беларускай паэзіі не прыносяць. І гэта праўда. У паэзіі тэхналогіі шырспажыву ніколі не былі плённымі, хоць часам, чаго граху таіць, і практыкаваліся. Сапраўдны паэт — тавар штучны. І Янка Купала ўласным прыкладам гэта даказвае. А мы можам узгадаць, якім дзейсным сродкам грамадскага прагрэсу выступала айчынная літаратура перыяду працы ў ёй вялікага песняра».

Звяртаючыся да прысутных, С. Лаўшук заклікаў:

— Чытайце Купалу, і мала-памалу знікнуць сумненні наконт культурацэнтрычнай (духоўнацэнтрычнай) місіі літаратуры, затое ўзнікае перакананне ў неабходнасці дзейснай і разумнай яе падтрымкі.

Калі я гавару, што Купала для нас — гэта ўсё, дык маю на ўвазе тое, што ён жыве ў кожным з нас. У нашых душах — яго неўміручасць. Ён — частка нашага менталітэту. Як бы мы ні клялі наш скрутны час, як бы ні гаравалі з-за страты некаторых нацыянальна-культурніцкіх пазіцый, але мусім прызнаць, што працэс духоўнага развіцця нашага грамадства не перапыніўся. Бо Купала нам падказвае:

— як дайсці да Беларусі;

— як ёй захаваць свой пачэсны пасад між народамі;

— як не страціць павагі да сябе і магчымасці людзьмі звацца;

— як абысціся са спадчынай, якая засталася нам ад прадзедаў і г. д.

У мяне ёсць канкрэтная прапанова. Самай меншай адзнакай чарговага юбілею Янкі Купалы стала б вяртанне Інстытуту літаратуры, які носіць яго імя, статуса аўтаномнай навуковай установы і арганізацыя ў ім паўнавартасных аддзелаў купалазнаўства і коласазнаўства. У Расійскай акадэміі навук хораша функцыянуюць ажно тры літаратуразнаўчыя інстытуты, украінцы маюць два.

Першы намеснік дырэктара Рэдакцыйна-выдавецкай установы «Літаратура і Мастацтва» — галоўны рэдактар часопіса «Нёман» **Алесь Бадак** пачаў сваё выступленне з таго, што «сёлета юбілеі Купалы і Коласа ідуць побач, а 2012 года да ўсяго аб’яўлены Годам кнігі. Гэта ўнікальны выпадак у гісторыі нашай літаратуры апошняга часу. Мы не ведаем, на якім узроўні будзе адзначацца 120-годдзе з дня нараджэння Максіма Гарэцкага, але мы ведаем, на якім высокім дзяржаўным узроўні адзначаўся 80-гадовы юбілей Уладзіміра Караткевіча. Падобныя юбілеі — магчымасць не толькі добрым словам згадаць тых, чыя памяць ушаноўваецца, але і паразважаць пра ролю кнігі, літаратуры ў сучасным грамадстве». А. Бадак мусіў канстатаваць, што сёння, на жаль, чытачоў мала. На тое розныя прычыны. Напомніў ён і пра трывожны сімптом. Ужо з’явіліся маладыя людзі, якія дазваляюць сабе ў друку ці ў інтэрнэце па-панібрацку адносіцца да Купалы. Паправіць становішча можна толькі сумеснымі намаганнямі і бібліятэчных работнікаў, і пісьменнікаў, і прадстаўнікоў іншых творчых прафесій. Дарэчы, выказаў ён сваё меркаванне, на пасяджэннях падобных «круглых сталоў» павінны прысутнічаць не толькі навукоўцы і літаратары, а і, скажам, кампазітары. А. Бадак нагадаў прысутным, як шмат зрабіў Ігар Лучанок для прапаганды творчасці Купалы, напісаўшы да ягоных твораў геніяльную музыку. Такое стаўленне да нацыянальнай спадчыны — добры прыклад для пераймання.

Падагульняючы вынікі гаворкі, **М. Мятліцкі** прыйшоў да высновы, што тыя задачы, якія ставіліся пры правядзенні «круглага стала», ажыццёўлены. Магчыма, развіў ён сваю думку, гэта ў чымсьці адбылося не ў тым аб’ёме, як чакалася, але, трэба спадзявацца, што гэта толькі першы этап падобных сустрэч, бо творчасць такіх волатаў нацыянальнага духу, якім з’яўляецца Купала, вымагае далейшага, прытым больш глыбокага асэнсавання, увязанага з рэаліямі сённяшняга дня. Калі мы згубім гэтае імя на прасцягах будучай Беларусі, то, несумненна, згубім усё, бо Янка Купала — сапраўды наша ўсё. Будзе Купала — будзем і мы.

Задаволены размовай, што адбывалася, застаўся і **А. Каваленя**. У той жа час ён засяродзіў увагу і на праблемах, звязаных не толькі з прапагандай творчасці слыннага народнага песняра. Так, у сучасны момант мала перакладаецца твораў беларускіх пісьменнікаў на іншыя мовы, у тым ліку і на рускую. Трывожыць і тое, што невялікі тыраж навуковых прац. Ён складае 100—150 асобнікаў і толькі ў рэдкіх выпадках набліжаецца да тысячы экземпляраў. Пашырэнне беларускамоўнай прасторы — задача ўсіх. Як пісьменнікі, так і навукоўцы павінны часцей бываць у школах, студэнцкіх аўдыторыях, каб не парывалася сувязь пакаленняў. Такія ж круглыя юбілеі, як сёлетнія 130-годдзі з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа — гэта магчымасць аб’яднаць сілы, каб і надалей плённа працаваць на карысць нашай літаратуры, на карысць Беларусі. Разам з Янкам Купалам. Ды і ў будучыню ісці разам з ім.

***Справаздачу з «круглага стала» падрыхтаваў***
***Алесь МАРЦІНОВІЧ.***

Максім ВЕРАШЧАКА

# ВЯДЗЕ СТАТКЕВІЧ-ЧАБАГАНАЎ РАДАВОД...

**Анатоль СТАТКЕВІЧ-ЧАБАГАНАЎ. Я — сын Ваш. Летапіс беларускай шляхты. Статкевічы, Сацкевічы-Статкевічы герба «Касцеша». Карафа-Корбуты герба «Корчак».** Мн.: Роднае слова, 2011.

**Анатолий СТЕЦКЕВИЧ-ЧЕБОГАНОВ. Я — сын Ваш. Летопись белорусской шляхты. Стецкевичи, Сацкевичи-Стецкевичи герба «Костеша». Карафа-Корбуты герба «Корчек».** Мн.: Белорусская Православная Церковь, 2011.

Дзякуючы гэтай кнізе з'явілася рэдкая магчымасць пазнаёміцца з унікальным чалавекам і адначасова з вынікам ягонай падзвіжніцкай, адраджэнцкай, такой карыснай грамадству працы. Дык хто ж ён, Анатоль Статкевіч-Чабаганаў? Родам з вёскі Засмужжа Любанскага раёна. За плячыма мае 65 гадоў. Скончыў Ленінградскі інстытут дакладнай механікі і оптыкі па спецыяльнасцях «Электронныя вылічальныя машыны», «Сістэма кіравання балістычнымі ракетамі падводных лодак». Вучыўся таксама ў Вышэйшай школе кіравання пры Аграпрамысловым комплексе СССР у г. Маскве і ў Школе сусветнай эканомікі і англійскай мовы, а гэта г. Боўнмоўс, што ў Англіі. Працаваў на шмат якіх адказных пасадах. Цяпер з'яўляецца старшынёй назіральнага савета групы кампаній «Стецкевич».

Прыняўшы пад увагу рэаліі сённяшняга дня, біяграфія, хоць і адметная, аднак не сказаць, каб надта вызначалася сярод жыццяпісу тых, каго ўмоўна можна назваць «новымі беларусамі». Гэта так, калі б не адно маленькае, аднак разам з тым важнае «але». Але А. Статкевіч-Чабаганаў істотна розніцца ад тых, хто сёння актыўна выявіў свае арганізатарскія і ў самым шырокім сэнсе слова прадпрымальніцкія задаткі. Тым розніцца ён, што маёнтак Засмужжа да рэвалюцыі 1917 года належаў ягонаму дзеду Міхаілу Сацкевічу-Статкевічу і ягоным родзічам.

Чытач, дасведчаны ў нацыянальнай гісторыі, пачуўшы такое прозвішча, гатовы ўсклікнуць: «А ці не мае гэты Сацкевіч-Статкевіч дачынення да таго роду, які меў на ўвазе вядомы выдавец, аўтар папулярнага ў XVII стагоддзі буквара (дарэчы, даследчыкі выдавецкай справы сцвярджаюць, што менавіта ён першым увёў слова «буквар» у шырокі ўжытак) Спірыдон Содаль, калі на старабеларускай мове напісаў оду «На герб их милостей панов Стеткевичов»?». Мае, пры тым самае непасрэднае. Як і сам А. Статкевіч-Чабаганаў. Дый, дарэчы, і шмат якія ягоныя цяперашнія блізкія родзічы. А што гэта так, сам Анатоль Васільевіч і высветліў.

Вядома, падобны пошук патрабуе немалых намаганняў, і гэта з наскоку не робіцца. Дваццаць гадоў аддаў А. Статкевіч-Чабаганаў карпатлівай працы, вывучаючы даўнія матэрыялы па гісторыі шляхецкіх родаў у архівах не толькі Беларусі, а і Літвы, Польшчы, Украіны. Па крупінках збіраў ён неабходныя звесткі, каб, сістэматызаваўшы іх, у рэшце рэшт напісаць тое, што і склала змест кнігі «Я — сын Ваш». Паступова заглыбляўся і ў гісторыю і іншых родаў, таксама не менш даўніх, дый не менш слаўных. Але найперш вабіў той, да якога належыць

сам: Стацкевічы, Сацкевічы-Статкевічы герба «Касцеша».

Паводле легенды, Касцеша — адважны рыцар, на мужнасць якога ў бітве пад Сноўскам, што адбылася ў 1072 годзе, звярнуў увагу кароль Баляслаў I Храбры. Паўстаў Касцеша перад сваім уладаром са зламаным мячом, са шматлікімі крывавымі ранамі на целе, з расшчэпленай на дзве часткі стралой, якая засела ў ягоным плячы. «Гэта і ёсць уся мая здабыча!» — заявіў ён Баляславу I Храбраму, ледзьве стоячы на нагах. «На памяць пра такую адвагу кароль, — чытаем у кнізе, — дазволіў рыцару змясціць у свой герб перакрыжаваныя стралу і меч. На чырвоным фоне — выява раздвоенай стралы, скіраваная ўгору; у кляйнодзе — над прылбіцай — шляхецкая карона з трыма страусавымі пёрамі. Пазней гэты знак пачалі называць «Страла выратавання». Дарэчы, герб «Касцеша» быў вельмі папулярным яшчэ і ў XIX стагоддзі. Нават адна з яхтаў расійскіх імператараў яго мела.

«Страла выратавання» стала і знакам серыі «Летапіс беларускай шляхты», пра першую кнігу якой і ідзе гэтая гаворка. Дарэчы, яна выйшла па благаславенні Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта. Высокапраасвяшчэннейшы Мітрапаліт, у прыватнасці, зазначае: «У Бога нет мертвых: у Него все живы! А значит, мы все — одна семья, одна земля, один народ, одна вера, один крестный жизненный путь по образу Христа Спасителя. И воскресение наше будет всеобщим. Оно уже началось, если в сердце человека луч Божественной любви не заглушается стихиями мира сего, но становится негасимым пламенем. Мы приветствуем благочестивые намерения, воплотить которые взял на себя труд Анатолий Василевич в данном исследовании».

Да месца сказаць, што А. Статкевіч-Чабаганаў з’яўляецца не толькі рупным даследчыкам беларускай культуры, а і вядомым фундатарам, які аказвае дапамогу ў аднаўленні разбураных храмаў і манастыроў. Менавіта ён стаў адным з уладкавальнікаў помніка Святой Сафіі, княгіні Слуцкай. Звычайна, калі ў яго пытаюцца, чаму ён накіроўвае свае сродкі на такія важныя праекты, чаму не шкадуе для гэтага вольнага часу, Анатоль Васільевіч адказвае: «Я думаю, гэта ад маіх продкаў».

«Я — сын Ваш» — таксама помнік. Усяму людству добраму і пашанотнаму, якое належыць да тых двух знакамітых родаў, пра якія гэтым разам расказвае А. Статкевіч-Чабаганаў. Дарэчы, род Карафа-Корбутаў — таксама знакаміты, бярэ свой пачатак з князёў венецыянскіх. Адзін з яго прадстаўнікоў шляхціц герба «Корчак» Павел Карафа перасяліўся ў Польшчу ў час праўлення Уладзіслава Ягайлы. Спачатку знаходзіўся пры каралеўскім двары, а затым служыў у войску, маючы званне палкоўніка, выслужыўся ў вайне з крыжакамі.

Кніга (па такім прынцыпе будуць пабудаваны і наступныя) удала кампазіцыйна прадумана. Змешчаны кароткае апісанне і радаводныя роспісы, прыводзяцца цікавыя факты і займальныя сюжэты з жыцця пэўных прадстаўнікоў беларускай шляхты, копіі гістарычных дакументаў. Радаводныя роспісы пададзены так, што першы лік абазначае парадкавы нумар пэўнага прадстаўніка роду, а другі дазваляе даведацца, ад якога продка ён паходзіць. Гэта вельмі зручна, бо лёгка ўбачыць і прасачыць роднасныя сувязі і ступень роднасці. Істотна і тое, што імёны продкаў і нашчадкаў аўтара кнігі пазначаны чырвоным колерам. Таму лёгка ўбачыць, з кім А. Статкевіч-Чабаганаў быў і ёсць у радстве.

Не буду пералічваць, колькі сярод іх людзей слынных, якія назаўсёды пакінулі свой след у гісторыі. Цікаўны чытач пра гэта даведаецца сам, знаёмячыся з кнігай «Я — сын Ваш». Зазначу толькі, што вельмі цёплымі, сардэчнымі атрымаліся раздзелы, у якіх А. Статкевіч-Чабаганаў расказвае пра самых блізкіх яму людзей: «Мой дзед Міхаіл Іванавіч Сацкевіч-Статкевіч», «Мая бабуля — Марыя Аляксандраўна Карафа-Корбут», «Мая мама — Аляксандра Міхайлаўна Сацкевіч-Стацкевіч», «Мой дзядзька — Іван Сацке-

віч-Стацкевіч», а поруч змешчаны раздзельчык «З сямейных гісторый». Многія са сваякоў Анатоля Васільевіча прайшлі праз страшныя выпрабаванні, калі былі аб'яўлены ворагамі, але не зламаліся ні фізічна, ні духоўна. Іхнія блуканні па пакутах — гэта па сутнасці тое, што зведалі дзясяткі, сотні тысяч ні ў чым не вінаватых людзей. Гэта тая праўда, ад якой заўсёды будзе балюча, але без яе, гэтай праўды, не абысціся. Таму застаецца неаднойчы прамаўляць «дзякуй» А. Статкевічу-Чабаганаву за тое, што ён узяўся сказаць пра гэта. Гэта таксама частка таго грамадзянскага подзвігу, які здзейсніў, займаўся даследаваннем гісторыі даўніх беларускіх шляхецкіх родаў.

Істотна і яшчэ вось што: сярод багатага ілюстрацыйнага матэрыялу вялікае месца займаюць фотаздымкі. Ёсць сярод іх і зробленыя бліжэй да нашых дзён, але і нямала такіх, якія таксама ўжо сталі гісторыяй. На многіх з іх аб'ектыў фотаапарата занатаваў воблікі блізкіх Анатолю Васільевічу людзей. Што адразу кідаецца ў вочы, дык тое, што воблікі гэтыя вельмі адухоўленыя. Перад табой нібы жывыя людзі. Канечне, нельга адмаўляць майстэрства тых, хто рабіў гэтыя здымкі ў той час, калі гэтая важная справа яшчэ не была пастаўлена на паток, як сёння. Толькі відавочна і іншае: гэтыя людзі былі такімі ж і ў сваім паўсядзённым жыцці: добрымі, чулымі, спагадлівымі, на дзіва багатымі духоўна.

У рэшце рэшт, прыгадайма лёсы прадстаўнікоў асобных знакамітых родаў, пра якія ведаем з літаратуры, не ў апошнюю чаргу з літаратуры мастацкай. Незалежна ад таго, кім прадстаўнікі іх з'яўляліся па прафесіі, якой справай займаліся, яны найперш паўставалі інтэлігентамі. Такой інтэлігенткай была і мама А. Статкевіча-Чабаганава, якая памерла на 80 годзе жыцця. «Яна не хацела, — прыгадвае аўтар кнігі, — каб яе пахавалі ў Засмужжы, дзе столькі ўсяго прыйшлося перажыць. Знайшла апошні спачын на Паўночных могілках у Мінску. Там усталяваны помнік і адначасова мемарыял усім маім рэпрэсіраваным у 1930-я гг. родзічам: мама ў тужлівай паставе абапіраецца на старажытную амфару з дваранскімі гербамі яе бацькоў — Статкевічаў і Карафа-Корбутаў. Каля ног мамы — крыж, на якім увекавечаны прозвішчы тых яе блізкіх, чые магілы невядомы...»

У вершы «Радавод», прысвечаным Анатолю Васільевічу, Мікола Мятліцкі піша:

Адтуль, дзе досвітак славянаў,
Дзе гул эпох, як гул грымот,
Вядзе Статкевіч-Чабаганаў
Маёй Айчыны радавод.

Так, вядзе ён радавод усёй Беларусі, гісторыя якой складаецца не толькі з вялікіх і малых падзей, а і з жыццяпісу асобных родаў, за радкамі якіх паўстаюць тыя, хто і з'яўляўся рухаючай сілай самой гісторыі. Робіць гэта А. Статкевіч-Чабаганаў годна, сумленна, з вялікай адказнасцю. Так робіць, што і іншым прыклад паказвае, як трэба ашчадна ставіцца да сваіх каранёў, як неабходна зазіраць у глыб свайго роду, каб даведацца, хто стаяў ля ягоных вытокаў і дзякуючы каму мы самі з'явіліся на гэтай зямлі. Несумненна, знаёмства з ягонай кнігай (добра, што яна выйшла ў двух варыянтах, на беларускай і рускай мове, а гэта, безумоўна, пашырае пашырэнню яе чытацкай аўдыторыі) падштухне шмат каго заняцца і ўласнымі росшукамі. Такіх жадаючых, безумоўна, стане больш, калі з'явяцца наступныя кнігі, у якіх ва ўсёй сваёй велічы і красе паўстануць роды Рудзінскіх, Тычынаў, Забэлаў, Глінскіх, Корзунаў, Карыбута-Дашкевічаў, Жаўрыдаў, Бучынскіх і многіх іншых. «Толькі, сябры мае, — хочацца працытаваць Уладзіміра Ліпскага, аўтара прадмовы «З паклонам і верай у нашчадкаў», — не расчароўвайцеся на першых кроках. Варта пачаць дзьмуць на попел згарэлага дрэва, і з-пад яго адкрыецца гарачае, зыркае вуголле, якое распаліць жаданы касцёр гістарычнай памяці».

Кастусь ЛЕШНІЦА

# БЕЛАРУСЬ—ТАДЖЫКІСТАН: МОСТ ДРУЖБЫ

***Козидавлат КОИМДОДОВ. Диалог ценностей: Таджикистан—Беларусь.*** Мн.: Кнігазбор, 2011.

Кнігі такога характару, як гэтая, аўтарам якой з’яўляецца Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Таджыкістан у Рэспубліцы Беларусь, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Таджыкістан у Літоўскай Рэспубліцы (па сумяшчальніцтве), Пастаянны Паўнамоцны прадстаўнік Рэспублікі Таджыкістан пры статутных і другіх органах СНД Казідаўлат Каімдодаў, — з’ява на сучасным этапе развіцця міжнароднай публіцыстыкі крыху нечаканая. Тым болей выданняў, якія адлюстроўваюць раней невядомыя краіны, з’ўляюцца вынікам паездак журналістаў у ЗША ці Кітай. Постсавецкая прастора часам выпадае з-пад увагі. А між тым, у блізкіх раней па палітычным укладзе жыцця краін шмат агульнага, не кажучы пра тое, што да нядаўняга часу былі і трывалыя грамадскія стасункі, сувязі паміж шараговымі грамадзянамі. Невыпадкова кніга К. Каімдодава адкрываецца наступнымі словамі: «Сяброўскія таджыкска-беларускія адносіны фарміраваліся ў асноўным у эпоху Савецкага Саюза. За сем дзесяцігоддзяў перапляліся і чалавечыя лёсы, і многія гістарычныя падзеі. Новая старонка адкрыта ў 1996 годзе пасля ўсталявання дыпламатычных адносін паміж нашымі краінамі і пасля адкрыцця Пасольства Рэспублікі Таджыкістан у горадзе Мінску…»

Кніга «Диалог ценностей: Таджикистан—Беларусь», на вокладцы якой — помнікі Рудакі і Кірылу Тураўскаму, складаецца з наступных раздзелаў: «…Заявіць пра сябе», «Перыяд незалежнасці», «Партнёрства — залог поспеху», «Фундамент дыпламатыі», «Перліны культуры». Аўтар грунтоўна асвятляе тое, як складваюцца міждзяржаўныя адносіны ўжо суверэнных краін Беларусь і Таджыкістан. Прыводзяцца многія прыклады, цікавыя факты і красамоўныя лічбы, што сведчаць пра трывалыя эканамічныя ўзаемаадносіны дзяржаў. К. Каімдодаў расказвае пра фарміраванне фундаменту партнёрства ў эканамічным сектары. Вылучае пры гэтым дзейнасць Гандлёвага прадстаўніцтва Рэспублікі Таджыкістан у Рэспубліцы Беларусь у перыяд з 1996 па 2003 гады. Дарэчы, у той час гандлёвы абарот паміж дзвюма краінамі склаў болей як 60 мільёнаў долараў ЗША. Якраз тады быў адчынены і беларуска-таджыкскі Гандлёвы дом. Увогуле, калі гаварыць пра пэўнае падсумоўванне зносін, то нельга не заўважыць, што з 1996 па 2012 гады паміж Беларуссю і Таджыкістанам заключана 55 дамоў і пагадненняў. Базавай асновай, зразумела, служыць своеасаблівая «канстытуцыя дружбы» — Дамова пра дружбу і супрацоўніцтва. Цяпер на разглядзе бакоў знаходзіцца 16 праектаў пагадненняў.

Як мне падаецца, кніга дыпламата магла б стаць добрай ілюстрацыяй для вывучэння студэнтамі факультэта міжнародных адносін Белдзяржуніверсітэта сучаснага стану беларуска-таджыкскіх палітычных, эканамічных і культурных адносін. Па-першае, з-за таго, што ў выданні прадстаўлены багаты фактаграфічны матэрыял. Па-другое, тэма разглядаецца, што называецца, з першых вуснаў. Матэрыял выкла-

дае непасрэдны арганізатар і ў многім ініцыятар добрых суседскіх адносін. Сапраўды, суседскіх, бо адлегласць, геаграфічная аддаленасць нашых краін не з'яўляюцца перашкодай у развіцці і пашырэнні зносін.

Асобна ў кнізе вылучаецца раздзел «Перліны культуры». Казідаўлат Каімдодаў расказвае і пра прысутнасць беларускай літаратуры ў Таджыкістане. Між іншым, цікавай магла падацца наступная статыстыка (прыводжу дадзеныя па «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі»). У 1918—1986 гадах у Мінску выдадзена 10 кніг у перакладзе з таджыкскай на беларускую мову. А ў Душанбэ — 24 кнігі беларускіх аўтараў на таджыкскай мове. Таджыкскі амбасадар расказвае ў асноўным пра сённяшні стан беларуска-таджыкскіх літаратурных сувязей. Варта зазначыць, што вялікі ўклад у пашырэнне гэтага працэсу робіць сёння таджыкскі кнігавыдавец і пісьменнік Ато Хамдам. К. Каімдодаў заўважае: «…вядомы таленавіты празаік, драматург, журналіст і перакладчык Ато Хамдам — паўнамоцны пасланнік таджыкскай літаратуры ў Беларусі, беларускай у Таджыкістане. Яго імя вядомае не толькі на постсавецкай прасторы, але і ў ЗША, Італіі, Польшчы, Прыбалтыцы, Афганістане, Іране, Пакістане і іншых краінах. Аўтар болей чым 50 кніг, ён адзначаны многімі прэстыжнымі прэміямі, член некалькіх творчых саюзаў і таксама з'яўляецца членам Саюза пісьменнікаў Беларусі. Яго творчая работа садзейнічала ўзнаўленню і далейшаму развіццю дружбы паміж літаратарамі краін СНД і далёкага замежжа. Ато Хамдам сумесна з пісьменнікам, перакладчыкам Леанідам Чыгрынам, ураджэнцам Беларусі, які жыве ўвесь час у Таджыкістане, піша гістарычныя раманы, адзін з якіх прысвечаны гераічнаму подзвігу Прэзідэнта Эмамалі Рахмона і таджыкскага народа…» Менавіта дзякуючы ініцыятывам Ато Хамдама, яго надзвычайнай энергічнай, шчырай любові да ўсяго беларускага, у Душанбэ ў апошнія чатыры гады пабачылі свет амаль дзесяць кніг аўтараў з Беларусі. Сярод іх — паэтычныя зборнікі Міколы Мятліцкага, Юрыя Сапажкова, два асобныя выданні казак Алеся Карлюкевіча, анталогія сучаснай беларускай прозы і паэзіі «Вячэрняе вогнішча», яшчэ адзін калектыўны зборнік беларускіх празаікаў, кніга афарызмаў Георгія Марчука; двойчы выйшла кніга Ато Хамдама і Алеся Карлюкевіча «Дружба народаў — дружба літаратур», прысвечаная беларуска-таджыкскім літаратурным сувязям. Зараз у Душанбэ пачаў выдавацца літаратурна-мастацкі часопіс «Іхціад — Саюз» (на дзвюх мовах — таджыкскай і рускай). У значнай частцы яго старонкі аддадзены беларускай літаратуры. Ато Хамдам — сталы ўдзельнік беларускага праекта па правядзенні міжнароднага «круглага стала» «Мастацкая літаратура як шлях адзін да аднаго». Штораз выступае ў яго праграме з грунтоўнымі дакладамі і паведамленнямі. Варта зазначыць, што ў асобе Ато Хамдама беларуская літаратура мае свайго шчырага прапагандыста ў іншых краінах Азіі — Пакістане, Іране, Афганістане, Кітаі, Японіі… І не выкарыстоўваць гэтую магчымасць нельга.

Сярод герояў кнігі К. Каімдодава — і народны артыст БССР, народны артыст СССР, добра вядомы ў Беларусі грамадскі дзеяч Расціслаў Янкоўскі. Нарыс пра яго спадар амбасадар назваў «Чалавек-легенда». «Яго свядомае жыццё пачалося ў Ленінабадзе (цяпер г. Хаджэнт). Бацьку, Івана Янкоўскага, накіравалі сюды на будаўніцтва атамнага прадпрыемства. Першыя ролі артыста Р. Янкоўскага ў тэатры, першы заробак — былі ў нашай краіне, у нас ён стаў чэмпіёнам Таджыкістана па боксе сярод юнакоў… На спаборніцтвах сустрэўся са сваёй любімай і адзінай жонкай Нінай Чэйшвілі, якая была вядучай спартсменкай па бегу і жыла ў Сталінабадзе (цяпер г. Душанбэ)…», — так пачынае свой расповед аўтар пра стасункі Расціслава Янкоўскага з Таджыкістанам.

Яшчэ адно знакавае для беларуска-таджыкскіх культурных стасункаў імя — заслужаны дзеяч мастацтваў Таджыкскай ССР рэжысёр дакументальнага кіно Маргарыта Касымава.

З 1993 гада яна жыве ў Беларусі, а раней, пачынаючы з 1957, працавала на «Таджыкфільме». «Яе фільмы часта параўноўваюць з фільмамі Эміра Кустурыцы, — піша аўтар кнігі, — паколькі яны сугучныя часу, канкрэтныя і добра перадаюць годнасць свайго народа». І далей: «…варта толькі выказаць удзячнасць Богу і кіраўніцтву краіны за тое, што ў час падзей грамадзянскай вайны ў Таджыкістане беларусы працягнулі руку падтрымкі нашай зямлячцы».

Кніга «Диалог ценностей…» падштурхоўвае да многіх развaг. Па-першае, і на тэму пра тое, што каторамy з дзяржаўных выдавецтваў варта было б наўмысна апекавацца тэмай міжнародных стасункаў Беларусі. Ды яшчэ прадаставіць замежным дыпламатам магчымасць самім расказаць пра гісторыю і сучасны стан зносін з нашай краінай. Па-другое, вельмі важна пашырыць прастору ўвагі да вывучэння і развіцця двухбаковых сувязей у галіне культуры, мастацтва, літаратуры. Стасункі ў гэтых галінах — трывалы мост для фарміравання шырокага рэчышча народнай дыпламатыі, а следам і трывалага фундаменту для ўмацавання эканамічных і палітычных зносін.

Кніга Казідаўлата Каімдодава «Диалог ценностей…» ілюстраваная фотаздымкамі, якія дапаўняюць расповед пра беларуска-таджыкскую дружбу. А яшчэ ў кнізе змешчаны тэкст верша Францыска Скарыны ў перакладзе на рускую і таджыкскую мовы. На мову Рудакі гімн нацыянальнаму гонару, чалавечай годнасці, маральнаму і духоўнаму ўзвышэнню чалавека, дзве страфы, у якія першадрукар уклаў столькі незвычайнага святла, пераўвасобіў народны паэт Таджыкістана Саідалі Мамур. Дарэчы, ён з’яўляецца і аўтарам цыкла вершаў пра вогненную Хатынь, напісанага каля 40 гадоў назад.

Магчыма, кнігу К. Каімдодава варта было б перакласці на беларускую мову і выдаць у палепшаным афармленні. А ў якасці дадатку змясціць раней перакладзеныя на мову Коласа і Купалы вершы таджыкскіх паэтаў, якія ваявалі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Беларусі: Абдужабара Кахары, Ашырмата Назарава, Мухіддзіна Фархата, Хабіба Юсуфі. Першы з іх змагаўся з гітлераўцамі на Віцебшчыне. Пад Гарадком быў цяжка паранены. Неаднаразова прыязджаў пасля вайны ў Беларусь. У выніку гэтых паездак напісаў цыкл вершаў «Кветкі». Гарадок, Віцебск, Полацк, Ушачы — беларускія гарады, да болю якіх у Вялікую Айчынную спрычыніўся Ашырмат Назараў. Мухіддзін Фархат вызваляў ад гітлераўцаў Пінск. «Злачынцы! // Надышоў адплаты час. / Куды ўцякаеце наперагонкі?.. // Дамоў? / Да жонак і дзяцей?.. // І ў вас, — / і ў вас, — // І дзеці ёсць, і жонкі…» — так пачынаецца верш Хабіба Юсуфі, камандзіра артылерыйскай батарэі. Ён таксама ваяваў у Беларусі. А загінуў па-геройску ў лютым 1945 года пад Варшавай… Як бачыце, тэма беларуска-таджыкскага пабрацімства падаецца бясконцай. І, несумненна, будзе працяг у прасторы яе даследавання.

Мікалай КРЫЎКО

# МОЎНАЕ БАГАЦЦЕ ІВАЦЭВІЦКАЙ ЗЯМЛІ

**Алесь ЗАЙКА. Дыялектны слоўнік Косаўшчыны.** Слонімская друкарня, 2011.

Косаўшчына займае значную частку Івацэвіцкага раёна, а гэта больш за 60 вёсак, размешчаных вакол мястэчка Косава, якое значны час было цэнтрам павета, а з 1939 па 1947 гады цэнтрам Косаўскага раёна. Гаворкі на гэтай тэрыторыі адносяцца да гродзенска-баранавіцкай дыялектнай групы, якая вельмі блізкая да беларускай літаратурнай мовы і вызначае яе нацыянальную спецыфіку.

Аўтар слоўніка, няўрымслівы, руплівы збіральнік народнай лексікі і ўраджэнец Косаўшчыны Алесь Зайка, сабраў і сістэматызаваў каля чатырох тысяч мясцовых слоў. А. Зайка з добрым веданнем справы (сам філолаг з вышэйшай адукацыяй) аддаў 35 гадоў збіральніцкай працы. Моўнае багацце ім падслухоўвалася і запісвалася з жывой гаворкі жыхароў родных мясцін. Вялікую ролю ў гэтай справе адыгралі ягоныя бацькі. Таму, калі гартаеш старонкі гэтага выдання, літаральна чуеш жывыя галасы мясцовых людзей.

У слоўніку знайшлі сваё адлюстраванне самыя розныя сэнсавыя словы. Гэта назвы адзення, абутку, страў, прадметаў ужытку, сельскагаспадарчая лексіка, тэрміны рыбалоўства, будаўніцтва, ткацтва, лясной гаспадаркі, медыцынская, ветэрынарная і інш. лексіка. Значнае месца займаюць назвы траў, кветак, грыбоў і іншых батанічных паняццяў. Думаецца, у якасці ілюстрацый неабходна прывесці наступныя з іх: **аі́р** — аер; **апе́нька во́ўчая** — апенька несапраўдная; **апу́хлік** — грыб падбярозавік; **арэ́й** — аер; **бадзя́к** — асот; **барві́нец** — барвенак малы; **ба́рынькі** — ірга; **бэз белы** — бузіна; **бо́жае дзе́рава** — палын; **буліна́** — палын звычайны; **вадзяны́ перац** — драсён вадзяны; **во́ўчая лісі́ца** — лісічка несапраўдная; **во́ўчая мя́та** — чысцік лясны і балотны; **глуха́я крапіва́** — яснотка; **дзевясі́дло** — дзівасіл высокі; **каша́чая ла́пка** — агаткі двухдомныя; **квасу́ха** макруха яловая; **ко́злікі** — 1) рагулькі; 2) ворлік звычайны; **купа́йло** — арніка горная; **мухая́рка** — мухамор чырвоны; **мучані́чнік** — талакнянка; **мятля́к** — мятліца; **насту́лькі** — настурцыя; **ніжы́перснік** дуброўка белая; **пе́рачнік** — назва грыба; **петушо́к** — грыб павуціннік чырвоны; **румя́нец** — рамонак; **саро́чы ляно́к** — назва расліны; **свіна́рка** — падгруздак; **сухаве́йка** — цмен пясчаны; **ура́знік** — крынічнік; **шале́нец** — блёкат чорны і інш.

Вялікае месца ў слоўніку займаюць арыгінальныя мясцовыя словы: **абе́ртуха** — луста хлеба на ўвесь бохан; **аблюднець** — пабыць у людзях, набрацца жыццёвага вопыту; **агно́ек** — гнілое дрэва; **агу́зкаваты** — каржакаваты (пра чалавека, яго пастаць); **аднару́чка** — мера лёну, роўная адной жмені; **адры́нак** — трохсценак каля хлява; **аступо́к** — узвышанае месца сярод балота, парослае лесам; **асу́шак** — сухі выраст у спечаным хлебе; **ашля́гнуць** — аслабець; **біча́ўнік** — 1) пратаптаная сцежка па

балоце; 2) паласа зямлі абапал канавы, дарогі; **бу́лач** — вялікі нож; **бу́ркаўка** — костка без мяса; **ве́трына** — асаблівы пах, які чуваць ад сабакі; **вы́пуст** — месца, пустое ад пасеву, агрэх; **вязы́** — карак; **гі́мель** — нячысцік, злы дух; **груза́лкі** — цвёрдыя камячкі бульбы ў стоўчанай бульбяной кашы; **за́пліска** — дубец; **кузьма́** — пасудзіна для ягад, зробленая з кары дрэў; **куля́ба** — вялікі кусок мяса з косцю; **лішпа́нка** — рыдлёўка; **метлюга́** — буран, завея; **мідні́ца** — вялікая міска; **не́каш** — перастоеная, няскошаная трава; **не́мера** — балоцістая ўпадзіна ў непраходным лесе; **не́смач** — усё, што не мае смаку; **ні́шпарыць** — пільна шукаць нешта, вышукваць; **но́рнік** — запаслівы чалавек; **няві́нніца** — паклёп, нагавор; **няўда́** — кепска, дрэнна; **па́дальніца** — адходы пры апрацоўцы льну; **падво́дзіцца** — дражніцца, цвяліць; **падсе́дзець** — высачыць, падпільнаваць; **падсцёл** — подсціл; **пазарны́** — яркі, з прыгожымі ўзорамі (пра вытканае); **паку́лінка** — адна сцяблінка лёну; **пале́па** — сумесь гліны з апількамі; **пало́цце** — кара з лазы; **паражэ́ля** — парадзіха; **паста́ца** — ліхаманка; **пацёс** — столь; **ро́шча** — рост раслін; **самату́ж** — без дапамогі цяглавай сілы, сам; **следзь** — селядзец; **стрэмп** — частка зламанага дрэва, якая засталася стаяць; **сыро́мля** — сырыя дровы; **таўке́ня** — бульбяная каша; **ту́бельнік** — старажыл, тутэйшы жыхар; **уру́на** — рунь; **цапу́чы** — учэпісты, хваткі; **чыхатка** — чханне; **шлык** — касмыль; **шуга́й** — капуста, у якой не завязалася галоўка; **язві́на** — ясень.

Характэрнай асаблівасцю любых гаворак мовы з’яўляецца наяўнасць у жывой мове, у маўленні жыхароў немалой колькасці экспрэсіўнай, эмацыянальна-ацэначнай, характарыстычнай лексікі. Не выключэнне і касаўскі моўны рэгіён: **абабо́ўчыць** і **абабэ́нчыць** — моцна, знянацку ўдарыць; **абдзі́рус** — рухавы, шустры хлопец, які не шануе адзення; **агалаве́чыць** — стукнуць па галаве; **аглюднік** — нелюдзімы чалавек; **бізу́н** — неслух; **бурва́лак** — здаровае, тоўстае дзіця; **ва́льнуцца** — грымнуцца, бразнуцца; **галі́тар** — бедны чалавек; **гарцы́ля** — жанчына, апранутая без густу; **е́лды** — валасы; **згарну́цца** — памерці; **ко́млач** — чалавек з густымі раскудлачанымі валасамі; **ламану́ць** — з’есці, умалаціць; **маўмыга** — хмуры, маўклівы чалавек; **ны́гаць** — збіраць па адной ягадцы; **панка́ць** — заходзіцца ад смеху; **ро́сквась** — бездарожжа; **ро́скісь** — адліга, слата; **рэ́йдаць** — гаварыць бязглуздзіцу, недарэчнае; **со́йба** — насатая жанчына; **уя́да** — прыдзіра; **хру́ля** — той, хто доўгі час хварэе, не папраўляецца; **шкара́да** — непаслухмяны падлетак; **шэ́ўкаць** — гаварыць няўцямна, невыразна і інш.

На жаль, абмежаваны аб’ём рэцэнзіі не дазваляе паказаць усё моўнае багацце, пададзенае ў «Дыялектным слоўніку» А. Зайкі. Хацелася б, каб спецыялісты, аматары роднага слова, майстры мастацкага слова абавязкова пазнаёміліся з гэтым выданнем, што, безумоўна, пойдзе ім на карысць.

Крытычныя заўвагі наступныя. Так, семантычная частка прыметніка *акружаны* ў слоўніку пададзена так: светлы круг вакол месяца. Тлумачыцца назоўнік *круг*, а сітуацыя вымагае, што павінен тлумачыцца прыметнік *акружаны* і адпаведна словам-прыметнікам ці дзеепрыметнікам, тыпу: акаймаваны, абведзены, такі, вакол якога маецца светлы круг (пра месяц). Рэестравы дзеяслоў (напрыклад, закончанага трывання) мусіць мець у тлумачальнай частцы іншы дзеяслоў (адпаведнік, сінонім) такога ж трывання. У слоўніку ж бачым: **апало́хацца** *зак.* Моцна каго-н., чаго-н. баяцца. Пры дзеяслове *джвагнуць* (са значэннем ‘стукнуць, ударыць’) падаецца граматычная памета *незак.* (незакончанае трыванне), а патрэбна пазнака *зак.* Артыкул на слова *муль* выглядае наступным чынам: **муль** *м.* Твань, іл. *У гэтым возяры мулі многа.* З кантэксту ж відаць, што тут слова *муль* жаночага роду, а не мужчынска-

га. У тлумачальнай частцы да слова *нанығаць* трэба дзеяслоў закончанага трывання *назбіраць*. Пры цікавым слове *папу́шка* ў слоўнік чытаем: пучок сушаных лісцяў тытуню, іншых раслін. Але ж формаў роднага склону тыпу *лісцяў, паленняў, бярвенняў, калоссяў, палоззяў* у беларускай літаратурнай мове няма. На вялікі жаль, такія формы ў сваёй моватворчасці ўжываюць і некаторыя пісьменнікі. Рэестравым у слоўніку А. Зайкі з'яўляецца слова *скрыпу́н*, а ў ілюстрацыі бачым: .. *заварваюць лісты скрыпе́ню* (замест *скрыпуну́*). Заўважаюцца выпадкі, калі слова адсылаецца да іншага, а таго іншага ў слоўніку і няма (так, словы *бадзяк* 2, *бальзам* 1, *бальсан* тлумачацца: тое, што і алой, а гэтае слова адсутнічае).

Гэтыя заўвагі ніяк не зніжаюць высокай вартасці і значнасці гэтага лексікаграфічнага даведніка. Ды й выдадзены ён высакаякасна, багата, шыкоўна.

Алесь Зайка падрыхтаваў да друку і даведнікі: «Мікратапанімія Івацэвіччыны», «Паселішчы Івацэвіччыны», «Фразеалагічны слоўнік Касаўшчыны», «Прымаўкі і прыказкі Касаўшчыны». Безумоўна, «Дыялектны слоўнік Касаўшчыны» ў комплексе з імі з'явіцца вялікім укладам у распрацоўку і вывучэнне мовазнаўчых, культуралагічных і этнакультурных праблем баранавіцка-гродзенскага рэгіёна. Гэты комплекс прац А. Зайкі неабходна разглядаць як своеасаблівую моўнакраязнаўчую энцыклапедыю названага кутка Беларусі.

Міхась КАВАЛЁЎ

# ЦЯПЛО БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

**Уладзімір ГАЎРЫЛОВІЧ. Выбраныя творы ў двух тамах.** Мазыр, Калор, 2010.

Пяру Уладзіміра Гаўрыловіча належыць шэраг твораў розных жанраў: раманы, аповесці, апавяданні, эсэ… І ўсе яны прысвечаны роднаму краю — Жыткаўшчыне, яе цудоўным людзям — палешукам. Пісьменнік імкнецца паказаць іх у часе і прасторы, у вечнай стабільнасці і пастаяннай зменлівасці.

Як адзначыў у свой час Іван Штэйнер, У. Гаўрыловіч глядзіць на прыроду, людзей вачыма сына гэтай зямлі, ён імкнецца перадаць не знешнія выйгрышныя абрысы, а заглянуць у душу палешука, адчуць і пераказаць, што робіцца там, якія страсці і жарсці палаюць у душы гэтага, здавалася б, памяркоўнага і незласлівага чалавека. Перш за ўсё ў абліччы тутэйшага ён ўбачыў таго, хто па сваім унутраным харастве не саступіць нікому.

У двухтомніку змешчаны лепшыя творы пісьменніка. Першы том складаюць раманы «Забранае шчасце» і «Цяпло маладзіка», аповесці «Глыбокія карані» і «Анёлы не вяртаюцца», апавяданні, гістарычная драма «Маленькая каралева Еўдакія Тураўская». У другі ўвайшлі дакументальныя аповесці «Дзе над горадам лунаюць буслы», «Сівая легенда», «Ты малітва мая, Вятчын!», «Жыватворныя крыніцы Палесся», «Памятаць, каб жыць», «Вясна высокага неба», эсэ, нарысы, партрэты сучаснікаў, інтэрв'ю. Напісаныя на працягу чвэрці стагоддзя, многія творы з іх добра вядомы чытачу, друкаваліся ў беларускіх і замежных выданнях, выходзілі асобнымі кніжкамі, але некаторыя прадстаўлены ўпершыню. У. Гаўрыловіч адметны перш за ўсё тым, што працягвае класічную нацыянальную традыцыю, прадстаўленую галоўным чынам Якубам Коласам, Іванам Мележам, Іванам Шамякіным. Да прыкладу, раман «Забранае шчасце» — з'ява ў мастацкім асэнсаванні долі беларуса і Беларусі на пакручастых сцежках гісторыі.

Падзеі твора адбываюцца на радзіме аўтара, каля балотнага Князь-возера ў 30-я гады мінулага стагоддзя. Людзі тут вякамі жылі са свае працы, большасць «гарбацілася» на зямлі, здабываючы кавалак хлеба. Былі, праўда, і заможныя, але чаго гэта ім каштавала! Прыгадваецца Лявон Бушмар з аднайменнай аповесці Кузьмы Чорнага, які да самазабыцця працаваў на зямлі, імкнуўся прыдбаць яе больш, дбаў аб дзецях, якім трэба будзе працягваць нялёгкую сялянскую справу. «Бушмараўшчына» была і на гэтай зямлі: бацька галоўнага героя рамана Рыгора Расевіча — стары хутаранец — і сам працаваў не прысядаючы, і сына выхоўваў такім жа. Перакананa паказвае яго ў час касьбы: «Нарэшце малады касец, чарнявы высокі хлопец, давёўшы пракос да канца, змогся. Ён спыніўся, каб перавесці дыханне. Зрэбная сарочка набрыняла потам, прыліпла да спіны — не адарваць. Намоклі вышэй каленяў і штаны — вада падступала ўжо да лытак, — адна толькі выгода: прыемна халадзіла ногі. Рыгор, так звалі

касца, на вялікай сенажаці-ўболатку быў адзін. Рукавом сарочкі ён выцер узмакрэлы лоб. Цяжка ўздыхнуў. Даймала стома ў нагах, у галаве гудзела, ныла спіна. Не дзіва: касіў, не шкадуючы сябе. Быццам назло камусьці. Без перапынку. Ад расы, ледзь толькі заранілася, зачырванелася — затуманілася ў аблоках і на зямлі.

Стаяў, адпачываў хвіліны дзве, не больш. Крыху аддыхаўся, пацёр рукамі шыю. Напякло, аж балела. Зноў парушыў касу — пайшоў наперад. Займаў многа, але тым не менш ішоў па-мужчынску цвёрда, упэўнена…»

Для маладога хлопца пачынаюцца першыя жыццёвыя выпрабаванні: закахаўся ў дзяўчыну з беднай сям'і, а бацька катэгарычна забараніў браць Верку замуж, хоць яна таксама пакахала Рыгора. Яго хуценька ажанілі на дачцэ іншага хутаранца, Ядзі, дзяўчыне хоць і добрай, але ж ім нелюбімай.

А тут новая бяда — масавая калектывізацыя, раскулачванне. Гэтыя падзеі сталі трагедыяй для маладых людзей. Грамадскія катаклізмы прынеслі гора яшчэ адной маладой пары — Ігнату і Ганьцы, дый іншым персанажам твора. Нават больш таго — у многіх сем'ях дзеці пайшлі супраць бацькоў і наадварот. Сапраўдная народная трагедыя, якую ўчынілі розныя Калатовічы ды Бадзькі, нягоднікі і няўмекі, для якіх не было нічога святога і якія дарваліся да ўлады. А таксама сельскія люмпены і п'яніцы тыпу Лейбы.

Пісьменнік праўдзіва адлюстроўвае жыццё і людзей у ім. І сярод моцных гаспадароў, нават заможных, былі добрыя, а сярод бедных сустракаліся нікчэмныя. Як тут не ўспомніць словы Васіля Быкава пра тое, што людзі падзяляюцца не па сацыяльных ці яшчэ якіх прыкметах, а на добрых і злых.

Так вясковы бальшавік Міронччык, які мае вялікую ўладу, — старшыня сельскага Савета — дапамагае многім у бядзе, бо сам па натуры добры, а вось былая цешча Рыгора Расевіча выдала яго, з-за гэтага паплаціўся жыццём і муж яе, стары Скрыпач.

У кожнага з герояў пісьменніка ў той жорсткі час была свая неаспрэчная праўда, якая, гаворачы словамі У. Гаўрыловіча, вяла да трагічнай, непазбежнай пагібелі адных, хто быў не згодны з ломкай жыцця ці не паспеў да яе прыстасавацца, і да немінучай, не менш страшнай, маральнай гібелі другіх, хто іншага выбару, як падпарадкавацца, не бачыў.

Уладзімір Гаўрыловіч піша шчыра, праўдзіва, пранікнёна, ярка, каларытна, лёсы герояў прапускае праз сваё сэрца. Усе беды, пакуты ягоныя персанажы змаглі пераўжыць толькі дзякуючы каханню — моцнаму, усёпаглынальнаму пачуццю, якому засталіся верныя, нягледзячы на неймаверныя жыццёвыя выпрабаванні. Зламаныя лёсы, смерць многіх — таксама плата за сапраўднае каханне.

Чацвёртая частка рамана так і называецца «Плата за каханне». Яна і дала назву ўсёй кнізе У. Гаўрыловіча, якая ў 2007 годзе выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў серыі «Беларуская проза XXI стагоддзя», і за якую аўтар атрымаў першую рэспубліканскую літаратурную прэмію «Залаты Купідон» у намінацыі «проза».

У новым рамане «Цяпло маладзіка» пісьменнік па-мастацку даследуе сучасны дзень праз прызму часу. У аснове твора незвычайны сюжэт — каханне нямецкага афіцэра і беларускай дзяўчыны, паляшучкі, падпольшчыцы, партызанкі ў час Вялікай Айчыннай вайны. Аўтару ўдалося стварыць цікавыя, яркія чалавечыя характары, а гэта, як вядома, сведчанне высокага прафесіянальнага майстэрства.

Змешчаныя ў двухтомніку аповесці, апавяданні таксама прысвечаны жыццю палешукоў, сапраўдных працаўнікоў зямлі, якія заўсёды застаюцца сапраўднымі людзьмі, хоць і сустракаюцца на іх шляху такія тыпы, як Халадок — начальнік райсельгасхарчу ў аповесці «Глыбокія карані», або Ірына, дачка старога Сцёпчыка, якому далі прытулак чужыя людзі (апавяданне «Вяртанне бацькі»).

У сваіх творах — займальных, арыгінальных, напісаных з пазіцыі сучаснасці — пісьменнік паказвае жыццё такім, якім яно ёсць: складаным, супярэчлівым. Ягоныя персанажы — сапраўды народныя тыпы — кожны па-свойму шукае ў ім апору. Для галоўнага героя аповесці «Глыбокія карані» Сцяпана Ільіча, які даўно і плённа ўзначальвае калгас, апорай сталі павага аднавяскоўцаў, вера ў яго як кіраўніка, які ў складаных эканамічных умовах робіць усё магчымае, каб жылося лепш, каб развівалася вытворчасць, мацнела гаспадарка. І нават патрабаванні кіраўнікоў кшталту Халадка не могуць прымусіць яго здрадзіць людзям, якія спадзяюцца на свайго старшыню.

А для старой, нямоглай ужо Ганны Парэйкі апорай у жыцці сталі адносіны суседзяў, Вольгі і яе мужа Іванчыка, якія сваёй дабрынёй падтрымліваюць бабульку, якая дзень пры дні вось ужо многа год чакае свайго сына Сцёпку (апавяданне «На мяжы»). Чакае і верыць, што сын абавязкова прыедзе да маці. Так, дарэчы, і здарылася, хоць і позна...

Паводле меркавання Васіля Жураўлёва, пісьменніку, каб наблізіцца ў сваім разуменні да чагосьці вялікага і складанага, трэба і самому ўзняцца на адпаведную ступень падрыхтаванасці. У. Гаўрыловіч у сваіх творах праявіў сапраўднае майстэрства. Ён добра ведае гісторыю, жыццё, мову свайго роднага краю, ведае і любіць, бо інакш у чытача не з'яўляліся б слёзы на вачах пры чытанні напісанага ім, не шчымела б сэрца, не было б балюча за лёс герояў. Храналагічна падзеі твораў, змешчаных у двухтомніку, ахопліваюць перыяд ад пачатку XX стагоддзя да нашых дзён. Таму не будзе перабольшаннем сказаць, што напісанае У. Гаўрыловічам — літаратурная гісторыя жыцця палешукоў, прычым у самыя складаныя і супярэчлівыя моманты.

**Арцём ХАМЕНКА**

# ШЧАСЦЯ БОЛЬШ, ЯК НА НЕБЕ ЗОР

Кожны куток Беларусі нечым вылучаецца сярод іншых. А чым адметна Смаргоншчына? Гледзячы з якога боку да гэтага пытання падысці. Калі мець на ўвазе працоўныя дасягненні, дык трэба сказаць, што гэта развітая прамысловасць і сельская гаспадарка. Дарэчы, мабыць, нямногія (не прымаючы ў разлік саміх смаргонцаў) і ведаюць, што ў часы Савецкага Саюза быў распрацаваны праект, паводле якога Смаргонь мусіла стаць горадам-спадарожнікам Мінска. З адпаведным развіццём прамысловасці. Зразумела, і інфраструктуры. А чаму б і не! Хоць і ўваходзіць Смаргонскі раён у склад Гродзенскай вобласці, адсюль да нашай сталіцы куды бліжэй, чым да Гродна.

Кідаючы ж позірк у дзень мінулы, нельга не ўспомніць пра Крэўскі замак. Ад яго, праўда, засталіся толькі руіны, дый тых не шмат, але яны куды болей грэюць сэрца беларуса, чым некаторыя велічныя будынкі, узведзеныя па праектах-шаблонах. Дый многія знакамітыя людзі выйшлі з гэтых мясцін. Нямала і тых, хто, нарадзіўшыся ў іншых краях, у сваёй біяграфіі прапісаў смаргонскую зямлю яркімі радкамі, лішні раз засведчыўшы, як шмат зор на смаргонскім небасхіле.

Дарэчы, вы, мабыць, любіце цудоўную песню, якая так і называецца — «Колькі ў небе зор»?

Колькі ў небе зор — цяжка палічыць,
Толькі з іх адна найярчэй гарыць.
Гэта ты, мая зорка ясная,
Ты, любоў мая непагасная.

Ў працы і ў жыцці добра нам з табой
Марыць і любіць з песняй маладой.
Дзе так добра жыць, дзе такі прастор,
Шчасця больш у нас, як на небе зор.

Магчыма, ведаеце і тое, што аўтар гэтай песні (яе называюць яшчэ «беларускім вальсам») — і слоў і музыкі — Аляксандр Шыдлоўскі. Нарадзіўся ж ён у вёсцы Мінкі цяперашняга Смаргонскага раёна. Аляксандр Канстанцінавіч пасля сябе пакінуў каля 300 песень, яму было прысвоена званне ганаровага грамадзяніна не толькі горада Смаргоні, а і горада Гродна. Але менавіта песня «Колькі ў небе зор» набыла самую вялікую вядомасць. Надта ж хораша ўдалося ў ёй аўтару спалучыць каханне да блізкага чалавека і любоў да зямлі, што назаўсёды жыве ў сэрцы.

Хіба можна пасля ўсяго ні паспрабаваць бліжэй пазнаёміцца са Смаргоншчынай, «дзе так добра жыць, дзе такі прастор». Сягнуўшы з сівой даўніны яго ў дзень сённяшні? «Капаць» жа трэба вельмі глыбока.

Беларуская зямля, як вядома, была спрадвеку заселена. Не выключэнне і Смаргоншчына. Першыя людзі з'явіліся тут яшчэ ў 8-м тысячагоддзі да нашай эры. Гэта ўстаноўлена дзякуючы праведзеным у розны час раскопкам. Абследаваць жа ёсць што: на тэрыторыі раёна знаходзяцца шматлікія помнікі археалогіі. Аднак найболей вывучаны перыяд пачынаецца з першай паловы XIII стагоддзя,

калі Смаргоншчына адносілася да гістарычнай вобласці Нальшаны (сустракаецца і варыянт Нальшчаны), сталіцай якой з’яўлялася Крэва. У 1264 годзе вялікі князь Войшалк заваяваў Нальшаны і ўключыў іх у склад Вялікага Княства Літоўскага. Асабліва важнай падзеяй стала заключэнне 14 жніўня 1385 года Крэўскай уніі — саюза паміж ВКЛ і Каралеўствам Польскім. Яна, а таксама пазнейшая, Віленска-Радомская унія 1401 года адыгралі важную ролю ў разгроме крыжакоў у Грунвальдскай бітве ў 1410 годзе.

Сама ж Смаргонь упершыню згадваецца ў дакуменце, датаваным кастрычнікам 1503 года, калі ўладальнік гэтага мястэчка Юры Зяновіч паведамляе пра выдзяленне сродкаў на будаўніцтва прыходскага касцёла Прачыстай Дзевы Марыі і Святога Мікалая. Безумоўна, паселішча на гэтым месцы было і раней, аднак у гістарычнай навуцы, як вядома, даўно існуе такое правіла: узрост таго ці іншага населенага пункта адлічваецца менавіта з года яго першага пісьмовага ўпамінання.

Да месца пытанне: адкуль пайшла менавіта такая назва — Смаргонь? І сапраўды, адкуль?

## Трэба прачытаць так...

Казка — хлусня, ды ў ёй намёк... Зрэшты, гутарка зусім не пра казку пойдзе. Ёсць нямала і іншых цікавых фальклорных жанраў. Узяць хоць бы легенду. Слова гэта зусім не славянскага паходжання, як можа падацца на першы погляд, а лацінскага. Legenda літаральна перакладаецца, як тое, што трэба прачытаць. А паколькі тапанімічныя легенды тлумачаць узнікненне розных геаграфічных назваў, з імі і сапраўды нялішне пазнаёміцца, калі хочаш даведацца паходжанне якой-небудзь з іх. Што да Смаргоні, то, аказваецца, невядомыя аўтары з народа, высвятляючы назву яе, пастараліся, як ніколі. Да нашых дзён дайшла не адна легенда пра паходжанне гэта населенага пункта, як звычайна бывае ў падобных выпадках, а нават цэлых тры. І кожная з іх па-свойму цікавая. Таму прывядзём усе іх.

Паводле першай легенды, самай распаўсюджанай і сюжэтна-складанай, усё адбывалася такім чынам. Даўным-даўно нейкая жанчына, якая жыла ў гэтых краях, пахаваўшы мужа, адна выхоўвала семярых дзяцей — шасцёра сыноў і дачку Гэльку. Жылі яны, хоць і не багата, ды ў сяброўстве і згодзе. Аднак час ішоў, прыйшла пара дзецям і пра ўласныя сем’і падумаць. А якая сялянская сям’я без зямлі?! Адна закавыка: як падзяліць надзел, калі ён такі невялікі. Думалі-думалі браты, гадалі, што рабіць. Усё ж яны — мужчыны, за імі рашаючае слова. Нарэшце сышліся на тым, каб адправіцца ў свет белы — грошай зарабіць, а за іх зямлі прыкупіць.

Дома засталіся толькі іхняя маці і сястра. Тыдзень прайшоў, месяц мінуў, год на зыходзе, а пра братоў ні слыху, ні дыху. Занепакоіліся маці з дачкой, хоць бы чаго дрэннага з імі не здарылася. Ды звестак па-ранейшаму ніякіх. Цягам часу ад доўгага чакання зусім нядобра стала. Падазвала маці да сябе Гэльку.

— Дачушка, — уздыхнула яна, — хоць і не хочацца мне адной заставацца, ды іншага выйсця няма.

Гэлька адразу ж усё зразумела:

— Калі адпраўляцца, мамачка?

— Хоць сёння, — адказала маці.

Запрэгла Гэлька коніка — і ў дарогу. Каго ні сустрэне, пра братоў цікавіцца. Людзі толькі добрым словам адклікаюцца аб іх, а вось куды пайшлі — нічога пэўнага сказаць не могуць. Ці мала дарог на свеце. Як тут сказаць, каторую выбралі... Не ведае ўжо Гэлька, што і рабіць, зусім зажурылася. Ці хоць жывыя яны — непакоіцца. Усялякае ж магло здарыцца.

Аднойчы сустрэла яна на беразе нейкай рэчкі дзядка.

— Я ж толькі ўчора з імі размаўляў, — сказаў ён, калі дзяўчына расказала яму, куды шлях-дарогу трымае.

— Хіба яны блізка адсюль? — узрадавалася Гэлька.

— Ды за тым лесам, што наперадзе віднеецца, жывуць.

Падзякавала Гэлька старому, ды хутчэй у той бок, у які дзядок паказаў. Неўзабаве каля лесу апынулася, а каля яго азярцо ўбачыла. Толькі пачала пад'язджаць да яго, як з чарота нейкая старая выйшла.

— Куды, прыгажуня, шлях-дарогу трымаеш? — спытала яна Гэльку.

Тая ўсё, як ёсць, расказала.

А старая ў адказ:

— Бачу, што ты — прыгожая, толькі вельмі ж брудная.

Яно і не дзіўна, столькі ж дзён у дарозе.

Не паспела Гэлька сказаць гэта ў сваё апраўданне, як старая прапанавала ёй:

— Я коніка твайго пасцерагу, а ты ў гэты час выкупайся. А потым і паедзем братоў тваіх шукаць.

Толькі дзяўчына ў ваду, як старая, а гэта злая вядзьмарка была, скінула з сябе лахманы, пераапранулася ў адзежу Гэлькі і стала як дзве кроплі вады падобная на яе.

Выйшла Гэлька з вады, зірнула на тое месца, дзе да гэтага стаяла старая. Ад пабачанага ногі ў яе падкасіліся. Перад ёю была... яна сама. Нічога не разумее дзяўчына. Слязьмі ад страху залілася, а вядзьмарка прыкрыкнула на яе:

— Замоўкні! Я ўладальніца гэтых месцаў. Пярэчыць мне пачнеш, кепска табе будзе. І ўцякаць не падумай, калі што — з-пад зямлі дастану!

Нічога Гэльцы не заставалася, як апрануць на сябе лахманы старой.

— А цяпер, — загадала старая, — лезь на воз і сядзі ціха, як мыш пад венікам. Помніш, што я табе казала?

— Помню, — скрушна адказала Гэлька.

Браты, вядома ж, прынялі вядзьмарку за сваю родную сястру. На Гэльку і ўвагі не звярнулі, ці мала старых па свеце бадзяецца. А запалоханая дзяўчына, ні слова не сказаўшы, пайшла шукаць сабе прыстанішча. Вядзьмарцы толькі гэта і трэба. Стала жыць ды пажываць у даверлівых Гэльчыных братоў. Тыя не ведаюць, як лепш і дагадзіць ёй. Засумавалі ж па сястрыцы, таму і радуюцца, што яна поруч з імі. Пра «старую» ў лахманах, якая разам з ёю прыехала, адразу забыліся.

Сядзяць неяк у хаце ля расчыненага акенца, размаўляюць. Раптам прыляцела зязюля, кукаваць пачала. Толькі сумна неяк вельмі. Заўважыў гэта старэйшы брат, занепакоіўся. Вядзьмарка, каб ён не ўчуў, што і да чаго, пачала гучна смяяцца. Спыніў яе Гэльчын брат сурова: «Замоўкні!» А птушка працягвае кукаваць. Прыслухаліся браты ўважлівей і пачулі:

— Ку-ку, дрэннае вам у руку.

Вядзьмарка ж яшчэ гучней стала смяяцца. Тут ужо малодшы брат здагадаўся, што смех гэты — не выпадковы. Не хоча яна, каб пачулі браты, пра што зязюля кукуе. Аднак выгляду не падаў, а толькі сказаў той, якую яны ўспрымалі сястрой:

— Ідзі, Гэлька, выспіся. Сёння на начлег цябе возьмем. То адпачні крыху.

Калі ж яна заснула, захваляваўся:

— Браты родныя, штосьці тут не так! Не стала б зязюля дарма такое прамаўляць.

Задумаліся яны: у чым справа. На ўсякі выпадак абшукалі хату сваю — нічога падазронага. У садзе — таксама. Абышлі ўсе пабудовы — нікога.

— Зойдзем у лазню, — пасля гэтага прапанаваў малодшы.

А ў лазні на лахманах спала тая старая-жабрачка, на якую яны не звярнулі ўвагі.

— Хто ты такая? — спытаў яе старэйшы брат.

— Ды сястра я ваша, — пачулася ў адказ.

— Сястра? — здзівіўся той.

Расказала Гэлька ўсю праўду ім.

Нядобра стала братам. Гэта ж трэба так подла паступіць з іхняй сястрой. Вырашылі жорстка пакараць вядзьмарку. Трое кінуліся ў глыб саду, а ён у іх велізарны быў, вычысцілі яму, у якой вугаль выпальвалі. У ёй невялікі агонь развялі, а зверху галля навалілі. Яшчэ трое разбудзілі вядзьмарку:

— Хопіць спаць! Мы табе так сад наш па-сапраўднаму не паспелі паказаць.

Падвялі яе да ямы і спіхнулі туды. А галлё ўнізе паспела ўжо разгарэцца. З прытокам свежага паветра полымя шуганула ўгару. Пры гэтым такі смурод пайшоў, што адзін з братоў не ўтрымаўся:

— Ну і насмургоніла!

У сэнсе — «насмуродзіла». Так пасля гэтага і сталі тое месца Смургоню называць. Калі ж прайшло многа-многа гадоў, на гэтым месцы паўстаў цяперашні горад Смаргонь.

Падобны варыянт узнікнення такой назвы і ў іншай легендзе. Паводле яе, даўным-даўно на гэтым месцы знаходзілася паселішча, жыхары якога займаліся апрацоўкай шкур жывёл. Як вядома, гэта праца не абыходзіцца без непрыемнага паху. Таго самога «смуроду». Ад гэтага слова і паўстала назва паселішча — Смургоні, якой, дарэчы, прытрымліваецца па цяперашні дзень сёй-той з мясцовых старых, калі кажа: «Паеду ў Смургоні».

А вось трэці варыянт некалькі адрозніваецца ад папярэдніх. Калі верыць яму, паходжанне назвы Смаргонь звязана з мядзведзямі, якіх у навакольных месцах некалі вадзілася вельмі шмат. Мішкі зачасцілі наведвацца да людзей. У першую чаргу дзеля таго, каб паласавацца аўсом, якога сяляне тады сеялі шмат. Забярэцца касалапы ўглыб пасеваў, прысядзе і пачынае сваю любімую трапезу: адной лапай прыгінае сцябліны, а другой старанна саскрабае зерне сабе ў рот. Прыйдуць сяляне на поле, месца сабе ад абурэння не знаходзяць:

— Зноў мядзведзь «нашморгаў», каб яму ліха.

Нібыта ад гэтага слова паступова і нарадзілася цяперашняя назва Смаргонь.

А вось навукоўцы лічаць яе вытворнай ад балтыйскага слова smurgo, адзін з варыянтаў якога азначае падмайстра. Што ж, людзі майстравыя ў тутэйшых месцах жылі здаўна. З пакалення ў пакаленне яны працавалі так, што гэты цудоўны край станавіўся ўсё больш прыгожым, а калі трэба было, не задумваючыся, бралі ў рукі зброю, каб абараніць родную зямлю ад ворагаў.

Паравернем жа некалькі найболей яркіх старонак гісторыі Смаргоншчыны, якія дапамаглі б лепш даведацца, хто ж такія смаргонцы, адкуль яны, калі можна так сказаць, родам. А гэта немагчыма без расказу пра тых, хто валодаў Смаргонню і навакольнымі землямі ў розныя часы.

## Першы архівіст, ён жа першы пісьменнік

Зусім невыпадкова першы ўладальнік Смаргоні часам называецца з падвойным прозвішчам. Хутчэй за ўсё, Зяновічы-Дэспаты паходзілі ад сербскіх і малдаўскіх дэспатаў — так называлі намеснікаў правінцый. Яны пасля нападу турак на Малдавію ўцяклі ў Вялікае Княства Літоўскае і паступілі на службу да вялікага князя Вітаўта. Праўда, сам заснавальнік роду Братош ці Братш да 1397 года быў спачатку членам савета полацкага князя Андрэя Альгердавіча (у гісторыю ўвайшоў як Андрэй Полацкі), а потым паслом у Ноўгарадзе. Затым стаў членам савета Вітаўта. Прозвішча Зяновічы пайшло ад імя яго сына Зянона ці Зяновіча. Абодва бралі ўдзел у Грунвальдскай бітве.

Юрый Зяновіч, з чыім іменем звязана першае ўпамінанне пра Смаргонь, быў у розны час намеснікам браслаўскім, смаленскім, магілёўскім. Ён з'яўляўся для свайго часу чалавекам уплывовым. Пра гэта гаворыць і тое, што ў 1495 годзе ўваходзіў у склад пасольства вялікага князя Аляксандра, якое ездзіла ў Маскву да Івана Васільевіча сватаць князёўну Алену. Яна, як вядома, неўзабаве стала жонкай Аляксандра. Юрый Зяновіч мёў чатырох сыноў. Смаргонь перадаў старэйшаму Мікалаю, які вяваў у войсках гетмана Канстанціна Астрожскага і разам з ім перажыў палон.

Сын Мікалая Зяновіча, таксама Юрый, не толькі не пасарамаціў гонар дзеда і бацькі, але і сам вяваў мужна, у прыватнасці, у вядомай бітве на рацэ Уле. У 1569 годзе вялікі князь літоўскі і кароль польскі Жыгімонт II Аўгуст перадаў яму ў пажыццёвае валоданне горад Лепель. Але праславіўся Юрый Мікалаевіч не толькі ратнымі справамі. Менавіта ён зрабіў Смаргонь сваёй асноўнай рэзідэнцыяй.

Цікава і тое, што гэтага Юрыя Зяновіча можна аднесці да першых на тэрыторыі Смаргоншчыны архівістаў. Ён пры сваім двары старанна захоўваў дакументы, якія пацвярджаюць права ўласнасці на землі, мястэчкі, гарады. Гэта Юрый Мікалаевіч пабудаваў у 1553 годзе ў Смаргоні кальвінскі храм. Да ўсяго праславіўся і як чалавек, які паважаў памяць пра сваіх продкаў, не спрабуючы выпінаць асабістыя заслугі. Пра гэта сведчыць яго завяшчанне: «Цела маё грэшнае, жонка мая, пані Ганна Слуцкая, сціпла ўладкаваўшы пахаванні, пахаваць мяне ў касцёле смаргоньскім, там, дзе целы маіх продкаў, не робячы цырымоній, якія ў панскіх касцёлах бываюць. Пахаванні майго цела правесці за кошт Смаргонскага двара».

Сын Юрыя Мікалаевіча — Крыштоф Зяновіч пакінуў пра сябе памяць тым, што ў 1590 годзе пабудаваў у Смаргоні паперню — папяровую фабрыку, якая працавала 39 гадоў. На ёй выраблялася папера з вадзянымі знакамі і сямейным гербам уладальніка «Дэспат». Для таго часу гэтыя паперы былі нядрэнна абаронены, мелі чатыры вадзяныя знакі. Да ўсяго Крыштоф Юр’евіч быў звязаны з кнігадрукаваннем. У яго віленскім доме жыў друкар Якуб Маркус. Зяновіч адкрыў кальвінскую школу, запрасіўшы «дасведчаных бакалаўраў для практыкавання дзетачак, пра якія трэба сур’ёзна клапаціцца і выхоўваць».

У Крыштофа Юр’евіча любоў да ведаў не выпадковая: адукацыю ён атрымаў у Цюрыхскім універсітэце. Сваю вялікую бібліятэку ў 1611 годзе перадаў храму, адпісваючы «не раскідваць яе, а дасць Бог і павялічваць. Заўсёды трымаць у адным месцы…» А яшчэ Крыштоф Зяновіч, несумненна, першы смаргонскі пісьменнік. Пасля сябе ён пакінуў рукапісны твор на польскай мове — «Трагедыя, ці Пачатак значнага заняпаду ў доме Княства Літоўскага». У аснову пакладзены ўнікальны выпадак, калі ў 1600 годзе сварка паміж віленскім ваяводам Крыштофам Радзівілам і віленскім кашталянам Геранімам Хадкевічам ледзь не перарасла ў грамадзянскую вайну.

Пасля смерці ў 1614 годзе Крыштофа Юр’евіча Смаргонь перайшла ў спадчыну яго сыну Мікалаю Багуславу, які стаў апошнім прадстаўніком роду Зяновічаў па мужчынскай лініі. Ён быў старостам чачэрскім і прапойскім, кашталянам полацкім. Памёр ад цяжкіх ран 7 верасня 1621 года падчас Хоцінскай бітвы. Пасля сябе пакінуў дачок Ганну Соф’ю і Соф’ю.

## Па гусце абаранак і мядзведзю, і гусару

У 1628 годзе валодаць Смаргонню сталі Радзівілы. Гэтаму найбуйнейшаму магнацкаму роду горад належаў каля 170 гадоў. А пачатак быў пакладзены выхадам Ганны Соф’і Зяновіч замуж за Альбрэхта Уладзіслава, сына Мікалая Крыштофа Радзівіла, у гісторыі больш вядомага як Сіротка. Зяновіч з’яўлялася не першай яго жонкай. Першай была дачка канцлера вялікага літоўскага, вядомага палітыка і грамадскага дзеяча Льва Сапегі, таксама Ганна. Аднак яна памерла, не пакінуўшы яму дзяцей. Затое новы шлюб аказаўся больш удалым — нарадзіўся сын і тры дачкі. Праўда, дзве памерлі малалетнімі. Падобны лёс неўзабаве напаткаў і іх бацькоў. Калі ж памерла сама Ганна Соф’я, паспеўшы пабыць другі раз замужам, у 1664 годзе Смаргонь перайшла да пляменніка яе першага мужа — Міхаіла Казіміра Радзівіла.

Паколькі гэты горад не з’яўляўся пастаяннай рэзідэнцыяй Радзівілаў, яны здавалі яго ў заклад ці ў арэнду. Так было і пры наступных спадчынніках гэтага роду. Гэта, вядома, не лепшым чынам адбівалася на развіцці Смаргоні. Тым не менш, ужо ў XVII стагоддзі пра яе ведалі далёка за межамі горада. Смаргонь праславілася тым, што стала першаадкрывальнікам у двух нечаканых пачынаннях.

У трэцім томе «Живописная Россия» — папулярнага выдання ў 12 тамах, задуманага і ажыццёўленага адным з найбуйнейшых рускіх географаў і падарожнікаў Пятром Сямёнавым-Цян-Шанскім — «Литовское Полесье и Белорусское Полесье», які выйшаў у 1882 годзе, знаходзім такое сведчанне: «*Сморгоне*, значительное казенное местечко, принадлежало князьям Радзивиллам, наследовавшим Деспотом-Зеновичам, впоследствии же Пржездецким. Радзивиллы основали

здесь особую школу для обучения ручных медведей. Школу эту в шутку называли *сморгонскою академиею.* Медведи этой школы славились повсюду и доставляли жителям прибыльный промысел. Сморгоне и ныне славится своими *обваранками* (маленькими бубликами)».

У іншым месцы гэтай унікальнай кнігі чытаем: «В Сморгонях, Ошмянского уезда, Виленской губернии, едва ли не все мещанское женское население занято печением маленьких бубликов или крендельков, пользующихся большою известностью под названием Smorqonskich obwarzankow. Каждый проезжий непременно купит несколько связок этих бубликов, кроме того, их развозят в Вильно и другие города».

Заснаваная ў XVII стагоддзі, Смаргонская мядзведжая акадэмія свайго асаблівага росквіту дасягнула пры чарговым уладальніку горада Каралю Станіславу Радзівілу, больш вядомым як Пане Каханку. Смаргонь і наваколлі належалі яму ў 1762—1790 гадах. Кіраваць гэтай спецыяльнай школай па дрэсіроўцы мядзведзяў ён запрасіў з Міра цыганскага барона Яна Марцінкевіча. Той прыехаў не адзін, а з 20 сваімі супляменнікамі.

У школе, размешчанай непадалёку ад Смаргоні, на так званых узгорках, адначасова навучалі да 10 касалапых і яшчэ некалькі малп. Апошніх прывозіў сам уладальнік горада, а мядзведзяў лавілі ў навакольных лясах. Для дрэсіроўкі адбіралі толькі маладых самцоў, а потым павадыры выступалі з імі не толькі ў Беларусі, але і ў Літве, Расіі, Нямеччыне, Італіі, скандынаўскіх краінах. Акадэмія працавала да канца XVIII стагоддзя. Праўда, у некаторых крыніцах называецца і пазнейшы перыяд — пачатак XIX стагоддзя.

А смаргонскія «абваранкі» (назва паходзіць ад слова «абварыць», паколькі іх выраблялі з заварнога цеста) палюбіліся і вучоным мядзведзям, якіх імі часта частавалі за добрыя выступленні. Але, вядома, больш самім людзям. Хочаш, дык еш, з чым пажадаеш. І з малаком можна, і з чаем. Настолькі «абваранкі» спадабаліся ўсім, што разышліся па ўсім славянскім свеце, а пазней і, увогуле, па ўсім свеце. Да таго прыйшліся па гусце, што нават пераборлівыя ў ежы расійскія гусары часам выкарыстоўвалі іх у якасці закускі да … гарэлкі. Ва ўсякім разе, такое сведчанне знаходзім ва ўспамінах кавалерыст-дзяўчыны Надзеі Дуравой. Дый сёння рэдка хто адмовіцца сабе ў задавальненні паспрабаваць гэты цудоўны выраб з мукі. Хоць далёка не кожны і ведае, адкуль абаранкі, калачы пайшлі.

Смаргонню валодалі шэсць пакаленняў Радзівілаў. Паколькі яны, за рэдкім выключэннем, надта не клапаціліся пра развіццё горада, ён нагадваў сабой невялікае мястэчка з драўляных хат, ды яшчэ з царквой, касцёлам і сінагогай. Як сведчаць архіўныя матэрыялы, у 1788 годзе тут было 224 двары, 30 крам, 22 свіраны, 4 карчмы, а яшчэ тры вадзяныя млыны, цагельня, два бровары.

Аднак смаргонцы набывалі не толькі моцныя напоі. Менавіта тады, пры адной з корчмаў адкрылася першая ў тутэйшых мясцінах чайная. Карціна жыцця тагачаснага горада будзе няпоўнай, калі не сказаць, што два разы на тыдзень у Смаргоні праводзіўся гандаль, а тройчы ў год — вялікія кірмашы.

Пасля смерці Пане Каханку ў 1790 годзе Смаргонь перайшла да яго чатырохгадовага пляменніка Дамініка Геранімa, але праз пятнаццаць гадоў апякунскі савет над яго маёмасцю прадаў горад Багдану Агінскаму. Праўда, ён Смаргонню валодаў нядоўга, неўзабаве яна стала ўласнасцю графа Караля Пшчаздзецкага, які належаў да людзей, маючых на ўсё, што адбывалася, уласны погляд. Таму падчас Айчыннай вайны 1812 года ваяваў на баку Напалеона, камандаваў Нясвіжскім палком уланаў. Не застаўся ў баку і тады, калі пачалося паўстанне 1831—1832 гадоў. Няцяжка здагадацца, чым бы гэта для яго скончылася, калі б у 1832 годзе не памёр. Яго маёмасць арыштавалі. Смаргонь некаторы час арандаваў брат ранейшага гаспадара, а з 1842 года яна — дзяржаўнае ўладанне.

Наперадзе былі новыя падзеі. Галоўным чынам лёсавызначальныя, бо яны прыносілі вялікія змены ў жыцці ў цэлым, а, адпаведна, аказвалі і ўплыў на лёсы асобных людзей.

## Было мястэчка — стаў горад

Пачатак XX стагоддзі для Смаргоні знамянальны тым, што, ўлічваючы бурны рост мястэчка, імператар Мікалай II 6 чэрвеня 1904 гады зацвердзіў Указ Кабінета Міністраў Расійскай імперыі аб прысваенні Смаргоні статусу горада. Што ж, для свайго часу ён быў не такі ўжо і малы. Калі, паводле перапісу, праведзенага ў 1897 годзе, у Смаргоні пражывала 8098 чалавек, то ў 1904-м ужо 10773. Сярод іх было 58 дваран, 75 купцоў, 12 прадстаўнікоў духавенства. 11 чалавек з'яўляліся ганаровымі грамадзянамі. У пяці школах працавала 9 настаўнікаў, якія навучалі і выхоўвалі 445 дзяцей. Горад складаўся з 13 вуліц, 6 завулкаў, кірмашовай плошчы.

Смаргонь ператварылася ў сапраўдны цэнтр гарбарнай прамысловасці: працавалі 44 заводы, 212 рамесных майстэрняў ці арцеляў. Тым самым, каля адной трэцяй усіх гарбароў заходніх абласцей Расіі сканцэнтравалася менавіта тут. Развіваліся і іншыя віды лёгкай прамысловасці — такія, як піваварная, вінакурная, былі 2 махоркава-тытунёвыя і 10 скурана-саф'янавых заводаў. Вядома, яны з'яўляліся невялікімі прадпрыемствамі, аднак ёсць іншы крытэрый, каб уявіць, наколькі прамысловы ўзровень тагачаснай Смаргоні быў высокім. У 1904 годзе было выраблена прадукцыі на 1500 тысяч рублёў. І гэта ў той час, калі ў Магілёве падобны паказчык раўняўся 1033, 2 тысячы рублёў, у Віцебску — 796, 3 тысячы, у Гомелі — 705, 7.

Гэта дасягалася высокай ступенню эксплуатацыі, цяжкімі ўмовамі працы. Невыпадкова Смаргонская стачка, якая ахапіла да 1300 работнікаў 26 заводаў, стала самым буйным выступленнем пралетарыяту Беларусі пачатку XX стагоддзя і працягвалася чатыры дні. Таму было і нямала ахвотнікаў уступіць у мясцовую арганізацыю РСДРП, створаную ў 1904 годзе.

Горад, разам з тым, працягваў расці, і ў 1914 годзе ў ім пражывала ўжо 16228 чалавек. Наперадзе была Першая сусветная вайна.

## 810 дзён мужнасці і гераізму

Сёння, у які населенны пункт Смаргоншчыны ні патрапіш, паўсюдна ўбачыш колішнія бліндажы і дзоты, акопы і траншэі. Асобныя з іх нават цалкам захаваліся, а на дахах іх паспелі вырасці сосны. Як, напрыклад, у лесе каля Вішнеўскага возера, дзе раней непрыступныя ваенныя збудаванні аблюбавалі сосны. А вось драўляныя ўмацаванні падгнілі, месцамі абваліліся. Замест іх засталіся глыбокія ямы, якія аблюбаваў асот. Каля вёсак жа — адны, а то і двое вайсковых могілак. На іх некалі хавалі палеглых з абодвух бакоў. Пра гэта нагадваюць праваслаўныя і каталіцкія крыжы, месцамі пастаўлены сімвалічныя знакі.

Амаль сто гадоў назад на Смаргоншчыне ішлі вельмі жорсткія баі. У верасні 1915 года сюды былі падцягнуты элітныя падраздзяленні расійскай арміі пад камандаваннем генерала А. Алахава. Яны атрымалі загад: «Стаяць насмерць!» І яны выканалі яго. Што адбывалася тады на Смаргоншчыне, можна ўявіць сабе па тым, што сярод салдат хадзіла выслоўе: «Кто под Сморгонню не бывал, тот войны не видал». Тыя ж, хто змагаўся тут з ворагам, паказвалі небывалыя прыклады мужнасці і гераізму. Толькі два прыклады.

Нязгаснай славай пакрыў сябе «батальён смерці» пад камандаваннем прапаршчыка, георгіеўскага кавалера Марыі Бачкаровай. Жанчыны патрыёткі натхнялі на подзвіг мужчын, змагаючыся ў жорсткім баі ў наваскім лесе. Многія з іх загінулі за Айчыну як сапраўдныя героі.

Экіпаж цяжкіх бамбардзіроўшчыкаў «Ілья Мурамец» выклікаў захапленне нават у немцаў. Прарваўшы загараджальны агонь і паспяхова выканаўшы складанае заданне, ён на зваротным шляху быў атакаваны адразу чатырма варожымі знішчальнікамі. Мужным сынам Радзімы ўдалося збіць тры нямецкія аэрапланы, але ў няроўнай схватцы і самі загінулі. Смелых авіятараў Д. Макшляева, М. Рахліна, Р Гаібава і А. Карпава немцы пахавалі з воінскімі ўшанаваннямі на вайсковых могілках у вёсцы Баруны. Магіла адважных лётчыкаў захавалася па сёння.

Асабліва шмат ахвяр было падчас газавых атак. Упершыню іх кайзераўцы, па ўдакладненых звестках мясцовага краязнаўцы Уладзіміра Лігуты, прымянілі 12 кастрычніка 1915 года супраць 3-й гвардзейскай пяхотнай дывізіі. А з вясны наступнага года газавыя атакі ўвайшлі ў разрад звычайных баявых дзеянняў. Толькі 2 ліпеня ад ядавітых воблакаў атруціліся 40 рускіх афіцэраў і 2076 салдат.

У вёсцы Залессе франтавы шпіталь узначальвала дачка пісьменніка Аляксандра Талстая. Яна сведчыла: «Па вузкіх хадах злучэння мы дайшлі да глыбокага нізкага бліндажа. Увайсці ў яго можна было толькі сагнуўшыся. За сталом над паперамі сядзеў генерал. Ён даверліва паведаміў мне, што наша армія рыхтуецца перад досвіткам да наступлення. Распытаў мяне пра медыцынскі персанал, колькасць санітарных павозак, шпіталі. Мы напружана чакалі. У дзве гадзіны раніцы прыкмецілі, што, разрываючыся, нямецкія снарады выпускалі жоўты дымок. Ён рассцілаўся па лагчыне, і ад яго ішоў пах хлору.

— Маскі! Маскі надзявайце!

Мінула паўгадзіны. Снарады, начыненыя газам, працягвалі разрывацца густым жаўтаватым дымам.

— Нешта вішняй запахла, браткі!

Цыяністы калій! Зноў гэты дзікі жывёльны страх! Дрыжэлі сківіцы, стукалі зубы...»

Пакутавала і мірнае насельніцтва. Яно пакідала родныя мясціны, апусцела 16-тысячная Смаргонь, названая «мёртвым горадам». У 1916 годзе часопіс «Нива» пісаў:

«Картины разрушения поистине ужасны. Прелестный старинный костел подвергся жестокому обстрелу и с перебитыми башнями, полуразвалеными стенами как будто протягивает свои обломки к далекому небу, моля о помощи. Груды обломков, кирпича, жести и осколков наполняют храм вместо благовейной толпы молящихся. Разрушен притвор и разбит святой престол, лишь распятие Христа непостижимым чудом уцелело на полуразрушенной стене, исковерканной и истыканной осколками 11-дюймовых гранат... Смерть и разрушение отпраздновали здесь свой дикий, безудержный праздник.

Мир праху твоему, маленькая Сморгонь!»

На гераічнай смаргонскай зямлі атрымалі баявое хрышчэнне і тыя, хто ў далейшым звязаў свой прафесіянальны лёс з арміяй. Найбольш каларытная постаць сярод іх — будучы Маршал Савецкага Саюза, міністр абароны СССР, а тады кулямётчык 256-га Елісаветградскага палка Радзівон Маліноўскі. Тут ваявалі таксама Міхаіл Зошчанка і Валянцін Катаеў, якія пазней, як вядома, сталі знакамітымі пісьменнікамі.

Гераічная 810-дзённая абарона завяршылася тым, што горад фактычна перастаў існаваць.

## Таксама старонкі лёсу

На момант уваходжання Смаргоні, паводле Рыжскай мірнай дамовы 1921 года ў склад Польшчы, у ёй пражывала толькі 154 жыхары. Яна стала цэнтрам гміны Ашмянскага павета. Пра былы горад можна было казаць толькі ўмоўна, дый прамысловасць у ім амаль не развівалася.

Сітуацыю ўскладняла тое, што ўлады разглядалі «ўсходнія крэсы», а да іх адносілася і Смаргоншчына, толькі як сыравінны прыдатак цэнтральных раёнаў Польшчы. З падобным становішчам жыхары не хацелі мірыцца. Незадаволенасць выклікала і тое, што прыгняталася ўсё беларускае. Гэта прыводзіла да рэвалюцыйных выступленняў, асабліва актыўнай была нацыянальна-свядомая моладзь. Многія прайшлі праз турэмныя засценкі, але супраціўленне зламаць не ўдалося. Таму большасць жыхароў з радасцю віталі вызваленчы паход Чырвонай Арміі.

Пачынаўся чарговы перыяд у жыцці краю. 15 студзеня 1940 года ў складзе Вілейскай вобласці быў створаны Смаргонскі раён. Але, як вядома, мірнае жыццё працягвалася нядоўга.

Суровую старонку ўпісала ў гісторыі Смаргоншчыны Вялікая Айчынная вайна. Захапіўшы Смаргонь, фашысты бясчынствавалі, як толькі маглі. Было расстраляна 4454 мірныя жыхары, спалена 748 жылых дамоў, каля 500 гаспадарчых пабудоў. Аднак народ не скарыўся. У першыя ж месяцы акупацыі была створана падпольная група, якую ўзначаліў П. Сапач. Гітлераўцам удалося схапіць адважнага патрыёта і ён пасля жорсткіх катаванняў быў расстраляны. Але іншыя, не менш смелыя і адважныя, браліся за зброю. Мужна ваявалі смаргонцы і на франтах Вялікай Айчыннай вайны.

У бяссіллі фашысты адыгрываліся на мірным насельніцтве, расстрэльваючы ні ў чым не вінаватых людзей. Для асоб жа яўрэйскай нацыянальнасці ў горадзе было створана гета. 500 яўрэяў са Смаргоні фашысты расстралялі каля хутара Зялёнка Ашмянскага раёна. Жорстка абыходзіліся гітлераўцы і з палоннымі, якія знаходзіліся ў смаргонскім лагеры. А вёска Дальва паўтарыла лёс Хатыні. Сёння на невялікім узвышэнні, дзе некалі знаходзілася адна з сялянскіх хат, стаяць тры сімвалічныя асмаленыя бэлькі. На іх фоне — постаць жанчыны, якая адной рукой атуляе дзіця. Надпіс на камені абвяшчае: «Да 19 ліпеня 1944 года тут была вёска Дальва. За дзесяць дзён да вызвалення гітлераўцы спалілі яе жыхароў». Так перадаў гэту трагедыю ўраджэнец Смаргоншчыны, вядомы беларускі скульптар Уладзімір Церабун, цяпер ганаровы грамадзянін горада.

Гэтага высокага звання ўдастоены і тыя, хто вызваляў Смаргонь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў — камандзір 3-га гвардзейскага Сталінградскага мехкорпуса Герой Савецкага Саюза Віктар Абухоў, камандзір 77-й гвардзейскай механізаванай брыгады Міхаіл Радзівонаў, начальнік штаба гэтай жа брыгады Мікалай Цвяткоў, Героі Савецкага Саюза Мікалай Міхайлашаў, Азіі Асланаў і іншыя.

Жаданае вызваленне на Смаргоншчыну прыйшло 4 ліпеня 1944 гады. Трэба было, хутка загойваючы раны, нанесеныя вайной, уладкоўваць мірнае жыццё. Ужо да сакавіка 1945 гады працавалі лесазавод з электрастанцыяй, швейная майстэрня, гарадская лазня, пякарня, чатыры арцелі, сярэдняя школа, райпрамкамбінат, радыёвузел, амбулаторыя і бальніца на 60 коек. А да канца года тыя жыхары горада, якія пражывалі ў зямлянках і разбураных дамах, былі размешчаны ў прыдатных для гэтага памяшканнях. У самой Смаргоні і раёне ўзводзіліся новыя дамы.

У 1946—1952 гадах праводзілася масавая калектывізацыя. Як у горадзе, так і раёне будаваліся аб’екты культурна-бытавога прызначэння. На 1-м з’ездзе калгаснікаў тагачаснай Маладзечанскай вобласці, які праходзіў у сакавіку 1949 года, удзельнічалі і 60 дэлегатаў са Смаргоншчыны. Павялічваўся прамысловы патэнцыял горада. Пачынаючы з канца 1960-х гадоў пачалася карэнная рэканструкцыя і пашырэнне дзеючых прадпрыемстваў, а таксама будаўніцтва новых. Да пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя горад і раён непазнавальна змяніліся.

Адбывалася далейшае абнаўленне сяла. У вёсцы ўсё больш увагі надавалася не толькі вытворчасці, але і ўздыму яе культурнага ўзроўню. На гэтым кірунку было для каго працаваць, бо гэтыя традыцыі на Смаргоншчыне маюць глыбокія карані.

## Талентаў — як грыбоў пасля дажджу

Вядома ж, постаці першай велічыні, чый талент заквітнеў на смаргонскай зямлі, — гэта Міхал Клеафас Агінскі і Францішак Багушэвіч. Кампазітар і паэт. Імя першага з іх у асноўным звязваюць з найцудоўнейшым паланэзам «Развітанне з Радзімай», больш вядомым як «Паланэз Агінскага». Між іншым, сёй-той і не здагадваецца, што гэты папулярны музычны твор напісаны не тады, калі, як можна падумаць, адштурхоўваючыся ад назвы, аўтар развітваўся з роднымі краямі, а, наадварот, па вяртанні Міхала Клеафаса Агінскага на зямлю, што стала для яго асабліва дарагой. А Ф. Багушэвіч, несумненна, у першую чаргу — яркі, самабытны паэт. Аднак не варта забываць, што ён вельмі пранікліва выказаўся аб любві да роднай мовы, пра неабходнасць яе берагчы. Калі ў Кушлянах ужо працуе музей паэта, то Залессе Агінскага яшчэ чакае свайго музея. А што ён з’явіцца з

часам, сумняваецца не даводзіцца. Як ні паважаць чалавека, які ўславіў свой край на ўвесь свет.

У памешчыцкай хаце, на беразе Вішнеўскага возера прайшлі дзіцячыя гады кампазітара і дырыжора Мечыслава Карловіча. У Вішневе, у маёнтку сваёй жонкі пражыў амаль дзесяць гадоў і яго бацька, этнограф, лінгвіст, фалькларыст і музыказнавец Ян Карловіч. Яго, як і сына, часцей адносяць да дзеячаў польскай культуры, але абодва ніколі не забывалі пра Беларусь. Я. Карловіч, у прыватнасці, нагадваў Аляксандру Ельскаму, што «трэба ратаваць гаворку братоў-беларусаў шляхам збірання як этнаграфічнага, так і літаратурнага матэрыялаў для шчаслівейшай будучыні, Не, шаноўны пан, нельга сумнявацца, што яшчэ Беларусь будзе жыць сваім духоўным жыццём і распрацуе сваю «гаворку» да ступені «мовы».

У вёсцы Войстам знайшоў свой спачын пісьменнік, мемуарыст Ігнат Ходзька. Большую частку свайго жыцця ён правёў у маёнтку Дзевятня. Яго серыі нарысаў «Літоўскія малюнкі», «Літоўскія паданні», «Мемуары скарбніка», хоць і напісаны на польскай мове, але ў іх расказваецца пра беларускую зямлю, пра жыццё і побыт насельніцтва Беларусі. Выдавец, гісторык, публіцыст Леанард Ходзька пэўны час жыў у Залессі. Напісаў прадмову да паэмы А. Ходзькі «Залессе». А вось Іван Сініцкі цікавы тым, што гэта першы беларус, які пабываў у Новай Зеландыі, наведваў таксама Аўстралію, Цэйлон. З-пад яго пяра з'явілася кніга «Новая Зеландыя — Еўропа». Зноў-такі да Сініцкага на рускай мове нічога падобнага не было. Калі ў радавым маёнтку Дабраўлянах жыла пісьменніца, асветніца, мемуарыстка Габрыеля Пузына, у яе бывалі некаторыя вядомыя тады дзеячы беларускай і польскай культур.

На Смаргоншчыне нарадзіліся ізраільскі дзяржаўны і палітычны дзеяч, другі прэзідэнт Ізраіля Іцхак Бен-Цві, амерыканскія жывапісцы і мастакі-монументалісты Піцер Блум і Уільям Самуэль Шварц, пісьменнікі Майсей Кульбак, Арсень Ліс, Павел Савоська, Алесь Салагуб, Артур Цяжкі і іншыя. З ёй звязалі сваё жыццё паэты Мар'ян Дукса, Алесь Жамойцін, Ала Клемянок, Генадзь Пашкоў…

А як шмат гаворыць сэрцу беларуса імя Віктара Роўды?! Віктар Уладзіміравіч быў родам са Смаргоні, з'яўляўся неперасўзыдзеным харавым дзеячам, ганаровым грамадзянінам г. Смаргоні. Высокага звання ганаровага грамадзяніна г. Смаргоні была ўдастоена і самадзейная мастачка Лілія Трохалева. Аляксандр жа Іваноў — мастак, музыка, нягледзячы на цяжкую траўму, вялікага поспеху дасягнуў у жанры пейзажу, напісаўшы больш як 600 прац. 10 з іх экспанаваліся ў 2002 годзе ў Траццякоўскай галерэі ў сталіцы Расійскай Федэрацыі г. Маскве.

Вялікія традыцыі і ў мастацкай самадзейнасці. Самыя лепшыя калектывы носяць ганаровае званне «народны». Гэта ансамбль песні і танца імя М. К. Агінскага і цымбальны аркестр імя А. А. Дзяругі пры раённым Доме культуры, тэатр лялек «Батлейка» Залескага Дома культуры, фальклорны гурт песні і танца «Вечарынка» Жодзішскага Дома культуры і іншыя.

Свайго роду візітнай карткай горада стаў Міжнародны конкурс камерных ансамбляў імя М. К. Агінскага, у якім бяруць удзел лепшыя калектывы Беларусі, Літвы, Малдовы, Расіі, Украіны, Латвіі, Румыніі, Польшчы. Папулярнасць здабыў і рэгіянальны фестываль-конкурс выканаўцаў эстраднай песні «Адна зямля», заснавальнікам якога выступіў аддзел культуры Смаргонскага райвыканкама сумесна з аддзеламі культуры Ашмянскага, Астравецкага, Валожынскага, Вілейскага, Мядзельскага і Маладзечанскага райвыканкамаў.

## Сэрцу дарагая

У 2003 годзе Смаргонь урачыста адзначыла свой 500-гадовы юбілей. Узрост больш чым паважаны, аднак горад, размешчаны каля Віліі-ракі, па-ранейшаму адчувае сябе юным. Ён маладзее і становіцца прыгажэй літаральна на вачах, радуе новымі будынкамі і адрэстаўрыраванымі, стараннім, клопатным стаўленнем мясцовай улады да добраўпарадкавання, поспехамі ў прамысловасці, будаўніцтве, сацыяльнай і культурнай сферы. Прысутнічае яшчэ, што таксама немала-

важна, і маладосць духу, якая ператвараецца ў вялікую сілу, калі старанні многіх накіраваны ў агульнае рэчышча стварэння. Асабліва непазнавальна змянілася Смаргонь у 2009 годзе, калі стала цэнтрам правядзеня чарговага Дня беларускага пісьменства. Наколькі горад папрыгажэў, упэўніліся ўсе, хто прыехаў сюды.

Любаваліся гэтым цудоўным горадам і, безумоўна, не праміналі таго месца, дзе ў сувязі з 500-годдзем яго быў устаноўлены мемарыяльны знак, аўтарам праекта якога і ўвасабляльнікам гэтай творчай задумы ў жыццё з'яўляецца У. Церабун. Вершаваныя ж радкі, выбітыя пад гербам горада, размешчаным на памятным знаку, напісаны паэтам Мар'янам Дуксам, які, хоць і нарадзіўся ў вёсцы Каракулічы Мядзельскага раёна, але звязаў свой жыццёвы і творчы лёс са Смаргоншчынай:

Твае сляды ў стагоддзях засталіся,
Змагла прайсці праз буры і агонь.
Плыві, квітней і велічна свяціся
На хвалях часу, родная Смаргонь.

Праз нейкі год пасля паўтысячнага юбілею Смаргоні на гэтую цудоўную зямлю прыйшла яшчэ адна радасная падзея: пабачыла свет гісторыка-дакументальная хроніка «Памяць». Прэзентацыя яе таксама стала святам. Сярод тых, хто выступіў на ёй, быў і вядомы паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Генадзь Пашкоў. Ён таксама не тамашні. Нарадзіўся ў вёсцы Ліпавічы Чашніцкага раёна, але з пяцігадовага ўзросту жыў у вёсцы Войстам, дзе скончыў сярэднюю школу. Таму і лічыць Смаргоншчыну для сябе роднай. Любоўю да яе напоўнены і адзін з ягоных вершаў, які прагучаў на прэзентацыі:

Дарагая мая Смаргоншчына!
Тут у восень — як кінуць вокам
Спалымнелага лісця агонь,
Як гісторыя ўся навокал.

І на свет нараджаюся зноў,
І шапчу, як калісці: «Кахаю...»
... То бяроза абсыпіць святлом,
То сасоннік закалыхае.

Маё сэрца, душу не пакінь,
Гэта далеч, з маленства мілая, —
І высокага неба сінь,
І крынічна-люстраная Вілія.

Праз сівыя стагоддзі — звон.
І так сэрца забіцца мусіць!
Дарагая мая Смаргонь —
Як жамчужына Беларусі.

Смаргоншчына стала дарагой і для мяне, бо давялося неаднойчы прыязджаць сюды, сустракацца з жыхарамі яе, пісаць пра іх і іх родную зямлю. Асабліва глыбока запала ў памяць першая сустрэча з Кушлянамі, што адбылася ў 1990 годзе. Тады Беларусь урачыста адзначала 150-годдзе з дня нараджэння класіка нацыянальнай літаратуры Францішка Багушэвіча. Юбілейныя мерапрыемствы праходзілі па ўсёй краіне, аднак апафеозам іх стала свята паэзіі ў гэтым даўнім сямейным гняздзе Багушэвічаў. Ужо тады падумалася мне: цудоўная наша беларуская зямля, ды няшмат знойдзеш на ёй такіх нерушавых куткоў, дзе «шчасця больш у нас, як на небе зор».